# ПОЛЫМЯ

БЕЛАРУСКАЯ ЧАСОПІСЬ ЛІТАРАТУРЫ,
ПАЛІТЫКІ, ЭКОНОМІКІ, ГІСТОРЫІ

№ 1 (9)

1924

Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Таварыства
„САВЕЦКАЯ БЕЛАРУСЬ"
МЕНСК, 1924.

# Кароткі жыцьцепіс У. І. Леніна.

## Першыя крокі рэволюцыйнай працы.

Уладзімір Ільліч Ленін-Ульлянаў радзіўся 10-га красавіка 1870 году ў гор. Сімбірску.

Бацька яго паходзіў з сялян. Дзякуючы сваёй здольнасьці, ён скончыў вышэйшую школу і займаў пасаду дырэктара народных школ у Сімбірску, карыстаючыся вялікімі сымпатыямі настаўніцтва.

Уладзімір Ільліч, скончыўшы гімназію, паступіў у Казанскі ўнівэрсытэт. Але праз месяц яго выключылі з унівэрсытэту за ўдзел у студэнцкім рэволюцыйным руху. Яго нават выслалі ў вёску Какушкіна (Казанскай губэрні).

Уладзімір Ільліч быў шчыльна зьвязан з першым пакаленьнем рэволюцыянэраў-тэрорыстых праз свайго брата Аляксандра Ільліча Ульлянава. А. І. быў выдатным дзеячом „Народной воли“ і за сваю рэволюцыйную дзейнасьць, якая закончылася замерам на Аляксандра III, быў павешаны царскім урадам у 1887 годзе. Ніхто так не паважаў, ніхто так ня вучыў рабочых паважаць гэтых першых барацьбітоў супроць царызму, як Уладзімір Ільліч.

Для тав. Леніна недасяжна высока стаяць такія дзеячы, як Жалябаў і Пяроўская—людзі, якія паднімалі сьцяг паўстаньня і йшлі з бомбаю і рэвольвэрамі супроць цара ў канцы 70 і ў пачатку 80-х гадоў, калі Расія была турмою народаў, калі так цяжка жылося ўсім прыхільнікам свабоды, калі рабочыя ў Расіі толькі яшчэ пачыналі складацца ў клясу.

Ленін казаў: „Наша задача—павесьці далей тую справу, якую распачаў Жалябаў. Жалябаў, які зьвязаў сябе з рабочаю клясаю і паставіў на чаргу соцыяльную рэволюцыю—гэта і ёсьць бальшавік, гэта і ёсьць комуністы. Каб у новых грамадзянскіх умовах рабіць справу Жалябава, мы павінны стаццa рэволюцыйнымі марксыстымі, мы павінны дыхаць аднэю грудзьдзю з рабочымі, адзінаю рэволюцыйнаю клясаю ў нашыя дні.

Уладзімір Ільліч асабліва любіў першага выдатнага рабочага правадыра, сталяра Сьцяпана Халтурына. Гэта быў гэніяльнейшы пролетары, які ня толькі ўзарваў зімовы палац, але зрабіў нешта большае: першы

выкінуў сьцяг політычнай барацьбы супроць царызму ад імя рабочае клясы. Тав. Ленін казаў: „Калі ў нас будуць сотні такіх, як Халтурын, калі яны ня будуць адзіночкамі, якія йдуць з бомбаю і рэвольвэрам супроць таго ці другога аддзельнага міністра, калі яны building станууць на чале міліённае рабочае клясы,—тады нас ніхто не пераможа, тады прыдзе канец уладзе царызму і буржуазіі“.

Шчырыя адносіны тав. Леніна да больш-менш выдатных пролетарыяў асабліва кідаюцца ў вочы. Адным з такіх пролетарыяў зьяўляецца рабочы Бабушкін, з якім тав. Ленін распачаў працу ў Петраградзе ў 90-х гадох, разам з якім закладаў першыя рабочыя гурткі, праводзіў першыя стачкі, прымаў удзел у організацыі „Іскра“. Таварыш гэты сыграў выдатную ролю ў рэволюцыі 1905 году, і толькі выпадкова ў 1907 годзе Ул. Ільліч даведаўся, што Бабушкін быў расстрэлены ў Сыбіры гэн. Рэнэнкампфам.

**„Саюз барацьбы за вызваленьне рабочае клясы“.**

У 1893 годзе Ул. Ільліч перасяляецца ў Піцер, дзе народнікі мел бязьмежны ўплыў на інтэлігэнцыю, а рабочая кляса толькі яшчэ абуджалася да політычнага жыцьця.

Праз 1—2 гады Ул. Ільліч організуе ў Петраградзе першыя рабочыя гурткі і гуртуе вакол сябе групу інтэлігэнтаў-марксістых (пасьлядоўцаў Маркса). А яшчэ праз нейкі час тав. Ленін ужо выступае супроць правадыра народнікаў Міхайлоўскага, які ў спрэчцы з марксыстымі даводзіў, што ў Расіі ня можа быць рабочага руху, бо няма рабочае клясы. Апроч таго, народнікі стаялі за тэрор, г. з. забойства аддзельных прадстаўнікоў самаўладзтва. Марксыстыя-ж казалі: „Забойства таго ці іншага міністра ня зьменіць справы: трэба паднімаць масы, організоўваць міліёны людзей, політычна выхоўваць рабочую клясу. Калі рабочая кляса з'організуецца, тады мы распачнем узброенае паўстаньне“.

У Петраградзе тав. Ленін, разам з другімі дзеячамі-марксыстымі і рабочымі ўтварае „Саюз барацьбы за вызваленьне рабочае клясы“, які зьявіўся аднэю з першых ячэек будучай соцыял-дэмократычнай партыі. Па даручэньню гэтай організацыі Ул. Ільліч праводзіць першыя рабочыя стачкі, піша першыя гэктографаваныя лісткі, у якіх формулююцца вымаганьні петраградзкіх рабочых.

Ён днюе і начуе ў рабочых кварталах. Яго шукае поліцыя. Ён мае толькі невялічкую групу прыхільнікаў. Амаль уся так званая рэволюцыйная інтэлігэнцыя адносіцца да яго няпрыхільна.

**Тэорэтычная падрыхтоўка рэволюцыйнага марксызму.**

У сьнежні 1896 году поліцыя арыштоўвае большасьць сяброў саюзу. Уладзімір Ільліч—у турме. Але і тут ён ня спыняе сваёй кіпуча-рэволюцыйнай дзейнасьці: ён пасылае „на волю“ проклямацыі, брошуры.

У канцы лютага 1897 г. Ленін быў высланы ў Сыбір. Там ён напісаў некалькі работ. Першая—невялічкая брошура „Задачи русских социал-демократов“. Тады яшчэ ня было канчаткова вырашана пытаньне, у якой сувязі павінна знаходзіцца палітычная барацьба рабочых супроць царызму і барацьба пролетарыяту супроць буржуазіі за экономічныя патрабаваньні і за соцыялізм.

„Экономістыя“, папярэднікі меншавікоў, ставілі справу так, што палітычную барацьбу трэба пакінуць лібэральнай буржуазіі, а задача рабочага—барацьба за капейку на рубель.

— Не,—кажа Ленін у сваёй брошуры,—мы адсталі ад Эўропы на сто год не для таго, каб цяпер чакаць з організацыяй рабочай партыі, пакуль буржуазія трымае ўладу. Толькі цяпер, пад прыгнётам царызму, мы павінны і мы будзем ствараць самастойную клясавую соцыялістычную партыю рабочых, якая ўжо цяпер змагаецца з царызмам і з буржуазіяй.

У ссылцы тав. Ленін напісаў навуковую працу: „Развитие капитализма в России“. У гэтай кнізе тав. Ленін давёў, што праўду казаў вучань Маркса, Пляханаў, які казаў, што Расія таксама не абміне капіталізму. Ён цэлым шэрагам цыфр давёў, што Расія ўжо ў 90-х гадох увайшла ў капіталізм. Ён глыбока і тонка разабраў разьвіцьцё земляробства ў Расіі і ўмацаваньне ў ім капіталізму. І з гэтага спакойнага об'ектыўнага аналізу самі сабою напрашваліся рэволюцыйныя вывады адносна задач рабочае клясы.

Гэта кніга Леніна прызнана нават буржуазнымі профэсарамі, як вялікі навуковы твор.

У тэй-жа ссылцы і напярэдадні высылкі тав. Ленін распачаў барацьбу з другога флангу. Аднэй рукой змагаючыся супроць народнікаў у васобе Міхайлоўскага і другіх, ён тут-жа распачаў тэорэтычную барацьбу супроць так званага „легальнага марксызму“. На чале яго стаялі П. Струвэ, Туган-Бараноўскі і другія будучыя правадыры контр-рэволюцыйнай буржуазіі. Тагочасныя лібэралы шукалі, на каго-б ім абапёрціся ў барацьбе супроць царызму за буржуазныя свабоды. Яны бачылі, што другой клясы, апроч рабочае, няма. Яны бачылі, што народнікі, з іх старадзедаўскай „тэорыяй“, даводзіўшай, што ў нас ня будзе капіталізму, мыляліся. І яны пачалі прымазвацца да марксызму, выхалашчываючы з яго рэволюцыйную душу, робячы з яго „легальны марксызм“.

У барацьбе супроць народнікаў легальныя марксыстыя часова былі нашымі саюзьнікамі. Яны таксама, як і мы, змагаліся з Міхайлоўскім. І быў час, калі мы былі зьвязаны з імі пэўным блёкам. Але чуткае вуха Леніна знайшло фальшывыя ноткі ужо ў першых творах П. Струвэ і др. Тав. Ленін адразу сказаў, што гэта—часовыя саюзьнікі, што яны нас прададуць.

І хаця Струвэ быў сябрам Леніна і рабіў вялікія ўслугі як Леніну, так і тагочаснай соцыял-дэмократыі,—Уладзімір Ільліч забіў трывогу. Ён стаў змагацца са Струвэ і выступіў з артыкулам у спаленым цэнзураю зборніку, дзе казаў:

— Вы глядзіцё на рабочую клясу, як на сродак, а не як на мэту. Яна для вас патрэбна, як сіла супроць цара. І вы яе хочаце выкарыстаць, ня даўшы ёй нічога. Мы да гэтага часу змагаліся супроць цара і буржуазіі, але мы прагалашаем яшчэ адзін фронт—мы будзем змагацца супроць „легальнага“ марксызму.

## І с к р а.

У лютым 1895 году Ўладзімір Ільліч выяжджае заграніцу.

Там ён томіцца літаральна, як леў у клетцы. Яму ня было куды прылажыць сваю вялікую энэргію, і ён спасаўся толькі тым, што вёў жыцьцё вучонага. Ён праводзіў за кнігамі 15 гадзін у дзень і нездарма быў адным з адукаванейшых людзей нашага часу.

Толькі ў студзені 1900 году Ленін выходзіць са ссылкі і адразу ўвесь аддаецца рэволюцыйнай працы. Пасьля 3-х тыднёвага арышту ў Петраградзе, Ленін выяжджае заграніцу, каб наладзіць там выданьне соцыял-дэмократычнай газэты.

У 1904 годзе Ленін прыступае разам з Мартавым і Патросавым да выданьня газэты „Искра“. Цяпер гэтая назва мала каму знаёма. Але газэта „Искра“—гістарычная газэта, якая шчыльна пераплялася з імем Леніна. І ворагі і прыхільнікі казалі: „Ленинская Искра“.

Так, „Искра“ была ленінская, і яна не прайграла, яна ад гэтага выйграла. Першы з важнейшых артыкулаў Леніна ў „Искре“ называўся: „С чего начать“. У гэтым артыкуле Ленін разьвіў усю бліжэйшую програму рабочага руху і расійскай рэволюцыі. Ён намеціў у гэтым артыкуле асновы нашай програмы і рэволюцыйнай тактыкі.

Ужо ў гэтым першым артыкуле Леніна вы фактычна знойдзеце ўсю істоту бальшавізму. У кнізе „Что делать?“ Ленін паставіў і вырашыў у рэволюцыйным духу ўсе балючыя пытаньні тагочаснага руху.

І шмат часу гэта кніга будзіла думку, вакол яе кіпелі спрэчкі, склаўся раскол на два лягеры.

„Искра“ абвясьціла непрымірымую барацьбу супроць т. зв. „экономізму“, г. зн. будучага меншавізму. Яна-ж павяла самую рашучую барацьбу супроць эсэраў. І ніколі яшчэ ня было так зразумела, якім правідцам аносна эсэраў быў Ленін, які яшчэ ў 1902—1903 г.г. абкрэсьліў лёс эсэраўскай партыі. Тады яшчэ зусім малады тав. Ленін сказаў: „эсэры—прадстаўнікі дробнай буржуазіі і нічога больш“.

Калі Ленін сказаў, што партыя с.-р.—партыя дробнабуржуазная, на яго накінуліся ўсе. Казалі, што ён—чалавеканенавісьнік і г. д. Цяпер мы бачым, што словы Леніна былі прарочнымі.

Ленінская „Искра“ вяла ня толькі політычную барацьбу, яна вяла вялікую організацыйную працу. „Искра“ зьбірала рассыпаную будыніну нашай партыі. Толькі ў пачатку 90-х гадоў стварыліся абставіны, пры якіх можна было падумаць аб стварэньні рабочай партыі. Ленін становіцца на чале організацыйнай працы і стварае Організацыйны Комітэт пры „Искре“. І тав. Ленін, які вядзе ўсю літаратурную працу ў „Искре“ і ў тэорэтычнай часопісе „Заря“, разам з тым становіцца душою Організацыйнага Комітэту.

## Барацьба з меншавікамі.

Ленін паволі зьбірае нелегальную організацыю. І ў 1903 годзе адбыўся другі зьезд партыі. І ўжо на гэтым гістарычным зьезьдзе, калі партыя была яшчэ адзінаю, калі ў яе радох стаялі Пляханаў, Засуліч, Аксэльрод, Мартаў, Патросаў і др.,—ужо з першага моманту зьезду стала зразумела, што сапраўдным правадыром нашай маладой партыі зьяўляецца Ленін.

Леніна малююць, як чалавека, які сячэ, рэжа, ужывае толькі хірургічны нож, не шкадуе адзінства пролетарскіх радоў. Але, калі намячаўся асноўны раскол на другім зьезьдзе партыі, тав. Ленін спачатку пусьціў у ход увесь свой уплыў, каб не. дапусьціць расколу. Ленін высака ўмеў цаніць адзінства рабочага руху Але адзінства—для барацьбы за соцыялізм. Ідэі соцыялізму для яго даражэй за ўсё. І на другім зьезьдзе, калі ён убачыў, што яго расхаджэньне з Мартавым і др. не выпадковае дробнае расхаджэньне, з якім Ленін змагаўся яшчэ ў канцы 90-х гадоў; што яго быўшы прыяцель Мартаў, з якім ён разам быў у ссылцы, пачаў фальшаваць, што Пляханаў, якога ён дагэтуль высака цаніў, пачаў здаваць прынцыпы марксызму,—калі Ленін убачыў усё гэта, пытаньне ў яго было вырашана беспаваротна. Ён сказаў: „я застануся адзін, але падніму сьцяг рэволюцыйнага марксызму“. І ён разыйшоўся з Пляханавым.

Партыя раскалваецца. Ленін становіцца на чале бальшавікоў. Ён выходзіць з рэдакцыі „Искры“, якая перайшла ў рукі меншавікоў, і выдае бальшавіцкую газэту „Вперед“. Але ён так далёка і так метка біў, што хутка ад цяжкай артылерыі Пляханава не засталося й сьледу. У 1904 годзе нарастае хваля рэволюцыі. Усе сапраўды рэволюцыйныя элемэнты рабочага руху гуртуюцца вакол Леніна. Ён робіцца кіраўнікОм партыі, заклікае да паўстаньня супроць самаўладзтва, да ўзброеньня рабочае клясы, да дыктатуры пролетарыяту і сялянскай беднаты. І к 1905 году стала зразумелым, што за бальшавікамі пойдзе ўсё, што ёсьць рэволюцыйнага ў рабочай пролетарскай Расіі. Улетку 1905 году быў скліканы першы зьезд бальшавікоў (формальна ён называўся 3-ім зьездам Р.С.-Д.Р.П), першы гістарычны зьезд, які залажыў фундамант сучаснай комуністычнай партыі. Першы раз загаварыў тады Ленін аб тым, што ў надыходзячай рэволюцыі мы ня спынімся на нізрыненьні самаўладзтва.

Ужо ў рэволюцыі 1905 году на Леніна выпала кіруючая роля. З надворнага выгляду гэта ня так кідалася ў вочы, як у рэволюцыі 1917 году. Першы Петраградзкі Савет рабочых дэпутатаў у 1905 годзе быў створаны меншавікамі. Але ў сваёй практычнай барацьбе Петраградзкі Савет ішоў за бальшавікамі. Калі хваля паднялася, калі рака выйшла з берагоў, тады рабочая кляса пачула, што ствараць саветы—значыць змагацца за ўладу. І ў гэты момант рабочая кляса сталася бальшавіцкаю.

## Пэрыяд рэакцыі.

Рэволюцыя 1905 году была прыдушана, бо сяляне не падтрымалі рабочых.

Наступае час зацішша, час чорнай рэакцыі. Рабочая кляса пераварвае навуку першай рэволюцыі,

Меншавікі выстаўлялі ўсю рэволюцыю 1905 году, як вялікую памылку. „Рабочыя самі вінны ў паражэньні,—яны занадта „зарваліся“ ў сваіх вымаганьнях“.

— Вы не зразумелі гэтага руху,—адказваў ім тав. Ленін:—Гэта была вялікая рэволюцыя не таму, што быў маніфэст 17 кастрычніка, што буржуазія заварушылася, а таму, што было, хаця і пераможанае, узброенае паўстаньне маскоўскіх рабочых; таму, што перад сусьветным пролетарыятам бліснуў на адзін месяц Петраградзкі Савет рабочых дэпутатаў. І Рэволюцыя ўваскросьне, саветы адродзяцца, саветы пераможуць...

У 1907 г. Ул. Ільліч зноў выяжджае заграніцу. На міжнародным Штутгарскім социялістычным зьезьдзе ён, разам з Р. Люксэмбург, прапануе прызнаць, што ў выпадку сусьветнай вайны социялістыя павінны старацца зрабіць гэту вайну грамадзянскаю. Пасьля даўгіх спрэчак гэта папраўка была прынята.

У Жэневе, а затым у Парыжы высілкамі Леніна створаны былі нелегальныя газэты „Пролетарий“ і „Социал-Демократ“. Кругом быў паўнейшы развал. Старыя правадыры, пабялеўшыя пад рэволюцыйным сьцягам, ні ў што больш ня верылі. Дух здрадніцтва запоўніў політыку. Сталыпін правіў свае оргіі. І здавалася, канца гэтаму ня будзе. Ул. Ільліч перажываў тады, як і ў весь час сваёй эміграцыі, самыя цяжкія нягоды: жыў, як жабрак, хварэў, недаядаў—асабліва ў годы парыскага жыцьця. Але ён застаўся бадзёрым, як ніхто. Стойка і цьвёрда стаяў ён на слаўнай варце. Ён адзін здолеў сабраць шчыльны, згуртаваны гурток барацьбітоў, якім ён казаў: „Чорныя дні пройдуць, мутная хваля сплыве, пройдзе некалькі гадоў, і мы будзем зноў на грэбні хвалі; рабочая рэволюцыя адродзіцца“.

Ленін змагаўся за партыю. Але адначасна ён не пакідаў бібліятэкі.

## Пад'ём рабочага руху і стварэньне „Правды“.

У 1911 годзе стала зразумела, што рабочы рух пачынае адраджацца. Ленскія дні адкрылі новую старонку ў гісторыі нашага руху. У гэты

час у нас былі ўжо ў Піцеры—газэта «Звезда», у Маскве—часопісь «Мысль» і маленькая рабочая фракцыя ў Дзяржаўнай Думе. І галоўным работнікам і ў гэтых выданьнях і для думскай фракцыі быў Ленін.

Дэпутаты, звычайныя піцерскія пролетары (Бадаеў і др.), прыяжджалі да Леніна заграніцу і казалі: «Мы хочам заняцца сур'ёзнай законадаўчай працай: нам трэба парадзіцца з вамі наконт бюджэту, абсудзіць такі-та законапроэкт». У адказ на гэта Ленін рагатаў. Ён казаў Бадаеву: «Ну нашто табе бюджэт, папраўка, кадэцкі законапроэкт? Ты—рабочы, а Дума—для зуброў. Ты выйдзі і скажы проста на ўсю Расію пра рабочае жыцьцё. Ты абмалюй страхі капіталістычнай катаргі, кліч рабочых да рэволюцыі, кінь у твар гэтай чорнай Думе «эксплёататары». Ты ўнясі ім такі законапроэкт, што праз тры гады мы вас, чарнасотнікаў-памешчыкаў, павешаем на ліхтарох. Вось гэта будзе праўдзівы «законапроэкт». Так вучыў дэпутатаў парлямэнтарызму тав. Ленін.

У жніўні 1912 году Ўл. Ільліч пераяжджае з Парыжу ў Галіцыю, каб быць бліжэй да Петраграду. На студнёвай (1912 г.) конфэрэнцыі ў Празе бальшавікі згуртавалі разьбітыя контр-рэволюцыяй рады. Партыя адрадзілася. І тав. Леніну і тут належыла кіруючая роля. Па настаяньню новага ЦК. тав. Ленін пераехаў у Кракаў, куды пачынаюць прыяжджаць таварышы з Петраграду, Масквы і другіх гарадоў. Хутка справа так наладзілася, што рэдкі нумар «Правды» выходзіў без артыкулу Леніна. «Звезда» і «Правда» былі першымі ластаўкамі надыходзячай комуністычнай вясны. Направа і налева сек на старонках гэтых газэт тав. Ленін супраціўнікаў. Сваімі артыкуламі, парадамі, прыватнымі лістамі ў Петраград ён дабіўся таго, што «Правда» пачала жыва адгуквацца на ўсе тэмы дня.

Ленін жыў за 1000 вёрст ад рабочага Піцера, але быў яго душою.

### Вайна вайне і лёзунг соцыяльнай рэволюцыі.

У самым пачатку імпэрыялістычнай вайны Ленін быў арыштаваны аўстрыйскім урадам, але яму ўдалося выбрацца ў Швэйцарыю, адкуль ён разгортвае шырокую барацьбу супроць вайны, за рэволюцыю.

На міжнародных конфэрэнцыях у Цымэрвальдзе і Кінталі Ленін прагалашае лёзунг ператварэньня імпэрыялістычнай вайны ў грамадзянскую.

Тады гэта здавалася нечым нячуваным. Меншавікі казалі, што толькі анархісты можа прапаведваць нешта падобнае, і бальшавіком абвясьцілі барацьбу. На Цымэрвальдзкай конфэрэнціі ня толькі ўмерныя людзі, але, нават, такія дзеячы, як Ракоўскі і Сэраці, ішлі супроць нас. Даходзіла да самых рэзкіх стычак.

Ледэбур казаў: «Вы тут, жывучы заграніцай, заклікаеце да грамадзянскай вайны. Паглядзеў-бы я, як-бы вы зрабілі гэта, жывучы ў Расіі». А Ленін спакойна адказаў яму: «Калі Маркс пісаў „Комуністычны Маніфэст“, ён таксама жыў заграніцай, і толькі абмежаваныя мяшчане

маглі-б яго гэтым дакараць. Я жыву заграніцай, бо мяне паслалі сюды расійскія рабочыя, а калі прыдзе час, мы будзем на сваім месцы». І Ленін вытрымаў сваё слова.

У 1915—1917 г. г. Ленін вёў у Швэйцарыі зусім асаблівае жыцьцё. Вайна і крах 2-га інтэрнацыяналу рэзка адбіліся на Леніне. Многія таварышы, якія яго ведалі, дзівіліся, як ён зьмяніўся з пачатку вайны. Ён ніколі не адносіўся да буржуазіі з сымпатыяй. Але з пачатку вайны ў яго зьявілася асаблівая ненавісьць да буржуазіі; здавалася, што, нават, твар яго зьмяніўся.

У Цюрыху Ленін жыў у бяднейшым квартале, у кватэры шаўца. Ён як-бы ганяўся за кожным пролетарам, каб растлумачыць яму, што вайна—гэта імпэрыялістычная бойня, што гонар пролетарыяту вымагае ўпартай барацьбы супроць гэтай вайны, што нельга складаць зброю да таго часу, пакуль рабочая кляса не паўстане і ня зьнішчыць разбойнікаў-імпэрыялістых.

### Зварот у Расію і Ліпнёвыя дні.

Пасьля рэволюцыі 27-га лютага 1917 г., нізрынуўшай царскае самаўладзтва, Ул. Ільліч сьпяшаецца ў Расію, каб стаць на чале далейшай барацьбы. У красавіку 1917 году ён вяртаецца ў Расію пасьля амаль што дзесяцёхгадовай адсутнасьці. Ленін зьвяртаецца да піцерскіх рабочых і кідае лёзунг сусьветнай соцыялістычнай рэволюцыі.

У ліпнёвыя дні ўвесь ЦК бальшавікоў быў супроць захапленьня ўлады. Так думаў і Ленін. Але, калі 3-га ліпеня высака паднялася хваля народнага мецяжа, т. Ленін усхапіўся. У буфэцэ Таўрычаскага палацу адбылася маленькая нарада, на якой былі Троцкі, Ленін і Зіноўеў. І Ленін, сьмяючыся, казаў: „А ці не спрабаваць цяпер?“ І тут-жа дадаваў: Не, цяпер нельга браць уладу, бо франтавікі яшчэ ня ўсе нашы. Цяпер згоднікі прывядуць франтавікоў і перарэжуць рабочых“.

І сапраўды, у ліпнёвыя дні Керанскаму і К-о ўдалося прывесьці з фронту салдат. Тое, што насьпела праз 2—3 месяцы, не насьпела яшчэ ў ліпні. Перадчасовае захапленьне ўлады ў ліпні месяцы магло стацца пагібельным. І. Ленін зразумеў гэта раней за другіх.

Пачаліся прасьледаваньні. Бальшавікоў арыштоўвалі і забівалі. Бальшавіцкую газэту „Праўду“ зачынілі. Ленін прымушан быў хавацца ад агэнтаў Керанскага.

Але і хаваючыся ён гуртаваў сілы рабочых і сялян для паўстаньня.

### Кастрычнік.

Пасьля карнілаўскіх дзён, асабліва з канца верасьня 1917 г., Ленін пачынае падганяць рабочых: „Хутчэй бярэце ўладу, бо будзе позна“. Ён піша ліст ЦК партыі бальшавікоў, у якім кажа: „даволі капацца,

трэба абкружыць Александрынку (Дэмократычная нарада засядала ў Александрынскім тэатры), разагнаць гэту шваль і ўзяць уладу ў свае рукі".

ЦК не згадзіўся тады з Леніным. Тады Ленін, рызыкуючы папасьці ў лапы Керанскага, прыяжджае з Фінляндыі ў Піцер, каб падняць неадкладна паўстаньне. Ён пераконвае, піша, агітуе за хутчэйшае выступленьне. І дабіваецца свайго.

У кастрычніку 1917 году Ленін кіруе пераваротам ня толькі артыкуламі і агітацыяй, але і сам камандуе кожным вучасткам рэволюцыйнага фронту.

Цяпер зразумела, што, калі-б рабочая кляса пад кіраўніцтвам тав. Леніна не ўзяла тады ўладу ў свае рукі, то праз некалькі тыдняў мы мелі-б дыктатуру самай асьцервянелай буржуазнай сволачы.

Цяпер вядома, што к моманту Ўстаноўчага Сойму было пастаноўлена выразаць бальшавікоў, і калі-б у паноў-гэнэралаў было больш салдат, яны гэта зрабілі-б.

Ленін улавіў момант, як ня трэба лепш. Ён не хацеў цягнуць ніводнага тыдню і паставіў пытаньне рабром. Адкрыта, са сваім подпісам, у легальнай газэце ён піша артыкул за артыкулам, проста заклікаючы да ўзброенага паўстаньня і проста назначаючы яго на заўтра ці на пасьлязаўтра. І ўсё гэта Ленін робіць тады, калі Керанскі яшчэ стаіць на чале ўлады, і многім здаецца, што ён яшчэ моцны. Ленін кідае вызаў усёй буржуазіі і ўсім згоднікам і кажа: „Заўтра мы скінем вашу ўладу". Гэта мог зрабіць толькі Ленін.

2-гі Ўсерасійскі Зьезд Саветаў па прапазыцыі Ул. Ільліча прыймае дэкрэты аб неадкладным міры і пераходзе зямлі да працоўных бяз выкупу.

Ленін выбіраецца старшынёю Рады Народных Камісараў.

## Берасьцейскі мір.

А памятныя горкія дні Бярэсьця! Як цяжка было прыняць тады пастанову. Цяпер цяжка сабе ўявіць, што было-б, каб у часе Бярэсьця ня было Леніна. Хто другі мог падняць на сябе ўвесь цяжар, пайсьці супроць большасьці Саветаў, супроць большасьці партыі, адзін час, нават, супроць большасьці ЦК партыі. Толькі Ленін мог зрабіць гэта. Толькі Ленін мог адратаваць Петраград, Расію, нашу партыю, нашу рэволюцыю. Цяпер мала ўжо знойдзецца мудрацоў, якія спрабавалі-б высьмейваць ленінскую тэорыю „перадышкі". Цяпер зразумела, што гэта быў адзіны правілоsвы шлях—уступіць ворагу ў абшары, каб выйграць час.

Ленін кіруе пролетарскаю дзяржаваю, праводзіць яе праз найцяжэйшыя этапы, цьвёрдаю рукою вядзе да перамогі.

30-га жніўня 1918 г. правая эсэрка наносіць Леніну рану. Ледзьве паправіўшыся ад раны ён бярэцца за працу.

## Новая экономічная політыка.

У пачатку 1921 г. партыя робіць вельмі цяжкі паварот да нэпу. Гэты паварот яна магла зрабіць адзінадушна толькі дзякуючы гэнію Ільліча.

Пад кіраўніцтвам Леніна ўмацаваўся саюз рабочае клясы і сялянства. Пад яго кіраўніцтвам пачала шырыцца і мацнець сусьветная пролетарская рэволюцыя.

Але гэта нечалавечая праца падрывае сілы Ўл. Ільліча. Улетку 1922 г. хвароба наносіць яму цяжкі ўдар. Ён доўга змагаецца з ёю.

21-га студзеня 1924 году яго ня стала.

## На сьмерць Леніна.

### А. Гурло.

Кім жыцьцёвы руль павернен,
Хто быў кормчы, каб ў тумане
Маяка бачыць зіяньне?
Ленін!

Хто сагнаў з гісторый цені,
Напісаў закон нанова,
Хто з рабоў сарваў аковы?
Ленін!

Ад Парыскай Комуны
Да нашых дзён
Агалашалі Пяруны
Многа імён
Змаганцаў за волю,
За свой народ.
Яны ня згаснуць ніколі—
Ня гасьне ўсход!

То быў усход—пачатак змаганьня;
З іменем Леніна зьвязан працяг,
З іменем Леніна—промін зіяньня:
Чырвоны сьцяг!

* * *

На пераломе дзён змаганьня і пабеды,
На пераломе дзён, калі стыхія ўсьпенена,
І рвецца ўвесь народ за нашым краем сьледам—
Ня стала Леніна!

Утрата цяжкая! Схілі, народ, галовы,
На момант адарві увагу ад жыцьця,
Каб з большай сілаю заветы яго слова
Накіраваць к жыцьцю уздымам пачуцьця!
Той не памрэ, хто жыў калісь надзеяй,
Той не памрэ, кім жыць будзе народ,
Бо цела траціцца, а вечан дух ідэі,
І рух яго бязьмежан з году ў год.
О, Ленін не памрэ—яго рукою праца
Ў вянок прыгожых слоў упісана цяпер;
Як сымбаль еднасьці народаў усіх нацый
Зіяюць літары:
С.С.С.Р.

## Правадыру сусьветнага комунізму.

*(Памяці Ў. І. Леніна).*

**Я. Журба.**

Ведай, сусьветны рабочы,
Ведай і ты, селянін—
Зямлі пролетарскае сын,
Ведай, увесь пролетарскі абшар:
Памёр наш правадыр,
Вялікі комунар.
Спавіў-ахутаў жаль
Працоўную сям'ю...
Але пакінем сум,
Ня трэба смутных дум,
Ня трэба жальбы, сьлёз!
Нічога ён з сабой
Ў магілу ня унёс.
Ўвесь скарб сваёй душы
Цалком пакінуў нам—
Жыцьця гаспадарам.
Бясстрашны свой розум, нянавісьць сьвятую
К нявольніцтву, ўціску, бязьмежную веру
У творчыя сілы ўсіх гушчаў працоўных,
Сталёвую волю сваю—
Ён усё гэта нам перадаў
І гэтым-жа шляхам ісьці завяшчаў.
І будзем мы верны табе
У няспыннай сваёй барацьбе.
Тваё імя сьвятое нам будзе
Чароўнаю зоркай мігцець
І будзе вясьці к перамозе
Па тэй камяністай дарозе,
Якая вядзе ў новы сьвет.
Тваё імя сьвятое—
Сымбаль новага сьвету
Ад захаду да ўсходу,
Ад поўначы да поўдня.
Ты ня ўмёр, ты жывеш
І жыць будзеш вечна
У сэрцах працоўнага люду!..
Дык кіньце смутак, жаль,
Глядзеце добра ў даль!

Цясьней, шчыльней рады!
Прад намі новы сьвет,
І шчасьця йдуць гады.
Ужо чырвоны сьлед
Відаць па ўсёй зямлі.
Вышэй Комуны сьцяг!
Цярніст наш доўгі шлях.
Аб гэтым цьвёрда знай,
Упарты комунар!
Змаганьню гімн сьпявай,
На варце цёнгля будзь,
Заветаў не забудзь,
Глядзі ў сусьвет-абшар!!!

27 студзеня 1924 г.

---

# Л е н і н.

*Поэма.*

**В. Полішчук.**

Калі загудзе мілагучна гудок па-над местам
 — Малая фабрыка,
Калі зараве лятучы усё вышай і вышай
Аж да рыку атласнага, басам
 — Ліцейны завод,
Калі завярэшчыць трыма галасамі
Медны боль паравозу зарэзанага на вагзале
І коміны па небе кучаравыя раскінуць хвасты—
Тады работнікі масаю, гуртам
Ідуць на работу,—
Што яны думаюць?—хто іх разьбярэ...

*

Але калі гудок гнеўна хапае паветра,
То захлынаецца хрыпам, як схоплены раптам за горла,
Калі перарыўчасты і заўзяты роў яго,
Маўляў разрываюцца лёгкія ў грудзях,
То падымаецца, то апускаецца, як той крылаты
 агромністы грыф,
А потым уніз адкідае хвасты
Цяжарністых зыкаў,
Што недзе губляюцца ў полі
Ці ў ночнае цемры,—
О, тады работнікі зрываюцца па сваіх каморках са сну,
Выбягаюць з баракаў, з пасёлкаў
І лятуць, як мага, у завод:
„Нешта сталася!..“
Тады іх ня спыняць ні стрэлы гарматаў,
Ні зык болю зубнага куляў варожых.
Яны організована ў адзін ўсе сьціскаюцца жмут
Пад жалезнымі жэбрамі гмаху-заводу,
Што налягае асьветленай шкляна-бэтоннай засновай
На ночную цьму,—
О, тады хрыпла крычаць аратары,
Падчас злавешча шэптамі асьцерагаюць,
А часам выпускаюць галасы
Пад рыштаваную столь чайкамі,
Тэнаровымі чайкамі, чайкамі лятаць.
Клічуць работнікаў:
„Прыйшоў час“,
Час выступаці ўраз

Проці царату,
Проці ворагаў працоўнага люду,
Юнкераў, бандытаў і узурпатараў.

*

Гэй дый павыганялі-ж усіх,
Што павукамі былі зачаіліся
Пад апекаю згодніцкага ўраду.
А кастрычнікаўскае чырвонае лісьце асін
Шапнула рабочым параду,
Аж само затраслося,
Спужалася,
Паляцела, як галовы з плеч.
Ой, пілі-ж віно дый чырвоны сок!

*

Нічога, што заводы зялом зарасьлі,
Стаў аблог,
Але дух паўстанчы, дух перамог.
І вось
Патроху
Пачалі прачынацца гудкі,
Зноў склікаці да працы.
Там адзін,
Там праз тыдзень другі,
Трэці цераз месяц аж вунь-дзе азваўся—
Усе прачнуліся...
А хлопцы надзею гадуюць:
— Ды яно як так пойдзе,
То хутка задыміць і домна.
Эгэ, кажуць, жывём:
Трубны падняўся...
Але-ж, ды яно й Ганка таго...
А наш цераз месяц і бяз буржуяў пойдзе.
Так, пасуваецца гаспадарка Леніна.

*

Як места ў вострых комінах усё
Ў тумане варыцца халодным,
Як вежы на царквох галодных
Ў сабе хаваюць сонца адбіцьцё,
Калі ў дасьветнай коміны пары,
Як шчупаковы зубы вялізарны,
Хапаюць неба у гары,
А паміж іх раздутыя веж пухіры
Блішчаць, наліты гнільлю марнай;
Калі гудкі перaказалі
Свой ранічны ўжо войчанаш,
І йдуць работнікі ў жалезну залю
Да чыгуновых чаш,
Дзе варыва клякочыцца агнёвае,
Нам прaракуючы ўсім жыцьце новае,—
Тады скрозь бегаюць па месту хлапчаняты,
Разьлепльваюць газэты й тэлеграмы.



На ўступе: супынілася адна вайна праклятая,
Але йшчэ соткі горшых перад намі:
Йшчэ Дон гартуе шаблю,
Йшчэ йдуць чэха-славакі,
Але гарачае работніцкае сэрца
Ня стане больш драмаць...
Бібула рыжая на сьценах,
А літары, як вераб'і,
Крычаць рабочаму у вочы,
Што сіла ўся ў яго руцэ.
Каля заводу на даскох таксама—
Заклікі „Праўды“, што патрэба йсьці
Да новых сьветавых пажараў
Аж да комуны, як сусьветнай людзкай мэты.
А побач
На сівым замурзаным шматку
Крывулямі накручана зялёнымі,
Што сёньня а гадзіне сёмай
У Аляксандраўскім Народным Доме
Даклад таварыша Леніна.
І йдуць работнікі праз дошкі у вароты
Туды, дзе пасы і дзе трыбы шыпацяць.
Ляжыць на кожным з іх часьцініна работы,
Як рэволюцыі пячаць.
Зіркае кожны на табліцу,
Успамінае голад той і рэволюцыю;
А як пасьля работы выйдуць ланцугом на брук,
Дык кожны у Нардом захоплена сьпяшыць,
Каб яркімі навінамі упіцца.

*

Нядаўна разагналі Устаноўчы Збор
(Быў старшынёй эс-эр Чарноў).
Як сала на агні, скварчэліся пасьля таго прамовы
У Цэка ПСР:
„Пакажам мы бальшавіком,
Як выдумляць паганую гульню ізноў.
А за народну кроў і за Ўстаноўчы Збор—
Кроў!“
І пастанова:
„Леніна забіць!“
Халодны пот на зьбеленых ад злосьці тварах
І ліхаманка у руках.
Калі мігаюць вогнікамі вочы
І лыпаюць, як пасткі зрэнкі,
Што можа вось-вось і накрыюць—
Ня змогуць расплаціцца,
І усяму наступіць крах,
Народная загіне праўда,
Як гром далёкі у гарах.

*

— Дык Леніну за гэта што?
Спытаўся правадыр баявікоў.

Усхамянулася тут Іванова—
І праняслося: сьмерць!
— Хто—за?
Нэрвова з цішыні
Ўверх падняліся рукі.
Раз, два, тры... Ўсе!
— . так, таварышы-баявікі:
Сягоньня першага чысла
Забіта Леніна.
І далі дырэктывы:
Каб паказаць на цэлы сьвет,
Што важакоў фальшывых
Ня хочуць самі пролетары
І зьнішчаюць.
Такая думка Гоца і Цэка—
І я так раю:
Дык на Усова ці Казлова
Кладзецца, думаю, высокі гонар.
Набоі ёсьць.
Хто забірае слова?

*

І злыя вочы, хмурыя крыху
Пад цёмнаю паветкай змкнутых броваў,
Спадлоб'я глянулі, як зьмеі,
Як быццам шэрай сталяй зварухнулісь.
То выйшаў Усоў,
Як сіла шэражоўтая рабочых мас.
На твары маладым
Асеў пясок жыцьця—
І стаў зямлісты колер.
На безбародым і бязвусым твары
Мужчыны год мо' з дваццаць сем
Упарта выступалі скуліцы,
Што звужваліся к нізу
На вострым падбародак.
І вось на гэтым твары
Ад слоў правадыра баявікоў
Пабеглі кроплі поту.
Прайшоў яшчэ уперад.
— Згаджаюся!—
Сказаў.

*

А потым парасткі куль алавяных,
Што прарастаюць
З насеньня пораху і дынаміту,
Як маладыя дзе шпарагі,
Надрэзалі каб атруціць.
Нацыркалі прыправы,
Якая у сабе глыбока затаіла
Сьмяротную хімічную формулу
На нямінучую лютую сьмерць
Кіраўніку жывому

Саўнаркому.
Усоў прышоў ў Нардом.
Было йшчэ рана—ён зайшоўся у буфэт,
А там работнікі—размовы, гоман.
І хоць і быў наказ
Ні з кім не гаварыць—
Ня вытрываў.
Так цягнецца ўчуцьцё,
Як той да сонейка сланэчнік,
Так колецца самотнасьць,
Як калюкі чартапалоху.
Душу ўсю прасьціраў да грамады,
Бо разгубіўся сам,
Як ў ночку цёмную на моры
Закінуты матрос.
Застаўся сам, як выстрал між агнямі,
Як зайздрасьць да братоў,
Як зерне на асфальце,—
Адна чужая тут яго душа.
А колектыў заўсёды
Паіў душу сытой,
І сілы расьцякаліся,
Як мысьлі па палёх.
Рабочы колектыў і ён вязаліся ў вадно
І з думкамі супольнымі,
Як буйны сад, жылі.
А тут—ў вялікі гэты час—
Глухая адзінота,
Што вытрываць яе ня змог.
Паварухнуўся камень—
І падыйшоў Усоў да іх.

*

Яны яго адразу прынялі
Ад слова аднаго;
Адчулі так,
Як зьверы ворага ці друга:
Адным інстынктам,—
І глынулі.
(Салодкая так інтуіцыя
Раней ад нас гаворыць).
Ён друг—рабочы,—
Дзеля таго і гутарка,
Гарцуючы крыніцай па каменьні мысьляў,
Пабегла, рвалася, драбнілася бясконца,
То зачаплялася павоем за галіны лёзунгаў,
Каб рукі гнеўныя супрэчак
Зноў разрывалі іх на часткі.
А у кішэні браунінг ляжаў,
Як зьмерзьнены лядзяк,
Што таяў ледзяной вадою,
Калі дакратвалась рука
Гарачая, як той праступак.

*

З работнікамі блізкімі яму
Вузламі лёгікі й супрэчак
Прыкручываў, як цела да слупа,
Ў сабе сярдзітую гатоўнасьць на забойства.
Апошні раз пераканаць сябе хацеў,
Што Ленін—вораг ўсім работнікам,
Што ўсе бальшавікі—праціўнікі свабоды,
Што патакаці годзе
Грабаўшчыком яго віdзеньняў
І міражоў зіячых.
Пераканаць сябе—пераканаць другіх:
Папробаваў яшчэ.
Прыдаўліваў абцасамі зьядлівых слоў
Ён тактыку бальшавікоў
За тое, што Ўстаноўчы разагналі Збор,
Салонай гразьзю ў горла кідаў
Староньнікам заўзятым
Дыктатуры пролетар'ята.
Работнікі спрачаціся ня ўмелі добра,
Але сваё вялі...
А потым:
— Э, браток,
Ты штось ня тое!
З табою кашы не зварыць.
Паслухай Леніна ты лепей.

*

Натоўпіліся, зьбіліся, панадстаўлялі вушы,
Галовы, вочы—быццам заля, поўная ікры.
Трыбуна і вадзіцы шклянка.
Таварыш Ленін гаварыў:
— У барацьбе крывавай
Вы захапілі ўладу.
За тысячы работніцкіх ахвяр,
Якіх напышненыя гэнэралы,
Ў сьляпой нянавісьці да „шэрае скацінкі",
Як вераб'ёў
Расстрэльвалі
На фронтах.
А пасьля,
Калі вы узьняліся—
Яны пайшлі на Петраград.
Сюды сьпяшылі з Інгушамі
Красновы белыя,
Калі ў сярдзітым спачуцьці да іх
Вось тут пасярод нас
Праклёнамі
Званы
Гудзелі
На слаўныя колюмны
Чырвонай гвардыі,

Карнілаў гуртаваў тут войска,
Каб вас прагнаць...

*

Усоў раптоўна схамянуўся,
Маўляў штырхнула токам,—
Прыпомніў ён:
— І я тады ішоў, як мэталіст,
Краснова біць...
Імчыцца наш уночы броняпоезд,
Такі іржавы скрып...
А Ленін далей:
— Гнаілі па вастрогах вольных духам,
Каб у ярме трымаці нас.
Нарэшце мы Кастрычнікам Чырвоным
Зьнясьлі іх, як віхор салому,
Перавярнулі вызыску палацы
І пакрышылі краты...
Няўжо цяпер вы будзеце прымаць
Сьвядома, добравольна
Заўзятых ворагаў у хату да сябе,
Што будуць вас шпягоўствам гадаваць?
Атрутаю брахні накормяць,
Як пацукоў галодных?
Што здрадаю зайздроснай
Паіць вас будуць кожны час,
Пакуль агонь сьвядомасьці
Да волі не пагас?
І покуль пэўныя вы ў тым,
Што й вы такія-ж людзі,
Не уцячэ, як пара
На двор з жывога дому.

*

І вось цяпер
Вы возьмеце, маўляў рабы,
Падставіце зноў самі свае плечы
Для ворага буржуя,
Які заўсёды ў сэрцы лютасьць чуе
Да кожнага работніка,
Бо адабралі фабрыкі мы ад яго,
Каб вольна працаваць?
Мы возьмем і дапусьцім
Памешчыка у двор?...
Вы ведаеце—парабак яму
Быў раб.
Жандармы замест платы,—
І вы іх возьмеце ў сваю работніцкую хату.
Каб іх-жа гадаваць?
Дапусьціце у рады?
Падзеліцеся сілаю сваёй і ўладай
На глум, на сьмех?
А хітрасьцю,
Маўляў зьмяіным зьвівам.

Яны паволі адбяруць і рэшту ўлады,
Бо іх тады навука, грошы і мараль.
А ваша кроў і спадзяваньні,
Як кветка згінуць раньняя...

*

А Усоў, хаця і спрацiўляючысь,
Шоў думкамі за Леніным:
— Яно то так... Крывавая... так... барацьба...
То праўда... Нашы раны і бяда...
Але пры чым тут Устаноўчы Збор?
Нашто бальшавікі яго
Зухвала разагналі?
Яны-ж народныя паслы.
Какошкін, Шынгароў...
Што іх забіта, можа так і трэба:
Яны папраўдзе ворагі для нас.
А можа гэта для таго,
Каб крытыкі ня меців?
Дарваліся да ўлады...
О, тыраны!..

*

А Ленін далей:
— Калі-ж адкрыта іх дурман
Сьвядомыя работнікі
Ня стануць піць адразу,
То тысячы соцыял-здраднікоў
Вужамі падпаўзуць
Ў лякайскім посьпеху буржуям дагадзіць,
І дапамогуць вас падступна ашукаць
І на забой ізноў
Ў жывёлавых вагонах
На славу капіталу,
Як быдла, павязуць, пагоняць.
Куды? На што?
Каб меці мытніцу на Дарданэлях,
А над Канстантынопалем высьнёныя крыжы
На нашу згубу, на зьнявагу?

*

Усоў бліжэй шчэ падыйшоў,
Грудзьмі стаў проць грудзей.
Трасьліся рукі і пачуцьці.
Як мухі з ліпкае паперы—
Так вырываліся, ўспаўзалі думкі,
Хацелі выбрацца на волю.
Чаго бліжэй ён стаў—
Забіць, ці слухаць?
Усоў так думаў і пытаў:
„Няўжо ніхто яго і не адважыцца забіць?
А я?
О, хоць-бы злосьці падкаціла!“
Каб пераверыць сілу,

Сябе ён раззлашчаў:
„Тыран“—
А выйшла нейк
Недарэчна і сьмяшно.
І ў той-жа час
Ласкава людзкі погляд
Дакрануўся Усова.
Ільліч як быццам падмаргнуў
Так цёпла, цёпла.
Казаў вачыма: „Думаеш—ня ведаю?
Работнік ты—і я, брат, для цябе“.
А сам—шырокі твар і зморшчкі каля носу,
Вырэзьбеныя разаком упартасьці і часу
У розныя бакі праменьні сеюць.
А вочы чорныя і з аганьком,
Маленькія і цёплыя,
А іншы раз хітрэнькія
Пад мудрым шышкаватым лбом.
За цьвёрдасьцю вачэй
Глыбока прычаіўся сьмех—
Якісь і добры—і суровы.

*

Чагосьці у натоўпе перакінуліcь славамі—
Увага, рэпліка, ці што...
Цікава Ленін трохі вока прыжмурыў,
Аднэй брывёю ўверх стральнуў:
Ён прыслухаецца.
Так проста і палюдзку выявіў цікавасьць.
Не адчуваў таго, што Ленін ён.
Здавалася, і не дагадаваўся ён,
Што ён ёсьць Ленін.
А голас поўны і наліты сілаю жыцьця,
Як яблыка аліўнае,
У душу пэўнасьць льле.
І словы ўсе звычайныя,
А раскусіць—арэшак у сярэдзіне.

*

І вось Усоў як быццам прабудзіўся—
Ударылі зноў словы:
— То хітрасьці буржуазіі.
Яны ня кідаюць надзеі
Перамагчы.
А як гавораць—мёд у вуснах.
І выбары агульныя для ўсіх,
І раўнапраўны голас для работнікаў.
(Падзякуйце паном:
Ваш голас мае сілу з іхняй нараўне!
Шануйце—
Нарэшце дапусьцілі!).
А мы гаворым ім:
Ня трэба Учрадзілкі,
Ня трэба курава снатворнага для нас.

Прыйшоў апошні час
Падняць чырвоны сьцяг.
Пролетаром на сьвеце сіла і улада
І органам іх дыктатуры,
Ўся ўлада—радам.
І хай-жа пасягнуць—гарматы і набоі
Наперад, гэй, таварышы да усясьветнай волі!—
І грокатам разбушаваных хваль
У залі прабурліла згода.
Як лівень, воплескі шугнулі:
„За ўладу Рад—ура!
Няхай жыве наш Ленін—наш-жа правадыр,
Савецкая улада на ўвесь мір!
Проч Учрадзілку!“

*

Усова сэрца білася,—
Так білася, як рыба ў сетцы.
Што ён казаў?
Дык значыць—здраднікі?
Хіба я здраднік?
Эс-эры за народ!
Няўжо-ж то мой праклёны рот
Не закрычыць:
„Няпраўда гэта!“
А ў галаве туман...
Вось Ленін ўжо з трыбуны
Паволі сходзіць...
Угаварыліся, што тут...
Рука сьлізнула і дрыжыць—
Дакратваецца ўжо да сталі...
А маса люду, як табун,
Гуртуецца, каб выйсьці—
Шугнула й стала:
Запынка
У дзьвярох;
Цяпер пара!..
Але адразу цёплая імлявасьць,
Як малако, па целе разьлілася,
І мякка стала так—
Зьнядужаў
Цэлы,
Ўвесь.
А дзесь
Зашалясьцела:
„Ня трэба!“
І скрозь туман пранеслася,
Як вецер лёгкавейны:
„Я сам,
Сярод усяе масы—сам“.
А Ленін пазірае,
Ступае звольна,
Работнікі зьдзіўленна разважаюць:

— Усё, што-б ён не гаварыў,
Яны і самі гэта знаюць,
Хоць часам і ня ясна,
Але ня ўмеюць высказаць.
Дзеля таго на Леніна ўзіраюцца з любосьцяй,
Як меншы брат на брата.
„Не, не магу, ня сьмею“.
Яшчэ крапінку заясьнеў
І стаў як-бы у сьне.

*

Як разыйшліся ўсе, ўцякаў за места,
А там пайшоў у лес.
Стаяў і мяркаваў аб Леніне:
— Няўжо ён творыць новы сьвет
І вучыць дзеля сваёй славы?
Няўжо дзеля таго працуе ён,
Каб зьяньне гоману і подзіву плыло
У ўсе куткі зямное кулі,
Як цёплае дыханьне—
Адно аб ім,
Шукаючы бясьсьмерця?
Няўжо дзеля таго працуе ён і думае,
Каб у вякох танулі думкі
І павуцінаю пляліась легэнды,
Што зьвязаны з іменьнем Леніна?
А можа ён для чалавецтва усяго,
Ў якім пагруз,
Як рот ці рупар для вякоў?
Выкідвае намовы,
Што сталі словам
Для ўсіх працаўнікоў?
Аж запыхаецца у сіле.
А можа зноў гіганцкая будоўля тая,
Што крыецца пад чэрапам упарта-шышкаватым,
Паўстала тут, каб задаволеньне сваё каваці
З асалоды ў працы?
А мо' глухая тут энэргія,
Якая у лянівасьці паноў-бацькоў драмала,
Збудзілася да творчае работы,
Што раптам, выпадкова,
Прарвалася у прорвіну політыкі і веды?
А можа помстаю—за брата?
А можа й так сабе?..

*

Прыпамінаў, які-жа ён.
Намаляваў, як Ленін,
Паклаўшы рукі у кішэні,
Спакойна выкладаў, падчыркваючы думку,
Што ўжо жыла няясна
У галавах мільёнаў,
А зараз праяўляецца, як здымак
У тысячы адкрытых слухачоў.

— Тады ахвяра чалавецтва ён,—
Казаў Усоў атарапелы.
І гідасна было, калі тут выпадкова
Зноў дакранаўся
Абсьлізлы браунінг да пальцаў,
Як гадзіна абкормлена
Атручанаю стравай,
Што аж ня лезе ў ляпу.
„Ах, так!? Ты йшчэ?“...
Пасьпешна выцягнуў з кішэні
І шпыргануў ў карчы,
А далей думаў:
— Тады, выходзіць, Леніна нямаш т'кі для сябе?
А ён ахвяра цэлых пролетарскіх пакаленьняў,
Якім нясе і розум і навуку,
Пачуцьці й ясныя навекі дні,
Што дзесь хаваюцца і тлеюць
Ў нянавісьці на дне.
І вось яна, ахвяра гэта там,
Дзе блюзы шэрыя з рукамі у мазуце.
Яны імкнуцца праглынуць ахвяру гэту,
І, сілаю яго упіўшыся,
Пайці ў бітву за будучыну лепшую,
А Леніна самога
Быць можа і забыць.
О, значыць, ён не для сябе.
О, не!
Громакіпучыя распырсківае сілы
Ў агні прарочым,
Ня думаючы аб сабе,
Бо толькі-б захацеў—
І кінецца буржуазія
Яму грашыма й працаю служыць,
Каб закупіць яго запал,
І, подкупам уціхаміры́ўшы,
Заткнуці рот
Ядою смачнаю на фоне шкла і золата.
А потым усіх пролетараў
Абдураных, за дзікі гнеў
Да пана
Пад бойню сілы падвясьці
І замарочыць дух,
Каб масамі павесьці пад абух
На помсту войнаў...

*

Усоў прыпомніў,
Як дакрануўся Ленін да вачэй
Такімі добрымі, хітрэнькімі вачыма,
Што той заціхнуў, як дзіця,
І слухаці пачаў
Бяз межаў часу.
— Не, ён ня думае аб касьце комуністых,

Ня сьпіць начамі, піша і сачыць
Для нас саміх.
Яшчэ і вечна на старожы,
Бо прычаілась сьмерць...
Не, не магу я
Разьвеяці свой грэх,
Не магу!..

*

Вялікі сорам, як віна,
Прыціснуў і шпырнуў на бок Усова,
Як брудную і мокрую анучу.
Так на душы яго было.
— Ня йсьці да іх
(Эс-эраў),
Чаго-б туды ісьці?
Наказу й слова ня стрымаў,
Яшчэ і здрадзіў іх.
Зьвіхнулась думка.
Што ёсьць між намі спольнага цяпер?
За мной грымнулі каменныя дзьверы,
Калі ў карчох зашастаў браўнінг.
Я не адважыўся—
Ня страх-жа гэта,
А скажуць—трус.
Я не баюся,—
А неяк няпрыемна.
Ну, як цяпер?
Ї дзе схілюся?
А хочацца так расказаць...
Ды хто ўсё зразумее?
Да іх пайці (бальшавікоў),
Што іх страляў нядаўна?
Хіба паверацъ?
А можа я падосланы з эс-эраў правакатар?
Тады ўцякаць...
Ад іх і ад сябе ўцякаць!..

*

Пачаў прыпамінаць ізноў:
— А можа йшчэ хто ёсьць?..
Казлоў—ён просты, грубы,
Але работнік ён.
Яму сваю падстаўлю рану,
Хай длубяне са злосьці,
Або загоіць.
Яму скажу.
Бо да Цэка пайсьці—
Не зразумеюць там,
Бо нашы душы розныя.
Яны асьвечаны, інтэлігэнты,
Закачанеўшыя ў змаганьні,
Без ваганьняў,

А я—работнік-самавучка,
Я йшчэ ўсяго ня ведаю дакладна...

*

Як неабчэсаная каменная брыла,
Казлоў звычайны так сабе работнік.
Душа яго нязьменная й грубая
Дзесь урасла углыб,
Уся мохам абрасла
У мясенях заскарупела,
Шуміць, як вербалоза з дзікім ветрам,
І выдзерці яе,
Як чарапаху сплюшчаную, стуль—
Сіл ня было.
Ён сам ня змог ні разу,
Хоць дакладаў натугі.
І во ў каморцы затхлай,
Дзе на тапчан, як блін, лёг матрац,
Расказаваў Усоў
Сваё жыцьцё.
Здалёку ён зайшоў,
Як паляўнічы ў полі,
Каб падыйсьці прызнацца.
Баяўся ды хацеў
Пачуці суд душы няхітрай
Над сабой,
Як ссохшая зямля вады і буры.
А думкі так пякуць,
Як у халяве вугаль.
Баяўся, бо Казлоў быў такжа баявік,
Але той страх цягнуў к сабе, як сьмерць,
Калі на мосьце стаў
І пазіраеш на ваду
Або ў бяздоньне з вежы.

*

асьцярожна намянуў Усоў:
— Быў ўчора у Народным Доме...
Там Ленін мусіў быць...
— Дык што? Ня выйшла?
— Ды не...
— Што не?..
Маўчаньне.
— Я не адважыўся...
І вочы ўпалі ўніз, як сэрца.
Напружаны да муці погляд.
Моцны Казлоў паціснуў чуць плячыма
І хмурны палагоднеў твар.
Тады яшчэ далей Усоў:
— Я не адважыўся...
І расказаў усё.
— А ведаеш, Усоў,
Ў мінулым тыдні
Я на яго рукі таксама не падняў,

Ня змог...
Як Ленін выступаў на біржы—
Помніш?
— Чаму?—задзіўлена спытаў таварыш.
— Бо не мая йшчэ праўда.
— Тады, выходзіць, Леніна,—
Так кажаш?
— Ня ведаю.
Яна дзесь блізка ўжо.
Вось так-бы ўзяць яе...
Эх, праклятая!...
І сьціснуў свой кулак.
А на ўсім твары, замест мукі,
Якісь няўдала-спазматычны сьмех
Бяз голасу прайшоўся—
То зноў
Бязьмернага цярпеньня пачуцьцё
Прабіцца не змагло скрозь цела.
Як цяжар пасткі,
Упаў на душу гнёт
Вагой раджэньня.
І заматаў ў цянёты цела
Глыбокі і бязьмежны дух.
Прыбіў найтоншую часьціну чалавека—
Пруткія ногі пачуцьця
Дзьвярыма чэрапа і мясеняў,
Як ласіцу бліскучую.
— Хай вырываецца—ня вырвецца,
Ажно пакуль не акалее.
Але між душамі
Казлова і Усова
Ўжо хвалі забруялі.

*

Тады ўцякаць рашылі разам,
У поле йсьці, на луг ісьці,
Душэўных мук згубіць заразу,
Навалу грэху загубіць.
І вось пайшлі ў дзікія сёлы,
Дзе бруд, і пранцы, і вайна,
Дзе ходзіць праца невясёлай,
Маўляў жахліва навіна.
Але ўжо кінулі пажэжы
Сьвядомасьць сілы ў беднату—
Усе ў палёх разрылі межы—
Кулак сагнуўся на слату.
А ўцекачом ад ўласных боляў
Ўжо новай радасьці віно:
Ім і таго ужо даволі,
Што лес, і сонца, і цяпло.
Сінее неба, як вялізарны эксцэнтрык,
Дзе сонца вось заехала на бок,
Бязьмежна шпарка гоніць-кружыць,

Не пасьпявае ўгнацца галава за ім,
Калі, узроку пальцамі схапіўшыся за край,
Пад кругавідам бегаці пачаць,
І цёпла, як з машыннай топкі.

*

Жаданьне працы мучыла Усова.
Перамяніці, як ваду, абставіны.
Патрэба моцная ісьці і штось рабіць
Яму, як промень, зазьвінела.
Турботнаю струною выцяглася думка,
Як ліньня простая, да самай мэты.
У Армію Чырвоную адкрыта йсьці—
У карны-б хоць адрад.
О, ўсё адно!
Рашыў, як гром грымнуў.
Няхай ён—скажуць—кат!
Для пэўнага дасягу
Сьвядома трэба
Усім цярпець і гараваць.
І можа сілаю павесьці несьвядомых
Да ясных брам.
Ў пагрозе утапіць сьляпы іх гнеў,
Як не спадзе з вачэй дурман.
І любіш іх—і нішчыць трэба іх:
Вось тут найвысшая любоў,
Як быццам забіваеш сам
Сьмяротна раненага брата.

*

Каб церабіць у будучыну шлях
Да сьветлага парэгу
Праз поля з церняў і абману,
Умець у тактыцы жыцьця
Супроць сваёй прыроды часта йсьці,
Ня верачы ні ў чорта, ані ў бога—
Вось тут найвысшае зіяньне мэты.
Калі дзе хвораму хірург
Спакойна чэрава жывое порыць—
То там нянавісьці і ня шукай,
Тут найвышэйшая любоў;
Маўляў прасьвецісты дыямант.
Людзям боль задаваць
І мучыцца духоўна—
Тут найвышэйшага каханьня грань,
Грахоўная й сьвятая.
І працу цяжкую,
І вочы братнія
У поглядах затрутых,
Як выстралы ў жывот,
Прыймаць ў сябе
Й ня ўпасьць,
Нясучы на душы,
Цяжэсную каханьня краму—

Такой лютой напасьці
І ворагам-бы век не пажадаў.—
Усоў сябе нанова гэтак гартаваў,
Каб комуністым стаць.

*

Усоў прайшоў цераз змаганьня горан,
Заўзятым комуністым стаў, як мох,
Што урастае ў камень—у жыцьцё.
Яго ня спыніць ані сьмерць, ні гром,
Што уздымае хмары пачуцьця,
Як дзікая й сьляпая бура,—
Бы толькі думка ў ім пахмура
Бліснула пад чалом, як шэрая крынічка,
І ня зіяньнем дыямэнту, але сілай сталі.
І скажа проста ён:
„Выходзіць разрахунак, дык—гадзіцца."
І на разбураны памост
Для новае будовы
Ён ляжа, быццам камень моцны, стопудовы.
Абы разрахунак паднёс,
Бо ён матэр'яліст.
Старая гэта рыса:
Тож не здарма, як быццам Юда,
Ў організацыі эс-эраў
Ён таварыскую вёў гаспадарку.

*

У шосты год рэволюцыйных бур (у 1921),
Калі ўжо громы адлуналі
І мірны дождж пайшоў,
Калі дзесь прычаілася вайна,
Як та пантэра у кустох,
Але ня мела сьмеласьці накінуцца адразу
На цела пруткае Рэволюцыйных Рад,
Ужо гатовых на адпор,—
Тады бліжэйшай і ясьнейшай мары зьява
Праменьні пасмамі пусьціла ў сьвет.
То на 9-ым зьезьдзе Рад
У электрычную зірнулі будучыну.
І усьміхнулісь нацыі,
Як-бы да сонца дзеці.
Бо цемру жудаснай вайны,
Крыві, атрутных газаў і фугасаў,
Іржаньня й кашалю картавых танкаў
Да паразьверненых нутроў
Набоямі,
Як жыватоў людзкіх,
Будынкаў Перакопу,
Руін, як Гэркулянума й Помпэі—
Ўсю тую цемру
Прарэзала сьвятлом назьмерным веры,
Бліснула іскрамі, і пацяклі струмені
Такія мкністыя, глыбокія такія,

Як думы собраных на зьезьдзе нацый
То была мара
Электрофікацыі.

*

Спачатку Ленін дакладаў:
— Мы—цёмныя яшчэ,
Бо мы ня ведаем сьвятла.
Ўчадзелі нашыя мазгі,
Засыпаліся ў копаці лучын,
І гніль ў куткох заглохлых
Яшчэ пладзіцца й ня пужаецца сьвятла.
І вось калі нам голасам грамохкім
Дынама забасуе ў нізкіх тонах,
Заные, як-бы зуб, ад тысяч паваротаў,
І камарамі загудуць
Моторы электрычныя у сёлах,
Каб ў рух пашлі машыны й маслабойкі
Ў суперніцтве гартованых комун,—
Тады для нас вясёлая пара надыйдзе.
А як па медных нэрвах пацячэ
Ў бядацку хату электрычнае сьвятло,—
Тады прыветная гарачая зайграе ўсьмешка
На задуменных тварах.
Надходзіць дзень, зьнікае ноч.

*

Сядзеў і слухаў ўсё Усоў,
Як яго думкі у крыштальнае аправе
Спакойна выкладаў Ільліч.
Цяпер яго ўжо ён пачуцьцямі ўладае
Г думкі праясьняе і вядзе наперад.
Але прыпомнілася—ён ажно прыўстаў—
Ня так даўно
Ён перад Ленінам вось так стаяў,
А вокал сэрца вілася зьмяя,
Як гліст або шпягоўства,
І гатавала сьмерць правадыру.
Тады было—й цяпер...
— Ну, і за што хацеў цябе забіць я?
За праўду? Нашу? Пролетарскую?
Не зразумеў засьлеплены, як блазан—
І шоў і нёс заразу,
Каб пролетараў укусіць усіх.
Чаму зусім не звар'яцеў тады я
Ад аднаго пагляду,
Ад ненавісьці лютай,
Ад гневу чорнага з нябёс,
Калі яны дзе ёсьць?
Ды іх няма...
І я на брата йшоў свайго...
О, не, то на сваё жыцьцё,
На сваю веру і любоў да чалавецтва.
Не, я цяпер ніколі

Не адплачуся,
Я ўжо не адплачу за той сярчаны яд
Сваім няўдачлівым каханьнем,
Што ўжо халодным зацягнулася рассудкам,
Як плесьняю зялёнай медзь.
Але цяпер люблю яго
Я над усё на сьвеце.
Мая і кроў, і нэрвы, і жыцьцё
Ў яго руках!
Яго хацеў забіць...
Цяпер расколецца мой чэрап, як арэх,
Як сьліва разарвецца сэрца,
Калі ён не даруе.
Мая любоў, маўляў вар'яцтва,
Павінна выліцца у чын...

*

Ужо закончыў Ленін,
І Крыжаноўскі ля твораў сваіх,
Сыстэм і плянаў,
Ясьнеючых агнямі,
Як модны Саваоф,
Разьвеяў творчыя памыслы
І рухі й словы.
(А сам з сівою доўгай барадой).
і карта фэдэрацыі,
Як цьвёрдая надзея,
Упёрлася ў сьцяну
І марыла ў агнёх.
А на яе палёх,
Як гранкамі чырвоныя рубіны,
Яркія лямпачкі электрыкаю адзначалі
Электростанцыі у будучыне.
І белым зьяньнем моц парогаў
З халоднае вады і рэву ад падзеньня,
Ператвароную у вольтах
Электрыку шалёна-агнявую
Паказывалі цыфрамі
Сьвятлістыя вялізарныя кулі.
А дзе заграюць струнамі антэны
І іскры вераскам ў прасторы засьпяваюць,
Там, як шафіры маладыя,
Сьвятлом вадзяна-сінім пазіралі аганькі,
Казалі: „вось дзе, тут і там“.

*

А Ленін думкаю далёка ўжо лятаў:
— Мы да атомавых віхур,
Як у калодзеж, зазірнулі,
Дзе ў чорным калідоры дно
Адно шарэе, як асеньні ранак—
Ня то яно, ня то і не яно
(Магчыма, што здалося).
А віхры тыя, як у гутняй печы

Вiруюць, гагацяць і выюць, як сырэны,
І сіламі дрыжыць увесь сусьвет,
Як вялізарністая фабрыка—
Адно йшчэ іх ня ловіць слухам
І не нясе ў мазгі душу
Нам заньвярдзелы эпітэлій,
Падобны да зямной кары.
Яго мы йшчэ, ой, разамнём,
Маўляў ўдубеўшую падошву,
Прыладамі наточым з ведаў,
Ў нэрвовасьць ўзброім апаратаў
І будзем выслухаць, як сэрца,
Як атомы гудуць.
І будзе так:
Не мясені цел чалавечых
Пацягнуць бруд мазуту,
А ў зрэнку шахтара
Не заляціць агонь.
Пыл ядавіты, востры пыл
Са скібаў антрацыту
Ў мільярдах тон
Засьне.
І замест скрогату жалеза,
Машыны волатавых сіл
З атомных выбухаў лагодна замуркочуць,
Разложацца па залях, як каты,
На супакой
Для працы.
З аздобамі з аканту і мімоз,
Заплеценымі творчымі агнямі,
Засьяюць фарбамі удзень і ўночы,
Каб вочы не гнявіць.
Электрыку забудуцца, як непатрэбны штольні,
Як старае начыньне, ці як казку няцікаву.
А млявы радый у музэй здадуць
За то, што атомаў сваіх расколам вялым
Дзіцятка-чалавецтва навучыў
Ўзрываці вадарод.
І у сымфоніях ня першы раз
Абноўлены вясьняны сьвет
Ў машынах засьпявае.
Пыліна солі з макавае зерне
Сьвятло расьсее матавым туманам,
І дробка цыны,
Маўляў камфора ў жыле,
Цяпло лагоднае скрозь разьнясе
Па мяккай абалоні атмосфэры.
І ня спужаюцца, што вырвецца тады
Энэргія увольненых атомаў.
Яе у комбінацыях надгэніяльных
Каморкі мозгу апануюць,
Каб радасная буйная зямля

Туманнасьцяй ня стала зноў.
І кругавіды для людзей
Аж да сузор'яў пойдуць
У вежавых прасторах.
Тады вось нас успомняць,—
Як даўнасьць даўную, далёкую...

*Пералажыў з украінскае мовы* **Я. Купала.**

---

# ЛЕНІН І НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПРОБЛЕМА.

**Ів. Цьвікевіч.**

Істота нацыянальнай проблемы заключаецца ў тым, каб пагадзіць інтарэсы ўсіх нацый, насяляючых абшары зямлі, каб усе нацыі былі роўнацэнны й роўнапраўны між сабой, каб ня было нацый „першай клясы“, „другой клясы“, „дзесятай“ і г. д., каб кожная нацыя вольна разьвівалася культурна, экономічна і політычна, каб ня было нацый пануючых і прыгнятаючых і нацый паняволеных, прыгнечаных.

Ход гісторыі чалавецтва быў такі, што адны нацыі, дзякуючы сваім географічным, экономічным і політычным варункам, складаліся раней, іншыя—пазьней. Адны з утварыўшыхся нацый, дзякуючы спрыяючым варункам, хутка мацнелі, усебакова разьвіваліся, стваралі дзяржаву. Іншыя нацыі адставалі ў разьвіцьці, жылі ў заняпадзе і часта ці падпадалі пад уплыў дужэйшых нацый ці проста заваёўваліся, гвалтам далучаліся да гэтых апошніх.

Шляхам заваёўніцкіх войнаў, шляхам маны ці подкупу князі, каралі, цары, імпэратары разам з багацейшымі клясамі якое-небудзь моцнай дзяржавы прылучалі да яе ўсё новыя тэрыторыі, ня гледзячы на тое што далучаныя тэрыторыі заселены іншымі нацыямі, якія мелі сваю асобную мову, звычаі, веру, сваю асобную культуру і часта дзяржаўнасьць.

Так пачалі ўтварацца—шляхам гвалту, шляхам перамогі сільнейшага над слабейшым—дзяржавы, якія мелі ў сабе розныя нацыянальнасьці. А з разьвіцьцём капіталізму (асабліва з росквітам яго) імкненьне моцных капіталістычных дзяржаў захапіць і прылучыць пабольш чужое тэрыторыі ня сходзіла з парадку дня.

Рост капіталізму ў розных дзяржавах і ўзрастаючая экономічная конкурэнцыя паміж імі прымушалі клясу капіталістых шукаць новых тэрыторыяў ня побач з сваімі дзяржавамі (бо суседнія дзяржавы давалі ўзброены адпор!), а ў розных адлеглых кутках зямное галы. Сілай аружжа капіталістыя розных дзяржаў перамагалі ў паўднёвых і ўсходніх краінах малакультурныя, а часта і проста дзікія народы і далучалі іх землі да сваіх дзяржаў.

Вынікам імпэрыялістычнай політыкі так званых „вялікіх“ капіталістычных дзяржаў было тое, што цяпер увесь сьвет падзелен паміж імі.

Дзесяткі розных нацый, ня толькі такіх, якія не пасьпелі арганізавацца ў дзяржавы, а нават і такія, якіх мелі дзяржаўнасьць, мелі вы-

сокую духоўную культуру, якія па велічыні тэрыторыі і па колькасьці людзей у некалькі разоў перавышалі так званыя „вялікія“ дзяржавы (прыкладам, Індыя адносна да прыгнятаючай яе Англіі)—параможаны, прыгнечаны і падзелены паміж невялікім лікам капіталістычных дзяржаў.

Вынікам праклятай працы капіталістых усіх краін і народаў ёсьць тое, што ня толькі ў кожнай дзяржаве і нацыі ёсьць клясы прыгнятаючыя, эксплёатуючыя і клясы прыгнечаныя, эксплёатаваныя, але ўсе нацыі на зямлі падзелены на нацыі прыгнятаючыя і нацыі прыгнечаныя.

От-жа, разьвязаньне нацыянальнай проблемы павінна імкнуцца да таго, каб зьнішчыць існуючае прыгнечаньне нацыі, каб знайсьці той шлях, якім прыгнечаныя нацыі павінны здабыць сабе вольнае нацыянальнае, культурнае, экономічнае і політычнае разьвіцьцё.

Здавалася-б, што спосаб разьвязаньня нацыянальнай проблемы, калі прасачыць ход гісторыі, напрашваецца сам сабой. Але з нацыянальнай проблемай здарылася якраз бяда, бо яна трапіла ў рукі буржуазных політыкаў, ці ў рукі соцыялістых, якія паддаліся буржуазнай ідэолёгіі.

Усе яны, замест таго, каб высьветліць проблему, заблыталі яе.

У жыцьці чалавецтва часта здаралася, што надта простую ісьціну самі людзі засьцілі непрагляднай імглой розных філёзофскіх пабудаваньняў, і пасьля патрэбны былі надзвычайныя высілкі лепшых і сьвятлейшых розумаў да працягу многіх вякоў, каб ачысьціць патрэбную ісьціну ад усіх штучных надбудовак і зрабіць яе лёгка зразумелай.

Тое самае адбывалася і з нацыянальнай проблемай. Пакуль яе не ачысьцілі ад высока-філёзофскіх і нават містычных адзежын, пакуль ня злучылі яе з проблемай соцыялізму, пакуль яе не зрабілі часткаю гэтай вялікай проблемы, датуль яна была надзвычайна заблытанай, надзвычайна складанай і нібы ірацыянальнай.

Так званыя буржуазныя соцыялістыя далажылі ня мала такі часу і працы, каб з нацыянальнай проблемы зрабіць нешта надмерна складанае і трудна зразумелае. Гэтыя гора-соцыялістыя мажа і шчыра хацелі падыйсьці да разьвязаньня нацыянальнага пытаньня, але шлях, выбраны імі, завёў іх у такую непралазную гушчарню, адкуль і сьвету было ня відаць.

Галоўнаю іх памылкаю было тое, што яны рабілі спробы разьвязаць нац. пытаньне ў варунках капіталістычнага ладу, *хацелі справу вызваленьня прыгнечаных народаў пагодзіць з імкненьнямі імпэрыялізму*. Буржуазныя соцыялістыя забывалі аб тым, што ў нацыянальным пытаньні крыецца страшэнная ўзрываючая сіла, што ўздымаць справу запраўднага і аканчальнага разьвязаньня нац. проблемы гэта роўназначна падкладаньню дынаміту пад гмах капіталізму. Вырашыць нацыянальную проблему—гэта азначае паднесьці агонь да дынаміту і пусьціць у паветра імпэрыялістычныя дзяржавы. Іншага шляху няма і ня можа быць.

На гэты адзіны правіловы шлях, шлях разбураньня капіталізму і імпэрыялізму і стаў тав. Ленін пры разьвязаньні нацыянальнай проблемы. Ён, з уласьцівай яму рашучасьцю і цьвёрдасьцю, адрынуў усе старыя высока адцягненыя, містычныя падходы да нац. пытаньня і паставіў яго практычна, блізка да жыцьця, спусьціў яго на грэшную зямлю і разьвеяў густы туман, якім абкружылі гэтае пытаньне буржуазныя вучоныя і соцыялістыя. Ленін проста і ясна даводзіў, што *без экономічнага вызваленьня* працоўных масаў усякае нацыі *ня можа быць і нацыянальнага вызваленьня*, а калі буржуазныя соцыялістыя і лічаць некаторыя нацыі вольнымі, то гэта вялікая памылка, бо *запраўды вольнымі* зьяўляюцца толькі самыя вярхушкі нацыі, толькі багатыя клясы нацыі, а ўся работніцкая і сялянская гушча жыве ў прыгоне, у няволі. Гэтая самая, так званая вольная і незалежная нацыя, у сабе самой падзелена як-бы на дзьве нацыі, з якіх адна—маленькая, багатая, культурная—пануе і прыгнятае другую—вялізную, бедную і някультурную. Пасколькі першая частка нацыі мае ўсё, патолькі другая яе частка пазбаўлена ўсяго, апрача толькі балючай прыемнасьці лічыць сябе ў складзе „вольнай“ нацыі.

Адсюль вывад: тое, што буржуазныя соцыялістыя называюць „вольнасьцю і незалежнасьцю“ нацыі, адносіцца не да нацыі цалком, а толькі да невялікай групкі асоб гэтай нацыі, якая, звычайна, лічыць сябе насіцельніцай нацыянальнай ідэі і нацыянальных інтарэсаў і выступае ад імя ўсяе нацыі, ня будучы на тое абрана і ўпаўнаважана.

Але зьвернемся да тых шляхаў, якімі праходзіла справа разьвязаньня нацыянальнай проблемы, і ў канцы пакажам, як да яе падышоў Ленін і як ён у тэорыі і ў жыцьці вырашаў яе.

Першай краінай, дзе абудзілася нацыянальная сьвядомасьць у сучасным значэньні гэтых слоў, была Францыя. У часы францускай рэволюцыі пачалося дасьледваньне каштоўнасьці нацыянальнага духу. Першыя піонэры гэтых дасьледваньняў занадта захапіліся новымі ідэямі, зрабіўшы шкодны нахіл у бок абстрактных філёзофскіх разважаньняў па нацыянальнаму пытаньню.

У Нямеччыне, дзякуючы філёзофскім працам Гэгэля і Фіхтэ, якія хацелі вырашыць нацыянальную проблему выходзячы ад думкі, што сьветам і гісторыяй кіруець адцягнены, абсолютны дух, пытаньне адарвалася ад зямлі і заляцела ў філёзофскія сфэры. Там ужо адчынілася бязьмежная прастора разумаваньням, адарваным ад жыцьця, і шырокая магчымасьць памылак. Так яно і сталася.

Філёзоф Гэгэль, разумуючы над гісторыяй і лёсам народаў і выходзячы з думкі, што сьветам кіруе нейкі „абсолютны дух“, дайшоў да вываду нібы толькі тыя народы зьяўляюцца гістарычнымі, якія маюць гонар быць насіцелямі гэтага „абсолютнага духу“. Так, напрыклад, ён пісаў: „У гісторыі выяўляецца праз чыннасьць людзей наагул яшчэ нешта іншае чымся тое, да чаго яны імкнуцца, што яны беспасярэдна ведаюць і чаго

хочуць; яны выконваюць свой інтарэс, але пры гэтым дадаецца нешта далейшае, што ня было ў іх сьвядомасьці і замерах. Паскольки народы сьвядома або несьвядома праводзяць агульную мэту абсолютнага духу, патолькі і яны гістарычны".

Па думцы Гэгэля, тыя народы, якія не зьяўляюцца насіцелямі абсолютнага духу, зьяўляюцца народамі негістарычнымі і самым лёсам засуджаны на гібель і паглыненьне больш моцнымі і гістарычнымі народамі.

Як шчыры нямецкі патрыёт, Гэгэль, урэшце, прыйшоў да думкі, нібы цэнтр вагі сусьветнае гісторыі ляжыць у нямецкім народзе.

Карл Маркс, які быў вучнем Гэгэля, хаця і моцна падпаў пад уплыў яго гістарычнай тэорыі, але, маючы вялікую сілу ўмысловага аналізу і здаровай крытыкі, Маркс грунтоўна зьмяніў гістарычную тэорыю свайго вучыцеля, адкінуўшы „абсолютны дух" і паставіўшы на яго месца рэальныя, жыцьцёвыя, экономічныя адносіны. Маркс даводзіў, што няма нацыі, якая-б мела асабліва-гістарычную місыю, якая-б была адмечана самым лёсам. Даводзіў, што працоўныя масы, пролетарыят, не аднае якое-небудзь нацыі, а ўсіх нацыяў, як вялікіх так і малых, зьяўляецца насіцелем вялікага прынцыпу, якім ёсьць соцыялізм—г. зн. агульналюдзкая свабода чалавека, народаў, усяго чалавецтва. У „Маніфэсьце комуністычнай партыі" Маркс пісаў, што пролетары розных нацый у барацьбе за сваё вызваленьне ад уціску капіталістых павінны на першае месца ставіць і бараніць *агульныя*, незалежныя ад нацыянальнасьцяў, *інтарэсы ўсяго пролетарыяту*.

Гэтак пролетары павінны рабіць таму, што галоўным і бязумоўным варункам дзеля запраўднага вызваленьня ўсіх нацый зьяўляецца перамога над клясаю капіталістых шляхам пролетарскай рэволюцыі. А перамагчы міжнароднае аб'яднаньне капіталістых пролетарская рэволюцыя зможа толькі як міжнародная пролетарская рэволюцыя—значыць, агульным фронтам пролетараў усіх нацый і краёў. Гэты адзіны фронт, гэтае міжнароднае (інтэрнацыянальнае) аб'яднаньне рабочай клясы ўсіх нацый і павінна быць першаю і галоўнаю мэтаю.

Таму-то Маркс і даў вялікі лёзунг, якім канчаецца „Комуністычны маніфэст": „Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!"

Клясычны прыклад, на якім добра выявіўся погляд Карла Маркса на нацыянальную проблему,—гэта справа барацьбы прыгнечанай Ірляндыі з прыгнятаючай яе Англіяй.

Спачатку Маркс лічыў немагчымым аддзяленьне Ірляндыі ў асобную ад Англіі дзяржаву, а пасьля, калі дакладна разгледзіў гэтую справу, ён горача стаў на абарону незалежнасьці Ірляндзкай нацыі.

Чаму-ж Маркс зьмяніў свой погляд? З-за спачуцьця ірляндзкай нацыі? Не, галоўным чынам таму, што зразумеў, як гэтае аддзяленьне Ірляндыі ад капіталістычнай і імпэрыялістычнай Англіі будзе карысна

агульнай справе пролетарскай рэволюцыі, агульнай барацьбе з сусьветным капіталізмам.

З тае прычыны, што „Англія зьяўляецца крэпасьцю эўропэйскага капіталізму“, то ўсё, што можа зрабіць удар па гэтай крэпасьці, аслабіць яе, трэба вітаць і падтрымліваць, а аддзяленьне Ірляндыі было-б якраз моцным ударам па капіталістычнай Англіі,—значыць, трэба дамагацца і бароцца за гэтае аддзяленьне.

Маркс угледзіў, што ангельская буржуазія экономічна эксплёатавала ірляндзкі пролетарыят і, прымушаючы яго перасяляцца ў Англію, гэтым самым пагаршала становішча і ангельскіх рабочых, заробак якіх памяншаўся ад наплыву танных рук ірляндзкіх жабракоў. „Ангельская буржуазія падзяліла пролетарыят на два варожых станы. Ва ўсіх буйных прамысловых цэнтрах Англіі мае месца глыбокі антогонізм паміж ангельскім і ірляндзкім пролетарыятам. Сярэдні ангельскі рабочы *ненавідзіць* ірляндзкага, *як конкурэнта*, які зьніжае плату за працу. Гэтую варожасьць паміж ангельскімі пролетарамі буржуазія штучна ўзрошчвае і падтрымлівае. Яна ведае, што ў гэтай варожасьці хаваецца запраўдная таемнасьць зьберагаганьня сваёй сілы“.

Каб разбурыць гэтую сілу ангельскай буржуазіі, Маркс і прапанаваў ангельскаму пролетарыяту бароцца разам з ірляндзкім за вызваленьне Ірляндыі.

„Ангельская рабочая кляса“, пісаў Маркс, „павінна ня толькі дапамагаць Ірляндыі, але і ўзяць на сябе ініцыятыву ў справе зьніштажэньня зробленага ў 1801 годзе саюзу і замены яго свабодным саюзам на фэдэрацыйных умовах. І гэткай політыкі ангельскі пролетарыят павінен трымацца не з-за спачуцьця ірляндцам, а таму, што такая політыка служыць яго ўласным інтарэсам. Калі гэта ня будзе зроблена, то ангельскі народ застанецца на послугах у пануючых клясаў і будзе разам з імі прыгнятаць Ірляндыю.“

На гэтым прыкладзе мы бачым, як падходзіў Маркс да разьвязаньня нацыянальнага пытаньня. Мы бачым, што ён падтрымлівае такі нацыянальны рух, які служыць агульнай мэце пролетарскай барацьбы, які разбурвае капіталізм. Бачым, што ён спагадае аддзяленьню нацыі не таму, што яно зьяўляецца самамэтай само па сабе, але таму, што яно моцна б‘е па імпэрыялізму і гэтым служыць інтарэсам рабочай клясы.

Зусім іншы падход да разьвязаньня нацыянальнай проблемы мы бачым у аўстрыяцкіх соцыял-дэмократаў Рэннэра і Баўэра, якія лічылі сябе „марксыстымі“ і лічылі, нібы яны, згодна поглядам Маркса разглядаюць гэтую проблему.

Аўстрыяцкая монархічная дзяржава, як вядома, складалася з розных нацыяў—немцаў, вэнграў, чэхаў, славакаў—якія вялі паміж сабой змаганьне. Усё ўзрастаючая вострасьць нацыянальных непаразуменьняў

магла выклікаць нацыянальныя войны, што пагражала разбурэньнем аўстрыяцкай дзяржавы.

Нацыянальнае пытаньне, якое наагул ёсьць вынік нацыянальнага прыгнячэньня, у Аўстрыі, дзе было некалькі прыгнечаных нацый, ня сходзіла з дзённага парадку і было вельмі пякучым. У гэтай цяжкай, хворай атмосфэры нацыянальных спрэчак памянёныя соцыял-дэмократы напісалі свае працы па нацыянальнаму пытаньню, у якіх прапанавалі спосабы яго разьвязаньня ў конкрэтных аўстрыяцкіх варунках.

Але як Рэннэр, так і Баўэр, адхіліліся ад поглядаў Маркса і захапіліся вузка-нацыяналістычнымі настроямі свайго часу.

Рэннэр у сваёй працы хацеў пераканаць аўстрыяцкі ўрад бюрократаў і капіталістых, што для захаваньня ў цэласьці і непадзельнасьці Аўстрыйскай дзяржавы, трэба вырашыць у ёй нацыянальную проблему. Вырашэньне гэтае Рэннэр бачыў у так званай „нацыянальна-культурнай аўтономіі“ кожнае з нацый, складаючых монархію. Нацыянальна-культурная аўтономія павінна была, паводле програмы Рэннэр'а, даць магчымасьць кожнай нацыі, уваходзячай у склад Аўстрыяцкай імпэрыі, аўтономна загадваць школьнай справай, мець свой сойм, свае суды.

Прасочаны духам вузкага, дробна-буржуазнага нацыяналізму, Рэннэр не разумеў ці не хацеў зразумець, што праводзіць у рамках монархічнай бюрократычна-цэнтралістычнай Аўстрыяцкай дзяржавы (якая была зусім штучна пабудавана і трымалася толькі тым, што штучна падтрымоўвала нацыянальную грызьню паміж асобнымі нацыямі) нейкую куртатую нац.-культурную аўтономію—гэта ліць ваду на млын заможных клясаў прыгнечаных нацый, а працоўныя гушчы аддаваць на падвойны ўціск: сваёй буржуазіі і вялікадзяржаўнай, якія, бязумоўна, дагаворацца і старгуюцца паміж сабой.

Калі захаваць стары монархічна-бюрократычны лад, захаваць уладу ў руках заможных клясаў, то гэтая „нацыянальна-культурная аўтономія“ застанецца толькі на паперы, а калі нават і будзе што зроблена—пойдзе адзіна на карысьць багатых клясаў аўтономнай нацыі.

Рэннэр не хацеў зразумець, што багатыя клясы ў шмат-нацыянальнай дзяржаве зацікаўлены ў нацыянальным прыгнечаньні, бо, дзякуючы яму і нясьціхаючай нацыянальнай барацьбе і нянавісьці, прыпыняецца палітычная, клясавая барацьба, аслабляецца еднасьць пролетарыяту, адцягаецца тэрмін соцыяльных рэволюцый. Значыць, зьліквідаваць нацыянальныя непаразуменьні ў рознанацыянальнай дзяржаве магчыма толькі адабраўшы ўладу з рук пануючых заможных клясаў.

Другі тэорэтык нацыянальнага пытаньня—Баўэр—таксама лічыў магчымым разьвязаць нацыянальную проблему ў Аўстрыі шляхам „нацыянальна-культурнай аўтономіі“, не зьмяняючы буржуазна-капіталістычнага ладу гэтай шмат-нацыянальнай дзяржавы.

Мала таго, Баўэр, развважаючы аб нацыянальным пытаньні наагул, абгрунтоўваў свае разважаньні на псыхолёгічных момантах, мала зварачаючы ўвагі на экономічныя моманты. Ён ня вызваліўся ад буржуазнай ідэолёгіі і вузкага нацыяналізму. „Усе мы“, пісаў ён, „знаходзімся пад уплывам нацыянальнай ідэолёгіі, нацыянальнай романтыкі, і рэдка хто з нас вымаўляе слова „нямецкі“, не адчуваючы пры гэтым нейкага асаблівага пачуцьця“.

Пад уплывам „нацыянальнай романтыкі“ Баўэр глядзеў на „нацыю“ і „нацыянальнасьць“, як на нешта самацэннае, нешта самамэтнае, павіннае ня зьнікаць з ходам гісторыі, але наадварот павялічвацца, паглыбляцца і з прыходам соцыялізму дасягнуць буйнага росквіту.

Як бачым, абодвы аўстрыяцкія соцыял-дэмократы пайшлі не марксыцкім шляхам. І Рэннэр і Баўэр занадта захапіліся ідэолёгічнай стараной нац. пытаньня, яго „романтыкай“ і праглядзелі яго экономічную, яго соцыяльную старану. Яны разлучылі нацыянальнае пытаньне з проблемай запраўднага соцыялізму, яны адарвалі яго ад клясавай барацьбы і стараліся вырашыць яго, ня маючы на ўвазе аканчальныя мэты політычнай барацьбы і політычныя ідэалы пролетарскіх масаў усіх нацый.

Працы аўстрыяцкіх тэорэтыкаў, як першыя сур'ёзныя працы па нацыянальнаму пытаньню, мелі вялікі ўплыў на ўсю далейшую літаратуру па гэтаму пытаньню. Усе (апрача невялікай групкі расійскіх соцыял-дэмократаў з Леніным на чале) соцыялістыя, меўшыя нахіл да дробна-буржуазнага, вузкага-мяшчанскага нацыяналізму, пайшлі сьледам за аўстрыяцкімі нацыянал-соцыялістымі.

Буржуазна настроеныя соцыялістыя, ідучы па шляху аўстрыяцкіх, захаплюющца псыхолёгічнай, „романтычнай“ істотай нац. проблемы і, урэшце, прыходзяць да самых сьмешных вывадаў.

Яны трымаюцца думкі, што нацыянальная проблема ні ў якім разе ня можа быць вырашана шляхам рэволюцыйна-марксыцкім, бо задачы марксызму чыста практычныя, а нацыянальная проблема ёсьць проблема духу. Буржуазныя соцыялістыя трымаюцца погляду, што проблема нацыі ёсьць проблема par excellence ідэалістычныя, і таму залежнасьцю яе ад экономічных варункаў гісторыі нічога нельга вытлумачыць. Трэба, кажуць яны, ня юрыстаму і не марксыстаму брацца за разьвязаньне нацыянальнай проблемы, але філёзофу і псыхолёгу... Кажуць яшчэ, што Інтэрнацыянал, як пабудаваны на вузка-клясавым фундаманце, ня зможа вырашыць нац. проблемы, бо яна мае міжклясавы характар і, нават, што соцыялізм ня ў сілах будзе вырашыць гэту „праклятую проблему“.

А прыйшоў комуністы Ленін і без усялякіх высокіх мудраваньняў аб вышэйшым „нацыянальным animus'e“ бяз жаднае „нацыянальнае романтыкі“ паглядзеў на нацыянальную проблему ясна й проста. Ленін цьвёрда й сумленна паказаў дарогу—адзіную дарогу вызваленьня прыгнечаных нацый і мірнага разьвіцьця і сужыцьця ўсіх нацый.

Ён сказаў: „Пры капіталізьме зьнішчыць нацыянальнае прыгнечаньне *нельга.* Для гэтага, бязумоўна, трэба зьнішчыць клясы, г. значыць увесьці соцыялізм... Перабудаваўшы капіталізм у соцыялізм, пролетарыят створыць *магчымасьць* поўнага зьнішчэньня нацыянальнага прыгнячэньня; гэтая магчымасьць перατворыцца ў жыцьцё толькі—*толькі*!—пры поўным правядзеньні дэмократыі ва ўсіх галінах, аж да азначэньня граніц дзяржавы згодна „сымпатыям" насельнасьці, аж да поўнай свабоды аддзяленьня. На гэтым грунце, у свой чарод, разаўецца *практычнае* абсолютнае зьнішчэньне самых дробных нацыянальных непаразуменьняў, самай нязначнай нацыянальнай няверы, створыцца больш скорае зблiжэньне й зьліцьцё нацый, якое закончыцца *адміраньнем* дзяржавы".

У гэтых словах Ленін даў (гэта ён пісаў задоўга да рэволюцыі ў Расіі) схэму, як павінна йсьці разьвязаньне нац. проблемы, але тут мы зьвернем увагу на першыя словы: „*пры капіталізьме зьнішчыць нацыянальнае прыгнечаньне нельга*". Гэтымі словамі Ленін сказаў: як-бы шырока і глыбока не дасьледваць нац. пытаньне, якія-б спосабы і модусы разьвязаньня нац. проблемы не выдумляць, якія-б програмы ні прапанаваць—хоць-бы нават да „поўнай непадзельнасьці і незалежнасьці" нацыі—усё роўна нацыянальнае прыгнячэньне, нацыянальная нянавісьць, нацыянальная грызьня і нацыянальныя войны ня спыняцца, калі будзе панаваць капіталізм. Бо ніхто іншы, як толькі кляса капіталістых зацікаўлена і ў нацыянальным прыгнечаньні і ў нацыянальных спрэчках і войнах, бо ўсё гэтае разлучае пролетараў розных нацый і аслабляе галоўную барацьбу пролетарыяту—супроць клясы капіталістых.

Адсюль выходзіць, што *нельга разьвязаць нац. проблему бяз пэўных экономічных і політычных варункаў, якія трэба падрыхтаваць* шляхам рэволюцыі і разбурэньнем капіталістычнага ладу. А, значыць, вырашэньне нац. проблемы залежыць ад вырашэньня агульнай проблемы соцыялізму.

Так Ленін думаў, так вучыў сяброў створанай ім комуністычнай партыі і ўсіх, хто хацеў яго слухаць і разумець. Так і памёр, не зьмяніўшы сваіх паглядаў.

---

Усё напісанае Леніным па нацыянальнаму пытаньню складае цэлы асобны том (XIX) з поўнага збору яго твораў, выданых у 1921 годзе *).

У апошнія перад імпэрыялістычнай вайной гады (1910—13) у Расіі нацыянальнае пытаньне робіцца вельмі актуальным і завостраным, дзякуючы ўзросту расійскай нацыяналістычнай рэакцыі—з аднаго боку, і пашырэньню нацыянальных рухаў прыгнечаных нацый у Расіі—з другога. І ў Эўропе нацыянальнае пытаньне таксама пападае ў шэраг першарадных політычных пытаньняў.

Ад гэтага часу Ленін зьвяртае асаблівую ўвагу на нацыянальнае пытаньне, сыстэматычна займаецца ім і піша цэлы шэраг артыкулаў, у

*) Апроч таго, артыкулы па нац. пытаньню зьмешчаны ў IV томе і ў асобнай кнізе „Тактыка бальшавізму". У апошняй вялікай увагі заслужвае—„Крах II Інтэрнацыяналу".

якіх выяўляе і абгрунтоўвае марксыцкі погляд на яго. Фактычна ўсе гэтыя артыкулы былі крытыкай артыкулаў па нацыянальнаму пытаньню, якія зьяўляліся як з боку расійскіх палітычных партый, так і з боку польскіх, нямецкіх і аўстрыяцкіх соц.-дэмократаў.

Ленін востра выступаў і проці велікарускіх чорнасоценных шовіністых, і проці велікарускіх, украінскіх і грузінскіх соцыял-дэмократаў, якія ўхіляліся ў бок вузкага нацыяналізму, і проці польскіх соцыял-дэмократаў, якія занадта пайшлі ў процілежны бок, паменшылі праўдзівае значэньне нацыянальных рухаў і пачалі выступаць супроць лёзунгу „права нацый на самавызначэньне“. Выступаў Ленін і проці аўстрыяцкіх нацыянал-соцыялістых—Рэннэра і Баўэра, бязьлітасна раскрытыкаваўшы іх нацыянальна-культурную, пэрсанальную і тэрыторыяльную аўтономію.

Ва ўсіх гэтых выступленьнях Ленін нязьменна і цьвёрда праводзіў марксыцкі погляд на нац. пытаньне, нязьменна рабіў націск на патрэбу інтэрнацыянальнага аб‘яднаньня пролетарыяту ўсіх нацый і нязьменна падкрэсьліваў, каб рабочыя ўсіх нацый прыгнечаных і прыгнятаючых не паддаваліся хлусьні буржуазных нацыяналістых і мелі ўвесь час перад вачыма галоўнага ворага—клясу капіталістых—і галоўнае заданьне—барацьбу за зьнішчэньне капіталізму.

У невялікім артыкульчыку „Рабочая кляса і нацыянальнае пытаньне“ (быў зьмешчаны ў газ. „Правда“ № 106, якая выдавалася заграніцаю) Ленін коратка і ясна робіць пролетарскую пастаноўку пытаньня.

„Расія—вельмі пярэстая па нацыянальнасьцях краіна. Урадовая політыка, політыка памешчыкаў, якія падтрымліваюцца буржуазіяй, наскрозь уся прасочана чорнасоценным нацыяналізмам.

Політыка гэта накіравана супроць *большасьці* народаў Расіі, складаючы большасьць яе насельнасьці. А побач з гэтым падыймае галаву буржуазны нацыяналізм іншых нацый (польскай, жыдоўскай, украінскай, грузінскай і г. д.), хочучы *адхіліць увагу* рабочай клясы нацыянальнай барацьбой ці барацьбой за нацыянальную культуру ад вялікіх сусьветных заданьняў гэтай рабочай клясы.

Нацыянальнае пытаньне вымагае яснай пастаноўкі і разьвязаньня з боку ўсіх сьвядомых рабочых...

Цяпер буржуазія палохаецца рабочых, шукае саюзу з рэакцыяй, робіць здраду дэмократызму, бароніць прыгнечаньне або няроўнапраўе нацый, псуе рабочых *нацыяналістычнымі* лёзунгамі.

Адзін толькі пролетарыят бароніць у нашыя дні запраўдную свабоду нацый і еднасьць рабочых усіх нацый.

Каб розныя нацыі свабодна і згодна жылі разам ці разыходзіліся (калі гэта ім выгадней), складаючы розныя дзяржавы, дзеля гэтага патрэбен поўны дэмократызм, які бароніцца рабочай клясай. Ніводнае прывілеі аніводнай нацыі, ні для аднае мовы! Аніякага прыгнечаньня,

абсолютна ніякай несправядлівасьці да нацыянальнай меншасьці!—от прынцыпы рабочай дэмократыі.

Капіталістыя й паны са ўсіх сіл стараюцца, каб разлучыць рабочых розных нацый... а сьвядомыя рабочыя стаяць за поўную еднасьць рабочых усіх нацый.

Старому сьвету, сьвету нацыянальнага прыгнечаньня, нацыянальнай грызьні ці нацыянальнай адасобленасьці оабочыя проціваставяць новы сьвет еднасьці працоўных усіх нацый, у якім няма месца ні для аднае прывілеі, ні для самага малага прыгнечаньня чалавека чалавекам".

Выступаючы проці чорнай сотні, клерыкалаў і буржуазіі як пануючай „вялікадзяржаўнай" велікарускай нацыі, так і прыгнечаных нацый (польскай, жыдоўскай, украінскай і інш.), калі яны (паны, клерыкалы) у імя так званай „нацыянальнай культуры" рабілі свае цёмныя і рэакцыйныя справы, Ленін пісаў: „У кожнай нацыянальнай культуры ёсьць хаця-б і мала разьвітыя элемэнты дэмократычнай і соцыялістычнай культуры, бо ў кожнай нацыі ёсьць працоўная і эксплёатуемая маса, варункі жыцьця якой няўнікнёна родзяць ідэолёгію дэмократычную і соцыялістычную. Але ў кожнай нацыі ёсьць таксама культура буржуазная,—і да таго яшчэ ня ў выглядзе толькі „элемэнтаў", а ў выглядзе *пануючай* культуры". Дзеля таго „нацыянальная культура" *наагул* ёсьць культура паноў, папоў, буржуазіі... Мы-ж з кожнае нацыянальнае культуры бярэм *толькі* яе дэмократычныя і соцыялістычныя элемэнты, бярэм іх толькі бязумоўна, як процівагу буржуазнай культуры буржуазнаму нацыяналізму кожнай нацыі... Усякая агітацыя аддзяленьня рабочых аднэй нацыі ад другой, усякая спроба ў пытаньнях, датычных пролетарыяту, высоўваць адну нац. культуру цалком проці іншай, нібы агульнай нац. культуры і г. п., ёсьць буржуазны нацыяналізм, з якім абавязкова трэба бязьлітасна змагацца".

Ва ўсіх сваіх выступленьнях супроць буржуазнага нацыяналізму Ленін надта падрабязна і дакладна выкрыў яго антымарксыцкую ідэолёгію і паказаў якой тактыкі павінны трымацца запраўдныя марксыстыя, запраўдныя інтэрнацыяналістыя.

Ленін увесь час даводзіў, што марксызм нельга памірыць з нацыяналізмам, хаця-б ён выглядаў самым „справядлівым", самым „чысьценькім", самым далікатным і цывілізаваным. Ленін ясна паказаў тую мяжу, да якой марксысты можа йсьці ў справе нацыянальнага пытаньня.

Ня лічыцца з нацыянальнымі рухамі нельга, бо яны існуюць у буржуазным грамадзянстве, яны—факт, але прызнаваць факт—гэта не азначае бараніць яго. Прызнаваць нацыянальныя рухі (і нават дапамагаць ім) трэба пастолькі, паколькі яны прогрэсыўныя, паступовыя.

Калі, напрыклад, народныя масы абуджаюцца ад фэўдальнай сьпячкі, калі яны змагаюцца супроць нацыянальнага прыгнечаньня, змагаюцца за сувэрэннасьць сваей нацыі—гэта паступовае зьявішча, і тут марксысты бязумоўна павінен падтрымліваць нацыянальны рух. Гэта ёсьць заданьне

адымнае. Ісьці-ж далей у падтрыманьні нацыяналізму марксысты (і пролетарыят) не павінен, бо далей пачынаецца дадатняя чыннасьць самой буржуазіі, якая імкнецца *замацаваць* нацыяналізм.

„Скінуць усякі фэўдальны гнёт, усякае прыгнечаньне нацый, усякія прывілеі аднэй з нацый ці аднэй з моваў—бязумоўны абавязак пролетарыяту, бязумоўны інтарэс пролетарскай клясавай барацьбы, якая прыпыняецца і затрымліваецца нацыянальнай грызьнёй. Але дапамагаць буржуазнаму нацыяналізму *за* гэтымі, строга акрэсьленымі межамі, азначае рабіць здраду пролетарыяту і пераходзіць на бок буржуазіі. Тут ёсьць мяжа, якая часта бывае вельмі тонкая і аб якой зусім забываюцца нацыянал-соцыялы“.

Для нас асабліва цэнна і важна тое, што Ленін выразна правёў межы паміж нацыянальным і нацыяналістычным рухам, адзначыў, дзе канчаецца паступовасьць, рэволюцыйнасьць нацыянальных ёмкасьцяў і дзе пачынаецца рэакцыйнасьць іх, дзе яны ператвараюцца ў нацыяналістычныя, шовіністычныя.

Ленін добра вызначыў, якой тактыкі павінны трымацца марксыстыя як прыгнятаючай нацыі, так і прыгнечанай. Узяўшы за конкрэтны прыклад Расію і Ўкраіну, ён даводзіў, што калі ўкраінскі марксысты захопіцца *зусім законнай і натуральнай* нянавісьцю к велікарусам-прыгнятацелям аж да таго, што будзе пераносіць хоць-бы наймалейшую часьціну гэтай нянавісьці на пролетарыят велікарускі, на пролетарскую культуру і пролетарскую справу велікарускіх рабочых, значыць ён паддаецца буржуазнаму нацыяналізму і „скоціцца ў балота буржуазнага нацыяналізму“. Тое самае будзе і з велікарускім марксыстым, калі ён „хоць на хвіліну забудзе вымаганьне поўнага роўнапраўя ўкраінцаў або іх *права* на ўтварэньне самастойнай дзяржавы“.

Марксысты, вучыў Ленін, павінен пры разглядзе нацыянальнага пытаньня (як і кожнага соцыяльнага пытаньня) абавязкова паставіць яго ў *пэўныя* гістарычныя рамкі, а калі справа йдзе аб аднэй якой-небудзь краіне, то тут трэба абавязкова прыняць пад увагу ўсе конкрэтныя асаблівасьці, якія адрозніваюць гэту краіну ад іншых у межах аднэй і тэй самай гістарычнай эпохі. Каб выявіць сабе сваю позыцыю да разьвязаньня нац. пытаньня, каб ведаць, як падыйсьці да яго, запраўдны марксысты павінен ведаць, аб якой уласна нацыі йдзе справа, на якой ступені гістарычнага разьвіцьця знаходзіцца гэта нацыя (па шляху ад сярэднявечча да буржуазнай дэмократыі ці ад буржуазнай дэмократыі да савецкай або пролетарскай дэмократыі і г. п.), павінен прыняць пад увагу конкрэтныя экономічныя варункі і політычныя гэтай нацыі, наагул—усе асаблівасьці нацыянальнага пытаньня ў пэўнай краіне і ў пэўны тэрмін.

Толькі такая гістарычна-конкрэтная пастаноўка нац. пытаньня, толькі ацэнка кожнага нацыянальнага дамаганьня і кожнага нацыянальнага аддзяленьня з пункту пагляду клясавай барацьбы можа захаваць ад шкод-

ных абмылак у нацыянальным пытаньні. І калі, напрыклад, паўстае пытаньне—ці мае права кожная нацыя на аддзяленьне і самастойнае ад іншых нацый дзяржаўнае існаваньне, то тут адказ павінен быць адзін: мае.

Бо пролетарыят, хаця вышэй усяго цэніць і ставіць саюз пролетараў усіх нацый, прызнае роўнапраўе ўсіх нацый і аднолькавае права іх на нацыянальную дзяржаву.

Але калі паўстане пытаньне, ці можа тая ці іншая нацыя, уваходзячая ў склад іншанацыянальнай дзяржавы, аддзяліцца ў асобную дзяржаву, вылучыцца з межаў чужанацыянальнай дзяржавы, ці павінен марксысты падтрымліваць гэтае аддзяленьне, то тут адказ залежыць ад разгляду кожнага асобнага выпадку, ад разгляду ўсіх конкрэтных варункаў, ад меркаваньня, карысна гэта справа клясавай пролетарскай барацьбе ці не.

Калі справа йдзе аб аддзяленьні прыгнечанай нацыі ад капіталістычнай дзяржавы, і гэтае аддзяленьне б‘е па капіталізму, б‘е па клясе вялікадзяржаўных эксплёататараў, трэба падтрымаць гэтае аддзяленьне (напрыклад, прыгнечаных індускай і ірляндзкай нацый ад сучасна-капіталістычнай Англіі).

Можа быць і такі выпадак, што нацыя, уваходзячая ў склад пролетарскага саюзу нацый, захоча аддзяліцца ад саюзу і скласьці зусім асобную нацыянальную дзяржаву. Тут уперад усяго трэба высьветліць, хто выяўляе волю нацыі к аддзяленьню: калі лёзунг аддзяленьня высоўваецца ад буржуазных нацыяналістычна-настроеных груп нацыі, то з гэтым трэба бязумоўна змагацца. Калі-ж гэтага вымагае сялянства і рабочыя, то тут трэба весьці шырокую агітацыю проці аддзяленьня, ня ўжываючы гвалту ні ў якім разе. Трэба растлумачыць пролетарыяту, што аддзяленьне ад саюзу работніцка-сялянскіх рэспублік аслабляе пролетарскі фронт і ўзмацняе фронт капіталу, што ўтварэньне маленькіх пролетарскіх дзяржавак аддае іх на раптоўнае ці паступовае паглыненьне моцнымі капіталістычнымі дзяржавамі.

Трэба паказаць пролетарыяту гэтай нацыі, што аддзяленьне ад *пролетарскага саюзу* нацый нясе вялікую шкоду інтарэсам пролетарскай рэволюцыі, якія павінны ставіцца на першае месца і вышэй за чыста-псыхолёгічныя, суб‘ектыўныя моманты.

Так вучыў Ленін.

---

Цяпер паглядзімо, як-жа практычна, у жыцьці тав. Ленін і кіраваная ім партыя падыйшлі да нац. пытаньня ў Расіі і як вырашалі яго.

Як толькі Ленін вярнуўся з эміграцыі ў Расію, у пачатку буржуазнай рэволюцыі, ён рашучы выступіў з лёзунгам вызваленьня ўсіх нацый, якія ўціскаў царскі ўрад і расійскія буржуазія.

Калі пры Часовым Урадзе Керанскага Фінляндыя вымагала для сябе, нават, не незалежнасьці, не аддзяленьня, а толькі шырокай аўтономіі, то і ўрад, і эс-эраўскія і меншавіцкія газэты протэставалі проці аўтономіі Фінляндыі.

Ленін у газ. „Праўда“ выступіў па гэтай справе *так,* як гэта павінен быў зрабіць марксысты і запраўдны рэволюцыянэр. Ён пісаў:

„Фінляндыю забралі расійскія цары па згодзе з душыцелем францускай рэволюцыі, Наполеонам і г. д. Калі мы запраўды проці захапленьня чужых тэрыторый, то мы павінны сказаць: *свабода аддзяленьня для Фінляндыі!*...

Таварышы—работнікі і сяляне! Не паддавайцеся політыцы захапленьня расійскіх капіталістых: Гучкова, Мілюкова, Часовага Ўраду адносна да Фінляндыі, Курляндыі, Укра ны і іншых! Ня пужайцеся прызнаць свабоду аддзяленьня ўсіх гэтых нацый! Ня гвалтам трэба заклікаць іншыя народы к саюзу з велікарусамі, а толькі запраўдна дабравольнай, запраўдна свабоднай згодай, якая *немагчыма* без свабоды аддзяленьня.

І чым больш свабоднай будзе Расія, тым больш рашуча наша рэспубліка прызнае свабоду аддзяленьня невелікарускіх нацый, тым менш будзе звадак, тым радзей будуць выпадкі фактычнага аддзяленьня, тым карацей будзе той час, на які некаторыя нацыі аддзеляцца, тым шчыльней і мацней будзе братэрскі саюз пролетарска-сялянскай Расійскай рэспублікі з рэспублікамі якой-хочучы іншай нацыі“.

Другое здарэньне, калі Ленін выступіў пры Часовым Урадзе, як абаронца прыгнечаных нацыяў—была ўкраінская справа.

Керанскі забараніў склікаць украінскі вайсковы зьезд і на гэта Ўсеўкраінскі Сялянскі Зьезд адазваўся рашучым протэстам.

Буржуазны расійскі ўрад і ўсе партыі, апрача комуністычнай, былі страшэнна абураны сэпаратызмам украінцаў, залічаючы іх да здраднікаў рэволюцыі.

Ленін і тут выкрыў усю буржуазна-шовіністычную, вялікадзяржаўную політыку ўраду Керанскага і К-о.

Паміж іншым Ленін пісаў: „Ніводзін дэмократ, не гаворачы ўжо аб соцыялістым, не адважыцца адкінуць усёй законнасьці ўкраінскіх дамаганьняў (яны хацелі толькі аўтономіі). Ніводзін дэмократ ня можа адкінуць *права* Ўкраіны на свабоднае аддзяленьне ад Расіі: толькі бязумоўнае прызнаньне гэтага права і дае магчымасьць агітаваць за вольны саюз украінцаў і велікарусаў, за *дабравольнае* злучэньне ў адну дзяржаву двух народаў... Пракляты царызм рабіў з велікарусаў катаў украінскага народу, усімі спосабамі выхоўваў сярод украінцаў нянавісьць к тым, хто забараняў нават украінскім дзецям гутарыць і вучыцца на роднай мове. Стварыць узаемную веру рабочых і сялян Украіны і Расіі нельга бяз поўнага прызнаньня праў Украіны, у тым ліку *права* на свабоднае аддзяленьне“.

На гэтых двох конкрэтных прыкладах мы бачым, як Ленін разбурваў позыцыі велікарускіх шовіністых, упарта стаяўшых на прынцыпе—„единая и неделимая Россия“, якія быццам забывалі, што 50% гэтай „неделимой“ складалася з іншых нацый.

Калі буржуазны Часовы Ўрад быў скінуты, новы рабоча-сялянскі ўрад з Ленінам на чале абвяшчае роўнасьць і роўнапраўнасьць усіх нацый, якія ўваходзілі ў склад бышай Расійскай імпэрыі.

Дзякуючы таму, што Ленін правілова падыйшоў да нацыянальнага пытаньня і правілова кіраваў нацыянальнай політыкай, утварыўся вялізарны, яшчэ няведамы ў гісторыі, моцны Саюз пролетарскіх рэспублік, дзе кожная нацыя зьяўляецца поўнапраўным сябрам Саюзу і мае ўсе, самыя шырачэзныя магчымасьці для свайго культурна-нацыянальнага, экономічнага і дзяржаўнага разьвіцьця.

Спачатку, як толькі створана была Расійская Савецкая Рэспубліка, усе элемэнты, варожыя да савецкай улады, пастараліся выкарыстаць астаўшуюся ў розных нацый нянавісьць да вякамі душыўшай іх Расіі. Ня толькі буржуазныя элемэнты саміх прыгнечаных нацый, але велікаруская буржуазія, ваеншчына і нават усе капіталістычныя дзяржавы Эўропы ўсімі сіламі змагаліся за тое, каб адарваць усе нацыі ад новай савецкай рэспублікі. Праўда, частка іх (Польшча, Літва, Латвія, Эстонія, Фінляндыя), дзе сялянскія і рабочыя масы знаходзяцца пад нацыяналістычным уплывам сваёй буржуазіі і духавенства, аддзяліліся, стварылі свае асобныя буржуазныя дзяржавы і трапілі ў экономічную і вайсковую кабалу вялікіх эўропэйскіх дзяржаў. Другая частка нацый (украінская, беларуская, грузінская, армянская, татарская і інш.), рабочыя і сяляне якіх на ўласнай сьпіне зьведалі зьдзекі і гвалт памешчыцка-гэнэральскіх „апякуноў“, якія нібы змагаліся за нацыянальнае вызваленьне, урэшце стварылі свае пролетарскія рэспублікі і аб‘ядналіся з Расійскай Савецкай Рэспублікай у адзіную соцыялістычную фэдэрацыю. І дзякуючы ўмеламу, асьцярожнаму, уважаліваму падходу Леніна і кіраванай ім партыі і ўлады да нацыянальных інтарэсаў гэтых нацый, Саюз пролетарскіх рэспублік ня толькі не аслабляецца, але ўзмацняецца з кожным годам.

Мы зьяўляемся жывымі сьведкамі таго, як ідэі Леніна ператварыліся ў жыцьцё, мы бачым, што шлях, выбраны Ленінам для разьвязаньня нацыянальнай проблемы нават у такой шматнацыянальнай дзяржаве, як бышая Расія, аказаўся правіловым і прывёў да мірнага і братэрскага сужыцьця розных нацый.

Застаецца толькі яшчэ раз падкрэсьліць вось што. Ленін, як запраўдны рэволюцыянэр і марксысты, не перавышаў вагі нацыянальнай проблемы. Ён не рабіў яе проблемай першараднай, наадварот,—ён лічыў яе *толькі часткаю* агульнай і вялікай проблемы соцыялізму, і вучыў, што нацыянальны рух ня можа быць самамэтаю, а павінен быць аднэю з ступеняў да соцыялізму, павінен дапамагаць агульна-соцыялістычнаму руху, які мае на мэце вызваленьне і шчасьце не асобных нацый, але ўсяго чалавецтва.

Ленін памёр. Леніна ўжо няма, але яго ідэі, яго праца і ўзьнятая ім барацьба дапамогуць рабочым і сялянам усіх нацый, якія яшчэ прыгнечаны, здабыць сабе поўнае вызваленьне.

## К ПОРТРЭТУ ЛЕНІНА.

**А. Сянкевіч.**

Намаляваць портрэт Леніна—рэч надзвычайна цяжкая. Дагэтуль мы мала знаем аб Леніне, як аб чалавеку: мы ведаем яго, як правадыра партыі і рабочай клясы, як члена партыі, уросшага ў створаную ім організацыю ўсёю сваёй істотаю.

Тут мы папробуем на падставе тых матар'ялаў і апавяданьняў блізкіх па працы к Леніну людзей накідаць хоць прыблізна малюнак дарагога, адышоўшага ад нас вобразу.

Вось як малюе портрэт Леніна т. Луначарскі. Ён адмячае вялікую падобнасьць Леніна да Сакрата і француска га мастака Вэрлена. Будова чэрапа Ўладзіміра Ільліча выказвае фізычную моц; контур колёсальнага купала лобу выказвае якоесь фізычнае вылучэньне сьвету ад яго паверху. Вочы Леніна насьмешлівыя, поўны іроніі, блішчаць розумам і разам якойсьці дражнячай вясёласьці. Толькі ў час прамовы яны робяцца цёмнымі, нібы гіпнотызаванымі. Вочы маленькія, але-ж выразныя.

Падабенства мае і ніжняя частка твару, асабліва, калі Ленін носіць больш-менш вялікую бараду. У Сакрата, Вэрлена і Леніна барада расла аднолькова, трохі запушчана; ва ўсіх трох ніжняя частка твару трохі бясформенна, зроблена груба, абы як.

Вялікі нос і тоўстыя губы прыдаюць нейкі татарскі воблік Леніну, што ў Расіі лёгка зразумела. Але-ж такія губы і нос меў і Сакрат, а роўна і Вэрлен.

Найцікавей было бачыць Леніна на трыбуне. Ва ўвесь узрост, піша т. Асінскі, можна бачыць Леніна на вялікім сабраньні. Тут (асабліва калі Ленін быў ва ўдары) вы пачуеце і пабачыце рэчы, якія глыбока западуць у вашу душу. На трыбуну ўсходзіць невялікі, моцны чалавек і ў той час, як па салі нясецца гураган аплёдысмэнтаў і вокрыкаў, які то заціхае, то бурліва зноў падымаецца—Ленін абедзьвюма рукамі разгладжвае свой чэрап, нібы ён дагэтуль ня зьняў яшчэ парыка, які насіў у лістападзе 1917 г., разьбірае лісткі запісаў, усунуўшы ў іх галаву і варочаючы яе то туды, то сюды, як-бы стараючыся схавацца ад дажджа гукаў, якія сыплюцца на яго. Усё заціхла, і Ленін пачынае голасам чоткім і разьмераным, з нейкім націскам у нос і як-бы прышоптваньнем, асабліва ў тых мясцох, дзе мова выклікае здавальненьне ў ім самім. Гаварыў ён, засунуўшы руку ў левую кішэню, часам хітра падміргваючы і картавячы.

У пачатку прамовы абедзьве рукі яго бязьдзейнічаюць і схованы ў кішэні. Але вось зьяўляецца правая рука, і энэргічны гэст пачынае ставіць кропкі, запятыя, рыскі ў прамове, пачынае падкрэсьліваць словы і фразы. Далей ужо і левая рука ня можа ўстрымацца і абедзьве пачынаюць ілюстраваць далейшы ход прамовы.

Борзды рух рук, борзда нясецца прамова, і ў вушах слухачоў становіцца ясьней, усё больш узрастае асалода ад таго, што грунтоўнае пытаньне становіцца ясным, што галоўнае зьвяно з ланцугу ўхвачана і што яны тут і міліёны за сьцянамі змогуць выцягнуць і ўвесь ланцуг.

Тут ужо і для Леніна мова дасягае свайго апогэю. Рукі ўжо закончылі сваю справу. Адкінуўшыся назад усім тулавам, ён закладвае абедзьве рукі вялікімі пальцамі ў прарэзы камізэлькі, рашпільвае пінджак. Нібы пры гэтым рукі і захапілі тыя зьвеньні, якія патрэбна цягнуць. І як-бы нярухомы, няпрыметна гэстыкулюючы адным толькі корпусам, Ленін прыводзіць людзей к унёскам простым і дакладным, кідаючы словы, якія вызначаюць задачы і аб'ём дзейнасьці, аб чым мы гаварылі раней.

### Хатні быт Леніна.

Хадзіла легэнда, выдуманая нашымі ворагамі, што Ленін займае найлепшыя дварцовыя палацы ў Крэмлі і інш.

Пасьля пераезду Савецкага ўраду ў Маскву Ўладзімір Ільліч заняў памяшканьне ў Крэмлі па-над УЦВК, на трэйцім паверху ў маленькай кватэры. Сам ён заняў невялічкі пакоік у 36 квадратовых аршын, з адным вакном і бяз усякай вэнтыляцыі. Гэтае памяшканьне з надзвычайна скромнаю абстаноўкаю служыла разам спальняй і габінэтам Ільліча. Рэшту з чатырох памяшканьняў займала сям'я Леніна.

Распалажэньне памяшканьня Ўладзіміра Ільліча было такое, што між яго павінна была праходзіць уся сям'я, нявольна парушаючы яго спакой. Старая, паркетная падлога скрыпела, праз тонкую перагарожу даносіўся шум з кватэры.

Папраўіць кватэру ці пашырыць яе плошчу Ільліч лічыў лішнім. Толькі ў 22 годзе ў час хваробы, дзякуючы просьбе дактароў, ён згадзіўся на рамонт кватэры.

Вярнуўшыся з Горак, ён увесь час пражыў у сваім маленькім памяшканьні, без адпачынку, не пакладаючы рук, вечна за працаю. Заўсёды ў глыбокую ноч з памяшканьня Ільліча быў відзен сьвет, ён ня спаў, ён увесь аддаваўся працы.

Вялікі правадыр і настаўнік абмяжоўваў свае патрэбы нямногім і часта адказваў сабе нават у тым, што лічылася звычайнаю чалавечаю патрэбаю. Уладзімір Ільліч ня любіў, калі паводлуг яго выяўляліся тыя ці іншыя клопаты, але-ж сам затое заўсёды клапаціўся аб другіх.

Ленін быў ня толькі скромным у сваіх патрэбах, скромнасьць—гэта адна з вызначаючых рысаў Леніна.

Стаўшы старшынёю першага Саўнаркому ў Смольным, ён у час абеду станавіўся ў чаргу, сядзеў за сталом разам з усімі, узяўшы свой паёк—міску зупу, хлеб і кубак кавы.

Захавалася анкета, якую выпаўніў Ленін на адным зьезьдзе Саветаў; у графе—якімі мовамі добра ўладаеш—Ленін напісаў,—добра ніводнаю. І гэта той Ленін, які выступаў на інтэрнацыянальных конгрэсах як на нямецкай, так і на ангельскай мовах, за якія чужаземцы рабілі яму овацыі.

### Прастата Леніна.

Ленін прагнаў з комуністычнай партыі ўсякі элемэнт фразы і позы. Простасьць—была грунтоўнай рысай яго політыкі. Але гэта ня простасьць наіўных людзей. Гэта прастата гэнія. Ён знаходзіў простыя словы, простыя лёзунгі, простыя вырашэньні самых цяжкіх пытаньняў: „Ня было нічога так чужым для Леніна, піша Бухарын, як выкрунтасы, поза, тупое разумаваньне. Усё гэта ён зьненавідзеў, усё гэта ён высьмейваў, як праклятую спадчыну мінулага. Ён ведаў цану „чыннасьці“ і быў вар‘яцкім працаўнікам усялякай пустапарожняй шуміхі“.

### Ленін—таварыш.

Ленін быў таварышам у поўным значэньні гэтага слова, слова, якому належыць толькі будучына. Такімі павінны быць адносіны паміж людзьмі ў будучыне.

Першае, аб чым ён пытаў таварышоў пры спатканьні, гэта аб здароўі, аб нормальным воддыху. Ён кідаўся на хітрыкі, як гэта мела месца з Чычэрыным, каб даць воддых перапрацаванаму таварышу, які адмаўляўся ад воддыху.

Таварыш працоўных—Ленін ненавідзеў усімі фібрамі душы ворагаў працоўнай клясы. Вялікай нянавісьцю ён палаў да згоднікаў з лягэру соцыял-дэмократаў.

Яшчэ ў пэрыяд „ліквідаваньня“ таварышы зрабілі прапанову Ільлічу выступіць і даць адпор ліквідатарам.

— Нельга выступаць з негадзяямі,—адказаў Ільліч.

„Але-ж мы пастанавілі абавязкова яму выступіць. З гэтага сабраньня Ленін прыйшоў дамоў і зьлёг у пасьцель. Яму цяжка было тое, што нават таварышы, якія любілі яго, не разумеюць.

— Ён не хацеў сядзець за сталом разам з негадзяямі, якім месца на другой старане барыкады“.

### Ленін—у прыватным жыцьці.

„На нашых скромных вечарынках, піша т. Сямашка, пасьвечаных якому-небудзь партыйнаму зьявішчу, дзе-небудзь у падвальным кафэ Парыжу, Ленін зьяўляўся цэнтрам агульнага вясельля. Яго гумар, жыцьця-

радаснасьць, бурлівая энэргія праяўлялася і тут. Навокал стаіць стогн ад сьмеху.

Ці нарыхтоўваецца якая экскурсія, альбо паездка—Ленін усюды ініцыятар, падбухторшчык на ўсялякія жарты.

Ленін, як і большасьць вялікіх людзей, любіў дзяцей. Усім вядома яго нядаўняя фотографія сярод дзяцей падмаскоўскай вёскі".

## Чуцьцё Леніна.

„Ленін радыёпрыемнік партыі, кажа Прэабражэнскі. Вось што рабіла Леніна такім гэніяльным выразіцелем думак мільёнаў працоўных. Ленін глядзеў удаль па-за сьцены Масквы; ён прыслухоўваўся к таму, што робіцца ў вясковай хаце, аб чым гамоняць чырвонаармейцы на нарах казармы".

Аб надзвычайным пачуцьці Леніна найлепей піша Бухарын:

„У ім было надзвычайнае чуцьцё к запытаньням мас. Як-бы Ленін меў якоесь шостае невядомае пачуцьцё, якое пазваляла яму чуйным вухам прыслухоўвацца к таму, як расьце трава пад зямлёю, як бягуць і журчаць падземныя ручаі, якія думкі, якія мысьлі вандруюць ў галовах міліёнаў працоўных зямлі. Ён, як ніхто, умеў слухаць.

Цярпліва з павагаю ён выслухоўваў салдата старой арміі, селяніна з далёкай акраіны, рабочага-мэталістага. З выпадковай бяседы з вясковай бабуляю ён адгадваў біцьцё пульса селяніна. Па запісцы рабочага на мітынгу ён, мудрэц нашай партыі, бачыў і чуў, якімі сьцежкамі бягуць думкі пролетарскіх масаў. З кожнага чалавека ён, якімсь толькі яму вядомым спосабам, выцягваў тысячы ніцяў, увесь клубок соцыяльнай сувязі, усяго зблутанага, завузьлянага—і перад ім адкрываўся малюнак жыцьця міліёнаў, малюнак клясавых узаемаадносін па ўсёй неабхватнай краіне.

Ленін меў асобы талент гаманіць з людзьмі; ён падыходзіў к чалавеку так блізка, так інтымна, што ўсе цягнуліся к яму з сваімі сумненьнямі, патрэбамі і пытаньнямі. З кожным Ленін находзіў агульную мову. Зьненавідзеўшы ўсёю душою праціўнікаў рабочай клясы, Ленін чула, цярпліва разьясьняў сумненьні сваіх людзей, барацьбітоў працы. Вось чаму Ленін карыстаўся агульным замілаваньнем. Ён чараваў людзей. Усе працоўныя йшлі к яму не як к начальніку, хоць-бы і пролетарскай арміі, а як к лепшаму прыяцелю, таварышу, мудрэйшаму і вопытнаму саветніку. І ён згартоўваў людзей такім цэмэнтам, які ня зможа разьмыць ніякая сіла.

## Ленін—правадыр.

І разам з усім Ленін, як волат, вёў усю партыю, а праз яе і ўсіх працоўных. Ён зьяўляўся дыктатарам у лепшым значэньні гэтага слова. Уцягваючы ў сябе, як губка, усе токі жыцьця, перапрацоўваючы ў сваёй

нязвычайнай разумовай лябораторыі досьлед сотак і тысяч людзей, ён у той-жа час моцнаю рукою вёў усіх за сабою, як аўторытэт, як правадыр працоўных.

Ён могісьці супроціў цячэньня з усёю сілаю свайго бешанага тэмпэрамэнту. Такім і павінен быць супраўдны масавы правадыр.

Так, Ленін быў правадыром, якога гісторыя толькі ў соткі гадоў раз дарue чалавецтву. Ленін быў найвялізарным організатарам мас.

„Ленін,—кажа Луначарскі,—меў у сябе рысы гэніяльнага опортунізму, разам будучы ярым праціўнікам усялякіх опортуністых. Опортунізм Леніна такога характару, які лічыцца з асобым момантам, і які ён умеў выкарыстаць для агульнай, заўсёды рэволюцыйнай лініі. За час сваёй дзейнасьці Ленін даў нам некалькі прыкладаў гэтага гэніяльнага опортунізму, ён яго выявіў у надзвычайнай па зьместу прамове на IV конгрэсе III-га Інтэрнацыяналу, дзе ён даў нам філёзофію тактыкі адступленьня“.

Гэта і ёсьць тая дыялектыка, той жыцьцёвы рэалізм, тое аб'яднаньне марксыцкай тэорыі з сучаснай рэальнасьцю.

А ўсё разам, што засталося нам ад Леніна, яго вялікая спадчына акрэсьленая адным словам—Ленінізм—аружжа, якім мы павінны заўладаць і пры помачы якога мы зруйнуем астатнія цьвярдыні капіталізму.

Ленін адыйшоў ад нас. Але Ленін жыве і будзе жыць. Яго сьмерць, як і яго жыцьцё, выклікае новы пажар рэволюцыі.

Яго вобраз назаўсёды будзе жыць у сэрцы працоўных, заўсёды застанецца крыніцаю пачынаньня для новай барацьбы за комунізм, за аканчальнае вызваленьне прыгнечаных.

31/I—23.
г. Менск.

---

# Ленін.

## М. Чарот.

Ленін!
Ленін!
Ленін!..
Фабрыка і завод грукоча...
А вёска... блакітная вёска
Нічога ня хоча...
— Што нам вызваленьне?!
Загнаць бы пана ў дошку!
Зямлі і Волі!
А болей нічога,
Нічога болей!..
— Бяз Леніна ні да парога...
Галосяць гудкі заводаў...
А поле,
Наша курганнае поле:
„Ад веку мы спалі“...
Калосьсямі жыта заводзіць.
Спаліць!.. Усё спаліць...
Тысяча дзевяцьсот семнаццаты год...
„Паўстане людзкі род!“...

I.

У вёсцы блакітнай,
Сярод васількоў-калосьсяў,
Жыве селянін Мікіта...
Лес за ваколіцай
Сумна галосіць...
Ад усходу да заходу сонца
Стогне Мікіта,
Мікіта галосіць,
Сіратою ў полі пакінуты...
— Сыны на вайне...
Вайскамі поле здратована...
Ну, а мне?
Што рабіць мне?
Паны галаву скруціць гатовы нам...
„Вайна да пабеднага канца“...
На фронт коні і людзі...
У імя айца
І сына
І сьвятога духа...

А нам? а нам што будзе?!
Нічога нам не пакінулі...
Тра-та-та-тах!.. Бух-бух!..
Можа сынкі забіты?...
Плача Мікіта,
Плача і слухае.

II.

Вечар... вечар асеньні хмуры...
Дождżык цалуе шыбы.
Вецер пяе-туруе:
— Каб жывыя—прышлі бы.

Раптам—стукае ў сенцах...
— Тата! а, тата!
Толькі мяне захавала доля...
І павесіў портрэт на сьценцы.

Зажмураным вокам
Портрэт аглядае хату...
З камінку сьвецяць карчоў праменьні.
— Загінулі двое... там... далёка...

А мяне прасьцярог—вось гэты...
Плечы яго не ў палетах....
Завуць яго—Ленін!..
Як і я—шануй яго ў сэрцы,

Шануй яго, тата!..
Зажмураным вокам
Портрэт аглядае хату.
— Ты тут... тыя забіты далёка...

Насіць яго імя ў сэрцы...
Мікіта тварам к сьценцы
Стаў на калені
І шэпча:—Ленін... Ленін...

III.

„Вайна да пабеднага канца“...
А з балкону Кшэсінскай палацу,
Дзе рабочых галодная рать,
Нясуцца Леніна словы:
„Без вайны, без вайны змагацца!
Хто за вайну—расстраляць!
Гэта першая пастанова...
Таварышы рабочыя
І сяляне!
Фронтам, фронтам ядыным!..
Ня траціць ні аднэй гадзіны!“
Міколы іскрацца вочы,

Як толькі гляне
На балкон, на Леніна,
На фігуру гранітнага воску...
Ўспамінае загоны-паясы,
Дзірван, каменьне,
Балоты, лясы...
Ўспамінае родную вёску...
Панскі зьдзек і прыгоны...
Але сягоньня—
Гэта толькі сон...
Сон аб акцябрскай славе...
Бы прышоў да бацькі ў госьці,
Пад портрэтам на лаве
Сьпіць ён...
Але ня сьпіцца яму чагосьці...

IV.

І толькі зірнула раніца,
Мікола шынэльку латае...
А Мікіта з Ленінам раіцца,
Як шчасьце здабыць мужыку...
— Тата! а тата!
Вось табе сына руку,
Заветы яго калі выпаўнім,
Будзе воля нам,
Будзе зямліца!"...
У Мікіты сьлёзы выплылі...
А Ленін здаволены
На Міколу глядзіцца...
І з закуранай сялянскай хаты,
Пад поглядам
Са сьцяны портрэта,
Мікола сабраўся ў салдаты—
У войска на пятае лета...
Цяпер хата ня плакала комінам.
— Эх, сыночку!
Расказаў сваю мне праграму,
Успомніў памёршую маму...
Пабыў толькі ночку...
Хаця-б тры дзянькі...
Як сьлед не спачыў—і ў дарогу..
Слухае сын словы,
Сам-жа ўжо гатовы...
У лапці абуў ён ногі,
Аборы з пянькі,
Торбу закінуў за плечы...
— Пастой, засланю хіба печ,
Каб шчасьце было ў падарожжы...
— Ленін, Ленін паможа!..
І Мікола схіліў калені...
Бляскам цудоўным сьвятлела

Восені соннае раньне...
А Ленін,
Са сьцяны задуменны Ленін
Поглядам сьмелым
Благаславіў іх разьвітаньне.

V.

Ня раз сумаваў па сынку Мікіта,
У госьці чакаў штодзянька...
— У засеку больш цяпер жыта,
Бяда—няма вось сынка...
Ці хутка ўсёй калатніны
Пазбудзецца зайздросны сьвет...
Зрабі так, каб пачуць хоць пра сына!
І Мікіта глядзеў на портрэт...
Ведаў бацька, што сын комуністы,
Што Мікола ў Леніна ўласьці...
Не маліўся больш прад прачыстай,
Каб сынку ў барацьбе не прапасьці...
І назаўтра—ну проста цуда!
Прышла ад сына вестка:
„Тата! на заводзе працую...
Шлём паклоны—я і нявестка“...
Палюбіў Мікіта моцна Леніна,
Палюбіў—ну проста да сьмерці...
І ў той дзень вясёла-вясеньні
Пакляўся яму толькі верыць.
І штодня ад працы хоць зморыцца,
У пасьцелі Мікіта разьдзеты,
Ён бяз слоў, але горача моліцца
Закурэламу дымам портрэту.

VI.

Час мінуў... Сялянскія хаты
Імя Ленін—зрабілі сьвятым,—
Знаді ўсе—ён ня любіць багатых,
Яго імя—то бог беднаты.
А Мікіту нібы-то сьмешна,
І Мікіта быў вельмі рад,
Што яму ён маліўся першым,
Калі сына слаў у салдаты.
Калі ў армію войск чырвоных
Яго сын пашоў бяз прынук,
А цяпер недзе молатам звоніць...
Ёсьць нявестка, унучка і ўнук.
І ня раз на сходзе вясковым,
Калі бедных зганялі сьвістам,
Мікіта сьмела браў слова
І гукаў:—„Я і мой сын—комуністы!..
На бедных сьвіст гэты...
Таварышы, дзе ваша сумленьне?!

Багатыя сьвішчуць—ліхая прыкмета!..
Таварышы! Рабеце, як кажа Ленін!..“
А часам возьмуць падатак
З беднага—і возьмуць лішні...
Ломяць рукі людзі,
Галосяць і кажуць: „Ўсявышні“!..“
А Мікіта прыдзе да хаты,
Ноч усю спаць ня ляжа...
На Леніна гляне і скажа:
— Каб ведаў Ленін аб гэтым!
Ну ня прыжджу хіба лета,—
Ураз на машыну
Паеду ў Маскву я да сына...
Можа цябе там пабачу,—
Табе раскажу усё чыста—
Я, як і сын, як і ты—комуністы!..
Глядзіць на портрэт і плача...

VII.

Скажа хто—на колькі часу
Сьвет пазбыўся калатніны,
Толькі, бач: пажар той гасьне,
Што зьнішчаў куткі краіны.
І ў блакітных вёсках-сёлах
Новай вольнай Беларусі
Селянін пяе вясёла:
„Не сагнуся так, як гнуўся
І паноў зямлі абшары
Сам сажну ў свае засекі...
Не затуляць край наш хмары,
Край, што вечна быў у зьдзеку...“
Але сягоньня
Сяляне штось ня ў гумары...
Выйшлі ў поле на загоны,
З імі каморнік...
Пастанову зрабілі ўчора:
«Не патрэбны межы,
Што хаваюць поле ў быльлі...
Няхай лепш разоры...»
— Нам казалі, як ў войску былі,
Што ўлада панскай зямлі прырэжа...
Сваёю ня ўсе здаволены...
Ці-ж можна—шнуры ў тры пядзі?!
Чакалі!.. Чакаць даволі нам!..
Таварыш, каморнік, у пераглядзе
Павінна быць наша заява...
— Не каморніцка справа,—
Я—толькі мераю...
— Пра зямлю пры цары пелі!..
Дзе гэта відана?!
За рэволюцыю і мы цярпелі—
Ці-ж нам ня крыўдна?

Таварышы! давайце хэўраю
Да Леніна напішам ліст...
Ён адзін комуністы,
Што спагадае аб нас...
    Час ужо, час
Беднаце даць надзелы!—
    Ня раз і ня два
Сялянамі поле галдзела...
Непакоіла вёску братва:
    — Даёш надзелы!
Падзяліць трэба маёнткі,
    Каб пан і здалёку
    Ня мог такі
На іх вытрашчыць вока...
Парэзаць усё на палеткі...
Зьнішчыць маёнткі бяз глуму!..
А мы, мы самі зробім комуну,
    Ня мы—нашы дзеткі!

VIII.

Спавіла вёску вечара ціша,
Змоўк і на вуліцы гоман...
Толькі гутарка хату калыша:
— Паслаць, паслаць за Сымонам!—
І дзядуля старэнькі, сівы—
Ён адзін між старых пісьменны—
У будыніну пчол гаманлівых,
Апіраючысь кіем, сяменіць...
— Мы самі аб марнай долі
Напішам да Леніна ў «ноце»...—
І выводзіць дрыжача крамзолі...
Не даваць-жа пісаць блазноце.
А ў сініх хмарах махоркі
Нібы зоры блішчаць іх вочы...
Што ў жыцьці было ім горкім—
Усё Леніну выкласьці хочуць.
Ён паможа ў няшчасьці—вераць,
Ён зьвядзе з непарадкамі квіты...
    Раптам рыпнулі дзьверы:
Увайшоў вельмі хмурым Мікіта...
— Атрымаў ліст ад сына ўчора...
Сам нічога... і дзеткі здаровы...
Піша ён і аб Леніне... хворы...
Пахіснулі сяляне галовы...
А пяро заскрыпела і змоўкла
На паўслове мужыцкай «ноты»...
Толькі месяц зірнуў пажоўклы
    Праз вакно на сьлёзы бядноты...
— Што-ж рабіць? пачакаем троху...
Даць спачынак—здароўю парука—
А Мікіта паедзе праз год... на сёмуху,
Завязе ліст у самыя рукі...—

А ноч—нібы плакала лесам...
Над вёскаю гром забражджаў...
Месяц хмарамі сінь занавесіў—
Закапалі сьлёзы дажджа...

IX.

Прыходзіла за весткай вестка
Пад стрэхі сялянскіх хат,
І кожнага сходу павестка
Аб Леніне ставіць даклад.
Ці дуж? Ці ня дужы?
Ці ёсьць на паправу надзея?..
А Мікіта праліў сьлёз лужу,
Дзень і ноч на портрэт глядзеў.
І ня раз зажмуранае вока
Мікіты ўздымала дух,
Ён тагды ў задуменьні глыбокім
Нібы Леніна словы слухаў.
Мікіту здавалася часта,
Што портрэт на сьценцы гавора,
Што папера словамі шастае,
Як Мікіта кажа пра гора.
І ў адзін зімовы вечар
Мікіта глядзіць Леніну ў вочы...
А за вакном плача вецер,
На камінку міргае корч...
Вясёласьць з вачэй нібы ўпала ўся,
Нібы дыхаць зрабілася трудна...
Мікіту ўсю ноч ня спалася—
Ноч цягнулася вельмі марудна.
— Як пабачыць цябе хачу я,
Не счакаю ніяк вясну...
Нешта сэрца нядобрае чуе,—
Мікіта сказаў і заснуў...
А ў вакно глядзела раніца,
Невясёлым глядзела тварам...
І сьняжынкі чамусьці ня дражняцца,
Як мароз іх пужае ударам.

X.

Горад... Заплаканы горад...
Сёньня весткаю вёску ня радуе...
У бязьмежныя далі-прасторы
«Ленін памёр»—нясе радыё.
Лясы, балоты і поле
Заплакалі марш хаўтурны...
— Няма, няма яго болей,—
Плача народ пануры...
Плача і вёска, плача...
Сьнег нібы ў жоўтым пяску...
А Мікіта сон бачыць,
Што едзе да сына ў Маскву.

Толькі прыход суседа
Ня даў больш аб слодычы сьніць...
— Мікіта... ты пэўне ня ведаў—
Ленін сказаў доўга жыць...
І глядзяць на портрэт здалёку...
Мікіта ў сьлёзы ўміг...
А Ленін зажмураным вокам
Жывым пазірае на іх.
— Хай памёр... Але ў сэрцы нашу я
Яго імя—ён будзе жывым...
Капля сьлёз на зрэбнай кашулі
Здавалася капляй крыві.
І Мікіта з жалобаю ў сэрцы
Ня зводзіў вачэй з портрэта...
— Ці-ж можа Ленін памерці?
Ня веру, ня веру я ў гэта...
А портрэт, як і быў—задумленны,
Як раней ён—і вока жмурыць...
Ніякай няма перамены
У вялікай магутнай натуры....

---

Ленін...
Ленін...
Ленін...
Галосяць заводы і фабрыкі...
І вёска... блакітная вёска
Таксама ў жалобных хварбах
Ліе за сьлёзкаю сьлёзку...
Поле, лясы і курганы
Глядзяць сіратліва...
Чуецца толькі: «Сьмерць паганая!»
І зноў маўкліва.
Камяніцы гораду
І драўляныя хаты,
Што аб Леніне пялі горда,
Адчуваюць вялікую страту...
Усе, як адзін...
Роўна на пяць хвілін
Жыцьцё заміраe...
У магілу
Кладуць няўміручага Леніна.
Сіла пабядзіла сілу...
Гудкамі адходную граюць
Таму,
Хто прынёс вызваленьне...
Над магілай жалобны плякат.
Чытае пролетарыят:
**„Выпаўнім заветы Леніна“.**

Студзень 1924 г.

## ЧОРНА-ЧЫРВОНАЯ ЖАЛОБА.

### З. Бядуля.

Плыў мароз па струнах драцяных
ад слупа і да слупа,
іржавым водгульлем стагнаў
ад каменна-бэтонных валатовак—скрынь вялікіх мест
да шурпатых саламяных стрэх
бабулек згорбленых—
вясковых хатак.

Ён па дарозе ўсюль сяваў па дрэвах
срыбны мох бялява-сівай шэрані.
І ноч паўзла, як вуж.
А па шкляных палёх нябёс
кацiліся зьвінелі
пругка-цьвёрдыя брусьніцы
буйных зор.
У сьвітцы сьцюжы шэрай
Беларусь Савецкая
што-хвілю размаўляла
з старшаю сваёй сястрой—
з Масквою.
Гаварыць шмат аб чым было:
Зьезд Саветаў, здароў'е Ільліча.
Нэрвамі і жыламі аднымі
з С. С. С. Р. наш край навекі сплецены
у організм адзін,
ў адну магутную і творчую машыну

* *
*

Зыгзагі радыо сум-жудасьць перакінулі
з Масквы у Менск...
На раніцу ўвесь горад знаў...
Бы глюгі чорныя агідных каршуноў
трубкі тэлефонаў клявалі вушы,
і злавяшчуньнім клёкатам
хрыпелі словы два:
„Памёр Ленін“.

Смуткам-роспаччу вачэй
Прарубы вуліц ажалобіліся.
Урачыста шопатна вакол.
А ён глядзіць з тысячаў портрэтаў
тысяччу вачэй з нямою думай
з абруштыненых вітрын,
са сьцен, з вакон, з пакояў,

З часопісаў, лістовак,
З кніг на розных мовах,
Абрамлены жалобнай чорнай сьцежкай.
Абрысы чэрапа так дзіўна-велічавы,
Ў ім туліцца дабро і бацькі і прарока,
Сталёвы гарт бароцьбаў асілка-велікана,
І думы гэнія, што каленай стралой
Імчацца, віхрацца, пылаюць
з ушчэльляў прошласьці туманнай
у будучыны сонечную далеч.

* *
*

Жалобы дні плывуць у бяздоньне дзён,
бы ў каменную глотку сфінкса.
І зморшчыны па тварах мас
ратаі смутку-роспачы
аруць у барозны.
То сьмерць Дыоніса,
Канчына Промэтэя:
— Памёр Ленін,
— Няма Леніна,
— Жыве Ленінізм,—
Жар-птухі радыо з Масквы
марозьліва-гарачай,
вулканіста-бунтарскай,
Вэзувію падобнай.
па сьвеце ўсім, маўляў маланку,
вестку ймчыць.

* *
*

Ночна-макавыя колеры.
Рэволюцыйны знак жалобы.
Нябыцьця ноч і пломень—кроў змаганьня
Шлюбуюцца ў адно.
Палахліва-жудасны той шлюб
Чырвона-чорны.
Мазольны люд сусьвету ў момант пазнае:
— Памёр Ленін,
— Няма Леніна,
— Жыве Ленінізм.
Дзень дваццаць першы пачатку году сёмага:
кастрычнікавай буры
у жалобе чорнай з крэпу
адзеты на ўсім сьвеце.
І шэрагам нямых вандроўцаў
тугі сур'ёзна-строгай
гэты дзень жалобны
вякоў кялімы
прарэжа вастрынёй сярпа,
праб'е грымотным молатам.

* *
*

І кожны гарапашнік шчыры жаль
ад сэрца выяўляе пасвайму,

паводлуг звычаяў сваіх.
Усюль работніцка-сялянскія грамады
Чуюць сваю страту.
Нэрвы ўсіх працягнуты, як стрэлы,
к сонцу Рэволюцыі—
к свайму Леніну,
к яго казцы замалёванай вялікім малерам,
к грымотна-бурнаму
Чырвонаму Крамлю.
З усюль:
ад Афрыкі пякуча-шэрай,
ад вод блакітных Ганга,
ад старых сьцен Кітаю,
ад тундраў малочна-мглістага Сібіру,
ад Вогненай зямлі
да паўстанчых змрочных пушчаў Беларусі
зьліваюцца ў адзін вялікі шквал
Дэмонстрацыі і мітынгі рабочых.
Бо кожны сэрцам разумее,
што Леніны ў гісторыі чалавецтва
у тысячагодзьдзі толькі раз бываюць,
якія твораць эры на зямлі.
Кожны край пасвойму
веліч яго ставіць:
— Ленін—Конфуцый,
— Ленін—Будда,
— Ленін—Маісей,
— Ленін—Хрыстос,
— Ленін—Магамэт,
— Ленін—Наполеон,
— Ленін—Бісмарк,
— Ленін—Вашынгтон,
— Ленін—Маркс.
Так з усяго сьвету.
А беларуская кабета ў шэрай вёсцы
ад прастаты і шчырасьці сваёй
галошаньне дзядоўскае заводзіць,
пранікнутае горам,
аплеценае вобразамі старасьвецкіх дзён,
як тыя дэсаны на паясох вясковых:
— На каго-ж ты нас пакінуў, ой, татуленька!
— Асірацелі без цябе мы, ой зязюленька!
За душу Леніна малітву шчыра шэпча,
сьвечку ставіць
І, пэўна, што за любоў к гаротным
ён пападзе у рай нябёсны...

* * *

Творчы дух людзей, натхненьнем поўны,
цяпер краёў і мудрасьць Леніна шукае.
Вучоныя, філёзофы трактаты пішуць
тоўстатомныя аб Леніне.
У кожным яго слове дзівы гэнія знаходзяць.

Поэты з вобразаў і рытмаў мілагучных
вянкі плятуць яму на маўзалеі
з сотняў вершаў, нібы з незабудкаў.
Композытары ў хаосе згукаў
гармонію знаходзяць для жалобных маршаў
на яго канчыну.
Маляры, скульптары шукаюць
сакрэты ліньняў, хварбаў,
каб як-небудзь увекавечыць
для будучых сыноў зямлі
магутны воблік Леніна,
усім цяпер вядомы.
Кіно-фільмы плянэту нашу
поясам абкрылі—
адбіткам дзён жалобных.
Прамовы Леніна з грамафонных
тафляў яшчэ доўга будзе слухаць
вызвалены люд.

* * *

А яго найлепшы твор,
найлепшы монумэнт—
С. С. С. Р.
Аб ім мастацтва—
адбітак толькі слабы,
толькі цень туманны.
Ён сам—з поэм поэма.
Не ў пэргамінах,
Не ў фоліянтах,
Ня ў маршах жалобных,
Не ў статуях,
Ня ў хварбах,—
У жыцьці.

* * *

Надыйдзе час,
І Ленінізм абхопіць
агнёва-сонечным штандарам
С. С. С. Р. сусьвету.
Сказы тысячалецьцяў
аб сьветлай долі чалавека,
якія выяўленьне знайшлі
ў адным магутным і прыгожым чэрапу,
спраўдзяцца ў жыцьці.
Усьціхне бура боек, спрэчак.
Ня будзе ані клясаў, ні народаў,
а будзе ўсюды
вольны, творчы чалавек.
Тады,
праз стагодзьдзі,
з усіх краёў зямлі,
штогод
у дзень дваццаць першы студзеня,

памкнецца грамадою люд
у Чырвоную Мэкку—
саркафаг той паглядзець,
дзе спачывае на Чырвонай Плошчы
вялікі правадыр працоўных мас,
якія колісь волю вырывалі
з клыкоў зьвярыных
капіталу.

Дзівіцца будуць тыя пакаленьні
Ленінскаму гэнію,
Што думкамі і дзеямі
тысячагодзьдзі пранікаў.

---

# „Альгэбра рэволюцыі“ ў руках Леніна.

**М. Грышын.**

Яшчэ ня выяўлена вялізарная існасьць таго, што ўсе адчуваюць, у існаваньні чаго не сумняваецца, нават, дзікун самых глухіх і аддаленых ад культуры месцаў зямное кулі. *Існасьць ленінізму*. Мы ведаем, мы, марксыстыя, ведаем гэтае пасвойму, укладаючы гэтае ў рэлігійную форму сьвядомасьці індусаў, што *ленінізм*—гэта асобная вялізарная сіла, якая мае здольнасьць рухаць гарамі. Але ніхто яшчэ ня вычарпаў цалкам гэтае сілы, ніхто яшчэ не растлумачыў яе цалкам, ніхто яшчэ не ўвабраў яе цалкам у сваю сьвядомасьць, сваю практыку.

Цяжка растлумачыць ленінізм да рэшты; добра, калі мы здолеем пакуль толькі адзначыць яго. Яшчэ і дагэтуль (якім гэта дзіўным не здаецца) азначэньня ленінізму, дакладнага й выразнага, няма. Адны кажуць, што ленінізм—практыка пролетарыяту, які робіць рэволюцыю, або рэволюцыйнага марксызму; другія бяруць крыху шырэй: ленінізм—наогул практыка марксызму; трэція: ленінізм—злучэньне тэорыі марксызму з практыкай; чацьвертыя лічуць, што ленінізм—наогул нанова папраўлены марксызм. Мне здаецца, што ўва ўсіх гэтых азначэньнях ёсьць частка праўды.

Ленін прысутнічае ўва ўсіх галінах рэволюцыйна-марксыцкае практыкі. Толькі гэтак і трэба станавіць пытаньне. Ленін—*ёсьць усюды*, у матар‘ялістычным (г. ё. не абсолютным) значэньні гэтага сказу, як і павінна быць гэнію, які адбіваецца ў рэлігійнай сьвядомасьці, у абліччы бога, побач з Будай, Хрыстом і інш. Да рэчы: не выпадковасьць, што гэткі падыход да Леніна ў цяперашні час наогул найбольш мэтазгодны: рэволюцыйна-марксыцкае адбіцьцё Леніна ў вобразе пакуль для нас недаступна, бо пролетарскага вобразу ўва *усёй* сіле, на якую *здольны* пролетарыят подлуг свае *пьіроды*, пакуль няма; вось чаму *пачуцьцёвае* ўспрыйманьне Леніна, адпавядаючае рачавістасьці па сваёй сіле *колькасна* (бязумоўна, не якасна), мы знаходзім толькі ў рэлігійнай псыхіцы. Няхай вобраз Леніна, як бога,—недарэчны, няпраўдзівы, але *веліч* і *сіла* Леніна ў ім адбіты ў поўнай меры.

Ленін ёсьць усюды. *Ленінізм—гэта сыстэма ідэй, спосабаў, складаючых філёзофію практыкі*. Тое, што складае мэтодолёгічны грунт усякае справы, яго філёзофію, дагэтуль. да Леніна, не распрацована ў *сыстэму*, у навуку. Дамарксыцкія філёзофіі, якія прадстаўляюць сабой—ці добра, ці кепска—агульныя спосабы мысьленьня чалавека, былі слабыя дзеля таго,

каб выканаць гэтае заданьне: марксызм, якім дасканала ўладаў Ленін, дазволіў гэтае зрабіць. Марксызм магчыма й павінна разумець дваяка: як мэтод мысьленьня, і як мэтод дзеяньня. Як мэтод мысьленьня марксызм хавае ў сабе беспасрэдні мэтод мысьленьня—марксыцкую гносэолёгію. Як мэтод дзеяньня—марксызм павінен мець у сабе беспасрэдні мэтод дзеяньня—марксыцкую філёзофію практыкі.

Вузкая вобласьць марксыцкае філёзофіі ў шырокім сэнсе гэтага слова, тэорыя пазнацьця (гносэолёгія), якая зьяўляецца ў марксызьме, як *мэтодзе мысьленьня* ў шырокім сэнсе, *мэтоду мысьленьня ў вузкім сэнсе*,—марксыцкая гносэолёгія засталася ў спадчыну ад Маркса. Умець думаць па ўсіх правілах марксыцкае тэорыі пазнацьця азначае уменьне навукова, памарксыцкаму, будаваць *самы процэс* мысьленьня, але гэтае яшчэ ня ўсё. Трэба было умець будаваць *навукова* памарксыцку процэс дзеяньня. А для апошняга патрэбна была адумыслоўная тэорыя—філёзофія практыкі. Гэтую філёзофію практыкі даў Ленін. Яна і ёсьць ленінізм. Ад гэтага часу марксызм, як мэтод дзеяньня, мае ў сабе ленінізм.

З пункту погляду гэткага азначэньня ленінізму, усе чатыры, падазеныя вышэй, здаюцца больш-менш недакладнымі і нявычэрпваючымі. Ленін прыйшоў ня справіць Маркса, а дапоўніць яго, не парушаючы ніводнага палажэньня марксызму, наадварот, выявіўшы з вялізарнай сілай яго магутнасьць і праўдзівасьць.

З пункту погляду гэткага азначэньня ленінізму, тактыка ленінізму сапраўды складае яго стрыжань, хоць, бязумоўна, ня вычэрпвае яго, падобна да таго, як грамадзянска-гістарычная тэорыя Маркса складае стрыжань марксызму, але ня вычэрпвае яго.

Марксызм, як „альгэбра рэволюцыі“ ў руках Леніна—вось што ёсьць тактыка ленінізму. Трымаць марксызм у дзеючых руках рэволюцыянэра, не даваць яму выскачыць у сфэру практычнае мэтафізікі, г. ё. не дапушчаць разрыву паміж тэорыяй і практыкай—гэта й складае існасьць тактыкі ленінізму.

„Пад тактыкай партыі трэба разумець яе палітычнае павядзеньне, або характар, напрамак, спосабы яе палітычнае дзеяльнасьці. Тактычныя рэзолюцыі прыймаюцца партыйным зьездам дзеля таго, каб азначыць палітычнае павядзеньне партыі ўцалку адносна да новых заданьняў, або маючы на ўвазе *новае* палітычнае становішча“. (Ленін, збор твораў—„Дзьве тактыкі“).

Вось якраз „павядзеньне адносна да новых заданьняў!“. З гэтага азначэньня тактыкі Леніным відаць асновы тактыкі ленінізму, як такога. „Няма тактыкі сталай, як застыгшага спосабу барацьбы; тактыка раўняецца на момант“. Вось асноўнае палажэньне тактыкі ленінізму. Два асноўных палажэньні дыялектычнага матар'ялізму кажуць: 1) об'ектыўныя абставіны азначаюць палітыку, а 2) об'ектыўныя абставіны—зьменныя. Адгэтуль вынікае асноўны тактычны прынцып ленінізму: „зьмяняць па-

вядзеньне, тактыку“. Можа здавацца, што якраз ня можа існаваць і ніякіх тэорый тактыкі; можа здацца, што Ленін проста правілова прайшоў свой вялікі шлях, раўняючы тактыку па моманту, а нам застаецца толькі запомніць гэты завет рэволюцыйнага марксызму і толькі старанна насьледаваць Леніну. У рачавістасьці справа стаіць глыбей, а мы на шчасьце атрымалі ад Леніна ня толькі спадчыну, якую пакінуў нам Ленін у выніку беспасрэдняе свае практыкі, але й спадчыну ў выглядзе прынцыповае тактыкі. Справа ў тым, што ёсьць агульныя рысы ў розных абставінаў у розныя часы. І вось тут тактычная практыка Леніна мае для нашае будучыны вялізарнае, нязьмеранае значэньне. Тут ён—навука, каштоўная, каштоўная спадчына. Вытлумачым гэтае больш конкрэтна. Паступовае разьвіцьцё рэволюцыйнага руху можа зьмяніцца на рэволюцыю, рэволюцыя можа зьмяніцца на паступовае разьвіцьцё. Рэволюцыі могуць адбывацца пры розных варунках, эволюцыя гэтак сама, паколькі ў нас вымагаецца конкрэтная дастасаванасьць да асаблівых умоў. Але паколькі эволюцыйны характар руху, або наадварот—рэволюцыйны, маецца ўва ўсіх асаблівых формах руху, пастолькі ў тактыцы Леніна маюцца прынцыповыя сталыя элемэнты, якія грунтуюцца на характары руху. Прыклады.

Рэволюцыя. Паварот. 1905—06 г.г. Напярэдадні паўстаньня ў сьнежні. У лістападзе Ленін піша аб партыйным аб'яднаньні: „Давайма аб'яднаемся і для справы рэволюцыі“ („Новая жизнь“ ад 16 лістапада 1905 г.).

1917 г. Аб'яднаная конфэрэнцыя партыі. Блёк з левымі эсэрамі. Непрымірымы раскольшчык Ленін, застаючыся прынцыпова непрымірымым у пэрыядзе рэволюцыйнага паўстаньня, трымаецца тактыкі згрупаваньня, консолідацыі, аб'яднаньня ўсіх сіл, прыгодных для гэтага паўстаньня.

Нарастаньне рэволюцыйнага руху. 1917 г. „Дзякуючы пэўнай добрасумленнасьці шырокіх колаў масавых прадстаўнікоў рэволюцыйнага абарончаства...“ дзякуючы таму, што буржуазія іх падманула, павінна асабліва настойна, цярпліва растлумачваць ім іх абмылку.

Гэта поўная процілежнасьць блёку. Не выкарыстоўваць дзеля беспасрэдняе барацьбы таго, што ёсьць няпэўнага, вагаючагася, а „цярпліва растлумачваць“, г.ё. пераварачваць тых, хто вагаецца ў сьвядомых удзельнікаў супраўдна-рэволюцыйнага руху.

1917 г. Напярэдадні кастрычнікаўскага паўстаньня. „Чакаць—злы ўчынак перад рэволюцыяй“. Калі паўстаньне распачата, трэба дзейнічаць з *найвялікшай рашучасьцю*, і, канешна, бязумоўна пераходзіць *да наступу*.

1917 г. Красавік. Нарастаньне рэволюцыйнага руху. „На чарзе дня рашучае, канчатковае разьмежаваньне з Луі-Бланам, Чхэідзе, Цэрэтэльлі, Сьцякловым, партыяй О. К., партыяй эс-эраў н. с. і г. д. і г. д.

Тлумачэньне масам, што луі-бланаўшчына губіць і згубіць пасьпех далейшае рэволюцыі, пасьпех, нават, свабоды, калі масы не зразумеюць шкоды гэтых дробна-буржуазных ілюзый і не далучацца да сьвядомых

рабочых у іх асьцярожных, паступовых, абдуманых, але цьвёрдых і безадкладных кроках да соцыялізму". „Трэба рабіць рашучыя крокі да нізрынуцьця капіталу. Іх трэба рабіць *умела і паступова*, усьпіраючыся *толькі* на сьвядомасьць і организаванасьць падаўляючае большасьці рабочых і бяднейшых сялян".

*Асьцярожная й паступовая* барацьба за дыктатуру пролетарыяту і бяднейшага сялянства *без аніякага блёку*, усьпіраючыся *толькі* на сьвядомасьць масаў—вось тактычнае правіла для пэрыядаў нарастаньня рэволюцыйнага руху.

Найвялікшая *рашучасьць, адвага, хуткасьць наступу бязумоўна, консолідацыя* ўсіх годных дзеля барацьбы сіл (блёк)—вось правіла дзеля паўстаньня, дзеля рэволюцыі.

Усё гэтае толькі спроба на адным-двох прыкладах паказаць некалькі прынцыпаў тактычнага ленінізму; гэткіх прыкладаў магчыма знайсьці шмат, і на кожным магчыма выкрываць і вывучаць гэтыя прынцыпы.

Ня толькі насьледаваць Леніну, але заўладаць яго мэтодай дзеяньня—ленінізмам.

Ёсьць небясьпека, што будуць разумець ленінізм, як догму, застываць у консэрватызьме, у адцягненьні. Але супроць гэтае небясьпекі добра забясьпечыў нас сам Ленін.

*Першую* і асабліва *настойную* ўвагу тае часткі яго вучэньня і яго практыкі, дзе ён вядзе клясычную і геніяльную барацьбу з падобнымі ўклонамі. Ленін ненавідзеў усякую консэрвацыйнасьць, усякую адарванасьць ад моманту, абставінаў, ад асаблівых умоваў, усякую спробу чапляцца за няжыцьцёвы ўжо лёзунг і г. д. і г. д. Гэтае—адзін з моцных бакоў ленінізму; яму—першая ўвага.

Калі марксызм—„альгэбра рэволюцыі", дык ленінізм—дыфэрэнцыяльнае і інтэгральнае вылічэньне, „вышэйшая альгэбра рэволюцыі". І падобна да таго, як альгэбра ўжываецца ў роўнай меры ў тэхніцы праз вышэйшую альгэбру, гэтак і марксызм ужываецца ў рэволюцыі з усёю сваёй сілай праз ленінізм.

---

## ВЕЧНАЕ.

**Цішка Гартны.**

Ўперадзе сьвецяць агні—
Лашчаць праглівыя ўзрокі,
Надзяць.

Чорныя цяжкія дні
Дзесьці далёка-далёка
Ўзадзе.

Думак рашучых пласты
Скрэплены кроўю, жалезам
Зьвіты.

Сочаць руінай масты,
Шлях да ўзвароту адрэзан—
Квіта.

Стальлю расплаўленай гмах
Скрэпім. Палкія душы—
Гартам.

Хто перапыніць наш шаг,
Толькі паходняю рушым
Ўпарта?

Сілы ўжо гэткай няма,
Радаў ніякіх ня стане—
Годзе!

Сьвет—то грамада сама
Волю ў жыцьці-акіяне
Родзіць.

Ўздымы, гайданьне, парух,
Хваляў расходзе радамі—
Гуды—

Наш раскалыханы дух
Згартнены домнаў агнямі—
Ў цуда.

Гром, бліскавіцы, віхор—
Дзікай стыхіі акорды—
Масаў

Поступ адважны да зор,
Зьлітны, магутны і горды,
Красяць.

Полымем зыркіх агнёў
Ўдалі блакітныя-мкненьні
Стрэлам.

Шэраг наступных вякоў
Сьветлай Комуны кваценьнем
Ўбелім.

Чорныя, нудныя дні
Цемрывам вечным паталі
У нетры.
Вышай, уздымней грымі
Гымн Інтэрнацыяналу—
Крэпні!

12/XII-23
Менск.

## Сымфонія.

Мята, рожа, півонь,
Вішань сьпелых чырвонь,—
Пах, мілаваньне!.
Ветру повей ў лісткох,
Дрэўцаў ціхенькі ўздох,—
Рух, калыханьне.
Пчолка, стрэлка мігнуць,
Нітку лёту саўюць—
Струн трапятаньне.
Кропку-роску ў сату
Ўзгледзець і на ляту
Спуск, ападаньне.
Золата-луч пральле
Сонца на ліст, гальле—
Спор. пукаваньне.
Мошка, мушка, жучок
Сонца рвуць касьнічок—
Рай, лікаваньне.
Зложаны, зьліты сьпеў
Іх між квятаў, між дрэў—
Жыцьце, іграньне.
Радасьць, ўздым, благадаць,
Прага ў паху растаць—
Вечнасьць яднаньня.

20/VI-23
Капыль.

## За вакном.

Вокны ўсе нарасхлёст!
Хай расходзіцца чад,
Духата і смурод.
За вакном
Столькі сонца й кзятоў!
Гнецца к сьценцы агрэст,
Вішань беленькіх рад
Падае цераз плот
Гальляйком—
Сьвежы пах ад цьвяткоў.

І гудуць і пяюць
Птушкі, пчолкі у тон;
Шалясьціць вецярок
Па лісткох
Руцяністых дзярэў.
Грудзі смагныя ждуць
Піць паветра з вакон;
Вочы—кідаць узрок
Па лугох;
Слухаць птушачы сьпеў.
Нарасхлёст вокны ўсе!
Няхай водыр палёў,
Няхай сонца прамень
Пекнату
Неабмерных нябёс—
Повей ветру нясе
Да сьмярдзючых сталоў,
У затухлую цень,
У духату,
Ў сьвіст шнуроў, ў гуд калёс.
Вольны гал вольных мест
Родзіць волю, уздым
Разьдзьмухае той жар,
Што спусьціў
Жыцьцётворачы дух.
Вокны ўсе нарасхлёст!
Хай расходзіцца дым,
Хай спадае цяжар,
Што спавіў
Разьвярнуўшыся рух!

Капыль, 15/VI—23.

## З ЦЫКЛЮ ВЕРШАЎ „ГОРАД“.

### Андр. Александровіч.

Новыя песьні новага году
Ўбраны марознымі ўзорамі.
Для Беларусі—бунтарскага роду
Песьні—новымі зорамі.

Радасна слухаюць мерзлыя вуліцы
Новага году гоман.
Новая песьня шмат каму муліцца—
Менск—Віцебск—Гомель!

---

Як злодзей, выглядвае месяц праз хмары
На горад, пазбыўшы журбот.
Ён шле прывітаньне, хоць ужо гаспадарыць
Вясёлы юнак—новы год.

* * *

Ля крамы бурчыць вартаўнік,
Ліжаць мароз яго вушы...
— Колькі яго не кляні,
Ўсёроўна цябе ён задушыць.
Бурчыць, б'ючы бот аб бот,—
Пракляты штукар—новы год!

* * *

Стукае ў вывескі вецер.
Круціцца сьнег.
Ліхтары сьвецяць...
Бунтарска прабег
Сьпеў комсамольцаў...
Сход.
Будзіць ваколіцы
Песьні ўзьлёт—
Новы год!

* * *

Па вуліцах, перавулках
Гудзіць гулка
Дрот—
Новы год!

* * *

Новы год—Беларусь Савецкай абвенчана,
Новы год—думцы вольны палёт.
Новы год—Віцебск—Гомель—Меншчына!
Беларусь-жа, сьвяткуй—Новы Год!!

31/XII—23 г.

## БУДОВА.

### А. Гурло.

Стукаць сталі малаточкі
Ў адно месца, ў адну точку—
Ажно іскры зашугалі
Ад нагрэтай зырка сталі.

І нясецца зык за зыкам
Нейкай стройнаю музыкай,
І чуваць завевы меху—
Прыганятага да сьпеху.

Звонкай песьні ўтораць гукі...
Вольнай працы дзеці, ўнукі
З зараніцай ўсталі рана
Разьбіраць цяжар кайданаў,

А каваць прыгожа-новы
Дабрабыту лад жыцьцёвы...
Ў кузьні гінуць змроку цені:
Сонца шле свае праменьні,

Асьвятляе новым жарам
Кавалёў худыя твары...
Кожны ўдар па ёмкай сталі
Прабуджае соннасьць далі,

Кожны зык жане напасьці...
Бляскі іскраў—зоры шчасьця—
Разганяюць цемень ночкі...
Звоняць... звоняць малаточкі...

6/VIII—23 г.

## ЖАДАНЬНІ.

Волі мора, волі мора,
Волі мора я хачу,
І загэтым на прасторы
Я пад парусам лячу

Воляй ветру. Сам я волен,
Наўкол вольніца і шыр...
Мой чаўнок спрачацца здолен,
А я—здольны правадыр...

І калышуць мяне хвалі,
І калышуць і нясуць:
Што далей—бліжэюць далі,
Што далей—каротшы пуць...

30/VII—23 г.

* *
*

Маю душу поўняць чары,
Чары чыстае красы;
Маё сэрца родзіць ўдары,
Ўдары—шчасьця галасы...

Ласкі поўны мае вочы,
Вочы—люстра ёсьць душы,
А загэтым думка хоча,
Хоча збавіцца цішы;

Яна родзіць радасьць-мары,
Мары іскры пачуцьця...
І мацнеюць ўсё ўдары,
Ўдары—водгукі жыцьця.

30/VII—23 г.

## К НОВЫМ ДАЛЯМ.

**Язэп Пушча.**

З-за лесу чмарага
над соннай
хмараю
дзень раніцай іржэ.

На ніве ў ядраным аўсе
сонца
промені галодныя нясе.

Цыбаты вецер за сялом
задыхаўся ў палёх.
Мы чырванъ даляў
песьняй засяём,—
сьмяецца нам
расой апырсканы быльнёг,—
мы жнём усход буяных слоў...
Гэй, далей—
к новым далям,
песьня жытніх каласоў!

## Антракт.

**Я. Родзевіч.**

Люстраныя сьцены салі
Блескам-полыскам іскрыліс,
Снопам яснасьці шугалі:
Мірг-бліс, мірг-бліс
Мільгатою
Між сабою.
Табала квяцістай гушчай
Сьмехам, гоманам брынчала.
Многагучна, як шум пушчы,
Казытала
Струны-думкі
І лятункі.
Мілагучныя акорды,
Абматаныя ў шоўк шуму,
Ўзгляд дзявочы, лішня горды,
Далі глуму,
А каханьню—
Панаваньне.

---

# На новым месцы.

*(Апавяданьне)*

Цішка Гартны.

I.

Маёнтак Скуплі ляжаў на нявысокім плоскагоры, абнесеным з трох бакоў густою градою хвойніку. З чацьвертага боку, кудэю йшла дарога ў мястэчка Кругі, а праз яго на Менск, прасьціраліся шырокія абшары палеткаў.

Гоняў на трое ад быўшых панскіх палацаў (маёнтак належыў паном Крэўскім) цягнулася ўступка высокіх стройных таполяў, атуляючых сабою дарожку, якою Крэўскія рабілі свой парадны выезд. Усе будынкі маёнтку, расстаўленыя роўным чатырохкутнікам, яшчэ досі здаровыя і цэлыя, апяразвалі сабою, як сьцяною, быўшы панскі палац—двух'этажны пабелены будынак. Страха палацу, пахварбаваная ў часы польскай окупацыі, калі стары Крэўскі нанова спадзяваўся стала асесьціся ў сваім гнязьдзе, выглядала зусім новай; яна выдавалася чырвонаю хварбаю на фоне цёмназялёнага, густою шатою разьлёгшага вярстоў на восем вакола, ліпавага парку. Невялічкія гострыя вежкі з двух канцоў страхі, загостраныя ўверсе і падхарошаныя зялёнымі флюгэркамі, прыдавалі палацу старасьвецкі выгляд. З правага боку чатырохкутніка з будынкаў на нелапой прагаліне стаяў паношаны, патрабуючы вялікага рамонту, дзеравяны, атаркованы будынак паравога млыну, лесапільні і крахмальнага заводу разам. Дзьве высокія бляшаныя трубы, пахіленыя ўверсе на бок, перасягалі сваім ростам вярхі паркавых ліп—разьзіраючы на мінулую ўласнасьць магнатаў Крэўскіх. Побач гэтага „прамысловага" будынку ляжала нелапое, паросшае плюшнікам і густою бросьняю, возера. Толькі пасярэдзіне яго маленькаю лужынаю выдавалася мясьціна каламутнай цёмна-алавянай вады.

Увесь гэты выгляд поўнасьцю кідаўся ў вочы кожнаму падарожнаму, які ехаў з мястэчка Кругі ў бок маёнтку Скуплі. Асабліва пекнай панарамай выглядаў ён з разгону чаты-

рох вярстоў, дзе мясцовасьць крыху паднімалася ўзвышшам. Нельга было, хто-б і не хацеў, пацікавіцца Скуплямі!

Ладымер Ложка, назначаны ў Скуплі мэханікам-рамонтшчыкам паравіка для млыну і лесапілкі і машын для крахмальнага заводу, ужо чуў многае аб гэтым саўхозе. Яму намалявалі Скуплі ў гэткіх ружовых фарбах, што ён мусіў кінуць адгаварвацца ад паездкі ў яго, што рабіў раней, калі толькі яго паведамілі аб камандзіроўцы, і сказаў сам сабе: «Папробую паехаць. Пражыву яшчэ год у глушы. Трэба-ж дасканала пазнаць провінцыю. Тым болей, што ўсё-ж, як кажа т. Сымонаў, там цікавае мейсца і добрыя варункі».

— Добра, я паеду, але ня больш, як на год; а пасьля году, дайце слова, што вы мяне вытрабуеце ў горад,—сказаў Ладымер Ложка начальству пасьля трохдзённых перагавораў.

— Усё зробім па вашай просьбе,—адказалі яму.

І Ладымер Ложка, нецярплівы па натуры, ня любячы розных адцяжак і валакіты, вярнуўся з установы на кватэру і паведаміў жонку, што яны заўтра-ж павінны выехаць у саўхоз Скуплі.

— Чаму гэта так нечакана ў цябе вышла?—сумелася Акіліна, яго жонка,—яшчэ ўчора баяў адно, а сёньня, глядзіш, ужо зусім іначай.

— Ды таму, ведаеш, Акіліна, што ўсе ўжо вельмі хваляць маёнтак, расьпісваюць, як казачны які і... радзяць паехаць. Пры гэтым я толькі на адзін год згадзіўся. Пасьля году мы абавязкова вернемся ў горад.

Акіліна недаверна матнула рукою і з сумненьнем у голасе адказала:

— Маняць табе. Ужо трэці год, як адзываюць цябе ў горад, а, тымчасам, усё яшчэ мусіш карпець у глушы, як воўк які. Людзі жывуць у горадзе, карыстаюцца тэатрам, могуць час правясьці ў вобчастве, а гэта... сярод цёмных сялян, як сярод зьвяроў... Слухай іх дробныя інтарэсы, плёткі, брахню, вынось іх няпрыхільныя адносіны да цябе, бойся адзецца па гарадзкому, каб ня ўпікалі. І гній—проста гній у непарушнай цішы...

— Кінь плясьці, ліха ведае што!—перабіў жонку Ладымер,—падумаеш, якая людная вельмі. Хапіла з цябе й гораду. Жылі-ж, здаецца, у Пецярбурзе гадоў з восем—можна было здаволіцца і вобчаствам і тэатрамі і ўсім іншым. А кончыцца год—ізноў можам паехаць у Пецярбург...

Ён зьмяніў тон у голасе:

— Ды, думаеш, у провінцыі так ужо дрэнна, як табе здаецца зараз? Кінь! Сялянства зусім не такое, як ты на яго глядзіш. Толькі трэба падыйсьці да яго з адкрытаю душою, адкінуць усё тое, што нам здаецца, становіць нас вышэй за іх.. Гэтыя тры годы рэволюцыі зусім перамянілі нашага беларускага селяніна. Дарма кажаш, што ён будзе разьбівацца на дробныя сплёткі, нагаворы ды іншае. Ня бойся — толькі ты трымай сябе роўнаю з ім, дык гэткае блізкае вобчаства знойдзеш у вёсцы, ці ў саўхозе, што й не падумаеш аб гарадзкім... А тэатры—сваімі сіламі нагонім.

— Ай, што ты кажаш, сапраўды. Забыўся ўжо, як жылі ў другіх мясцох. Многа ты dастаў прыемнага ў саўхозе Крушках? Усімі сіламі стараўся ўцячы адтуль. Задалі табе гэткіх тэатраў, што, нябось, доўга памятацьмеш. Найграў Гэндрык даволі... Тое самае будзе і ў Скуплях...

— Эх, цудная! Ці-ж можна мераць усё на адзін капыл!.. Мала што трапіўся гэткі чалавек, як Гэндрык; а ў іншым месцы іншыя людзі будуць. Бачыш—ці-ж дрэнна было нам у Капліцах? Усе патаварыску жылі, добра меркаваліся і гладка выходзіла. Нябось, думаю, ты-б ахвотна яшчэ там жыла. Тое можа быць і ў Скуплях. К гэтаму, яшчэ Скуплі недалёка ад мястэчка і можна будзе часамі наяжджаць... Так што, галубка, нечага сумаваць, а вось давай зьбірацца...

Акіліна змоўкла і прайшлася па каморцы. Пасьля нявыразным поглядам абвяла па сьценах і ўздыхнула так, што Ладымер Ложка раптам азірнуўся на яе й загарачыўся.

— Нядобра, беднай. Губіць многае, што пакідае горад. Падумаеш, шчасьце вялікае тут. Уздыхае,—прагаварыў ён упічна.

— Шчасьце—ня шчасьце, а вось цягайся з месца на месца, як цыганы. Месяц, калі вярнуліся ў горад, а тут ізноў складайся ды едзь... Якая ў гэтым радасьць. Кідаюць, нібы апуку з месца на месца...

Якраз на гутарку знадворку ўвайшла маці Акіліны з хлопчыкам, сынком Ладымера і Акіліны Ложкаў.

— Ня хоча йсьці ў хату ды годзе. Жулік гэтакі,—выказала старая, прысядаючы на крэсьле;—так любіць гуляць з дзяцьмі ў садзе, што ня дай ты рады.

— Будзе ўжо яму гуляць. Вось заўтра раніцаю трэба зноў ехаць у саўхоз,—адказала Акіліна.

— У які?—зацікавілася маці.

— У Скуплі некія, вёрст за пяцьдзесят адгэтуль... Аднекваўся, аднекваўся, і потым згадзіўся. Угаворны занадта.

— А што-ж, дачушка, парадзіш—прыказваюць. Служба—трэба выпаўняць... Ды чаго ты так няпрыхільна да гэтага? Чым тут лепш, як было ў Капліцах? Заўсяголаў ён. гэты горад. І так ён ужо абрыдзеў...

— Дык, ведаеце, нешта не пасуе ёй пакідаць гораду,— уставіў Ладымер.

— Мала што, а потым трэба,—падачна адказала старая.

— Пэўна, што трэба... Ды нават экстрана трэба. Заўтра-ж мусім выехаць. Аддзел падасьць коні к васьмі гадзінам раніцы. К гэтаму часу і павінна быць зложана, што ёсьць...

Гэта было сказана павяліцельна і рашуча.

Старая паднялася з крэсла і затупала па каморцы, аглядаючы і мяркуючы, як і што будзе зладжыць.

— Давай, Акілінка, будам складацца,—абярнулася яна к дачцэ:—не шкадуй гораду, не вялікая мацыя.

Акіліна нічога не адказала, а моўчкі падышла да ложка і выцягла з-пад яго адзін за другім два куфэркі.

— І ўсё гэта так раптоўна,—праказала яна.

— Для пасуды я ўнясу з хлявушка тыя скрынкі,—папярэдзіў Ладымер і вышаў з кватэры.

II.

Назаўтра акурат а восьмай гадзіне раніцы да кватэры Ложкаў прыехалі дзьве падводы з аддзелу. Ложкі ўжо былі сабраны, толькі Ладымер меўся забіць вечка скрынкі з пасудаю. Пачуўшы стук калёс, ён выбег на вуліцу і папрасіў фурмана памагчы палажыць на воз паклажу. Тыя ахвотна згадзіліся, і праз дзесяць хвілін уся маемасьць Ложкаў была ўложана, а праз другія дзесяць хвілін, усадзіўшы жанок і дзіця на воз, падвода рушыла.

Ладымер праз горад пашоў пехам з-заду падводы, паглядаючы на рэчы. Частыя пераезды з месца на месца прыкра адчуваліся на яго настроі, але на гэты раз ён быў спакоен і нават веселават. Ці яго супакойвала запэўненьне, што праз год яго здымуць са Скупляў і перавядуць у горад, ці яго суцяшала праслаўленьне гэтага саўхозу, Ладымер не даваў сабе адрахунку ў гэтым. Раздумоўваючы і плянуючы, як і заўсёды, наступную чыннасьць на новым месцы і абмяркоўваючы розныя мажлівасьці жыцьця ў Скуплях, ён час-адчасу чапаў у думках жонку і пасылаў па яе адрасу: «Цудная. усё ёй нядобра. Прывыкла к гораду, што ня дай ты рады, А што-б ёй паразмысьліць на ўсе бакі, зраўняць адно з другім—якаво-б тады! Дык не—надзьмулася, нібы я яе вязу на

якую кару. Бяда з гэтымі жанкамі! Іх ня кратае ні рэвалюцыя, ні яе аздараўляючы ўплыў. Так глыбока засела ў душу гэта заплесьненая мяшчанства. Дай ты ёй обчаства, трымайся далікатнасьці, манернасьці. Здавалася-бы й замудра пераняць было гэтыя панскія штукі, а, глядзі, усе іх ведае. Дзявочыя гады правяла на заводзе, мела дачыненьне з простымі людзьмі, а потым вылавіла ўсё да дробкі. Вось што знача кабечая натура».

Думаючы, Ладымер ускоса паглядаў на Акіліну, якая моўчкі сядзела на возе і нязьмігутна праймала вачыма паперадзе ляжачы шлях.

Яе маці, наадварот, была давольна пераезду ў саўхоз. Сваё здавольства яна выказвала ў нямоўчнай гутарцы то з хлопчыкам то з фурманом. Некалькі разоў, пакуль выехалі за горад, яна прапанавала Ладымеру сесьці на воз, а дачку прабавала выклікаць на гутарку.

Ладымер заўважваў гэта і паважнаківаў галавою, калі Акіліна нядбала адварочвалася ад мацеры.

Выехаўшы за горад, ён першы рашыў зачапіць жонку, каб разьвесяліць і ўверыць яе ў разумнасьці свае пастановы.

— Слухай, Акіліна,—абярнуўся ён да жонкі ў жартоўным тоне:—ты яшчэ не перадумала наконт нашага перасяленьня?

— Пакінь жартаваць,—сярдзіта агрызнулася Акіліна:—Паглядзімо, што з гэтага выйдзе. Наколькі ты разьлічыў. Каб ня прышлося заўтра-ж каяцца.

— Ці ліха! Няўжо-ж такі ў Скуплях нас чакае нешта нядобрае. Ня верыцца мне. Думаю, што ты ашукаешся.

— Нагаварылі, авось забачым, нядоўга чакаць.

Фурман, гадоў за пяцьдзесят мужчына, здаровы яшчэ і заўжды весела настроены, слухаючы спрэчкі Ложкаў між сабою, перш зьдзіўлена паводзіў галавою ды пускаў па твары, з рэдкімі барадою і бакамі, яхідную ўхмылку, а потым абярнуўся да Акіліны і шчыра загаварыў:

— Ведаеце, пані, мне здаецца, што вы зусім дарма кажаце. Слухаю я вашы словы і думаю—людзям дабро само бяжыць у рукі, а яны адвертываюцца ад яго. Гэта-ж каб мне здаралася пасяліцца ў Скуплях, я-б болей нічога не хацеў. Адна мясцовасьць чаго варта. А што ёсьць у саўхозе—паглядзіце. Колькі багацьця, як добра жывуць там людзі. У кожнага кватэра з двух-трох каморак; малака—колькі хоць, садовіна восеньню; настроіцца паравік—і мука свая. У панскіх палацах —ліха ведае колькі месца. Ёсьць салі—хоць гумно рабі—мо

на гоны вакол. Вось прыедзеце, зоймеце добрую кватэру і будзеце бога дзякаваць.

Акіліна нічога не адказала фурману. А Ладымер зацікавіўся і захацеў паслухаць яго думак аб Скуплях, аб іх становішчы, аб служачых, галоўным чынам, аб упраўляючым. Пры гэтым напрамак гутаркі фурмана, які хваліў Скуплі, па думцы Ладымера, добрачынна мог уплысьці на настрой яго жонкі.

— Ці табе, Гаўрыла, ужо даводзілася там быць?—запытаў Ладымер фурмана.

— Колькі раз... Ды я нават родам з таго месца. Мой бацька яшчэ быў нявольнікам у Крэўскіх. Мяне ўпіхаў за парабка, але я ня даўся. Прызнацца, змалку меў вялікую няпрыязьню да паноў, адварочвала мяне ад іх, ня ведаю чаму— але душа ніколі ня мірылася з іх быцьцём. Вось чаму, ведаеш, у пятым годзе я й падбіў аднавяскоўцаў на сечку лесу і на самаўпраўны рэквізыт хлеба... Ой, чаго было—й да вечара не раскажаш. І арыштавалі мяне, і дваццаць пяць адлічалі і выселіць хацелі з вёскі, кароў пан не дазваляў пасьвіць на сэрвітутных паплавох. Дзякуй ёй—вайна супыніла судовую цеганіну... А то-б, хто ведае, чым скончылася. Меў пан моцную руку—усё мог зрабіць з нашым братам. А цяпер дулю брат — Гаўрыла са шчырасьцю працягнуў убок граніцы выразна зложаныя пальцы:—паверыш, Ладымер, радуюся, што ўсё гэтак сталася. Хоць мне й ня прыходзіцца пакарыстацца яго зямлёю, але хоць працоўныя людзі карыстаюцца, а ня гэтыя каты.

— А чаму-ж табе, кажаш, ня прыходзіцца пакарыстацца зямлёю, чаму?

— Гэ, то ўжо мае асабістыя справы. З сям'ёю, ведаеш, у мяне вялікія нялады. Выжылі мяне з хаты і я мусіў астацца служыць. Хіба пасьля яшчэ наганю на сваё, а пакуль— бог з імі.

— Ну, а так, скажы, ты даўно бываў апошні раз у Скуплях?

— Даўно—два ці тры тыдні таму назад. Я-ж, бач, часта еджу туды. Надоечы заведуючага маёнткамі вазіў. На агляд, ці на рэвізію езьдзіў. Дзён тры прабыў там. Пахваліў упраўляючага саўхозам і рабочых... Ды ёсьць завошта, трэба сказаць; упраўляючы чалавек рупны, дбалы, дасьціпны хлопец... Сад дагледзіў добра, разьвёў галяндэрскую пароду кароў, розных добрых сартоў збажыны назасяваў, агарод паставіў—адна пацеха. З рабочымі ладзіць. Вось яшчэ адно—пусьціць паравік трэба—тады пярвейшы саўхоз будзе. Прыедзеш—наладзіш і тады—трымайся.

— А з вакольнымі сялянамі ўпраўляючы добра жыве?

— Хто яго ведае; пэўна-ж павінен жыць у згодзе. А чаго ім сварыцца. Сёлам зямлі троха ўрэзалі, далі лесу на будоўлю, а то й пашу выпускаюць... Як быццам-бы нічога благога з гэтага боку няма. А ў тым, хто яго ведае—усяго не падгледзіш. Вось наконт таго, як жывуць служачыя, то я неадонраз бачыў, што жывуць ня дрэнна. Таму-то мяне й зацікавіла гутарка твае кабеты. Не хацець ехаць у Скуплі—проста дзіва. Я-ж кажу, каб ды гэта на мяне, я-б пехам пашоў. З вашай службай там можна быць зусім незалежным ад упраўляючага; парабіў—і ня знай нікога... А жонцы—ніякае работы. Дагледзіла печы, наварыла мужу абедаць—і шпацыруй па парку, назад рукі залажыўшы. Пазірай на шаты дзяраў ды слухай салаўя ці павука. Сельскім кабетам—іншая рэч: не папрацуеш—то і не зьясі, а гарадзкім—на ўсё напляваць. Муж—майстар, заробіць і гатовае прынясе.

— А каб ты цяміўся, Гаўрыла,—ня ўцерпіла старая;— І ўмееш-жа ты разводзіць лясы. То-ж і гледзячы на гарадзкіх трэба разьбірацца: адна любіць спацыраваць, назад рукі залажыўшы, а другая зусім іначай—нойдзе работу ў хаце.

— Ай, кіньце ўжо; хто-хто, а я сёе-тое ведаю; мне ня трэба расказваць. Но-ой-дзе-э! Дзе яе нойдзеш, калі няма...

Яны пад'яжджалі к нелапой рэчцы, якая замыславатымі выкрутасамі вілася праз шырокі гал поплаву. Там-сям, бліжай і далей, выдаваліся з зелені алавяныя плямы вады, зусім, здавалася, ня злучаныя адна з другою. Дробны кустарнік, купамі і градкамі, даглядаў за рэчкаю і, нібы тычкі, адмячаў яе шлях. Рэдкія алешыны ўбіралі сабою зялёны, пажаўцяны курасьлепам і бялянкамі, поплаўны прастор. Недалёчка ўперадзе стаяў лес. Быў полудзень. Распаленае сонца стаяла ў самым высокім месцы дзяннога прайходу і неміласэрна пякло. У яго прыску губіўся чуць-чуць прыметныподух ветра; запечаная расьліна стаяла нярухома, моўчкі, быццам зьвязаная неабачнымі ланцугамі. Парнае паветра растапляла расьлінны пах, разбаўляла яго ў сабе і наганяла снатворны водыр. Паказвалася, нібы густы пыл насіўся між зямлёю і небам, брудзячы нябесную лазурковасьць і ўючыся рэдкім воблакам пад сонцам. Крычалі кані, але так гультайна, як-бы несхаця, рэдка, ня могучы доўга лятаць. У такім-жа настроі выгуквалі сваё зацяжнае, вякі аднатоннае „но-о, но-о, но!“ аратыя; марудна, як назаўтра трэба, рухалі яны ўсьцяж ніў.

Коні пусьцілі пот і нясьціхана трасьлі галавамі. Іх ра-

тавала сіла, якая сабралася на добрых харчох зямельнае ўстановы. Не прыкмячаў толькі гарачыні фурман Гаўрыла. Ён ішоў пры возе роўным бадзёрым шагам, гутарыў з Ладымерам і памахваў пужкаю над канём. Старая паношаная жукетка з шэрага дэматканага сукна была падпяразана канаплянаю аборкаю, а пры стрыфлях троха разгорнутая—„каб заходзіў за пазуху вецярок“. Смуглы твар Гаўрылы з прыемнасьцю ўбіраў сонешняе цяпло і выпускаў яму настрэчу лёгкую здавальняючую ўхмылку.

— Вось тут трэба настаражыцца,—прагукаў Гаўрыла, калі коні пахілілі крыху ўправа, каб накіраваць на мост:—Дагэтуль яшчэ масты не папраўлены. Вось нядбаласьць, ніякае ўвагі. А гэта-ж уночы едучы цэлая бяда можа здарыцца: чуць аглядзеўся і—з возам ляпнеш у рэчку. Каб гэта я стаў намест нашага самага глаўнага камісара, дык зразу ў першую чаргу распарадзіўся-бы паправіць шляхі. Трэба-ж прывесьці ў парадак патроху гэтыя жылы краю...

Гаўрыла ўподбег апынуўся пры конях і хапіў за дышаль. Коні зразу сталі, адно страсанулі возам.

— Ой, памалу, а то яшчэ павернуць воз,—спалохалася Акіліна і хапілася аберуч за аглабіню. Ладымер спрытна выскачыў з воза і таксама ўзяўся за канец аглабіні.

— Ня бойся, коні прывыклі хадзіць, ім не навіна,—суцешыў ён жонку.

Суцяшаючы коні, Гаўрыла акуратна ўзьвёў іх на вузенькі, з хваёвых, ня прыбітых к балькам круглячкоў, масток, і, раз-по-разу водзячы поглядам узад і па бакох, пераехаў на другі бок.

— Ну, цяпер у мяне нібы пяць пудоў спала з плеч,—праказаў Гаўрыла, пусьціўшы йзноў коней вольнымі.—Кожны раз, ведаеце,—абярнуўся ён да кабет і Ладымера разам,—кожны раз прыходзіцца трасьціся, пераяжджаючы гэтыя масты. Вось-вось няшчасьце, вось-вось няшчасьце... Надоечы, дык, каб вы зналі, чуць-чуць ня выкупаў камісара. І неспадзявана зусім. Ехалі, як ехалі, ладам, добра, а толькі намерыліся пераяжджаць гэты самы паганы масток—на табе—прымха. Коні на мост, а бусел, на яго ліха, пырх вунь з-пад таго куста —аж коні пырск, затупалі, хільнулі галовамі і вось-вось—ня ведаю сам, што затрымала іх—скочылі-бы ў ваду... Тут і я ня струсіў—скочыў, да за цуглі—стойце. Але камісара так таўханула, што ён павярнуўся на возе і шапку ўпусьціў у рэчку... Вось вам, што значаць масты. Я прыдаю ім вялікую-вялікую значнасьць.

— Калі, браце, нельга ўсяго зараз залапіць,—разуважыў

Ладымер:—Савецкаму правіцельству столькі разбуранага дабра засталося, што няма сіл наладзіць зразу ўсё. Пэўна-ж, шляхі ў першую чаргу патрэбна наладзіць—то зразумела. І іх наладзяць...

Пакуль яны гутарылі, коні прыпыніліся.

— Што-о сталі! Но-о-о! Вось у Скарбаве зробім папаску. Не падохнеце. Цяжар вялікая, падумаеш. Даўно пугі ня спыталі.

— А колькі ўжо вярстоў мы праехалі? — пацікавілася Акіліна.

— Палавіна якраз. Дваццаць з лішкам вярстоў.

— А мне здаецца, мы праехалі мо' каля трыццацёх вярстоў,—выказалася Акіліна маці.

— Ого, толькі дваццаць, панечкі. То не на чыгунцы, што маргнуў вокам—і няма вярсты. Вось длыгаюць, як сонныя; пакуль вярсту ўбяруць у гэткую гарачыню—то ня жарты... А тут, пэўна-ж, трасецца, на яго ўсё ліхое,—пасьмяяўся Гаўрыла і хітра адвярнуўся ўбок...

— Но-о-о! Яшчэ трохі!—адпачынем за ноч!

III.

У Скарбаве яны папасваліся каля гадзіны і кранулі далей гадзін у тры па палудні. Коні супачылі і пашлі жвавей, тым болей, што праз хваёвы лес дарога была гладкая і ня так пякло. Да мястэчка Кругі праехалі не шманаючы: то гутарылі, то разьзіралі вакольныя палеткі.

Акіліна, перамаўчаўшыся за паўдня, таксама прыняла ўдзел у гутарцы; у яе адлягло ад сэрца, надышоў інакшы настрой, нечакана бадзёры, няўтрымны. Адкульсьці сыпнуліся ў галаў розныя спадзеўныя думкі; закалыхалася ўражаньне, успаміны. Саўхоз, ненавідзімы ўчора і праціўны сёньня зранку, пачаў малявацца ёй куды ў багацейшых фарбах, ніж паказваў яго ў сваіх гутарках ды ва ўгаворах яе Ладымер. Парк, агарод, сажалка, добрая кватэра... Зжывецца з рабочымі саўхозу, з сялянамі вакольных вёсак. Будзе хадзіць у госьці, частавацца бухонымі грэцкімі блінцамі са сьмятанаю. Гаварыцьме з сялянкамі аб гарадзкім жыцьці па нядзелях на прызьбе... Можна будзе пастроіць тэатр і ладзіць спэктаклі. Пэўна-ж, у Скуплях ёсьць падобныя ёй жанкі, мо' ўпраўляючага саўхозам, канторшчыка, садавода...

Ужо недалёка ад м. Кругі, калі перарвалася гутарка. Акіліну спотайку чапіла знаёмае ёй глухое, нявыразнае жаданьне сустрэць у Скуплях і інтэлігэнтнага прыгожага муж-

чыну, ну хоць бы схожага з тым, якога яна калісьці, будучы дзяўчынай, спаткала ў Паўлаўскім парку і аб якім ужо доўга марыла. Мігам аднавілася ў яе лятуценьнях цэлая нізка пекных дарагіх вобразаў—з дрэвамі, квятамі, пацалункамі, дзявочымі марамі... Усё гэта паціху прыблізілася ізноў да яе, агарнула яе істоту, заваражыла душу, і Акіліна выразна пачула жывую асалоду мінуўшай пары. Бязвольнай, чулася ёй, нясе штось яе настрэчу мінуламу... Але раптам усё абарвалася, калі Ладымер хапіў яе за руку і праказаў:

— Глядзі, Акіліна, як пекна выглядаюць Кругі!

Акіліна кінула зіркам уперад сябе і спынілася на зялёным даху цэрквы, на дзьвёх вежах касьцёлу, на купцы новых хатак і гумнаў мястэчка.

— Так хутка й мястэчка Кругі? — зьдзівілася Акіліна.

— Як бачыш; завідна будзем на месцы.

— Куды, яшчэ й сонца ня зойдзе,—паправіў Гаўрыла.

— Вярстоў трынаццаць будзе яшчэ,—дадаў Ладымер.

— Што ты, меней,—не згадзіўся Гаўрыла:—вось заедзем за Кругі, мінём Клінцоўскі лясок, і пакажуцца Скуплі. Пабачыце, як прыгожа выглядаюць. Ня будзеце каяцца, пані, што перасяляецеся з гораду. Успомніце мае словы.

— Дай божа, каб было павашаму,—пажартавала Акіліна.

— Вось я ўжо прыкмячаю, што маладзіца весялей становіцца. Чым бліжай, тым весялей. Гэтак і трэба...—не астаўся ў даўгу Гаўрыла.

Ладымер і старая пераглянуліся і паківалі галавамі.

Цяпер ужо Ладымер бачыў у жонцы выяўную перамену і дзівіўся Гаўрылу, што той праўду сказаў.

— Цікавы, аднак, чалавек ён,—падумаў аб фурману Ладымер:—гаваркі які, людны. Жыве і нічога ня дбае, вясёлы, рэзвы. Рэдка пападаюцца гэткія людзі сярод нашых сялян. Усе яны некія скрытныя, патайныя, а гэта...

— Вось з табою, Гаўрыла, я-б ня скучыла край сьвету ехаць,— падлісьціла старая.

— А я з вамі—хоць у Амэрыку. Я таксама люблю езьдзіць, ды яшчэ калі з добрымі людзьмі-ы.

За гутаркаю, аб усім і пра ўсё, яны прамінулі Кругі, бліжэйшыя вёскі, Клінцоўскі лясок і выехалі на гал. Мясцовасьць лёгкім скатам паднімалася ўверх. Направа й налева пачыналіся лясы, пры якіх мясьціліся засьценкі.

— Гатоўцеся глядзець на ваш прытулак,—папярэдзіў Гаўрыла:—вось узьедзем на гэты грудок (ён паказаў уперад пугаўём), і ён гляне на вас мілым выглядам. Н-но-о-о, малыя!

Акіліна настаражылася і пранізвала вачмі перадляжачы разгон. Яна ўжо забыла пра горад, а перажывала ўсё тое, што яшчэ ўчора перажыў яе муж. Ня сходзіла з думак гаспадарская пляновасьць, мяжуючыся з неадходнымі пяшчотнымі думкамі-марамі. Акіліна меркавала і разьлічвала, комбінавала так і гэтак. Пераб'е хто яе гутаркаю, а сьледам ізноў тыя-ж думкі і намеры, аж пакуль ня ўехалі на ўзгрудак, з якога вызначыўся поўны малюнак Скупляў. Яго, сапраўды, багаты хараством выгляд перабіў і гутарку Ладымера з старою цешчаю ды з Гаўрылам і думкі Акіліны. Усе, як адзін, упырыліся поглядамі на белы будынак палацаў з вежкамі, на густы вялікі парк, на пляму вады ў возеры, на струнку роўных, стройных, ядрых топаляў, абнімаючых дарогу перад маёнткам.

Быў адвячорак. І нагрэтае дачырвана сонца, вяшчаючы пагоду й назаўтра, убірала ўсё ў чырвоны колер. Белыя сьцены палацу здаваліся ружовымі, а ў шэрагу яго готычных вокан ігралі казачныя залаціста-блішчастыя зайчыкі. Сонца адбівалася і ў вадзе возера, якое выдавалася з гушчы зелені, прыдавала асаблівы выраз зелені парку і малявала ў вачу Акіліны нялюбыя Скуплі—вэнэцыянскаю вілаю. „Сапраўды нешта асаблівае,—падумала яна, ня спускаючы з саўхозу воч,—зусім непахожае ні на Капліцы, ні на Крумкі. Можа й шчасьліва, што доля гоніць сюды“. Акіліна ня ўтрымалася, каб ня выказаць свайго пачуцьця ў голас.

— На яго ліха, пан, як добра абстроіўся. Вось каму было райскае жыцьцё, да дзіва, што яны рукамі й зубамі трымаліся за стары лад...

— Ня тое, што зараз,—дадаў Гаўрыла:—сядзі дзе-кольвечы ў Варшаве і думай аб заўтрашнім дні. Не пашле Тадоры ці Паўліны, каб даставіла з кладоўні заморскіх він, дзічы ды розных далікатэсаў... Адно тупне—і ўсё перад табою.

— Ды чорт іх не пабраў,—не згадзілася старая:—яны, бадай, і цяпер лепш нашага жывуць. Зьбіралі гадамі золата, а ўцякаючы пахапалі і цяпер праядаюць яго.

— Можа, чаму не, але ня той, чуеце, ужо гонар. Есьці—есца, а астаткі не папаўняюцца... Тры гады мінула—можна праесьці добры капітал...

Гутарачы аб долі паноў, яны паціху прыехалі ў саўхоз Скуплі.

## IV.

Уехаўшы на дзядзінец саўхозу, Гаўрыла прыпыніў коні акурат перад параднымі дзьвярыма быўшага панскага па-

лацу. Ладымер кінуў усіх і пабег у будынак шукаць упраўляючага саўхозам. Акіліна з мацерою і сынком прыселі на ганку і з цікавасьцю вадзілі паглядамі вакол па дзядзінцы. Фурман уходжваў каля коней, вытрахаючы ім сена і расьпяразваючы падсядзельнікі.

Хутка з усіх канцоў дзядзінцу пачалі сходзіцца да іх рабочыя і служачыя саўхозу, жанкі і дзеці. Падыходзячы, кожны даваў „дубр вечары“, пасьля разглядаў прыежджых, іх маемасьць і коней. Перш мігамі пераглядаліся між сабою, далей пачалі перакідацца словамі і, нарэшце, перайшлі да распытаньняў. З гутаркі выявілася, што амаль ня ўсё насяленьне Скупляў ведала, што да іх павінен прыехаць майстар, механік з сям'ёю. Якраз яго й чакалі гэтымі днямі. Хто такі ён, гэты майстар, яны, вядома, ня ведалі і зараз было цікава пазнацца з ім.

Цікавасьць да кожнага новага чалавека, які наведвае глухія куткі ў краі, асабліва гостра адчуваецца ў яго жыхароў; тым болей падвышаецца зацікаўленасьць, калі сьвежы чалавек мае стаць судзельнікам, як-бы семянінам данага кола людзей. Тут ужо паднімаюцца наповерх матывы прыватнага характару, зьвязаныя з будучымі ўзаемаадносінамі, з умовамі службовага падчыненьня і іншымі жыцьцёвымі вымаганьнямі. Адпаведна таму, як хто выяўляў сабе будучае сужыцьцё з таварышам-механікам, так той і строіў сваю гутарку на гэту тэму, стаючы каля ганку.

— А мы ўжо чакалі-чакалі вас, ды думалі вы не паедзеце,— казаў праворлівы, нізенькі рабочы, ліслíва паморгваючы вачыма.

— Так, бяз майстра тут нічога не паробіш. Глядзі— браўся сьлесар, каваль майстраваў цэлымі тыднямі, а ці вышаў які толк? Тут трэба веды. Кажуць-жа нездарма, што дзела майстара баіцца. Вось пабачыце, як закруціцца фабрыка, калі прыложыць да яе свае рукі механік. Тут сьмікалка патрэбна,—хітра навучаў другі рабочы з шырокім адчыненым тварам, на якім нязьменна стаяла нявыразнага сэнсу ўхмылка.

— А дзе-ж сам механік?—запытаў сівенькі дзядок.

— Пашоў да ўпраўляючага, трэба-ж наведаць голаву саўхозу. Без яго, як бяз прашпарту—не абыдзешся,—ні то паясьняючы, ні то гіронізуючы на ўпраўляючага, паведаў рабочы з шырокім тварам.

— Ды начаваць-жа людзям трэба. Здарожыліся,—дадаў першы:—пэўна-ж ім яшчэ кватэра не адведзена?

— Ды будзе кватэра—мур вялікі, на два поверхы. Увесь жа ён не патрэбуецца для ўпраўляючага з канторшчыкам.

Шырокатвары ня скончыў: уся грамадка азірнулася налева і змоўкла. З-пад аборы проста к ганку йшоў чыста адзеты малады чалавек, памахваючы дубчыкам.

На нагах у яго блішчэлі чорныя гэтры, а добра сшыты фрэнч, зацягнуты ў талію, прыдаваў яму форс.

Падышоўшы к грамадцы, малады чалавек паглядзеў на ўсіх, зьлёгку ўхмыльнуўся і пашоў на ганак, прыглядаючыся на Акіліну.

— Таварыш Цыбулін, гэта-ж да нас маханік прыехаў!—паведаміў хтось з грамадкі.

— Бачу-бачу,—кінуў Цыбулін і хацеў увайсьці ў дзьверы, як з дзьвярэй настрэч яму вышаў Ладымер.

— Ці не канторшчык вы будзеце?—запытаў ён Цыбуліна. Я маханік Ложка—тут мне ўпраўляючы напісаў, каб вы мне далі месца, дзе пераначаваць, пакуль уладзіцца з кватэраю.

Цыбулін ухапіўся за галаў, хвілінку пастаяў і адказаў.

— Так, я канторшчык. Вельмі рад. А дзе-б вас памясьціць нанач?.. Добра, я зараз...

Ён зьбег з ганку і пашоў к супроцьлежнаму будынку. Некалькі чалавек з кучкі правялі яго яхіднымі паглядамі, перасьмяяліся адзін з другім і абярнуліся на Ладымера.

— Да тут можна пераначаваць дзе хоць: ёсьць вольнае памяшканьне. Хоць і ў мяне,—запрапанаваў шырокатвары, аглядаючыся.

— Таварыш майстар, аб гэтым няма чаго клапаціцца, канторшчык расшукае—ён у нас хлопец прыткі і праворны—дадаў стары:—Абы на вечар пасьпелі прыехаць, пакуль усе на дварэ.

— А то ў вас хутка спаць лажацца?—зьдзівіўся Ладымер, сышоўшы з ганку і прыпыніўшыся каля возу.

— Ня тое, каб лажыліся, але-ж кожны мае свае дамашнія клапоты і заняты імі.

— Ня дай бог, як заняты!—перабіў малады дзяцюк, касаваты, але з мілым выразам твару—з падранаю жукеткаю на акідку, у шапцы без казырка. Нехта-б падумаў, што праўду кажа... Не патурайце, таварыш майстар, ён штодня да поўначы цягаецца па дзядзінцы і мы ўсе дзівімся, што ў яго ніякага клопату няма...

— Кінь, блазьнюк,—раззлаваў стары, сярдзіта замахаўшы перад дзяцюком рукамі і ўвесь затросшыся:—лезе, ліха яго

ведае, куды й зачым. Не глядзіць—свае тут ці чужыя, а гыркаецца, плюгавец.

— Дай-дай, Ахрэм! Дай-дай... пад'юшыў жартоўна доўгі час маўчаўшы Гаўрыла: —Трэба трымаць у руках маладых; не пашкодзіць, потым падзякуюць... Грамадка ў голас разрагаталася, ажно адгалос пашоў па ўсяму дзядзінцы.

— Папаўся, Даніла, ага?—кінулі яму некалькі чалавек.

Гутарку якраз перабіў вокліч Цыбуліна, які чуўся з супроцьлежнага боку дзядзінца.

— Таварыш Ложка! Едзьце сюды, таварыш Ложка!

Служачыя й рабочыя пераглянуліся адзін з другім, пэўна, дзівячыся з прозьвішча Ладымера, а пасьля расступіліся і далі дарогу коням, якіх Гаўрыла ўраз-жа рушыў з месца.

Ладымер пайшоў паперадзе, жонка з мацерою і дзіцём ззаду. Усьлед, крыху наводдаль, пашло некалькі жанок і дзяцей; мужчыны, абгаворваючы розныя пытаньні ў зьвязку з прыездам майстра, разыходзіліся па хатах.

На дварэ цямнела й цішэла. Толькі зрэдку выкрыкваў пастух, разганяючы ў стадоле кароў па мясцох, да ціха перакрэктвалі гусі ў хлявушку. З-за парку, у бок возера, даносіўся водгалас вясковых. Вось чаму выразна была чутна па ўсяму дзядзінцы гутарка Цыбуліна з Ладымерам.

— Гэту ноч пераначуйце тут, хоць крыху й несамавіта, але на скорую руку. Выбачайце ўжо,—перапрашаў Цыбулін.

— Што-ж зрабіць, перакідаемся як-кольвечы, калі няма лепш... Вось яшчэ-б з нашым фурманом: ім таксама патрэбен начлег... Зрабеце ласку, уладуйце...

— Уладуем. З ім лягчэй. Пакормім і дамо начлег.

Цыбулін хвацка закруціўся і дзесь ізноў пабег. Гаўрыла з Ладымерам пачалі зьнімаць з воза і ўносіць у хату Ложкавы рэчы.

## V.

Назаўтра а восьмай гадзіне раніцы, калі яшчэ сям'я смачна спала, Ладымер Ложка падняўся з пасьцелі, адзеўся і пашоў да ўпраўляючага. Ладымер надумаў за дзень уладуваць з памяшканьнем, аглядзець паравік і пачынаць работу.

Ён ад натуры быў чалавекам руплівым, працаахвочым і ня любіў ні трошкі аставацца бяз дзела. Калі браўся за работу, то ні на міг адзін не адрываўся ад яе, ці робячы рукамі, ці плянуючы ў думках. Ладымера цешыла, што ён вядзе «працэс» будаўніцтва, што ўкладае ў працу машыны жыцьця часьцінку свае энэргіі, ведаў. Але яго непакоіла нявыраз-

насьць становішча, і кожны раз перад тым, як пачаць работу на новым месцы, ён лічыў патрэбным забясьпечыць сябе з боку асталяваньня. Ладымер лічыў немажлівым сур'ёзна аддацца працы, калі хоць што-небудзь адцягае ад яе яго ўвагу, яго думкі.

Прышоўшы на кватэру ўпраўляючага, Ладымер не застаў яго ў дому. Нейкая кабета сказала яму, што таварыш Парог вышаў на гарод.

— Выйдзіце, вось сюдэю, і вы яго там угледзіце,—параіла яна, паказаўшы Ладымеру выйсьце.

Ладымер вышаў і тут-жа каля муроў, між расьлін, угледзіў упраўляючага. Той з асаблівай цікавасьцю корпаўся над пуком насенных буракоў і капусты, перапінаючы вяровачкаю ад калка да калка, каб насеньнік не пахіляўся. Упраўляючы да таго быў аддадзены рабоце, што нават не пачуў, як стукнуў Ладымер дзьвярыма, і ня прыкмеціў, як ён вышаў з трохуступнага ганачку. Ажно сумеўся ад нечаканага выклічу, які падаў Ладымер, не даходзячы крокаў чатыры:

— Таварыш Парог, добрае раніцы!

Упраўляючы раптам адхіліўся ад насеньніка і абярнуўся да Ладымера.

— А! Таварыш Ложка, здрастуйце! Як спалі? Што так рана прачнуліся?—адказаў Парог, усё яшчэ ня могучы кінуць работы і водзячы вачыма з насеньніка на Ладымера ды назад:—А я вось, бачыце, што-раніцу так надзвычайна люблю ахайваць расьліну... Дзякуючы мне, глядзіце, так разбуяў гарод. Шмат працы палажыў. Калі хочаце, давайце пройдзем вакол і я вам пакажу?

— Цікава, цікава! —шчыра адказваў Ладымер:—з вялікаю ахвотаю пагляджу, толькі... таварыш Парог, я-б хацеў наконт кватэры ўладаваць, а то, ведаеце, мне будзе рупець гэта і адбіваць ад усяго ахвоту... А так я шчыра рад мець таварышам гэткага, як вы, старэннага чалавека; я разумею, што з людзьмі, каторыя ахвотна і шчыра аддаюцца справе, мы скора адбудуем наша гаспадарства...

Упраўляючы быў палішчан словамі Ладымера і, забыўшы аб напамненьні ім пра кватэру, адышоў ад яго к другой купцы расьлін і загаварыў:

— Вось гэта тырольская капуста. А гэта цукровыя белыя буракі. На дзіва ўдаліся... А вунь там далей—памідоры скорасьпелыя...

— Так, так... Выбачайце ўсё-ж, таварыш Парог, я-б папрасіў вас наконт кватэры.

— Ах, я забыў,—прабачыў упраўляючы і сьпешна павярнуў к ганачку:—ідзем, калі ласка, ідзем, я вам пакажу памяшканьне.

Яны ўвайшлі ў будынак. Парог заскочыў у сваю кватэру, узяў ключ і павёў Ладымера па вітым драўляным усходам на другі паверх.

— Тут, якраз асобна ад другіх, ход па калідору, маюцца тры пакоі. Дагэтуль іх ніхто не займаў, бо трэ' крыху прыбраць, абгледзіць, падстроіць. Для вас, памойму, зусім падходзіць,—казаў упраўляючы, паціхай адпіраючы дзьверы:— праўда, пуставаты, вось бяда. Няма адкуль мэблі ўзяць—усё разламалі, раскралі, пабілі... але можа што-кольвечы нойдзем, а рэшту вялю сталяру, то ён зробіць.

Парог адчыніў дзьверы. З шырокага, з высокай стольлю, пакою на пяць вокан панясло сырасьцю і затхласьцю. Ладымер скрывіў нос, зацягнуў нявыразным зыкам і абглядзеў вакола сьцены, столь, падлогу.

— А другія дзьве каморкі?—запытаў ён у Парога.

— Уласна кажучы, яшчэ адна, там направа, а другая была выгараджана з гэтай вялікай; вось-вось, на тым месцы. Цяпер дастаць дошчак і можна будзе аднавіць сьценку... А вунь у тым куце паставіць печ, і цэлая кватэра... Пэўна, трэба палажыць трохі часу і працы, пакуль прывясьці ў належны лад. Вы ўжо выбачайце...

Ладымер пакорпаў нагою пыл на падлозе і зьдзіўлена пакруціў галавою:

— Тут ня трохі, а многа трэба часу й працы палажыць! Але, што-ж зрабіць. Я люблю папрацаваць... Добра, няхай будзе за мною... А пакуль, дзён тры пэўна-ж, ня выганіце адтуль,—праказаў ён.

— Чаго! Тым болей, што я ўверан, што вы хутка ачысьціце тут! Я вам людзей дам... Так... Ну, дык вось вам ключ,— упраўляючы перадаў Ладымеру ключ. Той замкнуў каморку і пашлі з упраўляючым уніз.

— Цяпер давайце пойдзем на паравік,—запрапанаваў Парог.

— Давайце.

Яны вышлі праз парадны ход на дзядзінец.

Цёплае яскравае сонца так і абдало іх сваім праменьнем, асьляпіўшы вочы пасьля цёмнага калідору і ўсходу на другі паверх, кудэю яны прайшлі.

На дзядзінцы бегалі дзеці ў доўгіх шарачковых забруджаных кашулях, гергяталі гусі, шчыпаючы зялёную мураўку паўз плоту, і давольнымі валяліся ў пяску паўгадавалыя парасяты.

Ладымер з цікавасьцю, вартаю клапатлівага гаспадара, пазіраў на бесклапотныя стварэньні, зусім ня слухаючы Парога, які тлумачыў яму пароду гусей, вартасьць сьвіней і будучую ад іх карысьць для саўхозу і рэспублікі.

— Бязумоўна, гэта карысная рэч—жывёлаводзтва,—кампэтэнтна заўважыў нарэшце Ладымер, адвярнуўшыся к Парогу:—трэба разводзіць, я прыхільнік гэтага.

Сказаўшы, ён павярнуў галаў направа к будынку, дзе начаваў і ўгледзіў, што пад вакном стаіць канторшчык, а ў вакне яго жонка, гутарачы між сабою. Ладымер перш зьдзівіўся і дапусьціў колкую думку, але тут-жа быў адцягнут словамі Парога:

— Сюды, вось, таварыш Ложка, пойдзем праз сад, сюдэю бліжай ды па дарозе я сумею паказаць вам сад... Шкода толькі, што я яшчэ ня еўшы...

— Я таксама. Ды прызнацца, ужо хочацца. А ў вас, пэўна, тут нечага дастаць?—пацікавіўся Ладымер, пералазячы платы.

— Так, трудна; апроч малака амаль што нічога нельга дастаць. Ведаеце, адкуль-жа яно будзе. Мяса й сала купляем у Кругох. А калі ў каго й ёсьць, то для сябе... Выбачайце,—перабіў самога сябе Парог;—я зусім забыў вам паказаць яшчэ салю, дзе я думаю зрабіць тэатр... Ведаеце, зразу не разарвешся на ўсё. Трэба й тое, трэба й тое, а без тэатру, прызнацца, і нуднавата ў нас, у глушы. Зрэдку езьдзім у мястэчка, але ўсе ня паедуць і часта не паедзеш, а тут-бы можна было спэктаклі ладзіць і вясьці культурную працу... Да бяда—не з кім, таксама... Вось зойдзем...

Парог павярнуў направа і вывеў Ладымера к балкону ў сад, з якога калісь паны Крэўскія любаваліся клюмбамі кветак, сажалкаю і маладым садком. Па шырокім многаступенным ганку яны падняліся да шырокіх шкляных дзьвярэй і ўвайшлі ў салю.

— Вось тут колісьці паны рабілі балі. Бачыце, колькі прастору, які тэатр можа быць, і выгляд добры... Я ўсё зьбіраюся зрабіць сцэну, ды што-ж—адзін...

— Я вам памагу, таварыш Парог,—шчыра выказаў Ладымер, здавальняючым паглядам абводзячы прастору вялікае салі.—Чаго-ж хацець, тут можна добрую сцэну ўстроіць! Вось к тэй сьцяне, а з тае ўваход. Памесьціцца, думаю, чалавек да трохсот. Я вам памагу... Я так люблю гэту справу!

Ладымер выкінуў с памяці тое, што ня еў, забыўся, куды

йшлі, і ўвачавідкі цешыўся будучым тэатрам, які ён паставіць на належную вышыню і зробіць асяродкам культурнай працы.

Трэба к выпадку адмеціць, што, па словах Ладымера, ён змалку меў цягу да мастацтва, некалі прымаў удзел у любіцельскіх спэктаклях у сваім мястэчку, пасьля, выехаўшы ў Пецярбург і ўступіўшы ў культурна-асьветнае рабочае вобчаства, іграў у рабочым клюбе; а з часу ўзвароту на бацькаўшчыну, пасьля кастрычнікавай рэволюцыі, езьдзячы па саўхозах, першы ўсюды наладжваў тэатральную справу. Таксама прывучаў ён да акторства й сваю жонку Акіліну, якая, праўда, невялікую ахвоту мела да частых „выступленьняў", але для markнастайнасьці не адказвалася выпаўняць просьбу мужа.

Рашыўшы ехаць у Скуплі, Ладымер, між усім іншым, меў у воку павясьці ў іх шырокую культурную чыннасьць. За два гады жыцьця па саўхозах ён убачыў, што з яго хоць і невялікімі ведамі, але з гарачаю ахвотаю, можна прынясьці вялікую карысьць цёмнаму сялянству. Гэту карысьць ён бачыў у правядзеньні сярод сялян культурнай працы, галоўным чынам, праз організацыю тэатраў. Мітынгаў Ладымер не паважаў і ня бачыў ад іх тае карысьці, якую, па яго, дае тэатр.

І вось, угледзіўшы вялікую салю, самае важнае для заснаваньня тэатру, Ладымер увесь растаў ад душэўнага ўміленьня і раптам захапіўся думкаю, каб якнайхутчэй яго наладзіць.

Упраўляючы зваў яго йсьці ў сад, а там у паравік, знарок выходзіў на ганак, пасьвістваў і злаваў, што траціцца час, а Ладымер і не зважаў, як нібы та той—хадзіў па салі, вымяраў шагамі даўжыню й шырыню, плянаваў выгляд сцэны і нават перакідаў думкамі назовы розных беларускіх і расійскіх п'ес.

Так прайшло добрых паўгадзіны, прайшло-б і болей, каб Ладымеру не памяшалі жонка з канторшчыкам, якія прышлі к ім, каб разам пайсьці агледзіць саўхоз.

— А мы вас шукаем, а мы вас шукаем!—з наданай рэзвасьцю не праказаў, а прагукаў канторшчык.

— Уладзя, ты-ж яшчэ нашча, мо-б пашоў чаго перакусіць?—ад сябе запрапанавала разьвясёленая Акіліна. Ладымер хмурым паглядам акінуў жонку й Цыбуліна, прамаўчаў момант і суха адказаў:

— А вы-ж там нашлі што паесьці, ці і ты галоднай бегаеш з таварышам Цыбуліным?

— Я, ды мы ўсе, сяго-таго зьелі пакрысе. Я дастала ма-

лака, а яец і сала троха было, і сьпякла яешню, а то наварыла заціркі.

— А Паўлусік як гуляе?

— Даўно я яго абвадзіла па ўсяму дзядзінцы; ён усё прасіўся к табе...

— А чаму-ж не ўзяла?

— Пасьля ён найшоў кампаньню і не захацеў ісьці... Там мая маці з ім. А я з таварышам Цыбуліным прышлі сюды, каб разам пайсьці аглядзець саўхоз... Хадзем-жа, чаго ты тут марудзіш...

— З Цыбуліным?—папракнуў Ладымер і раптам, каб не стварыць гэтым папрокам абвостраных стасункаў у неналежным месцы, перайшоў на другое:

— Паглядзі, Акіліна, які добры тэатр будзе. Я проста адарвацца не магу; тут трыста чалавек памесьціцца... Гатуйся—хутка мусіш вывучваць ролю.

Прапусьціўшы першае слова мужа, Акіліна наконт тэатру адказала:

— Ды я ведаю, цябе й цягнула ў Скуплі для гэтага... Не зацягайся пакуль у тэатры, перш давай аглядзецца, уладаваць з кватэраю, прыняцца за работу, а тады ўжо тэатры...

— Кватэра ёсьць—толькі што аглядалі; прыбяруць трошкі і можна будзе перасяляцца... А з работаю таксама не апозьнімся.

Акіліна размаўляла з мужам і бясьціханна наглядала за Цыбуліным, які на ганку аб нечым перагаварваўся з Парогам. Хвошчучы дубчыкам па гэтрах, Цыбулін здавальняюча ўсьміхаўся і касіў вачыма праз дзьверы ў салю, кірункам да Акіліны.

— Тарарыш Ложка, давайце пойдзем на паравік!—пазваў упраўляючы Ладымера і пашоў першым з ганку. Цыбулін, мінутку пачакаўшы, пашоў за ім. Павярнула да выхаду й Акіліна, пазваўшы мужа:

— Ідзем, Ладзя, абгледзім і пойдзем, я згатоўлю сяго-таго перакусіць? А мо' наперад зробім гэта, а?

— Не, пасьля.

Яны пашлі з салі.

У саду, ідучы напрамкам да паравіка, Парог паказваў на ўстроеныя ім клюмбы кветак, на падчышчаны маліньнік і агрэсьнік; расказваў, як яму прышлося выратоўваць зусім запушчаны сад, які ён пабяліў, паакапваў і падчысьціў ад імху. Гэтым ён абараніў сад ад вусені, што добра адаб'ецца на даходнасьці саўхозу. Па просьбе Акіліны Парог растлумачыў гісторыю зараджэньня і цеганіны выгадаваньня садовых жуч-

коў і чарвячкоў, дадаўшы пры гэтым тлумачэньні аб іх зьнішчэньні простым спосабам і спосабам культурным.

Усе тлумачэньні і апавяданьні, якія даваў Парог, выліваліся ў стройную, добра завучаную лекцыю, бяз супынак, паважна. Відаць было, што сваю справу ўпраўляючы ведаў добра і шчыра ёю цікавіўся. Гэта падмеціў Ладымер і пачынаў выраблядь у сабе адпаведныя прыхільна-ўшанавальныя адносіны да Парога. Ладымер помніў атэстацыю ўпраўляючага фурманом Гаўрылам і думаў сабе, слухаючы Парога: „А глядзі, стары добра ўмее падмячаць. Сапраўды Парог талковы й дзейны чалавек. Паглядзі ты, усё ведае, шчыра клапоціцца аб гаспадарстве саўхозу, уваходзіць з душою ў кожную рэч. Го, патрэбны савецкай уладзе гэткія людзі, ой, як патрэбны! Іх так мала ёсьць яшчэ, што трэба іх ацэньваць на золата. Знача пераконаны цалкам новай ідэяй дзяржаўнага аднаўленьня. Цікава, комуніст ён ці не? Трэба будзе ў выпадку запытаць... Люблю такіх людзей і высока цаню“.

Тымчасам яны прайшлі сад і павярнулі да сажалкі. Тут Парог пераказаў ідучым з ім маленькую гісторыйку яе, падкрэсьліўшы карыснасьць сажалак для гаспадарства з розных бакоў. Па яго думцы—сажалкі павінны служыць для культываваньня рыбнага промыслу, што ён ужо апляноўвае на наступны год.

Паравік, да якога яны прышлі, завярнуўшы ўлева ад сажалкі, складаў верхавіну тае надуманае сыстэмы, аднаўленьня саўхозу Скупляў, якая ўвесь час малявалася энэргічнаму ўпраўляючаму. Без „прамысловае стацьці“ нельга мець мажлівасьці „разварочвацца ўшыркі“. Скуплі, па пераконаньню Парога, гаспадарства не падыходзячае да жывёлаводзтва, галоўная продукцыя яго—бульба, з якое і можна рабіць крахмал і гнаць сьпірт. Пры гэтым у вакружнасьці маюцца іншыя саўхозы, меней крэпкія, у якіх таксама шмат бульбы знойдзецца на перагонку. Млын-жа і лесапілка дваяка каштоўны—для абслугоўваньня саўхозу і бліжэйшага сялянства.

Парог вылічыў, што млын дасьць кожны месяц даходу каля трох сотак чырвоных рублёў, адначасна абслужыўшы сябе. А калі далажыць да гэтага заработак ад вырабу крахмалу і выганкі сьпірту, дык мы тады атрымаем яшчэ большую палёгку ў гаспадарстве.

Вылажаныя Парогам думкі «аб прамысловай стацьці» больш за ўсё спадабаліся Ладымеру, калі ён прымеркаваў іх да сваіх плянаў і поглядаў на пасьпешнае разьвіцьцё зямельнае гаспадаркі—дык яны кропка ў кропку супалі. Да гэтага

Ладымера, як профэсыяналістага работніка, лісьціла яшчэ і належная ўвага ўпраўляючага да прамысловай галіны гаспадарства. У Ладымера заказлытала клясавае пачуцьцё, гордасьць закаранелага індустрыялісты, чалавека машын, жалеза і дынамікі.

— Вы праўду кажаце, таварыш Парог, саўхозу абавязкова патрэбна апірацца на «прамысловую стацьцю». Ня лішчу вам, а ў вас маецца здольнасьць добрага гаспадара. Я ўжо, прызнацца, чуў аб вас...—прызнаўся Ладымер.—Толькі, памоему, вам ня трэба спыняцца на палове ў справе дасканалага абсталяваньня гэтых трох выглядаў прамысловасьці. Рашылі—даводзьце да канца. Я, з свайго боку, прылажу ўсе стараньні, усе свае веды, каб справа была на працягу году скончана.

Увайшоўшы ў завод, Ладымер з выглядам знатака дзела, абглядаў машыны зьнізу даверху, бегаў вакол іх, кратаў кожную трубку, сачыў за ўсімі рыхтункамі. Пры гэтым ён ганіў за нерасчотлівасьць тых, хто так будаваў самы будынак заводу, што не разьлічыў ні месца, ні размаху, ні значнасьці ўсяе справы. Па Ладымераваму мусіла быць зусім іначай: будынак павінен быў быць пашыран і падняты яшчэ на адзін паверх, а локомобіль павінен быць заменены на больш сільны.

— Яно то, пэўна, таварыш Ложка,—хітра пасьмейваючыся з шырокіх плянаў Ладымера, казаў упраўляючы:—Я ведаю ўсё гэта, ведаю, але, трэба лічыцца са сродкамі. У нас тут яшчэ так многа трэба зрабіць, так многа трэба наладзіць, што проста страх бярэ. Паказваў я вам памяшканьне пад кватэру, бачылі ў якім яно выглядзе—вось так яшчэ многае што, многае. У нас для рабочых не хапае добрых кватэр, трэба аборы падстроіць, машыны земляробскія паламаліся, каней зусім мала, вупражы...

— Так-так,—згаджаўся Ладымер,—але не забывайце таго, што ў заводах гэтых схавана палова ўсяго вашага пляну; не забудзьце таго... Два месяцы папрацуе млын—і гатова вупраж, папрацуе год—і некалькі коні. Ці ня праўда, мо?

Акіліна з канторшчыкам увесь час маўчалі. Для іх мала цікавымі былі пляны Парога з Ладымерам наконт адбудовы гаспадаркі саўхозу. Болей таго, шчырасьць мужа, з якою той адносіўся да гэтага, дзівіла Акіліну і нават зьлёгку раздражнівала яе. Ёй ужо здаўна была крыўда на Ладымера, што праз сваю гарачнасьць і захапленьне рознымі справамі ён зусім забывае сям'ю, яе дабрабыт, перакорыць яе, Акіліны, думкам і просьбам—адным словам, парушае сямейныя трады-

цыі, хатнія стасункі і вымушае яе (Акіліне кальнула ў сэрца, ажно яна балюча садрыгнулася) на апасьлівыя крокі... Выпадак па дарозе ў Скуплі, калі ёй успомніліся мінулыя вобразы любоўных здарэньняў, нейкая міжвольная прыхільнасьць да канторшчыка Цыбуліна, якую ўжо запрымеціў Ладымер, былі чароднымі эпізодамі падобнага ўхілу. Да чаго гэта прывядзе Акіліну—ёй самой цяжка рабілася пры адным праглядзе ўперад. Але маладзіцы, Акіліне, абмяшчаненай змалку, кіпучай па натуры, прагавітай да бурнага жыцьця, да мужчынскае ласкі, здаровай, ядранай, жыцьцерадай—кабеце нельга марнець у самамуштраваньні, нельга абыходзіцца сутрыманьнем, зьнішчэньнем маладых прагных пазываў. Што там за жыцьцё будзе бяз гэтага, навошта яно? Акіліна перабірала гэтыя думкі, як пакутніца пацеркі, і балюча хвалявалася. Ладымер вярцеўся каля машыны, як які шворан ад яе, як складная яе часьціна, бязьцікаўны да Акіліных перажываньняў, глухі да яе патрабаваньняў, а збоку, як на пружынах увіваўся малады, алягантны, кіпучы маладосьцю, хвацкі канторшчык Цыбулін. Белы, чысты, з правідловымі рысамі твар яго, квятучая, сакавітая ўхмылка на ім, агністыя, шарыя вочы, з зіркам, як электрычны бляск, пакіраваным на Акіліну, мучылі апошнюю, зьбівалі яе з толку, таўхалі на грэх, на праступак, кроілі сем'ю мячамі маладзічына сэрца. Як хто падсмальваў ёй пяткі ці калоў іголкамі ў бакі—яна вярцелася на месцы, нэрвавала, то апускала, то паднімала вочы, то хмурыла, то чарсьцьвіла твар. Здавалася, пахвільна апускалася, раставала, як сьвечка, завядала, як сарваная рожа. Цыбулін калупаўся ў яе балючым месцы...

— Ладымер, хадзем, нарэшце, да хаты, ужо далёка за паўдня, а ты яшчэ не аграшаўся нават. Ці-ж можна так? Цябе тады ня хопіць і машыны паправіць... Хадзем—ня стрымалася Акіліна.

Але калі яе слоў Ладымер не заўважыў, тады Акіліна ў большай нэрвовасьці пераказала іх.

Ладымер, аднакава, ня зразу адарваўся ад машын—яшчэ хвілін з пяць папрабаваў розных частак яе і, толькі ўгледзіўшы, што ўсе на дварэ, а ён размаўляе й судзіць сам з сабою—вышаў.

Падзівіўшыся з пагоды, яны разышліся.

## VI.

Справа з кватэраю ў Ложкаў не зацягнулася: Ладымер уладзіў яе ў два дні. Назаўтра, пасьля агледзін саўхозу, ён

зранку разам з жонкаю і цешчаю прыняліся за ўборку сьмецьця і чыстку. У абед Парог падаслаў двух рабочых і сталяра. З апошнім Ладымер умовіўся паправіць рамы ў вокнах, зрабіць перагародкі і некалькі зэдлікаў, палавіну чаго ён зрабіў у два дні. Рабочыя пасобілі перанясьці печку-чыгунку, пару сталоў, шафу і калыску, дадзеныя для Ложкаў упраўляючым саўхозу. Таксама рабочыя перанясьлі з часовага памяшканьня, дзе спыніўся Ладымер з сям'ёю, яго прывезеныя хатнія рэчы—гэта ў адзін дзень. На другі-ж была падмыта падлога і пабелены сьцены. Аставалася паправіць печ і зашкліць вокны. Гэтага ўжо нельга было выпаўніць сіламі саўхозу, і Ладымер мусіў ехаць у мястэчка Кругі. Але паездку ён ня лічыў перашкодай для перабраньня ў кватэру, і ўжо трэцюю ноч Ложкі начавалі ў сваім памяшканьні. Часовыя няўдобствы, хоць і рупілі яму, усё-ж не маглі адбіцца на патрэбнасьці пачынаць работу па рамонту. Якраз к гэтаму часу павінны былі цесьлі пачаць падбудоўку дзераўляных частак заводу, а чорнарабочыя — ачыстку ад пяску й бруду. Таксама пад наглядам Ладымера трэба было нарэзаць дзерава ў лесе і пачаць пілоўку. Адным словам пуск работы па адбудаваньню заводу цалкам залежаў ад механіка Ладымера Ложкі, і ён, Ладымер Ложка, вымушан быў прыступіць да яе.

На чацьверты дзень з дзявятай гадзіны раніцы, выпіўшы кубак малака, Ладымер ужо быў каля будынку заводу. Усіх рабочых ён узяў на падлік і з захапленьнем пачаў кіраваць работаю, паказваючы і расказваючы кожнаму цэху рабочых, як і што рабіць. У самога-ж у руках былі сантымэтр, цыркуль і напільнік. Хвіліна ад хвіліны ён сам прырываўся да машын, аглядаў, вымяраў, адкручваў шрубкі.

На абед Ладымер дазваляў сабе толькі паўгадзіны і ўжо шмат пасьпяваў паўвіхацца, пакуль вярталіся з абеду рабочыя. Гэтыя былі зьдзіўлены павядзеньнем Ладымера і пільна абгаворвалі яго паміж сабою.

Наогул, асабістасьць характару Ладымера, як чалавека, і працаздольнасьць, як работніка, за першыя дні яго прыезду ў Скуплі ўжо былі ведамы ўсяму насяленьню саўхозу. Аб ім заўзята перагаворвалі рабочыя, талкавалі служачыя і шушукалі кабеты. Пэўна, не аставалася бяз прыкрас, што звычайна ў сялянскім быце. Тым болей загудзела гутарка аб майстры, калі ён узяўся за працу. Асабліва з цікавасьцю чакалі ад Ладымера наладжаньня ім тэатру. Ужо толькі ён аг-

ледзіў памяшканьне, забубнілі, як адзін, аб акторскіх здольнасьцях Ладымера.

Тэатр вельмі гостра чапаў жыхароў саўхозу, і яны не адноразскардзіліся самі сабе на адсутнасьць у іх жадных забаў. Калі адзін раз успамянуў аб патрэбе тэатру для саўхозу ўпраўляючы яго Парог, то пасьля моладзь не давала яму спакою, закідаючы пытаньнем—калі-ды-калі, нарэшце, уладуе ён яго. Упраўляючы перш абяцаў у блізкім часе, а пасьля скардзіўся на няйменьне часу... Цяпер-жа, з прыездам Ладымера, ён зарадаваўся, што гэта справа можа ажыцьцявіцца, і ўсім хваліўся, што тэатр наладзіць механік. Парог абяцаў Ладымеру ўсякую дапамогу ў справе пастройкі тэатру і, калі Ладымер прыступіў да гэтага, упраўляючы набраў да дзесяцёх чалавек моладзі і прыслаў пасабляць Ладымеру. Стараўся пасабляць і сам.

Гэткім чынам, ужо праз тыдзень у Скуплях стараньнямі Ладымера была пабудована сцэна і ўмайстрована ўсё для тэатру. Асталося намаляваць завесу, некалькі дэкорацыяў і здабыць трохі грыму. Ладымер узяўся і гэта зрабіць, прыўрочыўшы на паездку ў мястэчка Кругі. Недастача адмечаных рэчаў лічылась ім ня сур'ёзнай, і ён сваім чарадом пачаў адшукваць хлопцаў і дзяўчат для развучваньня роляў у намечанай да першай пастаноўкі „Паўлінцы". Галоўныя ролі Ладымер думаў раздаць Акіліне, Парогу і сабе. Аб гэтым пляне Ладымера хутка праведалі ўсе скуплеўцы і шмат-шмат гутаркі разьвялі па саўхозе. Водгаласкі яе разьляцеліся нават па вакольных вёсках.

Акіліна чула гэтыя гутаркі на кожным кроку. Выходзіла з хаты на дзядзінец, ішла да каго пазычыць што-кольвек, вечарам, сядзячы на прысьбе,—усягды і ўсюды яе распытвалі жанкі і дзяўчаты, ці скора таварыш майстар наладзіць тэатр. Многія кабеты няскрытна лісьцілі ёй у вочы, хвалячы Ладымера і лічачы яго за дарагога для іх чалавека.

— Каб ня ваш гаспадар,—казалі Акіліне жанкі, — дык тут ніхто не дадумаўся-бы гэта зрабіць. Кожны заняты сваімі справамі і не шманое. А нашы мужчыны, ведама, цёмныя, ня сьцямяць гэтага.

Акіліна мала ўдавалася ў гаворку аб тэатры: адкажа двума-трыма словамі на запытаньне і пяройдзе да другога. Аднак яна не хацела выказваць сваіх поглядаў на мужаву зацею і ні адным крывым словам не абмаўлялася па адрасу тэатру. Не пярэчыла яна нізваньня і ў дому. Ладымер варочаўся на кватэру, стомлены, запылены, у поце, паведамляў ёй аб зроб-

леным за дзень, а яна, нібы адабраючы яго, пакіўвала галавою і казала:

— А я Паўлінку ганю на ўсіх парох.

Ладымер прыймаў словы жонкі за пахвалу сабе і яшчэ больш захапляўся справаю тэатру.

— Паглядзі толькі, як усе задаволены! Праходу не даюць —усё распытваюць. Прыяжджаюць з сёл і дазнаюць. Забачым, як разьвярну працу! Зусім і забудзеш аб горадзе!—хваліўся ён жонцы:—Вось толькі паеду ў мястэчка ды куплю матэрыі на завесу, крыху грыму і, бадай, праз тыдзень-другі можна будзе даць першы спэктакль.

Тое, што Ладымер меўся хутка паехаць у мястэчка, найбольш цікавіла Акіліну. Ей прагна хацелася часовай перамены, мінютнага праблеску ў ходзе яе сямейнага жыцьця. Частыя пераезды з месца на месца, адданьне Ладымерам вялікае ўвагі на грамадзянскую справу, яго нядбайнасьць да сям'і—сьціскалі Акіліну жалезнымі абручамі нудоты, глушылі надзею на шчасьлівыя мінюты, на выкарыстаньне мажлівасьцяў сямейнага шчасьця. Адчуваньне гэтага кранула яе душы ўжо пасьля выезду іх з Крумкаў, дзе ў глушы ды ў адзіноце яны пражылі амаль ня цэлы год. Горад, куды яны вярнуліся, хоць провінцыяльны, далёкі па размаху жыцьця ад Пецярбургу, расшавяліў Акілініну душу гарадзкім гмахам жыцьця, дапомніў ёй аб шумлівым і рэзвым дзявоцтве і пасеяў некае цьмянае, нясьмелае жаданьне. Акіліне не хацелася ехаць ў Скуплі, страх, як не хацелася, і праз цэлыя дзень і ноч перад ад'ездам яна перабірала ў думках усе ўмовы й абставіны, з якімі прыдзецца спаткнуцца ў новым саўхозе. Баялася глушы, як мыш сьвятла. Ня верыла, што ў іх будзе іначай, весялей, як у іншых глухіх кутках. Нарэшце перамагла гэта пачуцьцё, вырабіла ў сабе бадзёры настрой, пагадзілася з лёсам і намерылася нясьці лямку на працягу году... А мо выпадак здарыцца які, а мо' праблісьне які надта шчасьлівы момант? Якраз ён не заставіў сябе доўга чакаць. Прымха некая падвяла к ёй Цыбуліна. І як на зло надало ім стрэцца ў гэткую мінюту, калі на твары Цыбуліна склаліся неадхільныя рысы, чаруючая ўхмылка, якія прайшлі ёй, Акіліне, у нутро і абнадзеілі яе салодкімі надзеямі. Яна адчувала прыкрасьць гэтых надзей, бачыла косыя озіркі Ладымера, ведала, што муж калі-небудзь зазнача ёй гэта, прызнавала сьлізкасьць сваіх крокаў—яна ступіла на гэткі шлях і... не магла сутрымацца. Цыбулін засеў у галаў, зацьміў Ладымера, Паўлусіка, сямейнае ціхае жыцьцё, яго непарушнасьць, падцяў нясуменную павагу

з яе боку да мужа, хоць ня палкую, а калісь моцную любоў да яго. Сама не разьбіралася, як усё йдзе, як скручваецца клубок... І ў той-жа час думка, што «Ладымер паедзе ў Кругі!» суцяшала Акіліну, як суцяшае хлебароба пагодлівы час у жніво. Яна яшчэ раз малявала сабе вобраз саду, ночы, спатканьня з Цыбуліным, ласкі... ласкі... І дрыжэла, каб хаця ўсё асталося ціха, шыта-крыта, мінютна, пераходна, каб ніякага сьледу не пакінула гэта на ўзаемаадносінах з Ладымерам. Гэта было штосьці на манер загавору, падгатоўка помсты мужу за яго грахі ў сямейных узаемаадносінах.

Акіліна раз-ураз паглядала на Ладымера, баючыся, каб ён чуцьцём не падслухаў яе думак і, бачачы яго замілаваную заспакоенасьць, суцяшала сябе: „А я-ж ведаю, што ты не адзін раз зрабіў тое, што табе хацелася. І, пэўна, не пахваліўся мне. А я маўчу. Няўжо будзе грэх, калі я хоць раз прытаю табе сваю... чыннасьць".

— Калі-ж ты паедзеш у Кругі?—дапытвала Акіліна Ладымера і тут-жа выспрабоўвала яго:

— А, можа, чуеш, ня варта табе езьдзіць у мястэчка? Пачакай некі час, а ну-ж зьбярэцца больш спраў?

Хітра падыходзіла яна да яго і паглядала яму ў вочы, гадаючы аб адказе.

Ладымер памаўчаў і рашуча адказаў:

— Я не за аднэю справаю паеду; бачыш, трэба печніка наняць, каб зрабіў групку ў кватэры, шкла трэба купіць, каб зашкліць вокны; а да гэтага—казённыя справы, таксама патрэбны шрубы, напільнікі. Не, паеду абавязкова.

Задаволеная ў глыбіні душы, Акіліна запытала:

— А калі ты канчаткова паедзеш?

— Пэўна, да нядзелі пачакаю; у нядзелю ў Кругох кірмаш—раз, а, падругое, сьвяты дзень,—адказаў Ладымер.

Ёсьць ведама, што ў нядзелю ляпей усяго,—падказала цешча.

— Ну, а ты-ж толькі спраўляйся з роляю.

— Будзь спакоен, пакуль дакончыш сцэну—роля будзе гатова. Хай другія так падгатовяць, як я, та добра будзе,—пазіраючы ў вакно і зусім ня думаючы аб ролі, адказала Акіліна.

Ладымер задаволена ўхмыльнуўся і пашоў тупаць па хаце, гаворачы ні то да жонкі, ні то сам да сябе:

— Наладзіцца тэатр, і пойдзе на ўсю магу культурная праца. Трэба ўнясьці сьвет у глухі куток... Так яшчэ цёмна наша вёска, так далёка ад культуры. Жывуць людзі, як ваўкі, адар-

ваныя ад гораду, закінутыя ў лясы... Жадны новага слова, жадны новае весткі... Вакол столькі прыгожасьці, а для іх яна незразумела зусім... Вакол кіпіць жыцьцё, а ім чуецца толькі водгалас у шуме лесу... Наша павіннасьць—аддаваць ім усе нашы веды, дзяліцца з імі тым, што сабралася ў галаве, што вычытана з кніжак. Цяперашняе жыцьцё не павінна спыняцца на адным месцы; яно мусіць вярцецца, віраваць, бегчы наперад. Бач, мы творым рэволюцыю, перабудоўваем усё на новы лад, нішчым старое да астатку. Ці-ж можна мірыцца з тым, што ёсьць хоць-бы ў гэтых Скуплях? Гэта-ж зусім не кранутае рэволюцыяй месца, выспа... А колькі іх, гэткіх выспаў, на абшары аднэй Беларусі! Я ня ведаю, як каму, а мне вельмі балюча глядзець, калі дзе сустракаю ціхае жыцьцё, непарушымую глуш... Каб прымеў, усё-б адным замахам пераманіў. . Але мала аднаго на гэта. Я-ж таксама ня бог ведае якое навукі. Выкраў патрошку з часу, вылучыў з кніжак саматугам і павінен аддаваць другім... Тэатрам можна многа зрабіць і я зраблю. Тут глеба падгатаваная добра. Адно заікнуўся, як усе пашлі насустрэч. А рабочыя прайсьці не даюць—калі будзе тэатр гатоў.—Будзе,—кажу,—пастанавіў, дык будзе. А паспрабаваў раздаць ролі—асобаў столькі няма ў п'есе, кожны просіць даць яму ролю, даць яму...

Гутарка захапіла Ладымера, ажно ён забыў пра сон, пра тое, што трэба заўтра а сёмай гадзіне ўставаць і йсьці на работу; заняўважыў, што яго ня слухае ні Акіліна, ні цешча, якія няўпрыкмет для яго ўлягліся спаць і соладка пасопваюць. А сьведкаю яго толькі акраец месяца, выплываючы адным рогам з-за купы густое ліпы і ліючы ў прачыненае вакно разадраныя палойкі серабрыстага сьвятла, і салодкі водыр мёду.

Ладымер скончыў размову, паглядзеў на кватэру і падышоў к вакну. Чорны слуп—заводзкая труба—пераняла яго погляд і адцягнула Ладымераву ўвагу на паравік, на лесапілку, на плян іх рамонту і пуск у ход.

## VII.

— Ты прыгатоў мне сёе-тое на дарогу,—папрасіў Ладымер жонку ў суботу за абедам:—я заўтра зраньня абавязкова еду ў Кругі.

— А што-ж ты возьмеш?—пытала Акіліна: — есьці захопіш з сабою? То я сьпяку табе скварак і каўбасу. А з адзежы—палажу паліто.. Возьмеш паліто?

— Трэба ўзяць. Вазьму і есьці, таксама — усё-ж, як-ніяк, дарога нямалая, сьпячы сала.

— А ты доўга там думаеш быць?

— Доўга? Дзень! Зраблю свае справункі і назад.

— Так, ты ўжо не сядзі лішняга часу.

За чатыры дні, якія прайшлі з часу гутаркі аб паездцы Ладымера ў Кругі, Акіліна ні на момант не расставалася з сваімі думкамі і жаданьнямі. Як загартаваныя ў адну галачку, качаліся яны ў яе нутры, за тонкім пластом будзённых, хатніх клапотаў, і раз-ад-разу давалі аб сабе знаць. У некаторыя мінюты, асабліва, калі Ладымер выходзіў з ёю ў палетак пагуляць і яны загаварваліся аб чароўнасьцях прыроднае красы, Акіліна адчувала моташнае бязвольле выслабаніцца ад пастароньніх, наносных думак і ўхілаў і захаваць сябе нявіннай для Ладымера. У гэтыя моманты яна забывала змарнаванае сямейнае шчасьце, прашчала Ладымеру яго халодную нядбайнасьць да яе жаночае ласкі і здавальнялася духовай блізасьцю з ім, павагаю да яго. Цьвёрдая галачка спакусы ападала дзесь глыбока-глыбока на дно душы, давала волю новым адчуваньням, якія навейваў лёгкі подух сьвежага вятрыску, зелень і пах, блакітнае неба. Хісталася пад нагамі густая мятліца, схіляліся налітыя малаком каласочкі жыта, рэзьвіўся адлятаючы ў лес жаўранак, залівалася перапёлка, гучэлі песьні вясковых дзяўчат... Акіліне не хацелася ні гораду ні яго жыцьця. Бег уперадзе Паўлусік, лепятаў няўмоўчна, азіраючыся на бацькоў, ганяўся за матылькамі і рваў валошку... Каб у гэтыя моманты паказаўся канторшчык—Акіліна здрыганулася-бы ўсёй істотаю ад агіднага пачуцьця да яго, упікнула-бы сябе неміласэрна і мо‘-б, чаго добрага, перарвала-бы тую спакусную нітку, якая высукалася ў яе нутры зачарствелай будзёншчынай сямейных стасункаў і ёмка перакінулася да Цыбуліна... Акіліна прыўздымалася настроем, пахадзіўшы адвячоркам паміж ніў, напаўнялася асаблівым шляхетным пачуцьцём, прымала выгляд добрачыннай гаспадыні і жонкі... Але толькі вярталася ў кватэру, уваходзіла ў абставіны сямейнага быту, разыходзілася з Ладымерам, які хапаўся за п‘есы, за проэкты тэатру, кідаў сям‘ю цалкам і яе ў асобку, як ізноў пачынала думаць грэшныя думкі... Галачка гэтых думак высочвалася са спрату, з дна нутра, кратала думак і пачуцьця і напаўняла ўсю істоту цягучым нявыразным жаданьнем, прагаю, хаценьнем. Ладымер прымаў у яе ваччу сухі, завялы выгляд, манашаскі воблік і адыходзіў далёка-далёка з яе адзнаньня, чужы і халодны. Акіліна паварочвалася

да сынка, абеглым зіркам прайходзіла па яго тварыку і дзівілася таму, што Паўлусік падобен да бацькі і таму, што ў ёй так мала да яго ўвагі і мацерынай любові. „Шэсьць гадоў сынку, і чым больш падрастае ён, тым менш ва мне прыхіпу і пашаны да яго. Міжвольна ўстае пытаньне, як і што здарылася так, што я й ня прыкмеціла, калі мінулі гэтыя шэсьць гадоў. Бесканечная вандроўка, як вечнага жыда, бяз прытулку, бяз пэўнага месца. У Ладымера адно, а ў мяне другое“. Акіліна пераносілася думкамі ў дзявочыя гады свайго жыцьця і перабірала ўсе падрабязгі тых умоў і абставін, якія спраўодзілі яе знаёмства з Ладымерам, жаніцьбу, першыя гады жыцьця. З шэрае мінуўшчыны выблісквалі ружовыя мясьцінкі, аб якіх так прыемна ўспомніць і якія так міла адчуць. Ладымер калісь быў зусім іншым хлопцам: жыцьцерадым, жывым, рэзвым, любіўшым жыцьцё, як яно йдзе, у моманце, у перажываньнях бягучых хвілін. Агнём гарэлі вочы, нясло цеплатою ад усёй постаці, крыніцы ласкі, пэнту, замілаваньня... Акіліна насілася на скрыдлах успамінаў, як пёрка на ветры, захоплівалася імі што далей, тым болей і глыбей. Адвячоркамі, здавалася, губіла цэльнасьць іх, перарывала, як быццам забывала, але йшоў Ладымер на працу, і ўчарашняе аднаўлялася ўзноў, сточвалася шчыльна-шчыльна з ранейшым і разварочвалася шырэй ды шырэй.

Чым бліжэй падыходзіла да часу выезду Ладымера ў Кругі, тым разгульней віравала Акілініна выабражэньне, настойней прасіліся да перабору ўспаміны і глыбей вырывалася канава між ёю і мужам у іх сямейных стасунках...

У суботу за абедам, калі Ладымер папрасіў прыгатовіць яму сёе-тое на дарогу, Акіліна зразу адчула ў сабе некую перамену, астужанасьць. Быццам раскалыханыя хвалі маладых яе пазываў раптам сьціснуліся стромкімі высокімі берагамі, у якіх ня стала ранейшага прастору. На разгарачаны лоб нібы апала некалькі халодных капель, якія прабілі чэрап і дробнымі пырскамі пакрапілі мозаг. Так бывае ў выпадках, калі чалавек, разагнаўшыся ўдагонкі за намечанай мэтай—пры дабліжэньні к ёй—раптам траціць яе сьлед.

Акіліна, выправіўшы мужа з абеду на работу, прынялася за гатоўку яму сяго-таго на дарогу: папершае, яна дастала з куфэрка сьвятошні гарнітур, падчысьціла яго і падпрасавала; прыгатавала чыстую бялізну, а пасьля завіхнулася ля яды. Падпаліла ў чыгунцы, дастала з кубелка кавалак сала і пачала крышыць. Усё, як рупная гаспадыня й жонка. Але

думкі працавалі ня ў тахту рукам ды нагам: думкі пераносіліся ў заўтрае. „Ладымер едзе, — спляталіся яны ў словы:— пэўна, заўтра я яшчэ буду спаць, як ён выедзе. А можа разбудзіць? Трэба-ж к абеду заехаць... Так... Ці адзін? Няўжо й Цыбулін паедзе?..“ Слова Цыбулін выклікала ў яе душы лёгкі жах і нявыразнае, адначасна радаснае і палахлівае пачуцьцё. Ажно пад яго ўплывам цішэй пачалі хадзіць рукі, і густая ліпкая вяласьць разьлілася па целе. Акіліну пацягнула к вакну, якое зранку было адчынена для асьвяжэньня кватэры. Яна падышла, перагнулася на падваконьнік і ўстраміла пагляды ў гушчу ліпавых карон. Зелень, чорназялёная, укропленая бела-жоўценькім цьветам, залашчыла яе вочы, заваражыла да сябе. Гарачае сонца паліравала лісткі, павернутыя да яго, і палівала прамяністым сьвятлом процьму пчол і вос, лятаўшых над ліпамі, падтрымоўваючы роўны зьлітны гуд-гармоньню. Тонкі водыр уліўся Акіліне ў грудзі і сп'яніў думкі, разьліваючы гультайную асалоду. Раз-адразу праляталі птушкі, кідаючыся наляту ў лісьцяную гушчу і адтуль падаючы свае галасы. З-за вулічнай сьцяны даносіўся тоненькі галасок яе Паўлусіка і ўшчунак малога бабаю... Акіліна не зважала гэтага. Ня прыкмеціла яна і таго, як сонца паціхай украдкаю, спусьціла пучок свайго сьвятла з даху дому і каўзанула ім па яе твары.

Гэта нявыразнасьць настрою, які ні зваў, ні прыпыняў, ні цешыў, ні суміў, трымала Акіліну на месцы каля паўтары гадзіны. Стук дзьвярыма перабіў яго. Акіліна хутка адвярнулася на пакой і падбегла к чыгунцы. Паглядзела. У чыгунцы жухацеў чырвоны прысак, абложаны вакола попелам. На крэсьле помеж стаяла скаварада з раскрышаным на ёй салам і з нажом між сала. Акіліна, ня гледзячы, хто ўвайшоў, хапілася за скавараду і паднесла яе к чыгунцы, але тут-жа адумалася, паставіла зноў на крэсла і нагнулася за некалькімі паленцамі, каб падлажыць у печ.

— Ты паліш чыгунку, дачушка?—запытала Акіліну маці, падыходзячы к ёй.

— А як-жа, трэба сьпячы Ладымеру сала на дарогу. Заўтра-ж не пасьпею,—адказала Акіліна:—а Паўлусік дзе?—запытала яна.

— Бегае, яшчэ к бацьку пабег... А болей што ты будзеш пячы?

— Каўбаску якую; вось купіла надовечы ў Башлыкавых... Вы, мама, наскрабеце бульбы на вячэру. Зараз ужо Ладымер павінен прысьці.

— Нешта, я бачыла, да яго ў паравік пашлі ўпраўляючы і канторшчык, а з імі яшчэ некіх двое мужчын... Гэты канторшчык, на яго ліха, такі далікатны мужчына, што міла паглядзець; як паніч які—ды годзе.

Гэты сказ яе быў так не ў пару! Акіліна пакінула скавараду на чугунцы, а сама падышла к вулачнаму вакну і паглядзела ў бок паравіка. Густая прыземная ракіціна затуліла ад яе вачэй яго сьцены, і Акіліна, паглядзеўшы комін і стрэху, вярнулася к печы.

— Не павінны там доўга быць, ужо вечарэ,—праказала яна.

— Я думаю, калі яшчэ ня зойдуць у тэатр.

— Гэта ня йначай... Я й забыла, што ён ёсьць у нас...

— Нарабіў-жа, ведаеш, гоману ён па ўсіх Скуплях... Дзяўчаты, хлопцы, дзеці—не дачакаюцца...

— Увесь час за гэтымі тэатрамі... занядбаў усё... Нікому ня трэба—а яму...

Гэтыя словы Акіліны мелі ў сабе звычайную нездаволенасьць, ужо застарэўшую, цьвёрдую і едкую. Аднак маці не западозрывала гэтага—яна, наогул, мала ўдавалася ва ўзаемаадносіны паміж дачкою і яе мужам. Акіліна не выдавала мацеры сваіх скрытных думак, а Ладымер з сваёю халоднасьцю да сямейнага жыцьця выглядаў у ваччу старое занадта крутым бальшавіком. Дачка не здаволілася гэтым-то прыкмячала маці, але не падлівала масла ў вагонь. Наогул тое, што зяць трымаў яе ў сябе, абыходзіўся з ёю добра, з павагай, рабіла Ладымера ў вачох цешчы харошым чалавекам, памяркоўным і сталым гаспадаром. За гэтыя якасьці цешча даравала-бы ямы ўсе недахваткі яго, каб і ведала іх. І ні за што-б не прасьціла Акіліне яе помыслаў, яе скрытных, навеяных Цыбуліным думак, каб толькі праведала аб іх.

— Ну, што-ж—няхай строіць тэатры, гэта-ж невялікая бяда,—разважала цешча.

— Не бяда, калі ў меру, а калі ўжо занадта зацягам, тады моташна робіцца, тады горш бяды—не згадзілася Акіліна.

— Бач, ужо яго гэткая натура; не перавучыш-жа сталага чалавека... Другія гоняцца за горшым, а тэатр...

— А, бачце, яму сям'я на другім пляне...

Падскваранае сала ня сьціхала трашчэць, папаўняючы скавараду тлустым лёкам. Румяныя скваркі выразна пярэсьцілі чорную галу пасудзіны, як маленькія выспачкі ў цёмнай вадзе. Старая напоўніла лаханку белаю, аскрэбенаю бульбаю

і палівала яе вадою з меднае конаўкі. Раптам абедзьве прыпыніліся і прыслухаліся.

— Ідуць абое, здаецца!—прамовіла старая.

— Ідуць!? Але! А ў мяне яшчэ вячэра не гатова...

— Нічога, падложым дроў, і бульба ўраз зварыцца...

Яны разьбегліся па куткох пакою, адна за вадою, другая за нечым іншым.

— Можа дроў няма? – запытала старая.

— Нічога, я выскачу вазьму,—адказала Акіліна і пабегла к дзьвярам. Але не пасьпела хапіцца за ручку, як яны адчыніліся, і ў кватэру ўвайшоў Ладымер з сынком, а за ім Парог.

— Дабрывечар у хату!—павітаўся ўпраўляючы, працягнуўшы руку Акіліне.

— Вечар добры!—адвіталася Акіліна, зрабіўшы на твары міну неспадзейнасьці.

Парог угадаў Акілінін настрой і пераняў неспадзеўкі.

— Я бачу, вы зьдзіўлены маім наведваньнем?

— Так, проста прымха. Другі тыдзень побач, а вы ўпяршыню заходзіце.

— Ведаеце, так няма часу, так няма часу, што хоць ты лопні... Аж самому няпрыемна, ведаеце... Што-ж, што-ж...— Парог убачліва схіліўся і разьвёў рукамі.—Ды і то трапіў таму, што вось заўтра маю ехаць разам з таварышам Ложкам у Кругі.

— І вы паедзеце?

— Я і агароднік таксама...

— Усё начальства,—пажартавала Акіліна.

— Не, якраз пакідаем намесьнікам нашага Цыбуліна... Будзе ахоўваць вас...

Акіліна патужылася стрымаць роўнадушша, але міжвольны пробліск здаваленьня, раптам прабегшы па яе твары, выдаў яе. Парог хутка адвярнуўся ўбок, сказаўшы:

— Выбачайце. Вы йшлі кудысь, а я затрымоўваю толькі вас.

— Нічога, пасьпею. Дроў трэба пален некалькі ўнясьці. Вячэру гатоўлю...

— Я зьбегаю,—перабіла старая і, не чакаючы адказу, вышла з кватэры.

Акіліна вярнулася к чыгунцы, а Парог пашоў к сталу, ля якога сядзеў Ладымер і штосьці вылічаў алоўкам на паперы.

— Трэба, усё-ж, шмат грошай. Каля дваццацёх чырвонцаў,—абярнуўся Ладымер да ўпраўляючага.

— То хай-бы вы скарацілі, таварыш Ложка, на якіх чырвонцаў пяць, а то ўсе грошы, якія маюцца, прыдзецца аддаць...

— Дык нельга, бачыце. Я й так ужо на тэатр скараціў да пяцёх чырвонцаў. Няўжо такі пашкадуеце гэтых ашчэдных грошай на гэткую вялікую справу, як тэатр. Вы падумайце, колькі карысьці можа даць тэатр? Гэтыя пяць чырвонцаў могуць вярнуцца тысячамі рублёў...

— Можа быць, але, ведаеце, зараз у нас крута з грашыма. Папершае, трэба гаспадарчыя рэчы справіць, а тады ўжо...

— Дарэмна, таварыш Парог, кажаце... Пакуль укантактаваць гаспадарства і нічога не рабіць іншага—гэта абмылковы пагляд. Я сам добра разумею, што аснова для даходнага гаспадарства Скупляў—гэта адрамантаваньне паравіка, але-ж, каб у огуле паднімалася гаспадарнасьць, то трэба сачыць і за культурным узроўнем рабочых саўхозу; трэба выпрацоўваць у іх ахвоту й замілаваньне да працы, павагу да рэспубліканскага дабра, як да свае ўласнае рэчы... Мы вельмі шмат цярпімо ад някультурнасьці нашай—далей годзе. Наша павіннасьць пачаць культурную працу, як мага, якімі ёсьць сіламі і сродкамі... А тэатр—найлепшы праваднік асьветы...

Парог маўчаў і не перашкодзіў Ладымеру выказацца поўнасьцю. Нарэшце, рассудзіўшы сам сабе, пастанавіў не пярэчыць у асыгнаваньні пяцёх чырвонцаў на патрэбы абсталяваньня тэатру, адказаўшы Ладымеру:

— Што-ж, няхай будзе павашаму, не зьбяднеем...

— Вось, пэўна,—хапіўся Ладымер.

Не ўцярпела, каб не ўмяшацца і Акіліна.

— Ды ён ужо калі прыстане, дык не адступіць,—кінула яна па адрасу мужа.

— Ты лепш не мяшайся ў нашу гутарку,—перабіў жонку Ладымер.

— Што так срога! Уразіла сінагогу!—не здаволілася Акіліна.

— Не пасварэцеся хаця,—пераняла цешча, вярнуўшыся з дрывамі, — вось гатовы, пэўна, і каўбаса і бульба, — дадала яна.

— А на дарогу мне згатовіла што, Акіліна?—іпакшым голасам запытаў Ладымер.

— Згатавала, чаму не; каўбаса таксама ў дарогу табе; сала насквaрыла, а вось ляпёшак сьпяку... Ты скажы, будзеш браць сьвятошні гарнітур, ці не? Я дастала й падпрасавала яго...

— Вазьму, як жа-ж.

Старая падышла да стала й заслала яго сарвэтаю; пасьля прынесла міску з насыпанаю ўгору паранай бульбай і некалькі талерак для малака.

— Заўтра, пэўна, на золку выедзеце?—запытала яна зяця і спынілася, ждучы адказу.

Ладымер паглядзеў на Парога, перакінуў думкамі і адказаў:

— Так, зраньня выедзем. Трэба сабрацца сёньня акурат.

— Ды ўжо яно сабрана, што тут доўга.

Акіліна прынесла малака, разьліла ў талеркі і абярнулася да Парога:

— Падзялеце з намі вячэру.

— Дзякую!—адказаўся Парог, устаючы з крэсла і адыходзячы ад стала.

— Да не саромейцеся. Садзецеся. Там-жа жонка не прыгатавала нічога. Садзецеся...

Парог яшчэ крыху паўпіраўся, але нарэшце сеў і разам з сям'ёю Ложкаў пачалі вячэраць.

VIII.

Ладымер прачнуўся назаўтра чуць сьвет. У вокны прабіваўся смуглы одсьвет золку, прасочаны санлівасьцю, томячы. За вакном у парку чырыкалі раньнія птушкі; пастух нукаўся з каровамі, рыпаючы варотамі хлявоў. Гергяталі гусі ў сьвіронку.

Ладымер падышоў к вакну не адзяючыся і паглядзеў на дзядзінец к вазоўні. Якраз канюх Посік адмыкаў вароты, азіраючыся ў бок стайні. Ладымер прыняўся гатавацца ў дарогу, асьцярожна тупаючы па пакоі. Адзеў порткі, памацаваў клунак з ядою і пашоў мыцца. Бяручыся за конаўку, заглядзеўся і выпусьціў з рук. Конаўка стукнула аб зэдлік.

— Хто там?!—раптам заварушылася Акіліна.

Закрактала цешча.

— Сьпеце, сьпеце, гэта я,—супакоіў Ладымер.

— Ужо едзеш? Мо ўстаць мне і памагчы што?—выказала знарочыстую клапатлівасьць Акіліна.

— Сьпі, не клапаціся, сьпі.

Ладымер ціхутка справіўся з мыцьцём і адзяваньнем, выпіў малака, прыгатоўленага яму на сьнеданьне, і пашоў з кватэры, каб падагнаць фурмана. Але толькі вышаў на дзядзінец, як раптам стрэўся з Парогам, які бег да яго.

— Я па вас, коні гатовы. Ідзеце за рэчамі.

Ладымер хутка павярнуў назад у кватэру. Асьцярожна, моўчкі прачыніў дзьверы, забраў клунак і паліто і вышаў. Пераступаючы парог, ён азірнуўся к ложку, на якім спала Акіліна з Паўлусікам, паглядзеў і бяздумна адвярнуўся. На сходах яму закарпела вярнуцца й пацалаваць абоіх. Ладымер павярнуўся, зрабіў некалькі крокаў назад, але штось спыніла яго, і ён спусьціўся ўніз, разважаючы сабе: „Няхай сьпяць. Навошта трывожыць!“

Але Акіліна зусім ня спала: яна ляжала ў лёгкай дрымоце праз увесь час, пакуль Ладымер зьбіраўся ў дарогу, тужылася ўстаць і не магла—як-бы што трымала яе прывязаўшы да ложка. Лёгкі стук дзьвярэй, зачыненых Ладымерам пры выхадзе, сагнаў дрымоту і канчаткова абудзіў яе. Акіліна паднялася з ложку, пацягнулася і падбегла да вакна. Працёрла вочы й паглядзела на дзядзінец, адкуль чулася гутарка. Каля рогу будынку стаяла падвода, запрэжаная параю коней у дышаль і напоўненая сенам. На заднім сядзеньні ўжо сядзелі поруч Ладымер з Парогам, а на пярэднім умешчваўся агароднік. Фурман Посік папраўляў вупраж.

З-за вярхоўяў ліп выскоўзвалі разгалістыя пукі чырвонага праменьня, накладаючы на купы дзярэў цёмна-алавяны адбітак хмурнасьці. За паркам, к лесу, чуўся сьвіст жалейкі. Рэзвая жоўтабрушка, седзячы на вытыркнутай галіне ліпы, заліўным шчэбетам вітала радаснае нараджэньне дню. Яна трапятко азіралася вакол і паглядала ў вокны мuroў, ачырваненыя з-панад даху ўсё больш і больш распаляючым полымем усходу. Паціхай, украдкай Акіліна прачыніла вакно і ў маленькую шчылінку між рам уваткнула нос. Дыхнуў мяккі, плаўкі вятрыска, студзячы яе цела праз шырока выразаны горс абінталяжанай белай кашулі. Некалькі палоек цяжкіх густых кос апусьцілася ёй на твар, заказлытаўшы шчокі. Акіліна адхіліла іх за вушы і працерла вочы.

Між тым фурман сеў з боку агародніка, аглядзеў воз і пагнаў коні. Грукат калёс як-бы дапомніў нешта Ладымеру, які азірнуўся на вокны свае кватэры, мерачыся каго-кольвечы ў іх угледзіць. Ці прыкмеціў ён профіль Акілінінага твару, ці толькі абмежаваўся трыма пустымі вокнамі з ліцавога боку—

нельга было ўгадаць. Пэўней, што апошняе, бо, наколькі адмячала Акіліна выгляд яго твару, нічога ён не выдаваў.

Калі воз схаваўся за паваротам дарогі, між платоў парку, Акіліна адхілілася з вакна, больш яго прычыніла і зацяжна пацягнулася, шчапіўшы рукі на галаве і выдаўшы ўперад грудзі. Тонкая кашуля, аблёгшы шчыльна сьпераду, вымулявала прыгожыя формы яе нязношанага, пружыністага цела. Акіліна зацяжна ўздыхнула, кінуўшы думкаю к Цыбуліну, і раптам зьмяніла позу: апусьцілася, схіліла голаў і ціхаю няўпэўненаю паходкаю адышла к ложку. Паўлусік ляжаў распрануты і моцна, запоем хроп. Здаровы выгляд, руж на шчочках —ухарошвалі хлопчыка. Акіліна некалькі хвілін глядзела на яго і, як ніколі, адчувала ў сабе прыліў глыбокай мацярынай прыязьні. Ня стрымалася—і пацалавала ў заплюшчаныя вочкі, падмалёваныя густымі доўгімі расьніцамі. Пасьля прылягла, выцягнулася з сударжнай сілаю і заплюшчыла вочы. Раптам надышоў здром—яна забылася, але праз хвілін пятнанцаць абудзілася і паднялася.

У кватэры было сьветла. Засаб у тры вакны яшчэ неразагрэтае раньняе сонца ліло багатыя каскады променю. Ледва ачула прайходзіла з вакна жаралцо сьвежага паветру. На двары чуўся гоман.

Заварушылася ў пасьцелі маці, закрахчэла і падняла голаў. Прамовіла праз сон:

— Ты ня сьпіш, Акілінка?

— Ня сплю.

— Яшчэ-ж рана, хай-бы заснула.

— Ня хочацца неяк: як раскатурхалася пры ад‘езьдзе Ладымера, дык нізашта не заснуць.

Яна наўмысьне паглядзела на спушчаныя на падлогу белыя тонкія ногі і леваю рукою кранула грудзей.

— Ці-ж Ладымер цябе разбудзіў?—запытала маці, абапёршыся локцем на падушку і гледзячы ў вакно.

— Не, ён цішком ад‘яжджаў, але я пачула і абудзілася...

— А ўжо даўно, як паехаў?

— Мо‘ з паўгадзіны... Вы сьпеце, мама, яшчэ рана,—запрапанавала Акіліна.

— Ну, а ты-ж, хіба ня будзеш больш лажыцца?

— Не глядзеце на мяне: мне вельмі душна... Хочацца астудзіцца крыху. І вакно прачыніла, а не памагае. Так напалілася за дзень...

— Мо‘ табе нездаровіцца, Акілінка?

— Ха-хэ, што вы, мама; нічога, здарова...

Старая сунялася і прылягла. Акіліна-ж устала, прайшлася босаю, у аднэй кашулі, к сталу і паглядзела на гадзіньнік. Гадзіньнік паказваў палову восьмае. „Зусім ня рана! Куды там лажыцца... Трэба адзявацца і...“ яна не даказала ўсёй думкі і пасьпешна стала адзявацца.

Праз хвілін двадцаць ужо стаяла перад насьценным люстэркам і ўладжвала косы. Меркавала перш сабраць у куклу, пасьля адумалася і падняла ўверх, зашпіліўшы ў новую прычоску. Каля вушэй апусьціла модныя бачкі, а сьпераду—хібок. Справіла—і паглядзела сьпераду і з бакоў. Прыпляскала рукою. Радзімец каля носу, прыдаваўшы Акіліне характэрную рыску, зацікавіў яе і адцягнуў на момант увагу. Акіліна цешылася сабою, зусім забыўшы пра Ладымера. Здавалася ёй, што і іншыя думкі прытупелі, загубілі сваю цікавасьць... Аднак некая незьясьнёная сіла, настойны позыў, затаены прымус, таўхалі яе па гатоваму шляху. Яна дастала з куфэрку белую ў чырвона-сінія кветы тарыноўку, ускінула яе на плечы і цішком, як-бы скрадаючыся, вышла з кватэры.

У цёмным калідоры, раптам стукнула ў яе нутру жаданьне, рэзкае і выразнае, як іскра, жаданьне—прайсьці між кватэры Цыбуліна, пагледзець у вакно, як ён устае і падаць сыгнал... Закружыліся вірам рознастайныя блутаныя думкі, паўстала палкае абурэньне, адчуваньне нейкае ні то асалоды, ні то трывожнага здарэньня. Яна пачула, што шматразовыя пазывы перайходзяць у хваробу.

Сышоўшы на ніжні паверх і вышаўшы на ганак, Акіліна на момант прыпынілася, паглядзела па бакох і сышла на дзядзінец. Яшчэ крыху пастаяла, пасьля кранулася налева, адгонам двух сажняў ад будынку, каб спраўней сачыць у вакно Цыбулінай кватэры. Зрабіла некалькі крокаў, прамінула два вакны агароднікавае кватэры і параўнялася з вакном каморкі Цыбуліна. З некай трывожнасьцю зьмерыла яго паглядам і тут-жа адхілілася. З парку вышаў арандатар саду, Сроль, які, цікава разьзіраючы Акіліну, пашоў на дзядзінец саўхозу. Ужо мінуўшы вакно—яна яшчэ раз кінула ў яго косы пагляд, але ўгледзела белую ахвіранку. Гэта астудзіла Акілінін настрой. Яна скрывіўшыся прайшла ў парк.

У парку панясло вільгацьцю, памешанай з пахам цьвету ліп і кветаў. Вузкая, асаджаная кустамі дарожка, неахаеная ад кавалачкаў ламачча і дзікае мураўкі, малаабходжаная, цягнулася далёка ў глуш парку, роўнаю, як струна. Зьверху кароны ліп і рэдка каштаноў сплялі жывую стрэху, хаваючы

неба і сонца. Толькі рэдкімі плямкамі ў лісьцяной гушчы раскідаліся кусочкі сонечных праменьняў, пярэсьцячы цёмны фон драўляных шатаў. Як праз рэшата, пасмачкі яго падалі ў траву і кусты. Акіліна ціхаю паходкаю йшла ўсьцяж гэтай дарожкі, бяздумнаю, з нявыразным прыдаўленым настроем. Глядзела ў бакі, раскідаючы зіркі па сьветлых сонечных плямках. Перад ёю і над ёю пархалі птушкі,—валовы вочкі, жаўтабрушкі, дзятлы. Вылятаў з кустоў, жахаючы яе. Трапяталі матылькі і гулі мошкі... Акіліна мінула дзьве ператочных дарожкі і ўжо падыходзіла да трэцяй, а гэтая, па якой яна ішла, усё яшчэ цягнулася ўперад. Прыпынілася на скрыжаваньні, пастаяла крыху, паглядзела направа і налева, і пашла далей.

Але не пасьпела прайсьці з паўганоў, як нечы сьвіст яе спыніў. Яна азірнулася: па папярочнай дарожцы прайшлі двое хлопцаў. Акіліна правяла іх паглядам і пашла ў свой бок. Паціхай падышла к канцу дарожкі, к плоту. Аглядзела лугі, што абыймалі парк, спынілася зіркам на лесе і невялічкім хвальбарачку пры ім. Потым завярнулася назад і ўжо хутчэй прайшла да першай ператочнай дарожкі, дзе спынілася ля арэхавага куста і выламала дубчык. Тут яна пачула, што сьвежае паветра і ціхая хада прытамілі яе: захацелася адпачыць і пацягнула прылегчы на траве. Але сырасьць—стрымоўвала. К гэтаму Акіліна ўспомніла пра кватэру і Паўлусіка: „Можа ён прачнуўся? Маці будзе злаваць, што я пацягнулася і соваюся доўгі час.“ З гэтымі думкамі Акіліна пашла дамоў, скора, бадзёрысьцей, неазіраючыся. Хутка падышла к варотцам і вышла з парку. Фасад муру спыніў яе пагляд і раптам дапомніў ёй аб кватэры Цыбуліна, аб ім самым, аб нядаўнім жаданьні ўгледзець яго праз вакно ці сьпячым, ці толькі што ўстаўшым, яшчэ неадзетым. Зараз гэтыя жаданьні былі глушэйшымі, і яна нават не паглядзела ў вокны, а пашла к ганку. Падышла і ўжо намерылася ўсходзіць на ганак, як раптам, падняўшы вочы, угледзела Цыбуліна, які прымхаю выскачыў з дзьвярэй, і падбег да яе:

— Ах, Акіліна Іванаўна, адкуль вы так рана?—ветліва запытаў ён.

Акіліна была захоплена стрэчаю з Цыбуліным у расплох: яна ня ведала, што адказаць на яго запытаньне, якога тону трымацца, да чаго дастасоўваць гутарку. Усе думкі і жаданьні, якія да гэтага моманту вярцеліся вакол імя Цыбуліна, дзесьці зьніклі, расталі і на іх мейсцы асталася пустата. Так раптоўна тухне зара, нядаўна зыркая, прамяністая.

— Я падсоблю вам узыці, — спрытна хапіўшы Акіліну за рукі, праказаў Цыбулін.

Акіліна адняла ад яго руку і прамовіла:

— Я ўтамілася, гуляючы ў садзе. Прачнулася поцемкамі, як Ладымер ад'яжджаў, і больш не магла заснуць. А цяпер так хочацца спаць...

— А таварыш Ложка паехаў ужо?

— Ужо даўно, гадзін чатыры таму.

— Дык вы адна сёньнека, удавою?

— Адна,—адказала Акіліна і пачула лёгкі прыступ знаёмых пазываў.

— Вы так верны мужу, што хочаце праспаць яго адсутнасьць, каб і чужое вока не зазірнула на вас... А я зьбіраўся запрасіць вас у парк...

— З усёю радасьцю, але не цяпер... Валюся з ног...

— Я-б паказаў-бы вам пекныя месцы, гістарычныя, аб якіх яшчэ лягэнды жывуць...

— Хіба адвячоркам...—само выпала з вуснаў Акіліны.

У першы момант гэты выказ адазваўся прыкрасьцю ў яе нутры; але ў чародную хвіліну яна адумалася і забыла раскаяньне.

Цыбулін прайшоў з ёю па ўсходах на верхні паверх, пажадаў спакойнага супачынку і вярнуўся назад.

Акіліна прышла ў кватэру і зразу-ж села на крэсла. Маці ўходжвалася ля чыгункі, гатовячы гарбату. Паўлусік стаяў ля вакна й перакрыкваўся з дзеткамі на дзядзінцы.

— Будам гарбату піць?—запытала маці ў Акіліны.

— Пеце адны, ня хочацца. Сон бярэ.

— Выпі, дачушка, і тады засьнеш.

— Не хачу. Вы пеце, а я лягу прысну крыху... А восьмай гадзіне разбудзіце мяне.

— Добра, дачушка: мы выйдам з Паўлусікам на двор, а адвячоркам я цябе абуджу...

Старая сагрэла гарбату, загасіла чыгунку і прынялася паіць унука і піць сама.

Акіліна ў гэты час скінула падушку, адхіліла капу і прылягла, не разьдзяваючыся. Зразу, не аглядзеўшыся, яна задрамала і ўжо ня чула, як маці з сынком пашла гуляць.

## IX.

Акіліна праспала гэткім чынам каля пяці гадзін і прачнулася а палове шостай. Яна паднялася з ложка, пазяхнула засаб разоў некалькі, прайшлася па пакоі. Ніякіх выразных

думак, ні настрою яна не адчувала пасьля спаньня. Лёгкі асадак некага заблутанага нияснага сну мігаў у галаве адрыўнымі, выпадковымі думкамі, але цэльнасьці не даваў. Не чапала Акіліна думкамі і Цыбуліна: прагулка па парку, спатканьне з ім на ганку, асталіся дзесьці з боку, за некаю цьмянаю плевачкаю.

Каб хто папытаў яе ў гэты час, аб чым і што яна думае, Акіліна нічога не сказала-бы, бо й сама ясна не выяўляла гэтага.

Яна бачыла пустую каморку кватэры, па якой хадзіла адна аднэй, ня ведама з якой мэтай і зачым. Для яе ня было блізкага нікога, нават Паўлусіка яна ня ўспомніла, дзе ён і што з ім. Забыла Акіліна і дапамінаньне свае мацеры, каб тая яе абудзіла а восьмай гадзіне. Раўнадушны азірк вачоў насіўся па сьцянах каморкі, пападаў у прачынетыя вокны... Адзін раз Акіліна зірнула ў вакно і ёй паказалася, нібы пры сонцы падае дождж. Гэта яе зацікавіла: яна міжвольна падышла к вакну і спынілася. Задумалася, ці ня выйсьці на двор пасядзець крыху на чыстым паветры. «А пасьля?» —чапіла яе пытаньне. І, не знайшоўшы што адказаць, яна згубіла жаданьне выходзіць. Штосьці надало ёй ізноў тупаць па каморцы ўперад ды ўзад. Акіліна адышла ад вакна і намерылася крануцца йсьці наўскасяк, у куток каморкі, але толькі падняла нагу, каб зрабіць крок, як раптам пачуўся стук у дзьверы, яна не знашлася гукнуць дазволу вайсьці, а падбегла да дзьвярэй і адчыніла іх нарасхлест. Перад ёю стаяў Цыбулін, перапрашаючы за неспакойства:

— Выбачайце, Акіліна Іванаўна, што я парушыў ваш пакой,—ветліва, схінуўшы голаў, перапрасіў ён.

Акіліна сумелася ад неспадзяванасьці яго ўбачыць у гэты час і на гэтым месцы і ў зьдзіўленьні прамаўчала.

Цыбулін прыняў яе маўчаньне за дазвол увайсьці ў кватэру й рашуча пераступіў парог, прычыніўшы за сабою дзьверы.

— Вы адны дома?—ён агледзеў вакола пакой і спыніўся паглядам на адчыненым вакне.

Маўчаньне Акіліны не дазваляла яму казаць што-кольвек больш, і Цыбулін маўчаў, чуючы сябе ніякавата.

Акіліна зразумела гэта, і ўпікнуўшы сябе за негасьціннасьць, ласкава запрапанавала Цыбуліну:

— Сядайце, калі ласка.

Цыбулін прысеў каля стала, палажыў рукі і зрабіў здавольным твар.

— Нудзіце бяз мужа?

— Ня зусім,—прызналася Акіліна.

— Вы праўду кажаце?

— Хочаце верце, хочаце не...

Яна перш прысела з боку яго, пасьля ўстала й падышла к вакну, затым вярнулася к ложку й паправіла пасьцель, памятую спаньнем, нарэшце вярнулася к сталу і стала пры ім, апершы рукою шчаку. Цыбулін павярнуўся к ёй і хапіў за руку вышэй локця.

Гэтага было даволі, каб Акіліна раптам успалілася прагным жаданьнем, пачырванела ўся, задрыжала і бязвольна, маўчліва апусьціла галаў яму на плечы. Нібы здарыўся з ёю якісь нечаканы выпадак, душэўныя сударгі, ці самленьне.

— Што з вамі, Акіліна Іванаўна? Што з вамі, галубка?..— пытаў Цыбулін, сумеўшыся.

Акіліна маўчала, усё больш і больш бязволячыся і апускаючыся на Цыбуліна ўсёю сваёю істотаю, цяжкаю, вогненна-палкаю... Яе губы бязмоцна шавяліліся, штосьці лавілі, рухалі ў нэрвовых сударгах, выпускалі нязьвязныя словы, шэпты...

Цыбулін зразумеў... Як злодзей, гострым зіркам кінуў на адчыненае вакно, пасьля на дзьверы, прыўстаў крыху з крэсла і ёмкім прыёмам тыгра, які хапае сваю здабычу, хапіў Акіліну на рукі і панёс к ложку.

Толькі шэсьць цьвёрдых, частых ступаў прагучэлі ў пустой каморцы, аддаўшыся ў яе чатырох сьцянах гулкім рэхам, якое ў свой чарод, зьлілося з апошнім трэскам ложка...

Акіліна ня помніла, што з ёю робіцца—яна згубіла памяць, тады калі яе крануў за руку Цыбулін... Звычайна так бывае ўсягды: памяць працуе ў моманты, калі ў чалавека толькі што вынікае тое ці іншае жаданьне, і гіне разсудак тады, калі вынікшае жаданьне захапляе сваю ахвяру цалкам. Акіліна на нейкі час як-бы перамагла свае пазывы, доўга валодаўшыя ёю, як-бы паднялася над імі, але ў рашучыя хвіліны ў яе не хапіла сілы і яна падалася, абязволілася. Стала цёсачкай, якая плавае па бурных хвалях, якой залежыць ад чужой волі быць папхнутай на дно, ці выхапленай... Апошняга ня здарылася: Цыбулін падапхнуў, а ня спыніў размах хваль...

Толькі праз хвілін дваццаць, а то і болей, Акіліна агледзелася, як і што з ёю зрабілася. Яна расплюшчыла вочы і паглядзела на вакно. Было яшчэ відна на дварэ, але на лісьцях дрэў адбівалася праменьне ўжо пачырванеўшага сонца, апушчанага к захаду. Лісьце не трапяталася—знача на

дварэ стаяла сьціш. Акіліну інстыктыўна пацягнула ўстаць і яна павярнулася на каморку, але стрэлася паглядам з Цыбуліным, які ў растрывожаным, нясьмела-сарамяжым выглядзе твару, стаяў у галаве, ля падушак, і чакаў, пакуль яна прароніць слова, з якога-бы ён мог заключыць, ці яму йсьці, ці аставацца. Ён прагна чакаў хоць якога зыку ад яе і нязьмігутна глядзеў ёй у твар. Акіліна нутром улавіла яго настрой і спагадліва-нядбайна, нават з агідаю, спакойным голасам праказала:

— Ідзеце, Цыбулін, мне хочацца астацца аднэй. Ідзеце, прашу я...

Цыбулін ёмка схінуўся, хочучы пацалаваць яе, але Акіліна знакам рукі заставіла яго выпрастацца; як ігрок, які жывучы натужным жыцьцём, перад новым сэансам ігры адчувае салодкую трывогу мажлівага посьпеху, а кончыўшы ігру і астаўшыся з невялікім пройгрышам, адчувае цяжкае разувер'е —як гэткі ігрок, пачуў сябе Цыбулін пасьля слоў Акіліны. Яму не аставалася нічога зрабіць, як павярнуцца і пайці з хаты. Так ён і зрабіў; але каб ня даць выгляду пакрыўджанага, ён з ужытай яму ёмкасьцю і вяртлявасьцю даў даўбачэньне, завярнуўся і пашоў к дзьвярам. І калі схаваўся з кватэры, Акіліна хутка паднялася з ложка, падбегла да дзьвярэй, прыслухалася, праверыла, ці добра зачынены, і вярнулася к люстэрку. Аднак беглы озірк, на яго, адбіў ахвоту пільней углядзецца, і Акіліна падышла к вакну і паглядзела на дзядзінец. Перад яе вачыма прайшла маладая пара, рабочы з жонкаю і маленькім дзіцянём. Гэта раптам узбудзіла ў Акіліны думкі аб Паўлусіку. Яна схамянулася і настаражылася. Прыпомніла, што маці абяцала яе абудзіць. Зацікавілася з стрывожнасьцю, як з ёю было? Ці ня прыходзіла маці? Ці не застала ў кватэры Цыбуліна? Што, калі яна падгледзела штокольвек? З патайных куткоў яе душы стаў прасочвацца некі атручаны сполах, перамешаны з гостраю балючаю прыкрасьцю. Вынікла пытаньне аб чэснасьці к мужу, а гэта пацягнула за сабою разуменьне праступку... Сьледам думка, не пакорная ёй, самастойная, вярнула на памяць Ладымера... Заруахаў цэлы рой няпрыемных вобразаў. Самі сабою пачалі ўставаць нарысы перадстаячай стрэчы з мужам; вось гэта ўжо блізка, толькі мінецца ноч. Як яна паглядзіць яму ў вочы? Прыдзецца таіць; а—раптам—Ладымер даведаецца—што тады? Акіліна пры гэтай думцы скапанулася ўсёй істотаю, крэпка сьціснула зубы і хапілася аберуч за косы. Нядаўна-перажытае глянула ёй у вочы адваротным, агідным чудзіш-

чам, праціўным і страшным... Яна ня ведала, што зрабіць, каб хутчэй адагнаць яго як далей ад сябе, прызабыць... Апраўдаць сябе не памыкалася, бо ня было за вошта хапіцца, толькі-б прызабыць, адыці...

Акіліна ня прыкмеціла, як увайшла ў хату маці, не пачула, як Паўлусік, пераступіўшы парог, пазваў яе, працягуючы ў руках букет красак. Нават не азірнулася на іх. Патрабавалася, каб маці падышла к ёй, зазірнула ў вочы і запытала:

— Ты толькі што ўстала? Выбачай, я зусім забыла цябе разбудзіць у час... Бач ня тое, што забыла, а не магла... Паўлусік зацягнуў мяне ў паплавы к самаму лесу і ніяк я не магла яго залучыць да дому. Бегае, разьвіцца, ганяецца за матылькамі і маладымі варонкамі, рве краскі і як быццам бы ні чуе, што ты яго завеш... Паглядзі, вунь, колькі ён табе прынёс красак... Знарок нёс...

Падбег хлапчук і замілаваным паглядам кінуў Акіліне ў твар. Нельга было-б утрымацца перад выкрытай ласкай, якая абыймала Паўлусіка, і найчарсьцвейшай душы чалавечай. Тым балей—мацеры. Акіліна, як стаяла хмурнаю, задуманаю, так раптам абярнулася ў адкрытую радасьць, у нязьведанае натхненьне. Зразу пачула, як зацюкала сэрца, абліваючыся гарачаю любасьцю, як глыбока западала гэта любасьць у яе душу... Акіліне прагна хацелася змыць гэтаю любасьцю да свайго дзіцяці нядаўны выпадак з сабою, згладзіць тую шурпатасьць, якая засталася ў яе нутры пасьля выхаду Цыбуліна. Яна схапіла Паўлусіка на рукі, моцна абняла яго, прыціснула да сябе і запойна расцалавала... Каб у гэты момант—мігнулася ёй думка—быў Ладымер, яна кінулася бы яму на шыю і цалавала бы доўга-доўга, пакуль бы той не дараваў ёй яе праступку. „Я так і зраблю, толькі ён прыедзе, толькі пераступіць парог у пакой, толькі ўбачу яго твар“. Акіліне ў гэтай хвілі прыходзілася двойчы ў шчырасьці, якая абурала яе нашчэнт, вылівалася на поверх, як ніколі, і прасілася для перадачы часткаю сынку, а часткаю мужу. Дрэнчыла балюча, каб хутчэй яго ўбачыць і аглушыць сваёю ласкаю.

— На, толькі панюхай, мама, як добра пахнуць краскі,— падаў мацеры пучок красак Паўлусік.

Акіліна йзноў падняла сынка, зноў пацалавала яго і панюхала краскі. Тонкі далікатны пах канюшыны і валошкі, цюцюпану й куколю стромым жаралком уліўся ёй у лёгкія...

— Мой сынок, ты, мабыць, шчыра любіш сваю маму?— разжалабена запытала яна Паўлусіка.

— Я вас вельмі люблю, мамачка. Старая, нязьменна сачучы за дачкою і ўнукам, за тым, як яны галубяцца, цешылася з абоіх, умілялася з іх шырокаю ўхмылкаю на твары. Яна ўжо даўно не прыкмячала гэтага з Акілінаю і думала сабе, з якое прычыны ў яе гэткая перамена.

— Ты мо' хацела куды пайсьці ды праспала?—запытала маці, каб не сядзець моўчкі.

— Не хацела... Пайду другім разам,—адказала Акіліна, і раптам пахмурнела, задумалася. Паўлусік хапіў яе за руку, а яна змаўчала. Акіліну запрыкрыла адно напамненьне аб ранейшым. Хай бы ніхто не кратаўся сёньнешняга дню ў яе жыцьці. Ён так глыбока страсянуў яе істоту, так балюча раніў сэрца і так многа вытачыў крыві, што яна гатова-б праклясьці яго, гатова-б выкасаваць з свайго жыцьця... Чым ён кончыцца для яе?

Паўлусік узяў мацеру за руку і падвёў к вакну, пасьля пабег і прысунуў зэдлік, устаў на яго і, аднэй рукою трымаючыся за мацеру, другою абапёрся на падаконьнік і схіліўся ў вакно.

— Можа тата едзе?

Старая падышла таксама і прытрымала Паўлусіка за хвалду кашулькі.

— Заўтра тата вернецца; сёньня ўжо вечар, паглядзі, сонейка зайшло і ў лесе ваўкі ходзяць...

— А мне гасьцінца прывязе?

— Прывязе, пэўна прывязе.

— А чаму ён сёньня ня едзе? А мо' яшчэ і прыедзе?

„Можа дзе й едзе“—падумалася Акіліне і яна міжвольна выцягнулася ў вакно і паглядзела ўбок выезду з Скупляў. Чорны змрок, згушчаны ў каронах дзярэў, спадаў шэрай палатнінай к зямлі. Сіняе неба цьмілася змрокам, мяняючы празрысты промень на смуглы отсьвет тухнучага заходу. Над лесам, яшчэ няярка, мігацела вячорка. Яе вітаў жабін хор і рэзвыя дзіцячыя крыкі на дзядзінцы.

— Не паедзе, дзеткі, сягоньня; будам лажыцца спаць, сыночак.

— Я пачакаю яшчэ...

— Трэба спаць, набегаўся за дзень... Лажэмся...

IX.

Паўдзённае сонца пякло, як і ў папярэднія дні. Стаяла духата—усе лужыны і канавы павысыхалі і ліпкі глей пакалоўся глыбокімі маршчынамі. Нават ветрыку не знаходзілася, каб паварушыць санлівымі расьлінікамі. Куды там гнаць коні

ў такую пагоду! Фурман, Посік, аднак нясьціханна матаў пугаю, раз-по-разу хвастаў то правага, то левага і нокаў-нокаў... Але гэта было на паказ, няшчыра, абы не сядзець маўчліва і непарухна.

Ладымер яшчэ ў лесе зьлез з возу і йдучы за ім вёў гутарку з Даміцэляй Гумбінскай, маладою, пахудзелаю, з чэрствым, памятым тварам ні то дзяўчынаю, ні то маладзіцаю. Яна была адзета ў моднае плацьце, перароблена з старога, з кароткімі рукавамі, буланае хварбы. Прычоска, так сама модная, біла на зухаватасьць і прыдавала Даміцэлі выгляд дасканалай артысткі. Тоўсты слой пудры на твары і чорныя пісагі пад сінімі вачыма, заўпалымі, непразрыстымі, кармон як кроў, на губах, худых і тонкіх, пад стройным носам, які-б вельмі пасаваў ёй, каб крыху паўнейшымі былі яе шчокі,— заўпалыя, роўныя, як дошка, грудзі, з сінімі жыламі, з гострым вытыркам ключыц—сьведчылі аб нярадасным жыцьці жанчыны. Можна было пашкадаваць яе і пашкадаваць шчыра. Але бедны выгляд жанчыны ўсё-ж ня суміў яе, а быццам бы быў зусім нязначным фактарам у яе жыцьці: яна была жывуча, рэзва, з настроем вяла гутарку з Ладымерам. Парог і агароднік, якія ехалі разам, не маглі зьдзівіцца адкуль у іх бяруцца словы і адкуль старчае цікавасьці. Між сабою яны падсьмейваліся і раскрывалі вочы.

Выехаўшы на грудок, з якога віднеюцца Скуплі ў чатырох вярстох, Ладымер настаражыўся, кінуў гутарку аб сваёй працы ў Пецярбурзе, і ўрачыста праказаў да Даміцэлі:

— Паглядзеце, чым-жа гэта не краса?

Даміцэля ажно прыўстала на возе і паглядзела на Скуплі.

— Праўда, прыгожая мясьціна. Я так даўно ўжо была ў маёнтку. Толькі перад вайною. Некалі езьдзіла з Масквы да знаёмых у маёнтак. Як весела праводзіла час! На поплаве зьбяромся і строім спэктакль, сярод красак, у вянкох, у траве. Цікава ўспомніць,—пахвалілася Даміцэля.

— Вось цяпер зэтое пагуляеце. Толькі выяўце жаданьне астацца ў нас за кіраўніка тэатрам і будзеце гуляць па поплаве ўволю.

— Што-ж, я буду ў вас лішнім ротам...—Праўду кажучы, я ад вас нічога, апроч яды, не патрабую. Я бескарысна памагу вашай працы. Я дзеля служэньня тэатру, даступнама для народу, многім ахвяравала. Кінула некалі багатых бацькоў, кінула імянітага жаніха, ўсё, што абяцала мне замужьства—і пашла ў тэатр, каб служыць народу...

Яе словы прыемна казлыталі Ладымера. Ён ня думаў, слухаючы Даміцэлю ні аб чым, нават аб сям'і, а выключна быў заняты плянаваньнем тэатральнай чыннасьці для сябе і для Даміцэлі. Яго цешыла і лісьціла тое, што яму ўдалося зусім выпадкова натрапіць на Даміцэлю, угаварыць яе ехаць. Як многа можна зрабіць з ёю! Ладымер пераканаў у гэтым Парога, калі ўгаворваў чым-колечы пасобіць ёй. Запрашэньне пячніка і выпаўненьне спраў, зьвязаных з рэмонтам паравіка, адышлі на задні плян, зацямніліся—то было дробным для Ладымера.

— Вось гэты дом—гэта палацы паноў-магнатаў Крэўскіх,—паясьняў Даміцэлі Ладымер:—У другім паверху мая кватэра, а ў ніжнім—саля для тэатру. А пабачыце, які дзіўны выгляд у парк з балькону! Мы прыедам, паабедаем і я вам пакажу ўсе мясцы. Пабачыце...

Яны спусьціліся з грудка. Парк засланіў сабою будынкі саўхозу. Ладымер падсеў на воз і вярнуўся да ранейшага апавяданьня аб сваім жыцьці на заводзе, аб прычынах захапленьня тэатрам. Даміцэля ўважліва слухала яго, закідала пытаньнямі, цікавілася многімі падрабязгамі.

У захапленьні гутаркаю, абое не прыкмячалі нічога, што было абапал дарогі, скора, ці не, даедуць. Толькі больш громкія выкрыкі фурмана адцягалі іх увагу і то на момант. Нават топалі, асаджаныя абапал паўздарожку пры самым саўхозу, не зьвярнулі на сябе іх увагі.

— Вось і дома, якраз чатыры гадзіны,—знарок гульчэй праказаў Парог, калі коні завярнулі ў маёнтак.

Гэта перарвала гутарку Ладымера з Даміцэляй, і яны прымоўклі. У маўчаньні прыехалі на дзядзінец. Калі фурман прыпыніў каля ганку коні, а з усіх бакоў сталі зьбягацца дзеці, Ладымер першым зьлез з возу і прыгледзеўся на дзяцей, шукаючы свайго Паўлусіка. Яго ня было.

— Давайце я вазьму ваш клунак і пойдзем да мяне,—запрапанаваў ён Даміцэлі.

Тая маўчліва згадзілася. Ладымер пасобіў ёй зьлезьці, дастаў невялічкі, стары і падраны саквояж і ўзышоў на ганак.

— Прыходзьце, таварыш Парог, у тэатр.

— Ня ведаю, спачыць хочацца з дарогі; хіба заўтра ўжо.

— А я вось з Даміцэляй Вікэнтаўнай пайду аглядаць.

Не атрымаўшы адказу, ён пашоў у дзьверы, прапускаючы ўперад Даміцэлю, а сам нясучы яе клунак і свае пакункі.

На сходах, толькі яны намерыліся паднімацца, іх стрэў Паўлусік. Радасны таму, што напаткаў бацьку, хлопчык у голас пракрычаў, не зважаючы на Даміцэлю:

— Мы з вакна цябе ўгледзелі. Мама сядзіць у пакоі і чакае цябе. Прывёз мне гасьцінца?

— Бяжы сынок, уперад, дома дам, бяжы. Але на ўсходах Паўлусік не адыходзіў ад Ладымера, а толькі йшоў першым, як-бы правадыром. На калідорж-ы ён пабег к дзьвярам кватэры, пастукаў, пасьля адчыніў іх і ўскочыўшы ў пакой, пракрычаў:

— Мама, вось і папа. Ды з некаю цёцяю нават. Прыгатуй яму гарбаты.

Гэта пачуў Ладымер яшчэ за парогам. А калі пераступіў у кватэру, то ўгледзіў, як Акіліна паднялася з крэсла, зрабіла некалькі крокаў к сталу і разам адвярнулася.

— Акіліна, добрывечар!—прывітаўся Ладымер:—Як маешся?

Акіліна павярнулася да яго, потым акінула падазроным поглядам Даміцэлю і праказала не сваім, а падсказаным тутжа агідным голасам:

— А гэта хто?—паказала пальцам на Даміцэлю.

— Пазнайцеся—Даміцэля Гумбінская, драматычная артыстка. Прыехала к нам на гастролі. Пазнайся.

Каб пераняць мажлівую выці прыкрасьць, на што былі даныя, Даміцэля першаю падышла да Акіліны і працягнула ёй руку. Акіліна несхаця прывіталася і адышлася к вакну.

— Сядайце, Даміцэля Вікэнтаўна,—запрапанаваў Ладымер:—А ты, Акіліна, дай нам паабедаць.

— Я не варыла.

— Дык звары.

— А ты дасі з чаго?

— Чаму гэта?... Што тут за штукі такія!—пагарачыўся Ладымер і зразу прыціх, успомніўшы пра Даміцэлю:—Пашукай чаго; а не—на—грошы ды пайдзі пастарайся купіць.

Нічога не адказаўшы, Акіліна вышла з кватэры. З-за дзьвярэй пазвала Паўлусіка і вялела пазваць мацеру. Хлопчык хутка пабег па калідоры.

— Скажы, хай баба йдзе дасьць есьці бацьку,—пусьціла за ім удагонку.

Сама-ж вышла на дзядзінец, пастаяла крыху каля ганку і крута павярнула к парку. Увайшоўшы ў яго, Акіліна разам з подухам асьвяжаючага паветру, пачула ў сваім нутры цяжкае, балючае самапачуцьцё: як быццам-бы хтосьць сьціснуў яе

сэрца і прыпыніў на самым развою ажыцьцяўленьне салодкіх выпакутаваных у апошнія хвілі надзей, быццам раптам пагасьлі ўсе агоньчыкі толькі што народжаных жаданьняў, разьлічаных плянаў, і яна асталася аднэю адна, чужою для сваіх і для чужых. Ногі пераступалі міжвольна, бо ў яе ня было ніякіх намераў, ні рашчотаў, куды йсьці і што рабіць. Вакол вісела цёмная заслона, канцы якое сыходзіліся ў кватэры, у істоце прывезенай Ладымерам дзяўчыны, а ў сэрцы, сьціснутым, хвалявала бурлівая, ядавітая злосьць. Што хвілю Акіліне рабілася цяжэй на душы і што хвілю злосьць мацней стукала ў мозаг.

У гэткім становішчы, бяспытальна, яна прайшла ўвесь працяг дарожкі, вярнулася назад і заламала направа. Прайшла яшчэ ганоў са двоі і пасьля прысела пры кусьце агрэсту. Доўга прасядзела, кіпучы і згараючы ў нарастаючай злосьці. Падкінуліся сударагі, нэрвовасьць. Акіліна вярцелася і так і сяк, зрывала лісьце з агрэсту, не зважаючы на калюшкі, шчыпала траву, закідала голаў кверху, топячы пагляд у гушчы лісьцяў. Не зважала на пяяньне птушак, ня дбала пра шэршні, якія гулі вакол яе. Нешта пазывала яе знайсьці выразнае рашэньне, разарваць кола заварожнасьці, пераступіць вынікшы рубікон. Але, як і што? Якімі сродкамі, якім чынам? Акіліне рабілася душна ад ахапіўшага яе абурэньня, падыходзіла к горлу моташнасьць... Нарэшце, мо' праз гадзін паўтары цяжкіх душэўных пакут, раптам, як-бы хто пусьціў ёй электрычную іскру дзесяткаў вольт па сіле, Акіліна ўсхапілася на ногі, саступіла на дарожку і сьпешным крокам уверана, затаіўшы некую страшную думку, пабегла напрамкам к муру, паміж сажалку.

## XI.

Астаўшыся ў кватэры ўдваіх, Ладымер пільна прыглядаўся Даміцэлі ў твар, баючыся, каб хаця не адбілася яго дамашняе жыцьцё на яе настроі. Дэмонстрацыя Акіліны, якую падмеціла Даміцэля, кранулі яе за сэрца. Можна было думаць, што яе чулая душа адзыўчыва на ўсе вібрацыі людзкога жыцьця. Ладымер глядзеў на артыстку, як на ценькае далікатнае стварэньне, як на шкляную лялечку, якую трэба насіць з асьцярогаю. Гэтым зьясьняецца тая павага і ўшанаваньне, з якімі ён справодзіў яе праз усю дарогу. Ладымеру вельмі хацелася даць мажлівасьць Даміцэлі прыстаканіцца ў яго сям'і, даць ёй мажлівасьць адпачыць і адначасова выкарыстаць для культурнае працы. Яму ня прыходзіла на думку,

што Акіліна можа дапусьціць тую ці іншую западозранасьць у яго чэснасьці да яе. За сем гадоў сумеснага жыцьця ён вачавідка даказаў жонцы сваю вернасьць і нават павагу. Ці можна, сапраўды, у кожнае спатканьне мужчыны з кабетаю ўкладываць палавыя мотывы? Ці на гэтым пабудаваны адносіны між двума поламі людзкага роду? Ладымер у захапленьні ідэяў тэатру на вёсцы, яго дабрачыннай місыяй, забыўся аба ўсім іншым, фактычна адапхнуў усё ад сябе. Па яго думцы і няма нічога ў жыцьці, што-б раўнялася пасьвячэньню сваёй істоты ідэі агульнага дабра. Каб хто яму сказаў па дарозе да дому, што Акіліна зусім ня здатна падзяляць яго натхненьне з прычыны запрашэньня Даміцэлі на гастролі ў Скуплі, Ладымер ня даўся-бы гаварыць.

З гэткаю думкаю Ладымер прыехаў дамоў, з ёю-ж увайшоў у кватэру. Знаёмячы Акіліну з Даміцэлей, ён думаў, што зробіць гэтым прыемнасьць жонцы, і тая з патрэбнай увагай аднясецца к артысцы. І раптам — на табе — адкрытая варажасьць. Ладымер ня мог заставацца спакойным, бачачы нялюдзкае абхадженьне Акіліны. А калі яна пашла з пакою, Ладымер раз-по-разу азіраўся на дзьверы, прыслухоўваўся да кожнага стуку ў калідоры, і нездаволена адварочваўся. У нутры яго закіпала злосьць на Акіліну і ён ня мог спакойна гутарыць з Даміцэлей. А тая, з свайго боку, адчувала нераўнавагу Ладымеравага настрою і закідала думкамі наперад, як быць, ці астацца, а калі не, то куды ехаць.

— Ваша жонка, відаць, пакрыўджана тым, што я прыехала з вамі?

— Нічога, зьмірыцца,—нераўнадушна адказаў Ладымер, прыўстаў і паглядзеў у вакно: — З вашым братам усялякае бывае. Адны гэткія, а другія іншыя, — ён пусьціў па твары знарочыстую ўхмылку.

— Я думаю, таварыш Ложка, што мне мо‘ лепш будзе, калі я выеду ад вас.

— Ніякім чынам; нельга папускацца розным капрызам. Мала што яна захоча? Ёй не падабаецца, што займаюся тэатрам, пасьля нойдзецца іншае што...

За дзьвярыма пачуўся тонкі галасок Паўлусіка. Абое, Ладымер і Даміцэля, настаражыліся і абярнуліся поглядамі да дзьвярэй. Ладымер сабраўся папікнуць Акіліну і ў думках падбіраў адпаведны сказ. Паўлусік адчыніў дзьверы і першым убег у хату. А сьледам увайшла цешча. Ладымер зразу спаў з сэрца і спакойным тонам запытаў у Паўлусіка:

— А дзе-ж мама?

— Ня ведаю, пашла на дзядзінец.

— Вы, маці, яе ня бачылі?

— А ці-ж яна ня дома?—запытала цешча.

— Пашла недзе.

— То хіба ня будзем яе чакаць, а сядайце ды абедайце,—праказала цешча, прыглядаючыся на Даміцэлю: — Акіліна надыдзе.

— А ласьне ёсьць што-кольвек абедаць?

— Варылі сёе-тое.

Ладымер скрывіў злосную міну і цьвёрдым голасам адказаў:

— А яна-ж казала, што няма чаго... Давайце, што ёсьць... Сядайце, Даміцэля Вікэнтаўна. Сядай, Паўлусік.

Хутка старая падала на стол капусту і ўсе ў чацьвярых пpыняліся абедаць. За абедам ніхто нічога ня гутарыў і Ладымер, як і да гэтага, пазіраў на дзьверы і чакаў з няцерпам Акіліны.

Цешча таксама непакоілася за дачку, некалькі разоў устаючы з-за стала і падыходзячы да вакна.

— Дзе яна дзелася?—ня стрымаўся Ладымер, вылазячы з-за стала.

— Я хіба пайду пашукаю яе?—запытала цешча і, не чакаючы адказу, вышла з хаты. Паўлусік пабег за бабаю.

Ладымер няпрыветным зіркам правёў іх да дзьвярэй і пасьля абярнуўся да Даміцэлі:

— Давайце, Даміцэля Вікэнтаўна, я павяду вас паказаць нашу сцэну?

— Давайце,—згадзілася Даміцэля.

Яны тут-жа вышлі з кватэры. Ладымер з хвілінку пастаяў за дзьвярыма, ня ведаючы, як быць, ці пакідаць незапёртай кватэру, ці мо‘ пачакаць, пакуль хто вернецца. Рашыў пакінуць.

Паціхай моўчкі прайшлі яны калідор і спусьціліся па сходах на ганак.

— Давайце пройдам у парк, да сажалкі; там паглядзімо красак і культурную агародніну, а пасьля пойдзем у памяшканьне для тэатру. Паглядзіцё, якая прыгожасьць прыроды!—запрапанаваў Ладымер, і яны павярнулі ў парк тэй-жа дарогаю, якою йшла Акіліна. Але ўвайшоўшы, яны не пашлі ў глыб парку, а павярнулі налева, да сажалкі. Ідучы, Ладымер падрабязна расказваў Даміцэлі сучаснае становішча саўхозу і яго мінуласьць. Даміцэля ня так слухала яго, як давала выгляд, што слухае; сама-ж з зацікаўленьнем пазірала

па бакох, прыглядаючыся да кожнага дрэва, да ўсялякага кусьціку. Пралятала птушка—яна кідала ёй усьлед свой погляд, вярцеўся матылёк—Даміцэля прыпынялася і, як дзіця, памыкалася кінуцца і злавіць. Яе ачулая душа, сасмагшая па чыстым паветры, па зелені, па пяяньню птушак, апівалася вакольнымі вобразамі і цешылася. Даміцэлі не хацелася й шавяльнуць мозгам, не хацелася на момант адцягнуцца ў бок. Роўная, ціхая гутарка-гудзеньне Ладымера, толькі была дапаўненьнем агульнай музыкі, якую вялі мошкі, птушкі і ціхі шэлест лісьцяў. Працягнуўшы руку, Даміцэля гладзіла кусты, мацала комлі клёнаў і ліп, лавіла тоненькія павуцінкі. Ужо забылася аб тым, што прыдзецца аглядаць вядомыя мясьціны—дзеля чаго, калі ўвесь парк—адна суцэльная прыгожая мясьціна. Яна-б, чулася так Даміцэлі, ішла-б бесканечна сваім роўным ціхім крокам і не стамілася-бы. Усё-б любавалася, усё-б мілавала жывучую прыроду.

Каля старое, пахіленае, абросшае мохам альтанкі, Ладымер павярнуў налева. Даміцэля не заўважыла гэтага. Толькі, калі яны прайшлі з паўганоў і між густых кустоў крушыны і какалушы яна спынілася вачыма на лапінах цёмнае вады, тады запытала Ладымера:

— Ці ня сажалка вунь?

— Вось налева ад яе клумбы красак. Забачыце, як мастацка іх рассадзіў Парог. Сам агроном і з замілаваньнем любіць сваю справу. Дарагі чалавек. Каб такіх пабольш. Вось ужо са шчырасьцю працуе для савецкае ўлады — няма чаго казаць. Ведаеце, мяне затым і зманілі сюды. Думаю, што нам удасца цалкам аднавіць гэты саўхоз. Я вазьмуся каля паравіка, адстрою млын, лесапілку і крухмальню... А вы... Убачыце, як усё заверціцца, заходзіць. А паставіўшы на мазь—перадаць сьвядомым працаўнікам, якія-бы глядзелі на гаспадарства, як на сваё ўласнае... Вось, Даміцэля Вікэнтаўна, у чым заключаецца адно з адпаведнейшых заданьняў—зрабіць культурнымі нізы. Улажыць у душу цёмнага селяніна выразнае адзнаньне дзяржаўнасьці, доўгу перад обчаствам, перад усім чалавецтвам. Нельга зараз глядзець на казну, як на нешта чужое, на вошта часамі (а то і часта) можна махнуць рукою. Нельга ламаць і па кусочках расьцягаць, як то многія робяць яшчэ і да гэтага часу... Пі амойму, Даміцэля Вікэнтаўна, правядзеньне асьветы—то першае заданьне ня толькі правіцельства, а і нас, больш-менш, сьвядомых людзей. Вось чаму нам асабліва трэба налегчы на тэатр. Трэба паказаць рэволюцыйную драму, асьвятліць вялікія ідэі; а поруч—настаўіцельныя па-

станоўкі... Усё відаць, ня трэба натужваць памяці. Селянін ня прывык думаць над прачытаным, ды і чытаць у большасьці ня ўмее. Перш паказаць яму трэба вобразамі, ачула, як на далоні...

— Стойце, Ладымер Іванавіч!—раптам жахліва закрычала Даміцэля, тузнуўшы Ладымера за рукаў:

— Вунь жонка ваша йдзе сюды...

Ладымер разам спыніўся і паглядзеў між бераг сажалкі, да якой яны падышлі. Зусім недалечка ад іх, подбегам, з кіём у руках, ішла Акіліна.

— Дзе ты была дагэтуль?—паслаў Ладымер насустрэч, сумеўшыся, аднак, гэткай стрэчы. Адказу не атрымаў.

Даміцэля на некалькі крокаў адступілася ўбок і нязьмігутна глядзела на Акіліну. У яе нутры зашчымела, зарухалі палахлівыя думкі. Як зьвер, захоплены зьнянацк на месцы ахвотнікамі, яна ня ведала куды падацца, як кіўнуць галавою, як шавяльнуць губамі. Не глядзела на Ладымера, бо не чакала ад яго жаднай дапамогі.

Ладымеру перадаўся яе настрой, і ён таксама чакаў нечага надзвычайнага і нясупынна паводзіў вачыма то ўправа, то ўлева. Калі Акіліна падышла зусім блізка, на адгон якіх пяцёх крокаў ад іх, ён крануўся з месца, каб яе супыніць. Але Акіліна хіснулася ў бок і шустрым скокам, як кошка наскакаючы на птушку, кінулася на Даміцэлю. Ладымер ня ўсьпеў агледзецца, як абедзьве жанчыны шчапіліся за валасы, завярцеліся клубком, закрычалі.

— Курва паганая! Ты прыехала жыцьцё мне разьбіць!—дзіка крычала Акіліна, перамагаючы Даміцэлю і таўхаючы яе ў бок сажалкі. Даміцэля, падаўшы некалькі выкрыкаў, агаласіўшых увесь парк, ціха стагнала.

Ладымер быў ашаломлен. Хвілін са тры ён не знаходзіў, што зрабіць, захоплены зьнянацку нечаканым выпадкам. Прастой ён яшчэ момант, Акіліна ўпіхнула-бы Даміцэлю ў сажалку... Але хутка ён знайшоўся, падбег да Акіліны і сцапаў яе ззаду абеaccording. Даміцэля міжвольна падалася ў бок і, зачапіўшыся за ламачыну, грымнулася на зямлю. Акіліна ва ўсю моц закрычала ў абдыме Ладымера:

— Згубца-а! Пракля-а-ты згубца!—і залілася сударжнымі ўзрыдамі.

Ладымер губіўся, ня ведаючы, што рабіць, і ўмольным голасам перапрашаў Акіліну, забыўшы пра Даміцэлю, ня чу-

ючы яе глухіх усхліпаў. А з саўхозу на іх крык беглі Парог у расьпяразанай кашульцы, бяз шапкі, агароднік з разаком у руцэ і некалькі рабочых з палкамі. Адзін з апошніх, адвярнуўшыся назад, крычаў:

— Таварыш Цыбулін, бяжэм разам! Таварыш Цыбулін, сорамна баяцца!..

Масква—Менск
1924 г.
Студзень—Люты.

---

## Дзіця.

### М. Грамыка.

Родная дзетка расьце на вачох,
Новае нешта сягоньня гавора,
Скардзіцца неяк пра ўласнае гора...
Столькі выразу у сініх вачох,
Клопату столькі на гэных плячох:
Людзі вялікія—чыстае гора!

*

Хочацца есьці,—чакаюць чагось!
Чуюць-жа, чуюць выразнае: „гі-гі“,
Бачаць-жа, бачаць маленькія фігі,—
Пальчыкі ясна іх склалі ўрозь...
Маці згарнула, кладзе наўскос,
Раптам цалуе маленькія фігі...

*

„— Аа—ае, Расьцінька.
„Ляжы, лялька, просьценька...
„Люлі, люлі. Жыў каток,
Меў вусаценькі раток.
„За вусамі зубачкі,
„Вушкі—нібы трубачкі
Сьвеціць вочкамі ў начы,—
Сьпі, Расточак, памаўчы!“
— Гі-гі-гу-а-гіа-нне!
— Хто „не“, коцік?—„Гіа-мме!

*

Плача малое, натужна крычыць,
Хоча парваць павівальныя путы:
Ножачкі, ручачкі складзены, скуты.
Вочкамі пільна за маткай сачыць,
Так і здаецца,—пад грудзі ўзьляціць—
Але-ж на крыльлях пялюшкі і путы!

*

— „Хэа-хэа-ва-ва-льлі“—
Нейкая дзіўная, дзіўная мова,
Першыя птушачкі вольнага слова,
Гутарка, продкі якую вялі
Можа дзе-небудзь на гэнай ральлі,—
Спадчына першага дзікага слова...

*

Дагістарычны паўзьверавы рык
Чуецца часам скрозь гэныя гукі,
Першае злучнасьці смутныя мукі,
Першае любасьці радасны крык
Маўпаў, нам кроўных, цікавы язык,
Пра-пра-арыйскія мяккія гукі...

*

— „Аа-мма-а-нна-а-льле“
З маткаю ў спрэчку малое ўступае,
Звольненай ручкай паветра хапае,
Раптам усьмешку—чырвонец дае,
Плечкі ўздымае, вось-вось устае,
Просіць і грозіць, увагі чакае.

*

Люлі, люлі. Жыў каток,
Хадзіў, шэры, у садок,
У садочку птушачкі,
Мышачкі-зьвярушачкі,
Коціка спужаліся.
Раптам пахаваліся:
Верабейка скок на плот
— „Гі-гі... гу!“
А сарока крыльлі ўлёт.
Мышка за цаглiначку,—
— „Аа-хэ-гга!“
Толькі бачыў сьпіначку.

*

Сеў на павекі, на жылачкі сон.
Вусны частуюць апошняй усьмешкаю,
Сьвеціць галоўка, як золатам, плешкаю,
Твараў вялікіх над ёй парасон:
Ей ў абарону, як волат—Самсон
Бацька і маці схіліліс з усьмешкаю...

II.

Сівая ночка пад небам вісіць.
Сьціснула подыхам антыцыклёну.
Шэрань на дрэвах, як пасмачкі лёну.
Поўнач мінулася. Дзіцятка сьпіць.
Нешта пад чэрапам мякенькім сьніць
І усьмяхаецца антыцыклёну.

*

Сьпіць і ня ведае шэптаў благіх:
„Кажуць, яе і дагэтуль ня ксьцілі...
„Кажуць, ні поп і ні ксёндз не крапілі...
„Але-ж бацькоў ахрысьцілі саміх!
„Нейкая новая вера у іх,—
„Кажуць, па новаму неяк аксьцілі...

*

„Кажуць, чырвоны з дзяцёнкам стаяў,
„Папрыбіралі куты у портрэты,
„Пілі ўсе разам квасень перагрэты...
„Смолкай курылі, а большы пяяў.
„Адылі раптам дзяцёнка узяў
„Ды абыйшоў усе чыста портрэты“.

III.

Поўнач мінаецца шэптаў благіх.
Месяц спыняе свой тварык над хаткаю.
Хто там на месяцы з чорнай лапаткаю?
Гэта-ж паўзьбераажжы мораў сухіх,
Гэта-ж і горы і схілы на іх,—
Кроўныя з нашай зямелькаю-маткаю...

*

Сінія вочкі на месяц гаядзяць.
Месяц маленькі гуляе у зрэнках,
Месяц у беленькіх хмарачках-пенках.
Цягнецца ручка, каб месяц забраць:
Добра, каб з небам у хатцы гуляць!
Спрытнасьці хопіць па чорненькіх зрэнках.

IV.

Так. Праз зімовую сінюю здань
Ясна прырода малога жагнае,
Ў яснай, адвечнай купелі купае.
Як-бы гавора: прачніся, устань!
Ў ясныя, зорныя вочы заглянь,—
Маці-прырода твой шлях асьвятляе!

*

Вырасьцеш, выбераш веру сабе:
Веру у вечную волю прыроды.
Вольнай навукі пазнаеш выгоды,
Будзеш удзельнікам ў гэтай сяўбе,—
З цемраю пройдзеш свой шлях ў барацьбе,
Моцнае дзіцятка моцнай прыроды!

*

Сонца хай патэрам будзе для нас!
Росныя травы—хай будуць крапілам!
Хвойныя пахі—нязьменным кадзілам!
Сьвечкамі—Зоркі; між іх: Валапас,
Рэя, і Рыбы, і Рожа, Пэгас...
Прага да ведаў—і звонам і білам!
Псальмамі—гымны чаканьня вясны,
Майскае сьвята і провады лета,
Сьпевы каханьня, чым сэрца угрэта.
Жоўтаму полю паклон паясны
Хай ахвяруюць дачушкі, сыны,—
Іншых ахвяр хай ня знае плянэта!

*

Быбліяй будзе прыроды закон,
Будуць прарокамі людзі навукі:
Іх падтрымаюць мазольныя рукі.
Будуць „дзядамі“ лічыцца Ньютон,
Лейбніц, і Дарвін, і Маркс, і Бэкон, —
Іх сьвяткаваць будуць з часам унукі!

V.

Раніца. Дзетка бяздумная сьпіць.
Месяц схаваўся, і гасяцца зоркі.
Хто-ж гэта твар паказаў з-за узгорку?
Хто гэта ледзь кругавід залаціць?
Воран схапіўся, на здобыч ляціць.
Ў небе вісіць адзінокая зорка...

*

— „Аа-мма-а-нна-а-лям“
Раптам прачнулася. Вось пазяхае.
Пэўнай увагі ад маці чакае—
— „Зараз малому я естачкі дам!“
Грудзі малому—і вера і храм:
Тут яно веры вякоў пагаджае,
Тут яно жыцьця закон выканае.
Гэтымі гукамі: „мма-а і лям“
Нас яно ўводзіць у лепшы той храм,
Людзкасьць куды уваход пачынае!

1/I—24 г.

# Марксыцкі аршын.

Л. Родзевіч.

У беларускай глушы ў вёсцы Забалоцьце, яшчэ за часы цара было сваё начальства—стараста Сымон Пісака—адзін ён у вёсцы быў пісьменны, за ўсіх ён расьпісваўся, дзе толькі трэба было, а гэта клопат для забалачан быў не малы. Вось чаму трымаў «сваю» вёску Сымон у строгім «прыжыме».

— Начальства з мяне, а я з вас трэбую.

Гэтак ён адказааў усім тым, хто паважыўся жаліцца ці крыўдзіцца на яго, і гэтым ён умацоўваў свой аўторытэт і правату.

Але вось настаў час, калі старое, плюючы на свой сьлед, стоцьма ляцела ў нябыцьцё, а новае віхрам распыльвала ўсе перашкоды, заставы—узрастала і магутнела. Пранеслася рэволюцыя ў сакавіку і кастрычніку.

Вёска Забалоцьце таксама пражыла рэволюцыю, толькі не ў кастрычніку, а так праз некалькі месяцаў пазьней. І «рэволюцыю» гэтую зрабіў Сымон, загадаўшы выбраць сельскі комітэт.

Каб ня Сымон, дык вёска Забалоцьце мо' да гэтага часу жыла-б пад страхам бога і цара, дзякуючы таму, што яе географічнае палажэньне было, як казаў той-жа Сымон, на канцы сьвету, дзе ракі зімуюць.

Пасьля рэволюцыі ўся цяжасьць грамадзкага, духоўнага і экономічнага будаўніцтва Забалоцьця ўзьлягла на Сымона. Ён, Сымон Пісака, як майстар на ўсе рукі і сторублёвая галава, стаў для забалачан бог, цар і папіхач. Ён сэкратар і старшыня комітэту, ён дэпутат ўва ўсе канцы сьвету, ён пасланец разьведаць аб налогах, аб прызыве, аб выдачы солі, мануфактуры—каб было сто такіх Сымонаў, дык усім хапіла-бы работы.

Сымон з гордасьцю адчуваў сваё верхаводзтва, але ня раз, змучаны душой і целам, ён любіў сябе пашкадаваць: «Эх, катаржная работа, кожнаму дагадзі, кожнага паслухай. Па-

стух—і той большы начальнік. Адкажуся заўтра, хоць іх палярушI» Аднак аддыхнуўшы, Сымон браўся яшчэ з большай шчырасьцю за сваю службу.

І кацілася жыцьцё ў Забалоцьці роўна і мірна. Сымон сваім прыродным розумам вырашаў усе жыцьцёвыя закавыкі, сваім здаровым сялянскім нутром пераварываў новае, нябывалае і сваей простай гаворкай выкладаў, дапасоўваў да акружаючай сярмяжнай грамады.

Усе забалачане паважалі Сымона Пісаку, як незамянімага свайго дзеяча, і былі ім здаволены. Галоўнае тое, што Сымон быў падатлівы чалавек: трэба якую незаконную паперку падпісаць—Сымон падпіша, трэба павялічыць надзел ці ядакоў—павялічыць.

Сымон-жа адчуваў сябе не самавіта. Яму не даспадобы было тое, што ўсё, што даходзіла да Забалоцьця, было новым, асаблівым, а вось забалачане аставался такімі самымі, быццам да іх гэта зусім ня тычыцца. І ствараўся нейкі недахват, пахіб. Здаецца, робіцца ўсё, як і трэба, згодна дэкрэту і прадпісаньняў, а выходзе неяк ня так, як яму, Сымону, хацелася. У чым гэтае «ня так» Сымон ня мог сабе ўявіць. Ён казаў: „У Забалоцьці рэволюцыя альбо недароблена, альбо перароблена».

Але вось хутка Сымону давялося выпукла зразумець у чым бяда. Проста-ткі як яму хто самую гушчу праўды лапатай палажыў у галаву.

А здарылася гэта ў Маскве, дзе так шмат муроў, людзей і шуму. Завозіў ён туды сабранае збожжа на карысьць галадаючых. Як дарагога гасьця вадзілі яго па розных сходках, усюды паднімалі на ўра, а ён там пацеў, пахнуў дзёгцем, гутарку сваю выказваў больш рукамі, як голасам, драмаў на доўгіх прамовах.

Адно што яму запала ў галаву з аднэй прамовы, гэта тое, што толькі трымаючыся Маркса можна будаваць новае жыцьцё—ён дае адказ на ўсе недарэчнасьці, на ўсе пытаньні, трэба кожны чын, паступак мерыць марксыцкім аршынам.

Надта-ж Сымону гэта спадабалася, прынамсі выразна, зразумела: адмерыў, чык—і адрэзаў.

— Куплю, канешна куплю гэты дзіўны аршын і навяду лад у Забалоцьці—цьвёрда рашыў Сымон.

Праўда, аршын гэты марксыцкі Сымону не ўдалося здабыць—яму растлумачылі, што Маркс—гэта вялікі мудрэц, а не аршын, што ён напісаў шмат разумных і тоўстых кніг і вось у гэтых кнігах, як з бяздоннай крыніцы, трэба чарпаць праў-

ду і адказы на жыцьцёвыя пытаньні. Сымона гэта не расчаравала—ён разважаў: „Гм, не сьвятыя гаршкі лепяць, а мы, мужыкі, ня лыкам шыты. Цяпер такі час, нам усё трэба ведаць і ўмець. Саха сахой, але трэба і да кнігі прывыкаць".

Сымон выпрасіў у аднаго комуністага некалькі тамоў „Капіталу" і джгнуў з ім барджэй да хаты.

Едучы ў цягніку, аж ня мог ён усядзець на месцы з радасьці. Ён прадстаўляў свой трыумф, калі сакрэтна прысвоіць сабе мудрасьць з гэтых кніг і раптам адкрые новы сьвет перад сваімі суседзямі—вось ён вырасьце, узьвялічыцца ў іх вачох. Стаўшы вялікім і слаўным, дакажа ўрэшце сваёй жонцы, што бабіна дарога ад печы да парога, і хай лапатуха носу ня ткне ў яго грамадзкія справы і не дапякае, што дроў няма, што боб не ўрадзіў і інш.

Прыехаўшы дамоў, Сымон зразу залез на кут, зьдзьмухануў са стала, сьцёр рукавом і, лізануўшы вялікі палец правай рукі, пачаў з вялікім задаваленьнем і душэўнай паўнатой пералістваць першы том «Капіталу». Пералістаўшы з пачатку ў канец і наадварот, Сымон пачаў мумрыць пад нос—нарасьпеў чытаць, торкаючы пальцам ў кожнае слова. Прачытаўшы першую старонку, раптам праясьнеў:

— Ах, шэльма, ну і смагла ў яго выходзе!—Але пасьля маленькай раздумы спахмурнеў, пачухаў патыліцу, расшпіліў каўнер і зноў пачаў ад пачатку.

Кажуць, што за кожную навуку трэба плаціць. Бедны Сымон, з вялікім барышом заплаціў ёй потам, недаспанымі начамі і жаночай грызьнёй. Ой шмат заплаціў, але навукі ані на нюх не здабыў. Адно добра, што ён не падаў духам: ужо да чаго прычэпіцца ды не адойдзе, як сьляпы ад плоту.

— Гэта з няпрывычкі—паўтараў ён—а як прывыкну, дык усё ясна стане.

— Сымон далей стараўся прывыкаць.

А тымчасам у Забалоцьці справы разварочваліся. Па прыкладу другіх вёсак, забалачане рашылі перайсьці з трохпольля на многапольле. На гэтую прыгоду быў склікан сход. На сходзе Сымон па старой памяці ўвайшоў у роль аратара.

— Таварышы, бяз Маркса нічога ня будзе, без яго ня толькі ступіць, але і дыхнуць нельга. А дзеля таго, толькі меручы яго марксыцкім аршынам можна перайсьці з трохпольля на многапольле. Але вы ня думайце, што гэты аршын ёсьць, не, яго няма, але ён як-бы і ёсьць...

І пачаў Сымон выкладаць сваю марксыцкую веду перад сходам, выкладаць тое, што завучыў напамяць, пачаў карадзіць недарэчнасьць, як кажуць, ні ў пяць, ні ў дзесяць, пераплятаючы сваю гутарку, страшна перакручанымі, нікому на сьвеце незразумелымі словамі.

Стаялі сяляне як у лесе, вушы разьвесілі, лоб моршчылі, пакашлівалі—ані-ні ў цямкі не даецца Сымонава мудрагель. Слухалі яны, слухалі і хацелі было запярэчыць, спыніць аратара, але пасьля струсілі: а што калі Сымон ды нешта разумнае кажа, а яны ня цямяць толькі па дурнаце сваёй? Ажно нехта пусьціў чутку, што Сымон перабраў мерку, што ў яго мабыць клёпка вывалілася з галавы. Гэта трапіла ўсім у пераконаньне. Патопалі, пацікалі плячмі ды з нічым і разбрыліся па хатах.

Моцна занепакоіла Сымона гэтая няўдача. Яшчэ з большай запальчывасьцю накінуўся ён на „Капітал“; чытаў у голас і шэптам, перачытваў, завучваў. Чуў, што галава яго робіцца вялікай, але пустой і лёгкай. Чуў ён яшчэ нешта горшае: што ёнваліцца ўніз са сваёй вышыні дзеяча. Сяляне суседзі чураюцца, абходзяць яго. Замест яго аднаго намножылася ўжо шмат пісьменных і аратараў і правадыроў. Нават прылятаілі на самалёце нейкія агітатары; вярнуліся дамоў чырвонаармейцы. Але найгорш яму ўпякліся гэта камсамольцы, якія вырасьлі неяк раптоўна, самі сабой. Яны ўсюды першыя, усюды нос усадзяць, перакруцяць, перамуцяць і на сваім паставяць, паставяць уверх нагамі, як Сымону здавалася. Ён іх малакасосаў лае, а яны яму наругаюцца:

— Сымон, як памарксыцку таўчы ваду ў ступе?

— Сымон, ці Маркс цябе з жонкай пaмірыў?

А ў дабавак усяго празвалі Сымона „Марксыцкі аршын“.

Кожнае выступленьне Сымона з марксызмам і доказы яго, што хто ня з Марксам, той проціў саветаў, ня мелі ніякай вагі і толькі выклікалі насьмешкі. А калі хто даводзіў Сымону, што ўсе стараюцца жыць па Марксу, што ўсе сьцяной стаяць за Савецкую ўладу, дык Сымон пытаў: «А чаму вы адкараскаліся ад мяне? Я—гэта Маркс!»

І чым больш ён зносіў насьмешак і паняверы, тым больш стараўся давясьці сваю праваты, тым больш завучываў «Капітал», тым больш заплутваўся і адставаў ад жыцьця вёскі.

Як скупіндзя, ачумелы ад нажывы, шукае заклятага скарбу і верыць, што позна-рана, але знойдзе, так і Сымон брадзіў у нетрах мудрых сказаў шматтомнай навукі і спадзя-

ваўся, што яшчэ пры аднэй натузе і ён знойдзе самую сутнасьць, і тады ўсім дакажа, як ён быў праў і як усе мыляліся і блудзілі.

Гэтая недаступная мудрасьць, незразумеласьць рабіла Маркса ў вачох Сымона нечым незямным, рабіла богам. Дзе ён ня быў (а ён у апошнія часы стаў чалавекам бывалым), усюды ён чуў імя Маркса, чуў, як выгаварвалася яно з вялікай пашанотай. У гэты-ж час пачалася антырэлігійная барацьба, у якой Сымон прыняў самае жывое ўчасьце, зрабіўся самым заядлым бязбожнікам. Ён раней за ўсіх здалеў уцяміць, пераканацца, што стары бог ужо ня бог, але што можна бяз бога жыць, дык гэта ніяк ня тоўпілася ў яго галаве. Як гэта, каб кут за сталом пуставаў, каб ня было там абразоў.

І вось аднаго разу Сымон пад пракляцьце сваёй жонкі на месца сьвятых умацаваў портрэт Маркса.

Часта бывала так, што Сымон і яго жонка па старой прывычцы перад ядой жагналіся зьвярнуўшыся ў кут—жонка, згледзеўшы Маркса, плявала, а Сымон усьмяхаўся сабе ў вусы.

Аднак не шанцавала Сымону і ў антырэлігійнай барацьбе. Крылатыя, чужыя, незразумелыя словы, завучаныя Сымонам, былі лішняй прычынай папу ўмацаваць веру ў сваіх «авечках», а «авечкі» усюды бляялі, што толькі такія вар'яты, як Сымон, могуць брахаць на бога.

Раз у час абедні прыйшоў Сымон у царкву з сваім замусоленым „Капіталам" і, падняўшы яго вышэй галавы, як на благаслаўленьне, пачаў глушачы усіх:

— Во ваша сьвятая кніга, усяго трынаццаць фунтаў важыць, ня то што нейкая евангелія...

А пасьля тонам малітвы зацягнуў: „Бацька наш Маркс, ты наш бог, дык хай сьвяціцца імя тваё, хай прыйдзе царства тваё, хай будзе воля твая..."

Тут Сымон спыніўся, бо сталася тое, што „Капітал" апынуўся ў руках „бязбожнікаў" і ўжо не ў галаве, а на галаве Сымонавай, астаўляў сьляды.

Гэты выпадак камсамольцы ўзялі на язык і хутка аж за межы Забалоцьця пусьцілі пагаворку: Падружыў, як Сымон з Марксам.

---

# Курс лекцый па гістарычным матар'ялізьме.

*(Працяг лекцыі II).*

Л. І. Аксэльрод (Ортодокс).

Французскія матар'ялістыя моцна разыходзіліся з асьветнікамі ў пытаньнях агульна-філёзофскага сьветагляду, але ў пытаньнях грамадзка-палітычных яны мала чым розьніліся ад Асьветы. Праўда, у творах Гольбаха і Гэльвэцыя, асабліва Гэльвэцыя, спатыкаюцца цікавыя думкі соцыялёгічнага характару, але гэтыя думкі застаюцца самотнымі, ня робячы значнага ўплыву на агульнае рацыяналістычнае тлумачэньне грамадзкага жыцьця, наскрозь прасякнутага рэволюцыйна-буржуазным індывідуалізмам. Справядлівасьць вымагае адзначыць, што ў творах Руссо мы знаходзім больш глыбокія думкі філёзофска-гістарычнага характару, чымся ў матар'ялістых.

У зьвязку з закранутымі тут пытаньнямі трэба асабліва спыніцца на Монтэск'е (1689—1755). Гэты слынны палітычны мысьліцель у сваім галоўным творы „Дух законаў" стараецца тэорэтычна ўгрунтаваць дзяржаўнае законадаўства. Але пытаньні палітыкі прыводзяць Монтэск'е да пытаньня аб умовах асяродзьдзя, якімі вызначаецца конкрэтная чыннасьць або бясскутэчнасьць таго ці іншага закону. У апошнім падрахунку соцыяльнае асяродзьдзе і гістарычнае жыцьцё ўзалежнены, па думцы Монтэск'е, ад географічных, кліматычных і пляменных асаблівасьцей, а гэтак сама ад якасьці глебы. Цікавым і вартым увагі ў навуцы Монтэск'е зьяўляецца тое, што ён зблізкае паміж сабой законы прыродныя і законы грамадзкія. Монтэск'е добра разумее, што грамадзкае жыцьцё кіруецца няўхільнымі законамі, што яно грунтуецца на ўнутранай прычыннай канечнасьці. І калі выданы дзяржаўнай уладаю закон не адпавядае данай грамадзкай організацыі, то ён зьяўляецца нейкім сумным і кур'ёзным непаразуменьнем і яму пагражае поўная няўдача. Але, як ужо адзначана, падставай грамадзка-гістарычнай законастойнасьці зьяўляецца географічнае асяродзьдзе і пляменныя асаблівасьці.

З паміж грамадзкіх мысьліцеляў XVIII сталецьця Францыі Монтэск'е павярнуў філёзофію гісторыі на новы шлях, падкрэсьліваючы натуральную і прычынную залежнасьць палітычнай дзейнасьці ад рэальных умоў жыцьця, абагульняючы гэтыя апошнія ў фізычных сілах прыроды. Проблема ня была, як і належала чакаць, разьвязана, але рэалістычны момант быў моцна падкрэсьлены. Аднак тэорыя Монтэск'е, якая мела значны ўплыў сваёй палітычнай часткай, не знаходзіць сабе ў Францыі беспасярэдніх насьлядоўцаў у галіне філёзофіі гісторыі. У гэтым пэрыодзе тэорэтычны спосаб мысьленьня адступае перад надыходзячымі бурнымі гістарычнымі падзеямі.

Грунтоўным чынам разьвінаецца філёзофска-гістарычная мысьль у Нямеччыне.

Гэгэль недзе заўважыў, што ў той час, як французы твораць гісторыю, немцы разважаюць над тым, як яе трэба пісаць. Немцы ў гэтую эпоху, запраўды думалі над тым, як трэба пісаць гісторыю, дакладней кажучы—яны задумываліся над пытаньнем аб яе законах.

Вялікая французская рэволюцыя глыбока ўзварушыла ўдумную інтэлігэнцыю Нямеччыны. Нябывала грозныя і бурлівыя падзеі, паклаўшыя, як тады выражаліся, розум у аснову жыцьця наогул, імпэтна пакіравалі выдатнейшых мысьліцеляў на шлях гістарычнае мысьлі.

Перш за ўсё, Кант (1724—1804) і Гэрдэр нязвычайна зацікавіліся пытаньнямі філёзофіі гісторыі.

Паводле Канта, вечныя ідэі права і справядлівасьці, зьяўляючыся рэгулятыўнымі кірунковымі ідэямі, ажыцьцяўляюць у сваім гістарычным разьвіцьці свабоду народаў. Свабода народаў і вечны мір былі грамадзка-гістарычным ідэалам Канта. У трактаце „Да вечнага міру“, дзе галоўным чынам угрунтоўваюцца і разьвіваюцца філёзофска-гістарычныя погляды мысьліцеля, мы чытаем наступнае надзвычай характэрнае месца:

„Настане калі-колечы час, калі паміж народамі зямлі ўзаемная ўнутраная сувязь (больш або меньш цесная) дасягне такой ступені, што парушэньне права ў адным месцы зямное кулі будзе адчувацца ва ўсіх яе пунктах. З гэтае прычыны ідэя сусьветнага грамадзкага права не зьяўляецца фантастычным або утопічным разуменьнем права, але канечным дадаткам да няпісанага кодэксу як дзяржаўнага, гэтак і міжнароднага публічнага чалавечага права наогул. Толькі пры такой умове магчыма ёсьць цешыць сябе надзеяй на ажыцьцяўленьне вечнага міру, да якога мы паволі прыбліжаемся“.

Закончана-ядынае філёзофска-гістарычнае тэорыі Кант ня даў з пункту погляду яго тэорыі пазнаньня і ня мог даць. Дуалізм паміж непазнавальнай і нярухомай рэчай у сабе, і ня менш нярухомымі апрыорнымі формамі наогул пазбаўляе магчымасьці выявіць істоту таго чыньніка, які надае рух гістарычнаму разьвіцьцю. У апошнім падрахунку філёзофія гісторыі Канта зводзіцца да суб'ектыўна-мэтафізычных пабудаваньняў адцягненага права і адцягненай мэтафізычнай ідэі справядлівасьці. Але важнае значэньне ў гэтым пабудаваньні мелі, папершае,—сама ідэя, што гістарычны процэс рэалізуе свабоду, падругое,—ідэал міжнароднага брацтва і разуменьне таго, што вечны мір можа забясьпечыць толькі цесная рэальная сувязь паміж народамі земнае кулі.

За Кантам ідзе Гэрдэр (1744—1803). Гэрдэр, адзін з найбольш шляхэтных сыноў Нямеччыны, натхнёны і пранікнуты вялікімі ідэямі гуманізму, захоплены жаданьнем раскрыць сэнс і значэньне гістарычнага процэсу, гэта гэніяльная бурная натура, агорнутая поэтычнымі парывамі,—адчувае біцьцё пульсу гістарычнага жыцьця, як-бы зьліваючыся з ім. Філёзофія гісторыі трактуецца Гэрдэрам, як асобная самастойная галіна, ён ёй удзяляе вялікую і глыбокую ўвагу. Яго праца „Ідэі к філёзофіі гісторыі чалавецтва“ багата мысьлямі, якія маюць цікавасьць і ў сучасны момант. Гістарычная рэчавістасьць разглядаецца як эволюцыйны процэс. „Гісторычны прогрэс,—думае Гэргэр,—павінен падрыхтаваць чалавека да разумнага жыцьця і свабоды, да больш сьветлых помыслаў, да больш моцнага і далікатнага здароўя, да панаваньня на зямлі“. Глыбока пранікнуты ідэямі Руссо, з аднаго боку, і элемэнтамі клясычнай старасьветчыны, з другога боку, Гэрдэр бачыць заданьні культуры ў разнастайным

разьвіцьці асобы, у гармонічным суладзьдзі фізычнага і духоўнага. Але найбольш цікавай у навуцы Гэрдэра зьяўляецца думка аб ролі і значэньні мас дзеля разьвіцьця чалавечае асобы. Пранікнуты гэтым поглядам, мысьліцель зьвяртае асаблівую ўвагу на народную творчасьць, якой ён у сваёй разнастайнай і абшырнай літаратурнай чыннасьці пакідае шмат месца. Насьлядуючы агульную думку Монтэск'е, Гэрдэр прыдае вялізнае значэньне географічнаму асяродзьдзю, разьвіваючы гэтую-ж думку далей і лічачы, што кліматам, глебай і фізычнымі ўмовамі вызначаецца ня толькі народны быт, але гэтыя асноўныя элемэнты маюць уплыў і на ўсё духоўнае культурнае жыцьцё.

У агульным падрахунку ў філёзофска-гістарычных поглядах Гэрдэра мелі вялікае значэньне і ўплыў на далейшы ход філёзофіі гісторыі: 1) моцна падкрэсьленая *ідэя эволюцыі*, 2) ідэя прогрэсу, 3) роль географічнага асяродзьдзя і 4) значэньне мас і народнае творчасьці.

Усе дагэтуль коратка акрэсьленыя філёзофска-гістарычныя пункты погляду зьяўляюцца падгатоўчымі ступенямі і ўвайшлі тэй ці іншай старанной у сучаснае навуковае тлумачэньне гісторыі, г. зн. ў тэорыю гістарычнага матар'ялізму.

Але найбольш з усіх мысьліцеляў эўропэйскага захаду зрабіў у гэтым кірунку Гэгэль.

Гэгэль (1770—1831)—ідэалісты. Паводле яго ідэалістычнага погляду, пачаткам усіх пачаткаў зьяўляецца розум, абсолютная ідэя або, што тоесамае, абсолютны дух. Усясьвет зьяўляецца паступовым рухам абсолютнага духу. Прырода і гісторыя чалавецтва выяўляюць сабою канечныя ступені гэтага абсолютнага і ўсёахапляючага сусьветнага духоўнага пачатку. На першай ступені свайго самаразьвіцьця і самавыяўленьня дух не ўсьведамляе сябе. Усьведамленьня самога сябе ён дасягае ў грамадзкім мысьленьні чалавецтва. У дзяржаве ён дасягае об'ектыўнага значэньня; у філёзофіі,—і галоўным чынам у сыстэме Гэгэля—ён прыходзіць да самаўсьведамленьня, бо запраўдная філёзофія займаецца мысьленьнем аб абсолютным духу, аб яго істоце, аб яго значэньні і аб усіх праявах яго разьвіцьця.

Філёзофія Гэгэля пранікнута, як бачым, прынцыпам разьвіцьця. Сам сусьвет ня ёсьць нешта нязьменнае, застыглае, заўсёды сабе роўнае, а зьяўляецца бязупынным процэсам пастаянных зьмен, утварэньняў і руйнаваньняў; ня гледзячы аднак на гэта ён пасоўваецца наперад па шляху ад бесьсьвядомага да сьвядомага, ад канечнасьці да свабоды. Прырода і гісторыя чалавецтва складаюць, гэткім чынам, адзін зьвязны ланцуг, адно агульнае зьлітае, адно цэлае.

Зусім зразумела, што гісторыя чалавецтва, зьяўляючыся праяўленьнем і выяўленьнем разьвінаючагася сусьветнага розуму, ня можа ў істоце сваёй быць нейкай бязладнай хаотычнай прыпадковасьцю. Вядомая падстава Гэгэля, якая гаворыць: „Усё рэчавістае разумна, а ўсё разумнае рэчавіста“, — выплывае з няўхільнай лёгічнай канечнасьцю з агульнага сьветагляду філёзофа.

Намеры, мэты, мысьлі, пачуцьці і дзейнасьць паасобнай асобы, як-бы геніяльнай ні была апошняя, ня могуць з пункту погляду вялікага ідэалістага вызначаць сабой шлях і вынікі гістарычных падзеяў.

Гістарычная дзейнасьць чалавецтва складваецца з дзейнасьці паасобных людзей, выкліканай рэальнымі інтарэсамі кожнае асобы. Кожная асоба ў змаганьні за сваё існаваньне мае свае ўласныя рэальныя мэты, а ў рэзультаце з злучнасьці ідэй і дзейнасьцей складваецца нешта агульнае, што мае свае ўласныя законы. Як, напрыклад, вада не падобна да сваіх

складаных элемэнтаў—вадароду і тлёну, гэтак і грамадзкая гістарычная дзейнасьць людзей у агульным падрахунку не падобна да паасобных учынкаў мысьлячых і дзейных асоб. „У сусьветнай гісторыі,—кажа Гэгэль, —з чалавечых учынкаў выходзіць нешта іншае, чымся тое, да чаго яны імкнуліся. Яны паступаюць так, як гэтага вымагаюць іх інтарэсы, а ў рэзультаце гэтага выходзіць нешта новае, нешта такое, што, праўда, замыкалася ў іх дзейнасьці, але чаго ня было ў іх сьвядомасьці і іх намерах“.

Вышэйвылажаныя філёзофска-гістарычныя думкі да Гэгэля адзначаюцца ў большай або меншай меры эклектызмам, г. зн. поглядам, паводлуг якога гістарычны поступ вызначаецца ўзаемнай дзейнасьцю розных галін чалавечае мысьлі і чыннасьці.

У складаным мэханізьме грамадзка-гістарычнага жыцьця выяўляюцца асабліва выразна паасобныя і, на выгляд, быццам зусім самастойныя формы праяўленьня жыцьця чалавецтва або, як прывыклі выражацца, „фактары“. Кідаецца гэтак сама ў вочы ўзаемная дзейнасьць гэтых „фактараў“.

З гэтае прычыны і паміж сучасных соцыолёгаў зьяўляецца найбольш пашыраным погляд, што ўся гістарычная рэчавістасьць узалежнена ад узаемнае дзейнасьці розных самастойных сіл. Адбываецца, кажуць прадстаўнікі гэтага эклектычнага кірунку, заўсёдная ўзаемная дзейнасьць паміж рознымі фактарамі—умысловым, моральным, эстэтычным, экономічным, праўным і г. д.

Грунтуючыся на сваім паважна абдуманым моністычным пункце погляду, Гэгэль пасвойму высьмеяў і глыбока скрытыкаваў пануючую да яго і ў яго эпоху тэорыю ўзаемнае дзейнасьці „Калі здавальняюцца, —кажа Гэгэль у сваёй „Энцыклёпэдыі“—тым, што разглядаюць даны зьмест з пункту погляду ўзаемнадзеі, што вельмі мала дае ў сэнсе разуменьня, тады маюць дачыненьня проста з сухім фактам, і вымаганьне пасрэдніцтва, выяўляючыся там, дзе ёсьць гутарка аб вынайдзеньні прычыннай сувязі, застаецца нездаволеным“. Інакш кажучы, тлумачыць тыя або іншыя зьявы фактам узаемнае дзейнасьці, значыць у істоце нічога ня тлумачыць, а толькі адзначаць „сухі“ факт узаемнае дзейнасьці, які сам па сабе перад намі і вымагае дзеля свайго тлумачэньня нечага трэцяга, да якога павінна быць аднесена ўзаемнае дзеяньне, як да асноўнай прычыны. Гэта значыць, калі гавораць аб узаемным дзеяньні рознастайных бакоў грамадзкага жыцьця, мы не павінны здавальняцца паказаньнем іх узаемнае дзейнасьці, а шукаць тлумачэньня як і гэтых самых бакоў, так і магчымасьці іх узаемнага дзеяньня ў нечымсь трэцім, як выражаецца Гэгэль „вышэйшым“.

Дзеля таго, каб выясьніць факт узаемнага дзеяньня, скажам рэлігіі і мастацтва, канечна трэба выясьніць істоту і разьвіцьцё рэлігіі, трэба зразумець зьмест і разьвіцьцё мастацтва, а затым знайсьці трэцяе агульнае, што складае супольную аснову абедзьвюх галін і робіць магчымым факт узаемнае дзейнасьці.

Калі-ж агульнае трэцяе ня знойдзена, калі гэтыя, так званыя, фактары разумеюцца, як самастойныя сілы, што звычайна робіцца эклектыкамі, —тады наогул узаемная дзейнасьць немагчыма.

Далей. Дзякуючы паступоваму гістарычнаму об‘ектывізму і глыбокаму разуменьню таго, што гістарычны процэс узалежнены ад дзейнасьці ўсяго чалавецтва, Гэгэль, як гэта справядліва адзначыў Г. В. Пляханаў, часта прымушаны ня прытрымлівацца свайго агульнага ідэалістычнага сьветагляду і пры выясьненьні буйных гістарычных падзеяў становіцца на матар‘ялістычны пункт погляду.

Вось прыклад матар'ялістычнага тлумачэньня гістарычных падзеяў.

Даючы тлумачэньне, чаму ў славянскіх краёх рэформацыя ня мела глыбокага гістарычнага значэньня, Гэгэль піша ў сваёй „Філёзофіі гісторыі"

„У Аўстрыі, у Богэміі рэформацыя мела вялікую ўдачу і, хаця кажуць: калі ісьціна раз пранікла ў сэрцы людзей, то яе ўжо нельга вырваць адтуль; рэформацыя, насупроць гэтай думкі, была пераможана тут сілай аружжа, хітрасьці і перакананьня. Славянскія народы былі земляробскімі народамі, а земляробства выклікае паяўленьне паноў і падлеглых. У земляробстве галоўная роля прыналежыць прыродзе, чалавечая здольнасьць і суб'ектыўная дзейнасьць знаходзяць сабе пры гэтай працы, наогул кажучы, менш месца. Дзеля гэтага славяне павальней і з вялікім цяжарам прыходзяць да суб'ектыўнага ўсьведамленьня і да зразуменьня агульнага, і яны не маглі прыняць удзелу ў распачатым вызваленьні".

Гэткім чынам, мы бачым, што пры тлумачэньні падзеяў вялізнае гістарычнае важнасьці Гэгэль грунтуецца на чыста матар'ялістычных падставах. Папершае, рэлігійная ідэолёгія пастаўлена тут у простай залежнасьці ад спосабу вытворчасьці; падругое, што тым-жа спосабам вытворчасьці, а не ўласьцівасьцю абсолютнага духу, тлумачыцца агульны кірунак чалавечае псыхікі, ступень актыўнасьці і спосаб мысьленьня славянскіх народаў. Гэтае тлумачэньне Гэгэля выразна і нядвузначна кажа аб тым, што грамадзкая сьвядомасьць вызначаецца грамадзкім бытам.

А вось і другі ня менш характэрны прыклад: дзяржава, якая паводле агульнага ідэалістычнага погляду Гэгэля ёсьць ажыцьцяўленьне моральнага боку абсолютнага духу, сама зьяўляецца ў рэчавістасьці вынікам соцыяльна-экономічнага разьвіцьця. У той-жа „Філёзофіі гісторыі" ён кажа:

„Запраўдная дзяржава паўстае толькі тады, калі ўжо ўтварылася розьніца паміж станамі, калі вельмі значнымі становяцца багацьце і ўбогасьць, і калі ўтвараецца такое становішча, што большасьць ужо ня мае магчымасьці здавальняць свае патрэбы прывычным для яе спосабам".

Вось якімі прычынамі тлумачыць абсолютны ідэалісты ўтварэньне дзяржавы.

Наогул уся сыстэма Гэгэля, пранікнутая дыялектычным мэтадам і ўзбагаціўшая ўсе галоўныя галіны веды прынцыпам дыялектычнага разьвіцьця, мела вялізнае значэньне для філёзофіі гісторыі. Але аб уплыве дыялектычнага мэтаду на выпрацаваньне навуковага матар'ялістычнага тлумачэньня гісторыі будзе гутарка наперадзе. [1])

*(Працяг будзе).*

---

[1]) *Папраўка.* У папярэдняй лекцыі закралася абмылка. Надрукавана, што Галілей знаходзіўся 30 лет у турме. Запраўды-ж, Галілей жыў у сваёй вольле, знаходзячыся пад арыштам і строгім наглядам інквізыцыі, якая ўмешвалася ў яго прыватнае жыцьцё. Каля трыццацёх год у турме быў Кампанэльля.

# Марксыцкая пэдагогіка і беларуская школа.

М. Байкоў.

Калі ў цяперашні момант ставяцца пытаньні аб характары і тыпе школы, аб сыстэме народнай асьветы і мэтах выхаваўчай дзеяльнасьці, адзіночна правільным і зразумелым у сэнсе згоднасьці з запатрабаваньнямі эпохі зьяўляецца паступова праведзены марксыцкі падход да вырашэньня гэтых пытаньняў.

Уся пэдагогіка як у цэлым, так і ў часьцінных разьдзелах, павінна будавацца на падставе марксыцкай тэорыі, — быць марксыцкай па свайму зьместу і апірацца на погляды выдатных прадстаўнікоў марксыцкай думкі.

Зразумела, што толькі з погляду марксызму магчымя разглядаць і пытаньні, датычныя да беларускай нацыянальнай школы.

Тут можна паставіць гэткія пытаньні: якія запатрабаваньні ставіць марксыцкая пэдагогіка беларускай школе і беларускаму настаўніцтву і якое абаснаваньне з погляду гэтай пэдагогікі знаходзіць для сябе нацыянальна-беларуская школа, — школа, пабудаваная на грунце асаблівасьцяў беларускай культуры й згодна гэтаму вядучая працу ў беларускай мове?

Перш-на-перш трэба адмеціць выразны *клясава-пролетарскі* характар марксыцкай пэдагогікі. Па сваіх мэтах, прынцыпах і мэтодах гэта пэдагогіка і ня можа быць іншай, як ня клясава-пролетарскай.

Як кажа кіраўнік сучасным комуністычным выхаваньнем нямецкай моладзі Э. Гэрнле ў сваёй вельмі цікавай і амаль што не найлепшай з існуючай пэдагогічнай літаратуры ў марксіцкім кірунку працы „Комуністычная праца ў дзіцячых групах“ зьявіўшайся і ў расійскім перакладзе на старонках украінскага „Пути Просвещения“ за мінулы год (№ 7—8) і потым выдадзенай асаблівай брашуркай (Харкаў 1923 г.), „мэта марксыцкай пэдагогікі можа быць азначана, як уводзіны дзіцяці,—маладога пролетарыя, *у змаганьне і працу яго клясы.* Адгэтуль рэволюцыйна-пролетарскае выхаваньне павінна быць практычным, а не аднабочна-інтэлектуальным, павінна быць політычным, а не нэўтральным. У гэтым сэнсе марксыцкая пэдагогіка разыходзіцца як з звычайнай буржуазнай пэдагогікай, мэтай якой зьяўляецца аўторытарная школа простай вучобы, так і з дробна-буржуазнай пэдагогікай рэформістых, якія дапушчаюць магчымасьць адарваць пролетарскіх дзяцей з падзялёнага на часткі клясавага грамадзянства і вострага экономічнага і

палітычнага змаганьня розных соцыяльных груп, каб перасадзіць яго ў спакойную абстаноўку бесклапотнага існаваньня, дзе няма ні палітыкі, ні клясавага змаганьня, і дзе магчыма вясьці, як быццам, беспартыйную, але, проста кажучы, філістэрскую выхаваўчую працу" (подлуг прынцыпу: „ні вашым, ні нашым"—М. Б.).

„Гэта азначае поўны разрыў з той вельмі аблюбленай у буржуазных пэдагогаў думкай, што дзіця складаецца з сумы прыраджоных здольнасьцяў і нахілаў, якія трэба толькі расьціць і разьвіваць, каб узгадаваць „цнотнага, добрага і свабоднага" чалавека, асьцерагаючыся пры гэтым перанясеньня на выхаванца поглядаў і імкненьняў дарослага пакаленьня".

„У процілегласьць гэтаму буржуазнаму пэдагогічнаму прынцыпу пролетарская пэдагогіка мае гэткі прынцып: пролетарскае дзіця ўжо ў раньнім узросьце можа прыймаць актыўны ўдзел у змаганьні сваёй клясы ўжо дзеля таго, што яно мае ўдзел у яе цярпеньні пад ціскам немагчымых экономічна-соцыяльных умоваў".

„Гэта — зусім правіловы прынцып, паскольні кожнае выхаваньне ў яго існасьці ёсьць толкі падгатоўкай выхаванца к яго грамадзянскім функцыям. У клясавым грамадзянстве выхаванец павінен атрымаць у школе падгатоўку к выкананьню сваіх клясавых функцый. Кожнае выхаваньне мае сваёй мэтай прыстасаваньне дзяцей да вядомых асаблівасьцяў соцыяльнай будоўлі. „Апошняе", як кажа П. Блёнскі ў сваёй „Пэдагогіцы", выступае ў клясавам грамадзянстве, у адносінах да чалавечай масы, як організаванае прыстасаваньне дзяцёнышаў чалавечай масы да вымогаў і патрэбаў пануючае клясы. З гэтага погляду выхаваньне дзяцёнышаў чалавечых масаў ёсьць вырабка прыстасаваньняў да ўмоў жыцьця рабоў сучаснага грамадзянскага ладу, — таннага і найбольш інтэнсыўна працуючага чалавечага быдла, прытым, паскольні йдзе мова аб яго сьвядомасьці, як можна больш пакорнага і вернага. З другога боку, выхаваньне дзяцёнышаў пануючых клясаў ёсьць вырабка прыстасаваньняў да ўмоў жыцьця гаспадына, організатара і эксплёататара людзкасьці. Выхаваньне, як прынцыпова адзіны, агульнародны процэс, у клясавай грамадзе ня мае месца. Адзінае і роўнае выхаваньне ёсьць функцыя пазаклясавай грамады. Уласьцівасьць-жа ўсякай клясавай грамады, — мець некалькі сыстэм выхаваньня, — некалькі сыстэм організаванага прыстасаваньня падрастаючых дзяцей да іх будучых клясавых станаў" (Пэдагогіка М. 1922, стр. 36).

Пакуль грамада хавае свой клясавы характар, пакуль яшчэ існуюць буржуазія і пролетарыят, і выхаваньне павінна захаваць свой клясавы характар, хоць, зразумела, што прад пролетарскай школай стаіць іншая задача ў выхаваньні дзяцей пролетарскай масы, чымся тая задача, якая ставілася і ставіцца буржуазнай пэдагогікай. Калі буржуазная школа сьвядома гатовіла з пролетарскіх дзяцей або рабочае быдла, або шэрую салдацкую скацінку,—арудзьдзе вайны, дык прад пролетарскай школай, якая пабудавана на прынцыпах, найбольш важная, найбольш істотная яе задача падгатоўкі пролетарскіх дзяцей да ролі рэволюцыйных барацьбітых і абаронцаў, да ролі будаўнічных соцыялістычнай будучыны.

Беспартыйная пролетарская школа з беспартыйным загадчыкам і выхаваньнікамі і з беспартыйным духам навучаньня—ва ўмовах клясавага змаганьня палітычная бессэнсоўнасьць.

„Лёзунг аполітычнага беспартыйнага выхаваньня“, піша Э. Гэрнле, „у рэчавістасьці толькі прыкрывае выхаваньне ў сэнсе дробна-буржуазнага рэформізму, толькі адхіляе пролетарыят ад яго задачы, каторая састаіць у рэволюцыйнай барацьбе ўсімі прыгоднымі сродкамі за выхаваньне і школу для сваіх дзяцей. Абавязак пролетарскай клясы састаіць ня толькі ў ахове дзяцей ад цялесных і духоўных злашчасьцяў і рэакцыйнай атруты, ня толькі ў барацьбе за сваіх дзяцей, але і ў гадоўчай падрыхтоўцы іх для гэтай барацьбы, а такая падрыхтоўка дасягаецца ня толькі асьветай, але практычным дзеяньнем, якое злучаецца з асьветай“.

«Тым утопістым, якія цнотна нудзяцца па поваду „гвалту“ над дзіцём, мы адказваем: ці вы ня бачыце, што ўся школа буржуазнай дзяржавы, усе прыватныя пэдагогічныя ўстановы буржуазіі зьяўляюцца толькі арудзьдзем улады пануючай клясы проціў рэволюцыйнага пролетарыяту? Ці вы не прымячаеце, што і лёзунг аполітычнай пэдагогікі зьяўляецца толькі палітычным сродкам для буржуазіі: прыкрыць яе ўласнае клясавае выхаваньне, больш таго,—паказаць яго адзіночна-магчымым, адзіночна-„навуковым“ і дзеля таго адзіночна-абавязковым. Уціснуты пролетарыят ня мае магчымасьці выступіць проціў гэтага орган'заванага клясавага выхаваньня буржуазіі з бескаляровай „нэўтральнай“ організацыяй выхаваньня; наадварот, ён павінен імкнуцца адзіночна і выключна к сьвядомаму і плянамернаму пролетарскаму клясаваму выхаваньню ў цікавасьцях барацьбы й праніknавеньня мэтамі рэволюцыйнага пролетарыяту. Усё гэта тым больш магчыма, што, у рэчавістасьці, ня існуе ніякіх супярэчнасьцяў паміж інтарэсамі пролетарскага дзіцяці і інтарэсамі змагаючагася пролетарыяту; наадварот, толькі соцыялістычны грамадзянскі лад дае магчымасьць для запраўдна свабоднага і ўсябочнага разьвіцьцё чалавечай прыроды“.

Такім спосабам, згодна Гэрнле, задача марксыцкай пэдагогікі заключаецца ў тым, „каб зрабіць для пролетарскага дзіцяці барацьбу яго клясы *перажываньнем*“. З пункту погляду мэтодолёгічнага гэта значыць, што рэволюцыйная кляса разглядае дзіця ня толькі, як об'ект выхаваньня, але разам об'ект і суб'ект. Марксыцкае выхаваньне стольки-ж меры выходзіць ад „дзіцяці“, кажучы словамі пэдагогаў-рэформістых, у, якой і ад клясы“.

У частковасьці, у адносінах да працы ў дзіцячых групах у Гэрнле выстаўляюцца гэткія тры аснаўныя кіруючыя пункты погляду.

Гэта праца мае на ўвазе разьвіцьцё:

а) *Творчай ініцыятывы*,—у сэнсе самадапамогі і дзейнасьці дзяцей у процілегласьць прытупляючаму ўплыву беднасьці й наёмнага рабства, мэханічнай дрэсіроўцы і пасыўнаму інтэлектуалізму, вербалізму буржуазнай школьнай учобы. Тут павінна быць не апека, а дзіцячы рух.

б) *Колектыўнай працы*—г. зн.: самаўпраўленьне, узаемнадапамога, працоўная супольня ў процілегласьць штучна атомізуючым дзіцячую супольню мэтодам буржуазнай народнай школы і анархічнаму эгоізму ў буржуазнай прадпрыемчыны і сямейным жыцьці.

в) *Рэволюцыйнага настрою*—г. зн.: прабуджэньне комуністычнага настрою, самаадвагі, волі к пропагандзе і адпору проціў абы-якога ўціску,—ці выходзіць апошні ад буржуазнай школы, цэрквы, улады дробна-буржуазных радзіцеляў, ці заключаецца ў правох. Тут неабходнай

зьяўляецца прыкладная пролетарская клясавая этыка ў процілегласьць буржуазнаму рэлігійнаму і моральнаму навучэньню.

Усе гэтыя тры элемэнты ўтвараюць неразлучнае органічнае адзінства. Падобна таму, як пролетарыят з змагаючайся клясы становіцца клясай будаўнічай, так і ў пролетарскім выхаваньні побач з баявой падгатоўкай выступае *вытворчая* праца дзіцяці.

Падобныя тэзісы не зьяўляюцца навіной у марксыцкай тэорыі. Яны прыметны ўжо ў першых тварцоў пролетарскай ідэолёгіі, і выстаўлены, у частковасьці, у „Комуністычным маніфэсьце“. Тут Маркс і Энгэльс падкрэсьліваюць, што ў лічбе мер, якія пролетарыят праводзіць посьля пераходу ўлады ў яго рукі, павінны быць:

„Грамадзянскае і бясплатнае выхаваньне ўсіх дзяцей, адхіленьне фабрычнай работы дзяцей у яе сучаснай форме, аб‘яднаньне выхаваньня з матар‘яльнай продукцыяй і інш.“

„Ці не абвінавaціце вы нас“—чытаем у „Маніфэсьце“,—„што мы намераваемся спыніць эксплёатацыю дзяцей бацькамі? Мы першымі сузнаемся ў гэтым злачынстве“.

„Вы зацьвярджаеце, што ў сваім імкненьні замяніць хатняе выхаваньне грамадзянскім мы хочам скасаваць найбольш дарагія чалавеку адносіны...

А ці цяперашняе выхаваньне не знаходзіцца пад уплывам грамадзянства? Ці не азначаецца яно грамадзянскімі адносінамі, простым або пабочным удзельніцтвам грамадзянства ў організацыі школ і т. п.? Комуністыя ня выдумываюць уплыву грамадзянства на выхаваньне, яны толькі зьмяняюць яго характар, яны вырываюць выхаваьне з-пад уплыву пануючых клясаў.

Буржуазныя фразы аб сям‘і і выхаваньні, аб нежных адносінах паміж бацькамі й дзяцьмі выклікаюць тым большае абурэньне, чым больш дзеля разьвіцьця буйнай прамысловасьці разрываюцца ўсе сямейныя ланцугі, і дзеці рабочых становяцца простымі прадметамі таргоўлі і арудзьдзямі працы“...

І потым: „Падобна таму, як скасаваньне прыватнай уласнасьці прадстаўляецца буржуазіі скасаваньнем самой продукцыі, так і скасаваньне клясавага характару сучаснай адукацыі прадстаўляецца ёй раўнамоцным скасаваньню адукацыі агулам. Адукацыя, згіну якой яна аплаківае, для пераважнай большасьці зьяўляецца ня больш, як зьвярненьнем у машыну“...

Социяльна-клясавымі меркаваньнямі падсказываецца К. Марксу й неабходнасьць аб‘яднаньня працы з вучэньнем, неабходнасьць вытворчай працы вучняў. Неабходнасьць зьмены сучаснага выхаваньня ў паказаным кірунку Маркс ставіць у сувязь з неабходнасьцю зьнішта-жэньня існуючага падзелу працы ў грамадзянстве.

У 1 т. „Капіталу“, у частковасьці выказываюцца гэткія думкі:

„Сучасная прамысловасьць ніколі ня лічыць і не разглядае форму якога-небудзь процэсу продукцыі, як канчатковую. Тэхнічная аснова яе зьяўляецца такім спосабам рэволюцыйнай, між тым усе ранейшыя спосабы грунтаваліся на фундаманце, па істоце сваёй консэрватыўным. Праз машыны, хімічныя процэсы і іншыя мэтоды яна пастаянна ўтварае перавароты ў тэхнічных асновах продукцыі і разам з тым у функцыях рабочых і ў грамадзянскіх комбінацыях працоўных процэсаў. Гэтым яна таксама пастаянна рэволюцыонізуе падзел працы

ў грамадзянстве і бязупынна перакідвае масы капіталаў і рабочых з аднэй галіны продукцыі ў іншую. Прырода буйнай прамысловасьці абумоўлівае дзеля таго перамену працы, пастаянную зьмену функцый (заняткаў) і ўсябочную рухавасьць рабочага" (пр. „Капитал", С. П. Б. 1899, стр. 404 ін. пад рэд. Струве).

Такім спосабам, прырода буйнай прамысловасьці патрабуе ўсябочна разьвітага рабочага, які ўладаў-бы агульнай здольнасьцю да працы і політэхнічнай падгатоўкай.

„Сама буйная прамысловасьць сваімі катастрофамі ставіць прад сабою, як пытаньне першараднага значэньня,—прызнаць сталыя зьмены ў сфэры працы і дзеля таго магчыма большую разнабочнасьць рабочых агульным законам грамадзянскай продукцыі і прыстасаваць грамадзянскія ўмовы к нормальнаму зьдзейсьненьню гэтага закону.

Ненормальнае зьяўленьне капіталізму ў відзе існаваньня жабрацкага рабочага насяленьня, якое капітал дзержыць у запасе для сваіх зьменных патрэбнасьцяў эксплёатацыі, павінна зьмяніцца абсолютнай прыгоднасьцю чалавека к розным запатрабаваньням працы. Гэта зьмена становіцца пытаньнем жыцьця і сьмерці для буйнай індустрыі. Перароблены ў дроб індывідуум, просты насіцель пачасьціннай соцыяльнай функцыі, павінен быць заменен усябочна разьвітым індывідуумам, для якога розныя соцыяльныя функцыі зьяўляюцца зьмяняючымі адна другую формамі прылажэньня яго дзеяльнасьці.

Адным з момантаў гэтага пераўтворчага процэсу, якія разьвіліся на грунце буйнай прамысловасьці, зьяўляюцца політэхнічныя і агрономічныя школы, другім—прамысловыя школы дадатковай адукацыі, у каторых дзеці рабочых атрымоўваюць некаторыя веды ў тэхнолёгіі і практычным ужываньні розных інструмэнтаў. Калі фабрычнае законадаўства, вырванае з вялікай натугай у капіталу, злучае пачатковае навучаньне з фабрычнай работай, то не падлягае ніякаму сумненьню, што няміночае заваяваньне рабочай клясай політычнага ўладаньня заваюе ў школах для рабочых месца для тэорытычнага і практычнага навучаньня тэхнолёгіі" (гл. „Капитал", т. І, стр. 444)

У другім месцы „Капиталу", зьвяртаючы ўвагу на параграфы фабрычнага закону аб дзіцячай працы, Маркс выводзіць заключэньне, што як ні былі ўбогі гэтыя параграфы, яны ўсё-такі аб'явілі пачатковую адукацыю абавязковай умовай для прымяненьня дзіцячай працы: іх посьпех у першы раз засьведчыў магчымасьць злучэньня навучаньня і гімнастыкі з фізычнай працай, значыцца, і фізычнай працы з навучаньнем і гімнастыкай. Назорцы фабрык хутка ўзналі з паказаньняў школьных настаўнікаў, што фабрычныя дзеці, хоць вучацца ў два разы менш па часу ад звычайных вучняў, але аказваюць аднакія посьпехі і часта, нават, большыя. Справа тут вельмі простая. Той, хто праводзіць у школе толькі паўдня, заўсёды сьвежы і амаль што не заўсёды гатовы і здольны да вучэньня. Сыстэма пазьменнага заняцьця вучэньнем і фізычнай працай робіць кожнае з гэтых заняцьцяў адпачынкам ад другога і, значыцца, больш падыходзіць для дзяцей, чымся аднастайнае заняцьце адной якой-небудзь справай. Хлопец, які зранку сядзіць у школе, ні ў якім выпадку ня можа йсьці ў параўнаньне з другім хлопцам, які прыходзіць бадзёры і вясёлы з працы".

Адгэтуль вывад: „З фабрычнай сыстэмы ўзьнікае зародак выхаваньня будучыны, якое для ўсіх дзяцей звыш пэўнага ўзросту, злу-

чыць вытворчую працу з гімнастыкай, і гэта будзе ня толькі мэтодам павышэньня соцыяльнай продукцыі, але і адзіночным мэтодам выгабу ўсябочна разьвітага чалавека" („Капитал" стр. 400).

„Такім-жа самым способам складаньне комбінаванага працай пэрсоналю з асоб абодвага полу і самага рознага ўзросту—хоць у сваёй стыхійнай і грубай капіталістычнай форме, калі рабочы існуе для процэсу продукцыі, а ня процэс продукцыі для рабочага, яно і прадстаўляе заразьлівую крыніцу распуства і нявольніцтва—пры адпаведных умовах павінна зьявіцца крыніцай разьвіцьця чалавечай асобы" (стр. 405).

Дзеля таго Маркс і высказываецца процiў агульнай забароны дзіцячай працы. Цікавасьць у гэтых адносінах прадстаўляе „Крытыка Готскай програмы". Тут па поваду пункту „Забарона дзіцячай працы" Маркс кажа: „Агульная забарона дзіцячай працы не сумяшчаецца з існаваньнем буйнай прамысловасьці і дзеля таго зьяўляецца ня больш, як добрым пажаданьнем. А калі-б і магчыма было правясьці ў жыцьцё падобную забарону, гэта зьявілася-бы рэакцыйнай мерай дзеля таго, што пры строгім рэгуляваньні часу работы адпаведна рознаму ўзросту і пры захаваньні іншых мер прадасьцярогі з мэтай абароны дзяцей, раньнее аб'яднаньне вытворчай працы з выкладаньнем навук зьяўляецца магутным сродкам пераўтварэньня сучаснага грамадзянства".

Тыя самыя ідэі Маркс разьвівае і ў рэзолюцыі, апрацаванай для першага зьезду першага Інтэрнацыяналу ў Жаневе 1866 г. па пытаньню „аб працы жонак і дзяцей". Гэта, як быццам, чыста-экономічнае пытаньне на зьезьдзе было пастаўлена вельмі шырока ў сувязі з пытаньнем аб выхаваньні падрастаючага пакаленьня і зьявілася пабудкай як для самай жорсткай крытыкі існуючай школьнай сыстэмы, так і для азначэньня марксыцкага ідэалу выхаваньня. Рэзолюцыя Маркса была прынята зьездам. Тут гаворыцца:

„Тэндэнцыю сучаснай прамысловасьці прыцягаць к удзелу ў соцыяльнай продукцыі дзяцей і падросткаў абодвага полу мы лічым прогрэсыўнай, добратворнай і правамернай, хоць пры капіталістычным ладзе гэта тэндэнцыя і прымае агідныя формы. Пры рацыянальным грамадзянскім ладзе ўсе дзеці без выключэньня, пачынаючы з дзевяцёхлетняга ўзросту, павінны будуць прыймаць удзел у продукцыйнай працы; таксама і ніхто з дарослых ня можа падлягаць выключэньню з таго агульнага закону прыроды, што чалавек павінен работаць, каб есьці, і ня толькі галавой, але і рукамі. Выходзячы з гэтага пункту погляду, мы гаворым, што ні радзіцелі, ні прадпрыёмцы ня могуць атрымаць дазволу грамадзянства карыстацца працай дзяцей і падросткаў іначай, як пад той умовай, каб іх продукцыйная праца была зьвязана з адукацыяй. Пад адукацыяй мы разумеем тры рэчы: 1) інтэлектуальную асьвету, 2) фізычнае разьвіцьцё, якое даюць гімнастычныя школы і ваенныя практыкаваньні і 3) політэхнічнае выхаваньне, якое дае азнаямленьне з агульнымі навуковымі прынцыпамі ўсіх процэсаў продукцыі і зараз практычныя навыкі ў карыстаньні элемэнтарнымі арудзьдзямі кожнай продукцыі.

Дзеці і падросткі ад 9-цёх да 17-цёхлетняга ўзросту павінны быць падзелены на тры клясы так, каб паступовае і прогрэсыўнае навучаньне стаяла ў зьвязку з інтэлектуальным, гімнастычным і політэхнічным выхаваньнем. За выключэньнем, мабыць, першай клясы выдаткі на падтрыманьне політэхнічных школ павінны часткова прыкры-

вацца продажам зробленых рэчаў. Злучэньне продукцыйнай працы, якая робіцца за плату, з інтэлектуальным разьвіцьцём, фізычнымі практыкаваньнямі і політэхнічнай падгатоўкай уздыме рабочую клясу на больш высокі ўровень, чымся той, на якім знаходзяцца цяпер вышэйшая і сярэдняя грамадзянскія клясы". (пр. Н. Крупская. „Народное образование и демократия", Берлин 1921, стр. 81—82).

Паказанымі тэзісамі марксызму і трэба кіравацца пры ацэнцы як сыстэмы народнай асьветы ў пролетарскай дзяржаве, так і тыпу і аснаўнога кірунку школы.

Найбольш важнае значэньне мае тэзіс аб клясавым характары пролетарскай школы. Дзеля таго ў школу і ўводзіцца элемэнт продукцыйнай працы. У рэволюцыйную эпоху гэта запатрабаваньне марксыцкай пэдагогікі і знайшло для сабе выраз у спробах організацыі працоўнай школы. Якія бы тлумачэньні ні даваць паняцьцю „працоўная" школа, пры ўсіх умовах ясна адно, што гэта школа дзяцей рабочай клясы і што тут неабходна павінен мець месца элемэнт продукцыйнай працы. З гэтага пункту погляду зусім зразумела, што ў сыстэме марксыцкай народнай асьветы сярэднія і вышэйшыя школы тэхнічнага і політэхнічнага тыпу павінны заняць месца сярэднявяковай спадчыны—унівэрсытэтаў і гімназій.

З гэтага пункту погляду Народны Комісарыят Асьветы ў Беларусі зусім правілова праводзіць прынцып клясавай рабоча-сялянскай школы і таксама ў агульных рысах правілова будуе школу на прынцыпах адпавядаючай духу марксыцкай пэдагогікі і рэальным запатрабаваньням пролетарскай дзяржавы Украінскай сыстэмы народнай асьветы. Пры гэтым дзеля таго, што Беларусь зьяўляецца мясцовасьцю з пераважна сельска-гаспадарчай промысловасьцю, нормальным тыпам сямёхлетняй школы ў Беларусі прызнаецца школа з сельска-гаспадарчым нахілам.

Дзеля прыданьня школе клясавага характару зьяўляецца пытаньнем першараднай важнасьці перападгатоўка настаўніцкага пэрсаналю ў марксыцкім кірунку. Такая перападгатоўка і пачалася гэтым летам.

З пункту погляду марксыцкай пэдагогікі знаходзіць сабе поўнае апраўданьне і лінія беларусізацыі школы, якая паступова праводзіцца Народным Камісарыятам Асьветы і Комуністычнай партыяй. „Плятформа па нацыянальнаму пытаньню ў варунках БССР", прынятая ў разьвіцьцё пастаноў XII зьезду РКП і XII-ай партконфэрэнцыі К.П.Б. па нацыянальнаму пытаньню, ставіць, калі можна так выразіцца, усе кропкі над „і". Тут чытаем:

„Дзеля пашырэньня і будучага пераходу на мясцовыя мовы ўсіх вучэбных установаў на мясцовыя мовы—вясьці далей пачатую лінію падгатоўкі і перападгатоўкі пэдагогаў для беларускай, жыдоўскай і польскай школы. У сучасны момант лічыць задавальняючым існаваньне 4-х беларускіх пэдагогічных тэхнікумаў, аднаго жыдоўскага і аднаго польскага.

Лічыць неабходным узмацніць прыток (беларускіх) сялянскіх элемэнтаў на Пэдфак БДУ, усяляк дапамагаючы гэтым элемэнтам у справе прыйманьня і прабываньня ў сьценах БДУ.

Зьвярнуць асаблівую ўвагу на значныя кадры расійскага і зрусіфікаванага настаўніцтва ня толькі ў сэнсе яго політычнай асьветы, але таксама і асьветы ў духу нацыянальнай програмы комуністычнай

партыі дзеля перападгатоўкі яго да працы ў мясцовай нацыянальнай (беларускай) школе. Абавязаць сельскае настаўніцтва ў працягу году падгатавацца да навучаньня ў беларускай мове.

Згодна плятформы, сялянскія сямёхлеткі і павятовыя профэсыянальна-тэхнічныя школы павінны быць дапасованы да патрэбаў сялянства. Што тычыцца вышэйшых школаў, плятформа вызначае „паступовае ўвядзеньне ва ўсе вышэйшыя школы і ўстановы Галоўпрафасьветы беларускай мовы, як мовы выкладаньня“ (гл. «Савецкая Беларусь» 13 кастр. 1923 г.).

У рэчавістасьці, прынцып нацыянальнай школы ня можа сустракаць супярэчкі з пункту погляду ортодоксальнага марксызму. Самы „Комуністычны маніфэст“ зацьвярджае: „дзеля таго, што пролетарыят павінен спачатку заваяваць сабе політычнае гасподзтва, падняць сябе да нацыянальнай клясы, то ён сам яшчэ нацыянальны“. (пр. „Маніфэст“ рас. пер. пад рэд. В. Поссе). Самая барацьба нацыянальная ў „Маніфэсьце“ збліжаецца з барацьбой клясавай. Тут мае значэньне гэтакае месца „Маніфэсту“: „Час ад часу рабочыя пабяджаюць, хоць і не надоўга. Рэзультатам іх барацьбы зьяўляецца не беспасярэдні посьпех, а ўсё больш і больш пашыраючыяся злучэньні рабочых. Даволі бывае простай сувязі, каб шматлікавыя мясцовыя праяўленьні барацьбы асярадкаваліся ў барацьбу нацыянальную, у барацьбу клясавую“.

І якраз на прыкладзе беларускага нацыянальнага змаганьня магчыма зацьвердзіць цесную сувязь матываў нацыянальных з матывамі клясавымі. Беларускі нацыянальны рух па сваёй існасьці зьявіўся праявай рэволюцыйнага настрою вясковага пролетарыяту Беларусі. Адным з арудзьдзяў клясавага змаганьня тут аказалася беларуская мова, як протэст процiў польскай мовы эксплёататараў-паноў—і расійскай мовы эксплёататараў з буржуазнай клясы. Клясавай падасновай беларускага нацыянальна-культурнага руху даволі тлумачыцца ненавісьць да беларускай мовы з боку тутэйшай гарадзкой буржуазіі, шляхты і кулацкага сялянства. Мяшчанская істота зусім ня можа пераварыць подлай мужычай мовы—мовы прабудзіўшагася ад векавога сну батрака-найміта.

Ня дзіва, што і беларускае прыгожае пісьменства ў большасьці сваёй рэволюцыйна па сваіх матывах. У гэтых адносінах розьніца паміж беларускімі поэтамі так званымі „народнікамі“ і „пролетарскімі пісьменьнікамі“ ня столькі якасная, сколькі колькасная. У частковасьці творчасьць Ц. Гартнага і М. Чарота *больш* рэволюцыйна, чымся творчасьць Я. Купалы і Я. Коласа і ў гэтых адносінах проста адбівае процэс пролетарызацыі беларускай сялянскай масы пад уплывам экономічных варункаў і згодна гэтаму процэс уздыму рэволюцыйнага настрою.

Клясавы характар як нельга больш спагадае беларускай школе.

Калі ў Беларусі павінна існаваць рабоча-сялянская, або, іншымі словамі, клясавая пролетарская школа, то гэта школа тут можа быць школай пераважна беларускай і толькі за нязначнымі выключэньнямі жыдоўскай і польскай, але не расійскай: апошняя тут здавальняла-бы толькі цікавасьцям буржуазіі. Да-рэчы, у Беларусі няма расійскага пролетарыяту, а існуе толькі русіфікацыйна настроенае ўраднiцтва і буржуазія. беларускі-ж пролетарыят складаецца на 90% з беларусаў і на 10% з жыдоў і палякаў.

У беларускай школе дзеці пролетарыяў беларусаў толькі й могуць атрымаць якасьці, каштоўныя з погляду марксыцкай пэдагогікі.

Гэта—перш-на-перш творчая ініцыятыва ў сэнсе разьвіцьця самадзейнасьці дзяцей. Творчая ініцыятыва можа разьвівацьца ў дзяцей толькі ў тым выпадку, калі навучаньне робіцца ў роднай мове. У супраціўным выпадку выйдзе вербалізм найбольш адмоўнага характару. Такім вербалізмам і адмячалася ў Беларусі расійская школа як дарэволюцыйнага, так і рэволюцыйнага часу.

З другога боку, важнае значэньне мае беларуская організацыя школы й для ўздыму рэволюцыйнага настрою беларускіх дзяцей у сэнсе прабуджэньня ў іх самаадвагі, волі к прапагандзе і змаганьню. На гэты бок справы беларускаму настаўніцтву трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу. З даўніх часоў беларус адмячаўся сваёю пасыўнасьцю і забітасьцю. Гэтага ўпярод не павінна быць. Неабходна раскачаць беларускі пролетарыят, разьвіць у беларуса-пролетарыя з яго маладых год актыўнасьць і волю да барацьбы. У гэтых адносінах прыходзіцца асабліва падкрэсьліць ролю беларускага прыгожага пісьменства. Сучасныя беларускія поэты—найбольш актыўныя прадстаўнікі свайго народу і рабочай клясы, і ў іх творах знойдзецца нямала такіх месц, якія карысна ўжываць у працоўнай школе для прабуджэньня актыўнасьці і клясавай самасьвядомасьці дзяцей беларусаў.

Напр., Я. Купала пяе, як быццам асабіста для выхаванцаў працоўнай школы:

Вы ня зломкі, вы ня зноскі,
Вы народ магучы,
Ваша панства — вашы вёскі,
Пан ваш — труд жывучы.
Ваша слава не ў палацы
Не ў княжацкай мітры,
А на роднай ніве, ў працы
Карыснай, няхітрай.

У беларускай прыгожай літаратуры знойдзецца нямала прыкладаў такіх бадзёрых паклічаў, асабліва ў пролетарскіх пісьменьнікаў.

Здаецца, што кожны выхаванец беларускай школы павінен знаць напамяць, напрыклад, гэткія песьні Ц. Гартнага:

Непадатны
Поўны гарту
Ў жыцьці з роду
За свободу
Ў бой уварты
Ў бой астатні
Незьвярэдна
Йдзі пярэднім...
Незгамонны,
Непакорны
Ў жыцьці з роду
Перад сконам
Ночы чорнай
Й злой нягоды
Цьвёрда, ўпарта
Стань пярэднім.

І яшчэ: Доўга гнулі свае сьпіны,
Доўга пот мы свой лілі
Ля хвабрычнае машыны
І ля панскае зямлі.
Паднявольна мы маўчалі,
Паслухмянымі ўсягды,
Другіх вечна збагачалі,
Ня вылазячы з бяды.
Доўга-доўга, але потым
Дух свабоды ўскалыхнуў
Нас ад ціжарнае сноты
І на бой за волю пхнуў.
Сіла спаўшая паўстала,
Волі промень стаў міргаць,
І сям'я працоўных стала
Жыцьцем краю кіраваць.
Гэй дарогу! Гэй пуціну!
Сіле творчай вольны ход!
Хто дагэтуль меў кручыну,
Хто ля іншых ліў свой пот.
Сьвет адчынен людзям новым.
Будаўнічным маладым,—
Ля вялікае будовы
Жыцьце шлях адкрыла ім!

*(Годзе).*

На вокладцы зборніка „Песьні працы і змаганьня“ мы відзім надпіс: „Выданьне Літарат.-Выдавецкага Аддзелу Народнага Камісарыяту Асьветы“.

Гэта мае глыбокі сэнс: такія творы, як „Песьні працы і змаганьня“—найлепшы падручнік для клясавай рабоча-сялянскай школы ў Беларусі.

Урэшце, калі беларуская школа паводлуг аснаўнога прынцыпу ранейшай марксыцкай пэдагогікі павінна быць прыстасаванай да злучэньня вучэньня і вытворчай працы і гэта злучэньне ў Беларусі мысьліцца ў форме школы з сельска-гаспадарчым нахілам дзеля пераважнасьці сярод беларускага жыхарства гэтай формы прамысловасьці, то гэта заданьне зьдзейсьніцца хутчэй, калі самая школа будзе будавацца на асновах беларускай культуры: сама сельска-гаспадарчая прамысловасьць Беларусі ёсьць адным з відаў агульнай беларускай культуры.

Канечна зразумела, што ў кароткім часапісным артыкуле немагчыма датыркнуцца ўсіх дэталічнасьцяў пастаноўкі проблемы марксыцкай пэдагогікі ў адносінах да беларускай школы, але з таго, што ўжо сказана, магчыма заключаць, што ў марксыцкай пэдагогіцы беларуская нацыянальная школа можа знайсьці для сябе пэўныя асновы.

Праз марксыцкую пэдагогіку, праз беларускую нацыянальна-клясавую сялянска-пролетарскую культуру і вытрымалую тэхнічную асьвету да зьдзейсьненьня ідэалу клясавага змаганьня, найлепшай соцыялістычнай будучыны,—вось як мы маглі бы азначыць мэту дзейнасьці Народнага Камісарыяту Асьветы Беларусі і настаўніцтва беларускай школы.

Менск, 30/X—1923.

# Нарысы па гісторыі першабытнай культуры Беларусі*).

С. З. Кацэнбоген.

I.

*Уступ.*

## Значэньне, задачы й мэтод вывучэньня гісторыі першабытнай культуры.

„Што належыць да Беларусі, дык мы, здаецца, недалёка адышлі ад тых часоў, калі грэкі, гэтыя насіцелі цывілізацыі, былі ўпэўнены, што кожны беларус абавязкова павінен адзін раз на гаду прабегаць пэўны час па лесе ў выглядзе воўка“—(Янчук).

Вывучэньне дагісторыі чалавецтва альбо першабытнай культуры застаўляе нас зьвярнуць свой пагляд далёка назад, у цёмную глыбіню тысячагодзьдзяў. У шмат якіх чытачоў, само сабой, можа вынікнуць пытаньне, ці варт займацца пытаньнямі гэтак далёкімі ад нашай захопліваючай, бурнай і рэволюцыйнай сучаснасьці? Ці ў час гэта?

Мы дазволім сабе выказаць глыбокую ўпэўненасьць у тым, што вывучэньне нашай далёкай сівой мінуўшчыны прыймае асаблівую цікавасьць якраз у нашы вялікія часы, калі на вачох нашых робяцца гістарычныя зрушэньні сусьветнага значэньня.

Ніколі яшчэ ня было гэтулькі важным як цяпер, вытварэньне агульнага сьветапагляду ў стройкую матар'ялістычную сыстэму, абхопліваючую ўвесь космос у яго шматлікім адзінстве.

Умацаваньне матар'ялістычнай філёзофіі крок за крокам прыводзіць да адваяваньня ўсё новых пазыцыяў у тых навуках, якія да нядаўняй прошласьці здаваліся няпрыступнай цытадэльлю ідэолістычнай думкі. Магутны росьцьвіт біолёгічных навук, перамога ў іх эволюцыйнага вучэньня стварылі для гэтага неабходныя перадпасылкі.

Крушэньне ўва ўсім сьвеце старога соцыяльнага ўкладу прыводзіць паступова да пераацэнкі ўсіх старых ідэолёгічных каштоўнасьцяў, к вышукваньню новых шляхоў.

Матар'ялістычная мысьль пранікае ўва ўсе закуткі ня толькі гуманітарных, але й прыродазнаўчых навук. Глыбокая каранная сувязь паміж дарвінізмам і марксізмам устаноўлена даўно.

Ідэалізм—законнае дзіця рэлігіі. Ня дзіўна, што францускія матар'ялістыя XVIII-га веку лічылі першым сваім доўгам «гільётынаваць

---

*) „Нарысы“ абхопяць пэрыод, пачынаючы з палеоліта і канчаючы залезным векам і будуць асобнымі разьдзеламі друкавацца ў „Полымі“.

бога», зруйнаваць да асновы падставы тэолёгічнага мышленьня. Аднак можна сказаць, што толькі XIX век (асабліва яго другая палавіна) зрабіў руйнуючы ўдар па рэлігіі.

Яшчэ ў пачатку XIX веку многа людзей схілялася да біблейскай легэнды аб стварэньні сьвету й чалавека. Уся гісторыя чалавецтва ўмяшчалася ў канечныя фазы—ад Адама да Страшнага Суда. Лічылася пануючай у пытаньні аб пахаджэньні зямлі «тэорыя катастрофаў вялікага палеонтолёга Кюўе». Ён адмаўляў існаваньне выкапня чалавека і жывёлаў, пацьверджваў, што ўсе жывёльныя віды загіблі ў часе сусьветнага патопу і што толькі ў пору сучаснай геолёгічнай эпохі зьявіліся новыя віды й чалавек. Такім чынам Кюўе сваім навуковым аўтарытэтам умацоўваў біблейскую легэнду й яе хронолёгію зямлі й чалавека. Эволюцыйная геолёгія, вінаватая сваім атрыманьнем верху, галоўным чынам ангельскаму вучонаму Ляйелю, зруйнавала дашчэнту біблейскую геолёгію і вучэньне Кюўе. Замест шасьцёх тысяч гадоў, гісторыя зямлі, па даных навукі, налічвае сотні мільёнаў гадоў. Жыцьцё на зямлі разьвілося шляхам паступовых эволюцыйных зьвеньняў, пачынаючыся з эозойскай эры «зараджэньня жыцьця» й канчаючы «кайнозойскай» (кайнос—новы) эрай, абдымаючай трацічны й чацьвярцічны пэрыод. У трацічны пэрыод, адлеглы ад нас, па крайняй меры на трыццаць мільёнаў гадоў, земная паверхня зрабілася блізкай да сучаснай, клімат стаў больш мерным, сярод жывёлаў зьявіліся кроўныя радзькі чалавека—*прыматы* (маўпы й паўмаўпы). Каля мільёну гадоў таму назад настаў чацьвярцічны альбо ледавіковы пэрыод (плейстацен). Ён настае дзякуючы сільнаму зьніжэньню тэмпэратуры й павялічэньню лічбы атмосфэрных ападкаў. З верхавінаў Альп, Пірэнэяў, Скандынавіі й Фінляндыі спаўзаюць вялічэзныя крыгі, укрываючы сабою большую частку Сярэдняй і Паўночнай Эўропы й блізка дзьве трэці Эўропэйскай Расіі. Маўчлівымі сьведкамі гэтага далёкага ледзянога часу дагэтуль зьяўляюцца шматлічныя сьляды глетчараў—морэны (каменныя грады), шрамы, так званыя барановыя лбы (авальныя выступы каменных глыбаў).

Эволюцыйная геолёгія радыкальным спосабам зьмяніла, дзякуючы рэлігіі і такім яе аўторытэтам, як Тамаш Аквінскі, ранейшыя погляды на гісторыю зямлі, флёры й фауны. Але ўсё яшчэ заставаўся пануючым стары антропоцэнтрычны пункт погляду, па якому ў цэнтры зямлі стаіць чалавек, а паміж ім і ўсім іншым жывёльным мірам—зьяючая прорва. Але й сюды пранік яскравы сьвет навукі й вучэньне Дарвіна, абурыўшы штучныя межы, утвораныя паміж чалавекам і жывёльным мірам. Рэлігія, аднак, не здавала сваіх позыцыяў, палонячы мазгі мільёнаў людзей да тых часоў, пакуль на сцэну не зьявілася дагістарычная археолёгія й палеонтолёгія (навука аб выкапаных астатках чалавека й жывёлаў). Пачынаючы з находак каменных прыладаў разам з астаткамі выкапаемых жывёлаў, зробленых у 1838 г. францускім вучоным Бушэ-дэ-Пэртам, у чацьвярцічных пячорных адлажэньнях, каля Аббевільля, у даліне ракі Соммы, пытаньне аб узросьце чалавека ўваходзіць у саўсім новую фазу. Ужо ніхто не сумняваецца ў хлусьні біблейскай хронолёгіі чалавека.

Спорка йдзе ўжо ў іншым напрамку. Некаторыя дасьледчыкі (Буржуа, Рыбэпро, Руто) адносяць зьяўленьне чалавека на шмат мільёнаў гадоў назад да так званай эолітычнай эпохі («дзяньніцы» каменнага веку). Пытаньне аб эолітах надзвычайна цікавае й важнае, якому

мы, аднак, ня маем магчымасьці выдзяліць тут месца. Калі яшчэ й вынікае спорка аб тым, ці варт рэтуш (рысы) па эолітах прыпісаць прычынам натуральным ці мастацтву чалавека, дык не падляжыць сумненьню, што вырашэньне пытаньня аб існаваньні чалавека ў трацічную эпоху (да яе адносяцца эоліты) немагчыма да таго часу, пакуль ня будзе зроблена находак астаткаў чалавека, якія-б адносіліся да гэтай эпохі.

Затое саўсім даказана існаваньне чалавека ў чацьвярцічную ледавіковую эпоху.

Галоўнымі выкапаемымі астаткамі, расказваючымі нам пра глыбокую старажытнасьць чалавека, зьяўляюцца ніжэйшыя:

1) Pithecantropus Erectus (простастаячая чалавекамалпа). Яе чэрапную крышку, 2 зубы й бядро знайшоў Дзюбуа ў 1896 г. на Яве, каля сяла Перыніл. Зьмест чэрапа Pithecantropus'а каля 900 куб. сант., іначай кажучы значна большы, чым у антропоідаў (у гарылаў 600 к. см.) і чалавека 1400 куб. с., Pithecantropus зьяўляецца такім чынам памежным зьвенам паміж прыматам і чалавекам.

2) У 1907 г., у каменаломні Маўэр, каля Гэйдэльбургу знойдзена была ніжняя сківіца без падбародка (неабходная ўмова членападзельнай гаворкі, аднак з запраўдна чалавечымі зубамі. Гэта—так званы Homo Heidelbergensis (Гэйдэльбэрскі чалавек).

3) У 1856 г. каля Дзюсьсельдорфу, у Нэандэртальскай даліне, быў знойдзены ў чацьвярцічных адлажэньнях (4-га абледзяненьня) чалавечы чэрап з малпінымі рысамі твару, з нізкім лобам, добра значнымі надброўнымі дугамі, значнай вялічыні, але з ледзьве заўважным падбародным бугром (пачат. гаворкі). Гэта так званы Neanderthalensis (Нэандэртальскі чалавек).

4) У канец, саўсім нядаўна у 1921 г. ў паўдзённай Афрыцы ў ангельскай краіне Родэзіі былі знойдзены астаткі шкілета поруч з крэмянёвымі прыладамі й мамантавай фаўнай. Гэты чалавек зьяўляецца ўжо памежным тыпам між Homo Neanderthalensis і Homo Sapiens (Разумным чалавекам). У працягу ўсяго ледавіковага часу жыў продак сучаснага чалавека—Homo Primigenius (нізшы від чалавека Гэйдэльбэрскі й Нэандэртальскі). Пачынаючы з пасьляледавіковага пэрыоду зьяўляецца сучасны чалавек, гэтак званы Homo recens.

Гэтак прыведзенае намі далёка ня ўсе, а галоўныя толькі астаткі чалавека ледавіковай эпохі гавораць аб надзвычайна старатыпным узросьце чалавека. Навука ня можа назваць сьцісла ўзросту чалавека. Погляды вучоных у гэтым пытаньні значна разыходзяцца. Ува ўсякім разе ўзрост чалавека дастатна салідны і яму ніяк ня менш 240 тысяч гадоў. Гэтая цыфра радыкальна зьменьвае нашы ўяўленьні аб чалавечай гісторыі. Пісаная гісторыя аказваецца толькі адным мігам у агромністым патоку часу, маленькім адрэзкам гіганцкага запраўднага шляху, пройдзенага чалавекам. Перад навукай паўстае вялізная задача – пашырыць свае высьледжваньні далёка за традыцыйныя вузкія межы. Перад вачыма нашымі адчыняюцца безьбярэжныя далі, поўныя таемнага, глыбокага хараства. Над гісторыяй чалавецтва паднята цяжкая занавеса. Гісторыю першабытнай культуры пазвана аджывіць далёкія цені чалавека, сумна паглядаючыя на нас з-за гэтага занавесу, адзець іх у цела і кроў, заставіць іх заварушыцца, загаварыць.

Гэтак вывучэньне гісторыі першабытнай культуры зьяўляецца добраю радаю для перамогі над рэлігійным мышленьнем, пашырэньня нашага кругагляду, умацаваньня матар'ялістычнага пагляду.

Вывучэньне нашай навукі прадстаўляе ня меншае значэньне для сучаснай соцыолёгіі.

Задача апошняй заключаецца ва ўстаноўленьні тых законаў, па якіх разьвіваецца гістарычны процэс. Між тым усе передпасылкі гістарычнага, грамадзянскага процэсу, запраўдныя карані яго тояцца ў глыбіні дагістарычнага чалавецтва. Няма лепшай магчымасьці ўсебакова вывучыць той ці іншы грамадзянскі інстытут, як высьледзіць яго паходжаньне. Вывучаючы гісторыю першабытнай культуры, мы агольваем пакрывалы соцыяльных інстытутаў, выяўляем іх запраўдныя карані, пазнаём іх паступовую эволюцыю й законамернасьць. Сучасная соцыолёгія ўжо ня можа абмежавацца адлеглымі суджэньнямі аб „сутнасьці“ шлюбу, сям'і, уласнасьці, гаспадарства, рэлігіі, маралі, мастацтва і г. д.

Пранікнутая дыялектычным мэтодам, марксыцкая соцыолёгія вывучае не *„старажытнасьць“* (саіснаваньне, сучаснае становішча), але *дынаміку* (цячэньне) грамадзянскага, гістарычнага процэсу ў яго бегу, зьменах, супярэчнасьцях.

Вось зачым вывучэньне гісторыі першабытнай культуры прыймае гэтак вялізнае значэньне для нашага часу, калі па ўсім сьвеце бярэ адолю тэорыя й практыка марксызму.

За мяжою дзесяцёхтысячагодзьдзяў хаваецца запраўдны таемны ключ гісторыі. Там на дне яго мы знойдзем эмбрыёны ўсіх сучасных грамадзянскіх інстытуцыяў, вывучым паходжаньне шлюбу, сям'і, уласнасьці, гаспадарства, рэлігіі, маралі, мастацтва.

Якая-ж мэтодолёгія гісторыі першабытнай культуры, якія захады яна ўжывае для таго, каб дабіцца тых грандыёзных мэтаў аб якіх мы вышэй гаварылі. У нас ня было ніякіх пісаных дакумантаў аб нашай дагістарычнай прошласьці. Маўчаць тысячагодзьдзі.

Трудна вырваць у іх захаваную тайну.

Сучасная дагісторыя дасягае сваіх мэтаў толькі дзякуючы дапамозе дзьвюх навук—*археолёгіі й этнографіі.*

У другім месцы мы па гэтаму поваду пісалі, што вывучэньне гістарычнага процэсу й асабліва таго (прадмету) пэрыоду, ад якога ніякіх сьлядоў пісьменнасьці не засталося, без прыцягненьня археолёгіі, раўнамоцна спробе ўзьнесьці грандыёзны будынак на пяску. Сучасная навуковая соцыолёгія, якая імкнецца ў складным і прычудным малюнку шматвяковых гістарычных здарэньняў вызначыць законамерны процэс, няпроменна вымагае вывучэньня ў першую чаргу матар'яльнага фундаманту соцыяльных адносінаў.

Вось зачым пры вывучэньні дагістарычнага пэрыоду чалавецтва, якое заходзіць у туманную глыб вякоў, археолёгія гэтак незаменна. І толькі там, дзе ў трацічных і чацьвярцічных адлажэньнях глебы і пільнае ўгляданьне археолёга ня ў сілах выкрыць тыя ці іншыя моманты, якія неабходны для аднаўленьня агульнай культуры дагістарычнага жыцьця чалавека, прыходзіць на дапамогу *этнографія.* Яна прыходзіць яшчэ затым, што знойдзеныя пры раскопках прылады, чалавечыя косьці, косьці зьвяроў, астаткі жыльля і т. п.—нямыя.

Этнографія, шляхам прыгляданьня да жывых асколкаў першабытных часоў, сучаснымі адсталымі народамі і шляхам мэтоду пера-

жываньняў, дапаўняючы археолёгію, застаўляе нямую дагісторыю жыць, прыняць больш выразныя і ясныя контуры, загаварыць.

Бацькам дагістарычнай археолёгіі зьяўляецца францускі вучоны Бушэ-дэ-Пэрт, першы выступіўшы супроць Кюўе з доказамі на аснове раскопак у каменаломнях Мулэн—Кіцона, каля Аббевільля, існаваньня дылювіальнага чалавека. Археолёгія становіцца запраўднай навукай толькі з XIX веку.

У сучасную пору ў Расіі тэорытычнай распрацоўкай усіх пытаньняў, якія адносяцца да вобласьці археолёгіі, гісторыі, мастацтва і этнолёгіі, загадвае ўтвораная дэкрэтам ад Байрэля 1919 г. „Расійская Акадэмія Гісторыі Матар‘яльнай Культуры“. Другая асноўная дапаможная да дагісторыі навуковая дысцыпліна—этнографія, зьбіраючы свой матар‘ял яшчэ ад часоў „бацькі гісторыі і этнографіі“—Гэродота і эры вялікіх выкрыцьцяў і вандровак, становіцца на ногі й знаходзіць агульнае прызнаньне, як і археолёгія, толькі ў XIX веку.

З чыста апісальнай навукі, зьбіраючай сыры матар‘ял, этнографія абарочваецца ў эволюцыйную дысцыпліну, якая опэруе добра распрацаванымі мэтодамі высьледваньня.

Асноўным яе мэтодам, дапамагаючым устанаўленьню законамернасьці гістарычнага процэсу, зьяўляецца мэтод *параўнавальны*. Яго дапоўнівае мэтод, першы раз ужыты Э. Тэтлёрам—*мэтод перажываньняў*, уваскрошваючы мінулае народаў, на аснове перажыткаў, у іх сучаснае. Буйнае грамадзянскае значэньне этнографіі і дагісторыі становіцца асабліва відавочным пры азнаямленьні з ажыўленьнем у гэтых навуках у Нямеччыне.

Клерыкальныя кругі справядліва ўбачылі ў гэтых навуках значную пагрозу рэлігійным догмам. Яны абвясьцілі жорсткі паход супроць эволюцыйнай этнографіі, з навуковым выглядам даказваючы існаваньне ў першабытнага чалавека і ў сучасных народаў моногамнага шлюбу, прыватнай уласнасьці й монорэізму. Характэрна, што барацьба супроць гэтых „апасных“ для рэлігіі навук вядзецца пад сьцягам рэлігійнай барацьбы з марксызмам. Гісторыя першабытнай культуры, як мы ужо паказалі, вытворвае перад намі жыцьцё чалавека ў чацьвярцічную й пасьлячацьвярцічную эпохі з дапамогаю дзьвёхасноўных навук—археолёгіі й этнографіі.

Паказаньне матар‘яльнай культуры першабытнага чалавека не раўнуючы лягчэй чым паказаньне соцыяльнай структуры і ідэолёгіі гэтага далёка так адлеглага ад нас часу.

Першабытная гісторыя не выяўляе адзінага соцыяльнага комплексу, у якім на ўсім працягу 200 тысячалецьцяў пануе адзін і той-жа спосаб вырабу, адна й тая-ж тэхніка, адны й тыя-ж грамадзянскія адносіны.

Задача гісторыка першабытнай культуры заключаецца ў тым, каб у межах гэтага вялічэзнага дагістарычнага пэрыоду ўстанавіць больш-менш праўдзіва абмаляваныя тыпы існаваўшых структураў.

Для гэтага перш-на-перш належыць адзначыць адразьняючыя асаблівасьці ў тэхніцы й спосабе вырабу ў розныя пэрыоды гісторыі першабытнага грамадзянства. Асновай для гэтага зьяўляецца клясыфікацыя дагістарычнага часу ў залежнасьці ад матар‘ялу, з якога робяцца прылады: на каменны, бронзавы і жалезны вякі, устаноўленая ў 1836 г. дырэкторам Копэнгагэнскага музэю этнографіі й археолёгіі Томсэнам.

Клясыфікацыя гэтая вельмі выгодная для вывучэньня вялічэзнага й (вельмі) надзвычайна featuresрознастайнага матар'ялу, патрабуе, аднак, далейшай дэталізацыі затым, што ўстаноўленыя ёю дзяленьні надзвычайна шырокія. Падаўляючая частка дагістарычнага часу прыходзіцца на каменны век. Яго пачатак адносіцца к часу адлегламу ад нас на 200 тысяч гадоў. Сьляды-ж ужываньня бронзы ня ўсходзяць раней 5000—4000 гадоў, а жалеза 1000 гадоў да новай эры.

Дзякуючы гэтаму асаблівае значэньне мае клясыфікацыя каменнага веку. Асноўным зьяўляецца *падзел* каменнага веку на *палеоліт* (старажытны) і *нэоліт* (новы).

Палеоліт і нэоліт выяўляюць саўсім розныя гаспадарчыя й соцыяльныя комплексы. Іх адрозьніваюць перш за ўсе кліматычныя ўмовы. Большая частка палеоліту адносіцца да жорсткага ледавіковага пэрыоду. Нэоліт поўнасьцю адносіцца да нашай гэолёгічнай эпохі. Іх адрозьнівае й тэхніка прыгатаваньня прыладаў. Палеоліт, у адзначэньне яго ад нэоліту, ня ведае палітураваньня, шліфаваных і прасьвердленых прыладаў. Іх адзначваюць і асаблівасьці ў вырабчасьці, у гаспадарцы. Палеоліт, у адзнаку ад нэоліту, ня ведае ні земляробства, ні ганчарнага мастацтва.

Розьніца ў тэхніцы, спосабе вырабу й гаспадарцы натуральна народжваюць глыбокія асаблівасьці ў соцыяльнай структуры й ідэолёгіі палэолітычнага й нэолітычнага пэрыодаў.

Але й палеоліт тоіць у сабе значныя адзнакі паміж сваім старажытным і новым пэрыодамі. Нэопалеоліт адносіцца да пасьля-ледавіковага пэрыоду. Нізшы від чалавека Homo Primigenius адступае месца сучаснаму віду—Homo recens. „Зьбіраньне“ (Sämmlerei), як характэрная асаблівасьць гаспадаркі архэопалеоліта й прымітыўныя спосабы вядзеньня паляваньня ўступаюць месца належна арганізаванаму колектыўнаму паляваньню й рыбным ловам.

Уменьне здабываць агонь уносіць рашучы пераварот ува ўсё жыцьцё першабытнага чалавека. Шыло, зброя, мастацтва значна адрозьніваюць нэопалеоліт ад архэопалеоліта. Гэтыя два пэрыоды палеолітычнага веку, адзначваючыся ў тэхніцы вырабу й гаспадарцы, выяўляюць і самастойныя тыпы соцыяльных структур.

Прабелы, якіх нельга ўхіліцца ў нашым прадстаўленьні аб гэтым пэрыодзе і якія архэолёгія бясьсільна запоўніць, пазвана дадаць этнографія.

Гэткае выразнае, дэтальнае выяўленьне ў гісторыі першабытнага грамадзянства пэўных соцыяльных структур на жаль не заўсёды дасягаема. Асабліва гэта адносіцца да Расіі, дзе абпорныя навукі гісторыі першабытнай культуры архэолёгія й этнографія яшчэ надзвычайна слабы, дзе вялічэзныя краіны стараны яшчэ саўсім ня высьледжаны і дзе вельмі часта зробленая ўжо работа праводзілася вельмі кустарна, без ужываньня ўстаноўленых навукай мэтадаў.

Да гэтага часу ў Расіі не рабілася нават спробаў уваскрошаньня выразнай і ўсебакова асьвечанай картыны дагістарычнага жыцьця нашых продкаў.

Праўда, сабрана вялізарная лічба матар'ялу, архэолёгічнага і этнографічнага, аднак ён не сцэмэнтаваны, распылены. І няма, здаецца, да гэтага часу ў Расіі ніводнай спробы выкарыстаць даныя абедзьвюх навук—архэолёгіі й этнографіі—для таго, каб стварыць гэткім шляхам картыну першабытнага грамадзянства. Вялізная працяжнасьць стара-

ны, яе стракаты нацыянальны склад, асаблівасьці ў гістарычнай долі асобных краін Расіі застаўляюць зьвярнуць перш-на-перш увагу на вывучэньне апошніх.

Толькі ў рэзультаце гэткай папярэдняй работы можа быць дадзена ў будучыне картына дагістарычнага жыцьця неабдымнай Расіі. Вывучэньне першабытнай культуры Беларусі выяўляе сабою вельмі вялікую цікавасьць.

Гэта, літаральна, непачатая краіна, дзе ня ступала яшчэ нага ніводнага высьледчыка, які на аснове ўважлівай распрацоўкі археолёгічнага й этнографічнага матар'ялу ўтварыў-бы картыну дагістарычнай Беларусі. Археолёгічнае высьледжваньне гэтага краю, з кожнага кутка якога на вас глядзіць сівая старажытнасьць, рабіліся выпадкова, хаотычна, бяз усякага пляну й затым не маглі даць значных рэзультатаў.

Шмат багацей этнографія Беларусі, але й яна ў большай сваёй частцы, прадстаўляе сыры матар'ял, вымагаючы старэннай распрацоўкі, на аснове ўстаноўленых навукай мэтадаў.

Апроч таго, значная частка работ, датычных Беларусі, носіць выключна тэндэнцыйны характар, знаходзячыся пад уплывам, альбо польскага, альбо вялікарасійскага шовінізму.

Толькі ў цяперашні час зьявіліся неабходныя ўмовы для строга-навуковага і ўсеабхопліваючага вывучэньня Беларусі.

Тайна першабытнай Беларусі, якая ўтаілася ў драмучых лясох, вазёрах і балотах, рассыпаўшая свае асколкі ў прыбярэжных дзюнах, палёх, пахавальных вурнах, каменных бабах павінна быць адгадана.

Яна да гэтага часу яшчэ глядзіць на нас у вясельных і рэлігійных звычаях, шэпча ў казцы, легэндзе, пагаворцы, зьвініць загадачна ў народнай песьні.

Наша задача заключаецца ў тым, каб на аснове ўсяго маючагася матар'ялу заглянуць у сівую мінуўшчыну першабытнай Беларусі і заставіць цені, якія там прытаіліся, аджыць, заварушыцца, загаварыць.

*(Працяг будзе).*

# Ад кастрычніка 1917 г. да лютага 1918 г.

(*Да гісторыі Савецкае Беларусі*).

**Ж. З. Х.**

III.

К моманту Кастрычнікаўскай рэволюцыі ўсе абставіны надворнага і ўнутранага характару былі за тое, каб беларускі рэволюцыйны рух прымаў нахіл улева. Пецярбурская гарадзкая і районныя арганізацыі Беларускай Соцыялістычнай Грамады амаль што канчаткова вызваліліся ад правых, з дадаткам народніцкай ідэялёгіі, элемэнтаў. Часткаю самі яны пакінулі Грамаду, часткаю апошняя паказала ім дарогу ад сябе.

Трэйці зьезд Бел. Соц. Грамады 14—25 кастрычніка ў Менску, выявіўшы скрытныя адзнакі ідэялёгічнай раздвойнасьці, якая жыла ў ёй, пакінуў па сабе новы Цэнтральны комітэт з 12 асоб, Сярод гэтых 12 сябраў комітэту, якія мусілі застацца ў Менску, толькі двое былі левага кірунку, а дзесяць—правага.

Гэтыя выбары ў Цэнтральны Комітэт Бел. Соц. Грамады былі адказам яе згодніцкіх элемэнтаў на рэзкую лявізну прадстаўнікоў ад некаторых організацыяў на III зьезьдзе і на сэсіі рады організацый і партыяў, (15—20), тут таксама заадно ўлічыліся ім і ўсе іншыя „грахі" організацыйныя, якіх асабліва многа налічалі згоднікі за пецярбурскімі і бабруйскай організацыямі Грамады. Тым болей, што гэтыя грахі „левакоў" выразна кідаліся ў вочы правым-грамадаўцам, якія бачылі рэчы скрозь ружовы туман нацыянальнага экстазу. Бурнасьць сэсіі Рады, пасяджэньне якой адмеціла магутны ўздым беларускага нацыянальна-рэволюцыйнага руху ў вайсковых часьцях усіх фронтаў, многалікі прыезд прадстаўнікоў вайсковых на зьезд беларус. вайсковых заходняга фронту, замацаваньне нацыянальна-рэволюцыйнага руху, наогул,—зацьміла „вузкія і сухія" пытаньні соцыялістычнай програмы. Усё гэта намеры, „дробныя і блазныя" пецярбуржцаў і бабруйчан, якія ўвесь час нясупынна хіляцца ўлева. Прыкладамі гэтага ўхілу былі: інцындэнт прадстаўніка бабруйскай організацыі Бел. Соц. Грамады тав. Ш. на пасяджэньні сэсіі Рады і протэст прадстаўніка Пецярбускай Гарадзкой Організацыі Бел. Соц. Грамады проціў пасылкі ў Раду Народаў у Кіеве прадстаўнікаў ад беларускай буржуазіі. Тут-жа, побач, чытаўся і паўсюжыўся ліст старшыні Маскоўскае Організацыі А. Бурбіса да Менскай Організацыі, каб тая протэставала супроціў намеру Пецярбурскай Організацыі на выбарах у Ўстаноўчы Сойм блёкавацца з інтэрнацыяналістымі. У сваім лісьце ад Маскоўскай Організацыі Бел. Соц. Грамады А. Бурбіс пісаў:*) „Прачытаўшы ў № 479 ад 13/X г. г. „Дело Народа"

*) Ліст ад 15 кастрычніка.

паведамленьне, што „Цэнтр. Комітэт“ (лапкі А. Бурбіса Ж. Х. З.) Б. С. Г. пастанавіў блёкавацца з „інтэрнацыяналістамі“ (лапкі А. Бурбіса Ж. Х. З.), я, ведаючы, што Маскоўскі Комітэт Б. С. Г.. як і ўся „Б. С. Г.“ (лапкі А. Бурбіса. Ж. Х. З.) стаяць зусім на іншым становішчы—прапаную Менскай Організацыі паведаміць Маскоўскі Комітэт, ці і Менская Організацыя згаджаецца з Петраградзкай, а калі не, дык ці заявіла свой протэст. Справа гэта ставіцца на абгавор Маскоўскай Організацыі, пасьля чаго яна апублікуе, што *Петраградзкая організацыя нічога супольнага ня мае са старой Бел. Соц. Грамадой**), а калі Вы згаджаецеся з Петраградзкай, дык таксама і з Вамі. Чакаю адказу без правалокі.

Прадсядацель Маскоўскага Комітэту Бел. Соц. Грамады Ал. Бурбіс“.

Прыведзеныя прычыны і наогул уплывы Петраграду на палявеньне беларускага рэволюцыйна-соцыялістычнага руху паводлуг ухілу ўлева агульна расійскай рэволюцыі, ясна казалі правай большасьці дэлегатаў зьезду Бел. Сац. Грамады, што цэнтр Грамады мусіць застацца ў Менску. З пункту гледжаньня найбольшага ўплыву Грамады на нацыянальны беларускі рух, які натуральна імкнуўся ў Менск, рашэньне гэта было правіловым. Аднак правыя грамадаўцы менш усяго лічыліся з гэтым. Галоўным мотывам пераносу Цэнтральнага Комітэту Бел. Соц. Грамады ў Менск былі мотывы сяродпартыйныя: Петраградзкія організацыі ня мелі „нічога супольнага са старою Б. С. Г.“, традыцыі якое застаўлялі прымаць пад сваё ўлоньне агульнабеларускі рух. Самазапэўненьне ў адналітнасьць па соцыяльнаму складу беларускага народу, прыўнесенае ў першыя часы ўзросту беларускага нацыянальнага руху з народніцкай ідэялёгіяй, аставалася ў большасьці грамадаўцаў да самага Кастрычніка. Ня гледзячы на многія прыклады, якія паказалі абмылковасьць гэтага, засьведчыўшы выразную тэндэнцыю з боку шляхецка-буржуйнай інтэлігэнцыі і розных выпадковых спадарожнікаў выкарыстаць беларускі рух для сваіх мэтаў, ня гледзячы на многія прыклады, яны не расталіся з гэтай сваёй думкай. І згодна ёй павялі далейшую політыку.

Правёўшы ў Цэнтральны Комітэт у ліку 12 асоб прадстаўніка Петраградзкай Гарадзкой Організацыі (завочна), тут-жа большасьць зьезду адумалася, што зрабіла „нетактычнасьць“, ад якое можа не паздаровіцца ў далейшым, і пасьпяшыла яе паправіць наступнай рэзолюцыей:

„З прычыны таго, што наконт Ж. ёсьць сумненьне, што ён можа выйсьці з партыі (?)—даць мажлівасьць Цэнт. Комітэту залічыць у свой склад Ж. пасьля атрыманьня ад яго вестак наконт свайго намеру; пры гэтым, у выпадку выйсьця Ж., уступіць у Ц. К. тав. Ласко ў якасьці кандыдата“.

Гэтая перасьцярога ў адносінах аховы новага Ц. К. Бел. Соц. Грамады ад левага элемэнту была зусім дарэмнай: нельга было захаваць цэлым тое, у чым праз даўгі час ужо адмячаліся шчыліны. Назаўтра-ж пасьля зьезду Пецярбурская Організацыя кінула глядзець на Менск тым вокам, якім глядзела дагэтуль. Перад ёю адчыняліся іншыя шляхі ў далейшым змаганьні ў галінах нацыянальнага пытаньня. Гэтыя шляхі акрэсьліваў агонь Кастрычнікаўскай Рэволюцыі, якраз супаў[illegible]ы з днём заканчэньня III Зьезду Бел. Соц. Грамады. У Кастрыч-

*) Гэты ліст сябра старой (да рэволюцыі 1917 г.) Бел. Соц. Грамады лішні раз сьведчыць[illegible] што Пецярбурскія організацыі Бел. Соц. Грамады былі з іншым політычным кірункам, [illegible]ымся другія організацыі яе.

нікаўскім паўстаньні чынны ўдзел прыняла Нараўская районная арганізацыя, якая гэтым палажыла канчатковую мяжу падзелу між згодніцкім элемэнтам сярод беларускіх соцыялістых і іх рэволюцыйным крылом. Гэтая акцыя работніцка-пролетарскай часткі Бел. Сац. Грамады была больш, чым акцыяй прызнаньня Савецкага ладу—гэта быў першы крок да організацыі тае савецка-комуністычнае ідэялёгіі, якая прывяла праз організацыю Беларускай Соцыял-Дэмократычнай Рабочай Партыі бальшавікоў да залажэньньня Беларускай Соцыялістычнай Савецкай Рэспублікі. Праўда, у той час крок Нараўскае організацыі і асобных сяброў з другіх районых організацыяў, паказаны ўдзелам у актыўнай чыннасьці Кастрычнікаўскай рэволюцыі, быў залевым і для Пецярбурскае Гарадзкое Організацыі Грамады. Апошняя, парваўшы з правымі організацыямі ў Менску, зразу яшчэ не магла зрабіць пераскоку да бальшавікоў. Гэта было-бы ненатуральным ды па зьместу маламажлівым. Гісторыя разьвіцьця беларускага рэволюцыйнага руху праднaзначыла яму пэўны паступовы ход да прадзельных рубяжоў на працягу выкрэсьленага тэрміну. Левая частка Бел. Сац. Грамады, як-бы сьвядома прытрымлівалася гэтага закону. І таму 25 кастрычніка, пакуль, не захапіла яе цалкам і на Кастрычнікаўскую рэволюцыю Пецярбурская Гарадзкая Організацыя адказала гэткай рэзолюцыяй, прынятай на сходзе ад 4 лістапада: «Рэволюцыя, зробленая бальшавікамі 25 кастрычніка, ёсьць скутак політыкі коаліцыйнай улады. Бел. Сац. Грамада (разумеюцца левыя яе элемэнты Ж. Х. З.), пасьля першага крызісу ў часовым правіцельстве стала на пунт гледжаньня абароны лёзунгу „аднароднага соцыялістычнага правіцельства“, якое-бы адно магло мець пад сабою цьвёрдую глебу. Гэта правіцельства, апіраючыся на прыхільнасьць усёй дэмократыі, магло-б прывясьці краіну да міру і Ўстаноўчага Сойму. Гэты пунт гледжаньня Бел. Соц. Грамада бараніла і ў сваёй дэкларацыі на Дэмократычнай нарадзе і прытрымліваецца апошняй і ў сучасны момант. Не паглыбляючыся ў ацэнку зробленай бальшавікамі рэволюцыі, Бел. Соц. Грамада бачыць выйсьце з сучаснага становішча ў стварэньні адзінае соцыялістычнае ўлады (ад бальшавікаў да меншавікаў), якая і павінна прывясьці краіну да міру, а рэволюцыю да заховы. Абедзьве варожыя старaны дзеля інтарэсаў дэмократыі прызываюцца да максымальных організацыйных уступак*)“.

Як відаць, рэзолюцыя носіць на сабе адбітак прымірэнчага тону, якім гаварылі ў той час інтэрнацыяналістыя і вядомы «Вікжэль». Аднак думкі, праведзеныя ў ёй, ня гледзячы на некаторую опортуністычнасьць, ня чужыя тады і многім адзінкам з бальшавіцкай партыі, наагул ішлі далёка ў бок прымірэньня з Кастрычнікаўскай рэволюцыяй. Чынны ўдзел у паўстаньні, які прыняла Нараўская організацыя, яе хуткае перайменаваньне ў Беларускую Соцыял-Дэмократычную Рабочую Партыю бальшавікоў, пасылка прадстаўніка ў бальшавіцкі Петраградзкі Савет Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў**) ня толькі ня выклікалі нараканьняў з боку Цэнтральнай Гарадзкой Організацыі Грамады, а сустракаліся з прыемнасьцю. А гэта, з свайго боку, давала магчымасьць падтрымліваць цесныя зносіны паміж абедзьвюмі гэтымі беларускімі організацыямі.

*) Пратаколы сходу Петраградзкай Організацыі Бел. Сац. Грамады. Архіў Бел. Соц. Грамады.

**) Левая Бел. Соц. Грамада таксама мела свайго прадстаўніка ў Пецярбурскім Савеце Рабочых і Салдацкіх дэпутатаў пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі.

Пэўна, што гэтыя зносіны мелі сваім скуткам далейшае ўпартае паступовае лявеньне Пецярбурскай Гарадзкой організацыі Бел. Соц. Грамады і зьвязаных з ёю Бабруйскай і Віцебскай організацый. Незалежна ад Цэнтральнага Комітэту, які заставаўся ў Менску і як гэткі, не даваў аб сабе ніякіх дырэктыў, комітэты левых Організацый Бел. Соц. Грамады наогул, а Пецярбурскі ў асобку, вялі самастойную політыку. Пры гэтым ясна адчувалася непераходная ідэёвая прорва, якая ляжала паміж Менскам і Пецярбургам. Праўда Менск стараўся пакрысе засыпаць яе, зварочваючыся час ад часу з рознымі дарадамі ў Пецярбург. На канчатковы разрыў Менск ня йшоў. Аб гэтым кажа тое, што ў сьпіску на выбарах у устаноўчы Сойм ад Бел.-Соц. Грамады, складзенаму ў Менску, быў пастаўлен (4) і сябар Пецярбурскай Організацыі яе.

Але гэта былі апошнія спробы захаваньня таго ці іншага кантакту паміж беларускімі Пецярбургам і Менскам. Розныя здарэньні яго няшчадна расстройвалі. Асабліва пасабіў гэтаму наладжваны Ўсебеларускі Зьезд. Ініцыятыва скліканьня яго паўстала ў сярэдзіне лістапада. Яе паднялі перш усяго Менскія беларускія організацыі: Вялікая Рада, Вайсковая Цэнтральная Рада, Белар.-Соц. Грамада і Беларускі Спаўняючы Комітэт Заходняга Фронту. У сярэдзіне лістапада гэтыя організацыі выпусьцілі адозву „да ўсяго народу беларускага“. Адозва лічыць неабходным хутка зрабіць згоду з Нямеччынай, аб'яднаць парэзаную фронтам Беларусь, пабудаваць яе, як дэмократычную рэспубліку, злучаную з Вялікарасіяй і іншымі суседнімі рэспублікамі на аснове фэдэрацыі; бяз выкупу перадаць працоўнаму народу ўсе панскія, царкоўныя, скарбовыя і царскафамільныя землі; без адкладу пачаць фармаваньне беларускага нацыянальнага войска.

Рашэньне Менскіх беларускіх організацый склікаць агульнабеларускі зьезд у Менску ўстрывожыла так званы, беларускі Абласны Комітэт, заложаны ў лістападзе месяцы ў Петраградзе пры Ўсерасійскім Савеце Сялянскіх Дэпутатаў з эсэраўска-абласьніцкім настроем. Маючы выразна расійскі характар, не прызнаючы беларускае культуры, хаваючы ў сваёй істоце процібеларускія ідэі—абласны Беларускі Комітэт меўся спаралізаваць беларускі нацыянальна-рэволюцыйны рух, меўся стаць яго гэгэмонам. Вось сьледам за Менскімі організацыямі, а менавіта, 17 лістапада, Беларускі Абласны Комітэт выдае ад сябе „Дэклярацыю“, у якой, абгаварыўшы агульнае становішча Расіі і ў асобку Беларусі, кажа: „Мы зьвяртаемся да працоўнага беларускага сялянства, да земскіх і гарадзкіх самаўрадаў Беларусі, да коопэратываў, саветаў сялянскіх дэпутатаў, да ўсіх беларусаў-ваякаў, да беларускай сялянскай інтэлігэнцыі ў асобах настаўнікаў і да ўсяго насяленьня нашай радзімы, неадкладна паставіць на чаргу пытаньне аб лёсе Беларусі. Заложаны ў Петраградзе Беларускі Абласны Комітэт пры Ўсерасійскім Савеце Сялянскіх Дэпутатаў, улічваючы мажлівасьць гібелі свае радзімы і заваёваў рэволюцыі, узяў на сябе вялікі, гістарычна-адпаведны пачатак для організацыі працоўнага беларускага сялянства вакол ідэі заснаваньня *Аўтономна-Вольнай Беларусі, як часткі Расійскай Фэдэрацыйнай Рэспублікі*.“ (Курсіў наш Ж.З.Х.).

З гэтае прычыны Комітэт уступіў на шлях абароны цэласьці Беларусі ў адпаведных дзяржаўных установах у Пецябурзе і рашыў узяць на сябе пачатак скліканьня надзвычайнага беларускага зьезду.

Браты беларусы! Наш лёс у сьмяротнай небясьпецы. Яго мы можам абараніць неадкладнай організацыяй".

Адначасова з агітацыйнай падгатоўкай да скліканьня зьезду, Беларускі Абласны Комітэт пачаў рабіць захады перад Савецкай уладай, у асобе Народнага Камісарыяту па нацыянальных справах, каб атрымаць матар'яльную дапамогу на організацыю зьезду. Народны Камісарыят па нацыянальных справах абяцаў падтрымаць хадайніцтвы.

Гэткім чынам стварылася заблытанасьць, якая пагражала расстроіць цэльнасьць і паўнату зьезду. Менскія беларускія організацыі выяўлялі гэта сабе, і далі знаць Пецярбурскаму Комітэту Бел. Соц. Грамады павясьці перагаворы з Беларускім Абласным Комітэтам наконт пагоджанасьці ў справе скліканьня зьезду.

Агульна-беларускі зьезд, наогул, прадстаўляў сабою зьявішча настолькі значнае, што не зацікавіцца ім было нельга. Тым болей, для левай палавіны Беларускай Социялістычнай Грамады і Беларус. Социял-Дэмократычнай партыі, організаванай з Нараўскай районай організацыі Бел. Соц. Грамады, якія мелі ўсе даныя мець уплыў на рашэньні зьезду. Хто-б яго ні склікаў—абедзьве гэтыя партыі павінны прыняць на ім чынны ўдзел. Але ўсе ўмовы казалі за тое, каб зьезд быў склікан у Менску, а не ў Рагачове, на чым настайвалі абласьнікі. Для Пецярбурскіх беларускіх організацыяў, таксама, было пажадана, каб зьезд пайшоў пад кіраўніцтвам менскіх беларускіх партыйных і політычных установ—па гэткім мотывам—калі ў Менску пераважвалі беларускія правыя—грамадаўцы, ужо далёка адыйшоўшыя ад сваіх нядаўніх таварышаў, левых грамадаўцаў,—то ўсё-ж для апошніх менчукі з Грамады і Радаў былі больш прыемнымі па шыраце й вытрываласьці сваіх социялістычных і нацыянальных ідэй, чым пецярбурскія абласьнікі, напалову правыя эсэры, напалову кадэты і проста нявыразныя політычна элемэнты. Петраградзкая Організацыя Грамады, як і сябры іншых організацыяў апошняй, добра ведалі пахаджэньне, настрой, політычную пляцформу і мэты Беларускага Абласнога Комітэту. Яго легальнае істнаваньне ў тую пору, калі эсэры, наогул, адыходзілі ў падпольле, організуючы там контр-рэволюцыйныя выступленьні юнкераў і дробную буржуазію процiў Савецкай улады, цяпер паказваецца проста недарэчным. Можна зьясьніць гэта толькі гарачнасьцю бягучага моманту, захопам організацыйна-дзяржаўнай працы, што давала мажлівасьці Савецкай уладзе мець справу з дужа сумненымі эсэрамі, якія ў большасьці сядзелі ў Беларускім Абласным Камітэце.

Усё-ж, абмінуць Беларускі Абласны Комітэт і пачаць справу скліканьня зьезду паміма яго—было нерацыянальна і з боку Пецярбурскай Організацыі Бел. Соц. Грамады. Комітэт апошняй прыняў прапазыцыю з Менску папрабаваць вясьці перамовы з абласьнікамі аб сумесным зьезьдзе ў Менску, і паслаў у Абласны Комітэт тав. Ч. і Ш—ка для перамоў. Аднак прапазыцыі Менскіх беларускіх організацыяў і політычных установ не здавальнялі абласьнікоў. На першы раз тыя й слухаць не хацелі каб пайсьці на ўступкі і згадзіцца на зьезд у Менску на 5 сьнежня. Прышлося завязаць доўгія спрэчкі, угаворы, пайсьці на розныя ўступкі, гаварыць з прадстаўнікамі Пецярбурскай Організацыі Бел. Сац. Грамады і непасрэдна па простаму проваду з Менскам, пакуль да сяго-таго дагаварыліся, згадзіўшыся на скліканьне зьезду ў Менску, але на 14 сьнежня.

Якраз у часы гэтых перамоў паміж Менскімі беларускімі організацыямі і ўстановамі (Цэнтральны Комітэт Бел. Соц. Грамады, Цэнтральная Вайсковая Рада, Вялікая Беларуская Рада і Комітэт войнаўбеларусаў заходняга фронту) і Беларускім Абласным Комітэтам у Петраградзе, афармляла свае адносіны да зьезду і Петраградзкая Організацыя Белар. Соц. Грамады і Беларуская Соц.-Дэмок. Рабочая Партыя бальшавікоў. Апошняя, асабліва, рашыла як найбольш уплысьці на працу зьезду, дзеля чаго пастанавіла паслаць у Менск дзесяцёх таварышаў. Аб гэтым было паведамлена Ц.К. Комуністычнай Партыі, які адобрыў пасылку беларусаў-бальшавікоў у паказаным ліку і дапамог матар'яльна гэтай пасылцы. Зразу-ж Нараўская Організацыя Бел. Соц.-Дэм. рабочай партыі бальшавікоў выслала ў Менск траіх сваіх сяброў, Л. Ф. і С. з якіх два былі сябрамі комітэту.

Петраградзкая Організацыя Бел. Соц. Грамады выбрала ад сябе траіх дэлегатаў, якім быў дадзен спэцыяльны наказ. Тэзісы гэтага наказу да таго былі левымі, што выклікалі доўгія спрэчкі з боку правых адзінак-сяброў організацыі, опозіцыю. Гэта заставіла тэзісы крыху паправіць, зрабіўшы іх больш умеранымі.

Гэткім чынам Петраградзкія беларускія соцыялістычныя організацыі пасылалі на Ўсебеларускі Зьезд 13 чалавек левага напрамку. Была-б цэлая фракцыя на зьезьдзе, каб удалося ўсім ім к часу пасьпець. Але на першыя пасяджэньні зьезду, якія адчыніліся шмат раней 14 сьнежня, пасьпела з Пецярбургу толькі пяцера таварышаў. Астатніх семера паехалі пазьней. Ня гледзячы на гэта ўсё-ж удалося сябрам Бел. Соц.-Дэмок. Партыі з'організаваць на зьездзе так званы левы блёк; у гэты блёк увайшлі ўсе левыя элемэнты зьезду і, галоўным чынам, левая частка Беларускай Соцыялістычнай Грамады.

Дзякуючы леваму блёку, супроціў якога стаяў у пачатку зьезду дэмократычна-соцыялістычны ўмераны блёк, а пасьля і прыхільнікі абласьнічаства, вялікая частка спрэчак і пастаноў прайшла пад яго значным уплывам. Але, зразумела, цалкам падгарнуць пад сябе працу зьезду левы блёк ня меў сілы. Пераважная большасьць права-соцыялістычнага напрамку дэлегатаў забівалі радыкальныя пропозыцыі левых блёкістых, сьціраючы іх лявізну. Да гэтага бракавала шмат і тое, што левы блёк ня меў у сябе добрага кіраўніка. Больш выдатнейшыя таварышы з Комітэтаў Бел. Соц.-Дэм. Партыі і Пецярбурскай Організацыі не маглі сваечасна па розным прычынам прыехаць на зьезд. З мяйсцовымі Менскімі комуністымі таксама ня было наладжана ніякага кантакту, у той час, калі другая частка зьезду была куды больш палітычна падгатаванай і ўзмоцненай. Дух „супольна-нацыянальнай справы" таксама не пакідаў і левага блёку, абураючы ўвесь зьезд. Праз гэта ў процэсе працы яго, чым далей, тым прыметней політычныя спрэчкі, толькі „агульна нацыянальная справа" абыймала ўсіх дэлегатаў цалкам. Чулася досыць выразна, што нацыянальная ідэя, расьцьвіўшая да апогэю к моманту адбываньня зьезду, прэваліруе над усім іншым і прыдае нячуванаму да таго ў беларускай гісторыі конгрэсу адпаведны адбітак. Дзякуючы гэтаму важнейшая з пастаноў зьезду, пастанова „аб самавызначэньні Беларусі і аб часовай краёвай уладзе" хавае ў сабе поруч з прынцыпам савецкасьці, прынцып дэмократыі. „Замацоўваючы свае правы на самавызначэньне,— гаворыцца ў гэтай пастанове:—якое прагаласіла Расійская Рэволюцыя і замацоўваючы рэспубліканскі дэмократычны лад у межах Беларускай

зямлі, дзеля захаваньня роднага краю і агараджэньня яго ад падзелу і адрыву яго ад Расійскай Дэмократычнай Фэдэратыўнай Рэспублікі, Першы Ўсебеларускі Зьезд пастанаўляе: неадкладна заснаваць з свайго складу орган краёвай улады ў выглядзе Ўсебеларускага Савету Сялянскіх, Салдацкіх і Рабочых дэпутатаў, які часова становіцца на чале кіраваньня краем, уваходзіць у дзелавыя зносіны з цэнтральнаю ўладаю, якая адпаведна перад Саветам Рабочых, Салдацкіх і Сялянскіх Дэпутатаў".

Праўда, нельга сказаць, каб у пастанове „аб самавызначэньні Беларусі" біла ў вочы рэзка згодніцкая думка: левы блёк ня даў ёй выявіцца ў поўнай меры, дзякуючы чаму прышлося пастанову прыняць блытаную, з затуманеным сэнсам, што і відаць з прыведзенага сказу. Беларусь абвяшчалася з „рэспубліканскім дэмократычным ладам", у якім будзе вышэйшы кіраўнічы орган „савет сялянскіх, салдацкіх і рабочых дэпутатаў". Гэтага нельга растлумачыць нязнаньнем розьніцы між дэмократыяй і саветамі—тут хавалася знаёмая тактыка згодніцтва. Гэта тактыка зьбіла з панталыку і настроены нацыянальна левы блёк зьезду.

І вышла, нарэшцэ*), што ў астатнюю хвіліну свае працы Ўсебеларускі Зьезд аказаўся суцэльным ва ўсёй сваёй масе. Хто ведае, якбы пайшла яго праца далей, да чаго-б яна давяла—толькі ўсё-ж можна зараз сказаць, што ўплыў левага блёку меў вялікае значэньне і глыбокі адбітак на ўсіх пастановах і рэзолюцыях зьезду. Дачасная сьмерць зьезду на нэйкі момант ашаламаніла ўсіх дэлегатаў, без разбору іх політычнага напрамку. Сябры левага блёку, недаваўшыся разам з другімі разыйціся, былі заарыштованы і гэтым сканфужаны, нават раззлаваны. Да прадстаўнікаў мясцовай менскай улады паднялася воражасьць. Яшчэ больш падлівалі нафты ў агонь папрокі леваблёкаўцаў з боку згоднікаў, каторыя стараліся выкарыстаць роспуск зьезду ў мэтах агітацыі супроціў савецкай улады.

Пецярбурскія беларускія соцыялістычныя організацыі—Грамады і Соц.-Дэм. Партыі сустрэлі вестку аб здарэньнях са зьездам у Менску таксама зьдзіўлена. Ніхто не хацеў верыць, што зьезд так кончыўся, і пад сьвежым уражаньнем Пецярбурская Організацыя Бел. Соц. Грамады на агульным сходзе 4 студзеня 1918 г., заслухаўшы даклад аб Агульнабеларускім зьездзе, прыняла гэткую рэзолюцыю: „Пецярбурская Організацыя Беларускай Соцыялістычнай Грамады лічыць роспуск Усебеларускага зьезду нейкім непаразуменьнем з боку дэмократыі, якая сучасна трымае ўладу. Даючы правы нацыям на самавызначэньне, гэтым даецца палёгка для вядзеньня клясавай барацьбы. Падобныя выпадкі, як роспуск Усебеларускага зьезду, узводзяць дэмократыю на шлях шовінізму, воражнасьці і разладу паміж яе нацыянальнымі часткамі. Пецярбурская Організацыя Бел. Соц. Грамады, як прадстаўніца рэволюцыйнай беларускай дэмократыі, зьвяртаецца з клічам, да расійскай дэмократыі наогул і да дэмократыі розных нацыяў, захоўваць між іншымі вялікімі прынцыпамі рэволюцыі і прынцып права на свабоднае самавызначэньне народаў, як залог на скарэйшае дасягненьне панства інтэрнацыянальнага соцыялізму".

*) У момант галасаваньня пастановы пасяджэньне зьезду было перарвана начальнікам менскага гарнізону, які зьявіўся на зьезд, каб яго распусьціць.

Прыведзеная рэзолюцыя была амаль што адзінай спробай рэагаваньня з боку Пецябурскай Організацыі Бел. Соцыял. Грамады на роспуск Агульна-беларускага зьезду ў Менску. Уложаны ў яе настрой з часам таксама патроху расплываўся. А агульнарасійскія здарэньні, цэнтрам якіх быў Пецярбург, засланялі сабою ад Пецярбурскай Організацыі Бел. Соц. Грамады далейшыя пасьлязьездаўскія акцыі, застаўленай у Менску Рады Зьезду.

На пятае студзеня 1918 году быў назначан тэрмін для адчыненьня Ўстаноўчага Сойму. Ішла кіпучая праца сярод соцыял-згоднікаў, буржуазіі і чорнай контр-рэволюцыі па організацыі сіл для выступленьня ў гэты дзень.

З боку Савецкае улады прымаліся падгатоўчыя крокі сустрэць ворага ў поўнай баявой гатоўнасьці. Пуцярбург жыў у трывожным настроі, чакаючы буйных здарэньняў на гэты дзень.

Беларуская Соц.-Дэмокр. Партыя мела свой выразны пагляд на падзеі, якія мелі быць: яна йшла разам з Савецкаю уладаю. Патрэбна было выявіць свае адносіны да Ўстаноўчага Сойму і левай частцы Беларускай Соцыялістычнай Грамадзе. Гэта мусіла ўзяць на сабе Пецярбургская яе організацыя.

За некалькі дзён да пятага студзеня, у канцы сьнежня, пытаньне аб адносінах да Ўстаноўчага Сойму разглядалася ў Савеце нацыянальна-соцыялістычных партыяў, куды ўходзілі прадстаўнікі ад Бел. Соц. Грамады. Пецярбурская Організацыя Грамады дэлегавала на пасяджэньне двох сваіх прадстаўнікаў. Вострасьць пытаньня прыцягнула на пасяджэньне Савету, якое адбылося на кватэры правага эсэра П. Шаскольскага, прадстаўнікоў ад усіх нацыянальна-соцыялістычных партыяў, якія ўваходзілі ў „блёк нацыянальна-соцыялістычных партыяў" *). Сабралася каля 15 чалавек, перад якімі і было пастаўлена пытаньне аб удзеле ў дэмонстрацыі 5 студзеня. Старшыня пасяджэньня П. Шаскольскі, кранууўшыся бягучага моманту і значнасьці Ўстаноўчага Сойму, як вышэйшай, доўга чаканай, народнай вярхоўнай інстытуцыі, запрапанаваў „разам з усёй дэмократыяй" і нацыянальна-соцыялістычным партыям прыняць удзел у „усенароднай дэмонстрацыі за ахову Ўстаноўчага Сойму". Прадстаўнікі Дашнакцутюн эс-эраў і Трудавой-Народна-Соцыялістычнай Партыі падтрымалі П. Шаскольскага, абяцаючы вялікія падарункі нацыянальнасьцям з боку абароненага ад бальшавікоў сойму.

Але іх довады ня ўсіх пераканалі. Першымі—прадстаўнікі Бел. Соц. Грамады падалі заяву, што яны ня прымуць жаднага ўдзелу ў дэмонстрацыі супроць разгону Ўстаноўчага Сойму. Заява зрабіла ашаламляючае ўражаньне на яго прыхільнікаў, з другога боку, сустрэўшы спагаду ад прадстаўнікоў Грузінскіх Соцыялістых-фэдэралістых і літоўскіх народнікаў, якія таксама выказаліся супроціў дэмонстрацыі. Зусім зразумела, што пасяджэньне не магло далей цягнуцца і яго ўдзельнікі разышліся... На гэты раз яны рызышліся з тым, каб больш ужо ня сходзіцца.

Пытаньне аб Устаноўчым Сойме, у які нацыянальна-соцыялістычныя партыі выбіралі ў Пецярбурзе ў блёку з Трудавой-народна-соцы-

---

*) У „блёк нацыянальна-соцыялістычных партыяў" уваходзілі: Беларуская Соцыялістычная Грамада, Поалей Ціон, Жыдоўская Соцыялістычная Партыя, Літоўскія Народнікі, Сояцылістыя-Фэдэралістыя Грузіі, Польская Партыя Соцыялістычная, Дашнакцутюны і інш.

ялістычнай партыяй, паслужыла прычынаю сьмерці натуральна складзенаму блёку нацыянальна-соцыялістычных партыяў. Розныя па сваіх політычных, соцыяльных і экономічных поглядах, нацыянальна-соцыялістычныя партыі не маглі шчыльна зьядняцца на аднэй нацыянальнай пляцформе. Жыцьцё вымагала раўняцца па клясавай лініі, якая адна вечна ляжыць у аснове рэволюцыйных выбухаў—а гэта было ім не пад сілу. І пасяджэньне Савету нацыянальна-соцыялістычных партыяў у канцы сьнежня было апошнім актам блёкаўскай чыннасьці.

Пецярбурская Організацыя Беларускай Соцыялістычнай Грамады на сваім агульным сходзе ў студзені перад адчыненьнем Ўстаноўчага Сойму, па дакладу тав. Жылуновіча, пастанавіла: „У дэмонстрацыі 5 студзеня ня прымаць удзелу“*).

Гэткім чынам Левай Бел. Соц. Грамадаю быў зроблен яшчэ адзін рашучы крок да зблізкэньня з Савецкаю ўладаю і Комуністычнаю Партыяй. Факт роспуску Ўсебеларускага зьезду ў Менску хутка адыйшоў на задні) і ўражаньне ад гэтага няпрыметна згладжвалася. Усё больш і ясьней вызначаліся перад левай паловай Беларускай Соцыялістычнай Грамады пэрспэктывы грунтоўнай пастаноўкі нацыянальнай політыкі ў програме Савецкай улады. Тыя шляхі, на якіх тапталася большасьць Грамады да Кастрычнікаўскай рэволюцыі і з якіх усё яшчэ не сступаў Савет Усебеларускага Зьезду, павёўшы сваю працу ўпотайку, быў асуджан левай яе паловай. У Савеце не засталося ніводнага леваграмадаўца і сама пастанова яго аб тым, што ён „прызнаецца выканаўчым органам, на абавязках якога ляжыць правясьці ў жыцьцё ўсе вырашэньні і пастановы зьезду“ а таксама, што ён пераймае ад усіх беларускіх організацыяў, як Вялікая Рада, Абласны Комітэт і інш., уладу на сябе—гэта не заўважалася Пецярбургскай Організацыяй Бел. Соц. Грамады. Апошняя, разам з другімі левымі організацыямі Грамады, лічыла, што Менск не прывядзе к пастаўленым сабе беларускімі працоўнікамі мэтам.

Перад ёю яскрава вызначыўся іншы шлях, на які амаль не з самага моманту лютаўскай рэволюцыі, яна ціха, упарта і ўпэўнена накіроўвала. Гэты шлях вёў да шчыльнага прылучэньня к прынцыпам Савецкае ўлады.

На другі дзень пасьля Кастрычнікаўскай рэволюцыі, калі паўстала Савецкая Ўлада—нацыянальнае пытаньне паднялося на ўступ дзяржаўнага. Адначасна з іншымі народнымі камісарыятамі быў заснован Народны Камісарыят па нацыянальных справах. На яго чале стаў знаўца нацыянальнага пытаньня т. Сталін. Гэта сьведчыла ўсім і кожнаму, што Савецкая ўлада ў пяршыню ў гісторыі падняла нацыянальнае пытаньне на ровень другіх важнейшых пытаньняў дзяржаўнага будаўніцтва. Бяз гэтага пытаньня, высунутага наверх самой рэволюцыяй, нельга ня толькі паглыбіць яе заваёвы, а, нават, нельга і ўтрымаць іх. Затое, пры правіловым падыходзе да вырашэньня нацыянальнага пытаньня, мажліва, разьбітую на многалікасьць нацыянальных, варожых адна другой краін, пабудаваць магутную, непаборную дзяржаву. Організацыі Левай Беларускай Соц. Грамады, а ў асобку Пецярбургская Організацыя яе верыла, што Савецкая ўлада якраз і прызвана законам соцыяльнага разьвіцьця гэта зрабіць. 4 студзеня на тым-жа агульным сходзе Пецярбурскай Організацыі Белар. Соц. Грамады было рэшана

*) Пратаколы пасяджэньняў Пецярб. Організацыі Бел. Соц. Грамады.

па пытаньню „аб заснаваньні беларускага нацыянальнага камісарыяту“ „Патрэбнасьць гэткага камісарыяту абавязкова. У бліжэйшы-ж час склікаць аб'яднаную сходку з прадстаўнікоў Бел. Соц.-Дэм. Партыі, Белар. Соц. Грамады, аб'яднаньня беларусаў чыгуначнікаў і беларусаў вайсковых (ад комітэту зьезду беларусаў-войнаў пецярбугскага гарнізону) для ўсебаковага абгавору гэтага пытаньня“*).

К гэтаму часу пры Народным Камісарыяце па нацыянальных справах ужо істнавалі польскі, літоўскі, жыдоўскі і інш. нацыянальныя камісарыяты. Спробавалі таксама адчыніць свой нацыянальны камісарыят грузіны. Праўда, у канцы лістапада зрабілі крокі к гэтаму і беларускія абласьнікі. Аднак апошнім не паверылі, бачачы ў іх дужа сумненных прыхільнікаў да Савецкае ўлады, ужо раз абмануўшых яе даверра**). У інтарэсах рэволюцыі. Трэба было беларускую нацыянальную справу перадаць у рукі рэволюцыйным элемэнтам, блізкім да Комуністычнае партыі. Гэткімі былі—Белар. Соц.-Дэмок. Рабочая Партыя і Левая Беларуская Соцыяліс. Грамада. Першая, шчыльна зблiжалася з Комуністычнаю (у той час Соцыял-Дэмократычнаю) Партыяй бальшавікоў і сваёю програмаю і сваёй тактыкай. Вось тады й пачала Белар. Соц.-Дэм.Раб. Партыя перагаворы з Народным Камісарыятам па нацыянальных справах адносна заснаваньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыату. Пецярбурская Організацыя Бел. Соц. Грамады сваёю пастановаю ад 4 студзеня згадзілася прылучыцца да гэтага.

Гэткім чынам адчынілася першая мажлівасьць да супрацоўніцтва з Савецкаю ўладаю беларускіх нацыянал-соцыялістых. Ужо канчаткова парывалася ўсякая сувязь з Менскам, калі што й кратала таго ці іншага пецярбуржца-грамадаўца—то гэта было простым адбіткам перажытага, як бывае часамі з успамінамі аб дзяцінстве.

З другога боку, трэба сказаць, што і Менск махнуў рукою на Пецярбург. Усё патрэбнае, больш-менш прыгоднае да правядзеньня шовіністычна-соцыялістычнай тактыкі ў менскіх умовах, атручаных варожасьцю да „угоньнікаў беларускае справы“—было часткаю выцягнута ў Менск, часткаю само адпала ад рэволюцыйнага ядра. Канчатковае разыходзьдзе з Пецярбургам—разьвязвала рукі на вольную, бязмінтрэжную акцыю. Карыстаючыся гэтым Савет Усебеларускага Зьезду пад уплывам Цэнтральнага Комітэту Бел. Соцыял. Грамады, бадай што цалкам уходзіўшага ў Савет, паспрабаваў продэмонстраваць яшчэ раз протэст супроціў „разгону“ Усебеларускага Зьезду—на гэты раз на Ўсерасійскім Зьезьдзе Саветаў Рабочых, Сялянскіх і Салдацкіх Дэпутатаў 10 студзеня.

На гэты, трэці лікам, Усерасійскі Зьезд зьехалася каля сямі дэлегатаў і ад розных організацыяў Белар. Соц. Грамады.

Адзін з іх, Грыб, і прыняў на сябе заданьне выказаць перад зьездам протэст проціў Менскай большавіцкай улады. Атрымаўшы слова на адным з пасяджэньняў, ён расказаў гісторыю Ўсебеларускага Зьезду і абмаляваў у чорных фарбах процэс „яго разгону“ менскімі бальшавікамі... Аднак уражаньне ад прамовы Грыба было згладжана ўнесенай прадстаўніком Левай Бел. Соц. Грамады (Пецярбурскай Організацыі) рэзолюцыяй, у якой „разгон“ лічыўся простым непаразуменьнем,

*) Пратаколы сходаў Пецярбурскай Організацыі Бел. Соц. Грамады.

**) Абласьнікі не апраўдалі сваіх абяцанак у справе правядзеньня савецкае політыкі на Ўсебеларускім зьезьдзе.

а зьезд заклікаўся да правіловага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Праўда, прамова т. Сталіна, пакіраваная на адказ Грыбу, і адмячаўшая Ўсебеларускі Зьезд—„зьездам памешчыкаў"—зрабіла цяжкаватае ўражаньне неправіловасьцю фактаў на ўсіх дэлегатаў зьезду беларусаў, пачынаючы ад правых грамадаўцаў да Соцыял-Дэмакратаў бальшавікоў. Але гэта ўражаньне ня мела адмоўных скуткаў на далейшае замацаваньне адносін паміж бальшавікамі і левграмадаўцамі. Словы т. Сталіна—былі дань часу—бурліваму, кіпучаму часу, калі трэ' было пад пагрозай нямецкага імпэрыялізму абараняць соцыялістычную радзіму. Пры тым, даючы няпрыемны водзыў аб Усебеларускім Зьезьдзе, т. Сталін аднačасова дыхтаваў вогнекрылыя словы „Дэклярацыі праваў працоўнага і эксплёатаванага народу", у якой, паміж іншым, клалася моцная падваліна да далейшай нацыянальнай політыкі Савецкай улады ў гэткіх словах: „Расійская Рэспубліка Саветаў устанаўляецца на фундамэнце вольнага хаўрусу вольных нацыяў, як фэдэрацыя Саветаў Нацыянальных Рэспублік" і далей: „Зьезд настойвае на тым, каб поўнасьцю парваць з політыкаю буржуйнае цывілізацыі, якая будавала дабрабыт абіраццеляў сярод нямногіх выбраных нацыяў, каб зрабіць нявольнікамі сотні мільёнаў працаўнікоў—жыхароў Азіі, у калёніях наогул і ў малых краёх".

„Разгон" Усебеларускага Зьезду меў тыя-ж мотывы і тую прычыну, што і роспуск Установчага Сойму. Гэта было ясна і зразумела для Левай Белар. Соц. Грамады, якая праз сваіх дэлегатаў на Трэцім Усерасійскім Зьездзе Саветаў, зараз-жа пасьля прамовы т. Сталіна, у будынку зьезду ў сур'ёз абгаворвала пытаньне аб пасылцы свайго прадстаўніка ў Брэст-Літоўск, на мірныя перагаворы. Пасланьнікі Менску ў Брэст-Літоўск вылажылі гэн. Гофману сваю крыўду на бальшавікоў за заняцьце імі Беларусі і за разгон Усебеларускага Зьезду—ужо прымаліся Пецярбурскаю Організацыяй Бел. Соц. Грамады за сваіх непрыяцеляў. Бальшавікі—то выказчыкі волі беларускага працоўнага народу, якія ім даручыў свой край, каб зрабіць яго вольным і незалежным. Гэта мусіла вясьціся на мірную нараду, у адказ на ўпікі Вільгельмаўскага агэнта т. Троцкаму за разгон таго-ж Усебеларускага Зьезду... Некаторыя прычыны не пазволілі гэтаму зьдзейсьніцца—прадстаўнік беларускіх рэволюцыйных соцыялістых ня мог паехаць у Брэст. Але гэта хутка было падмацована сумеснай паяднанай працай між імі і Савецкаю ўладаю.

У назначаны сходам Пецярбурскай Організацыі Бел. Соц. Грамады ад 4 студзеня тэрмін (7 студзеня) адбылася агульная нарада беларускіх організацыяў у Пецярбурзе, наконт заснаваньня Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту. Нарада падмацавала патрэбнасьць коордынацыі працы з Савецкаю ўладаю праз адчыненьне Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту. Заслухаўшы даклад прадстаўніка Бел. Соц.-Дэмок. Партыі аб кандыдатах на камісара, яго намесьніка і сэкратара, ужо абгавораных Комітэтам Партыі, нарада згадзілася з прапазыцыяй паставіць Комісарам т. Чарвякова, намесьнікам камісара т. Скарынку і сакратаром Камісарыяту—т. Жылуновіча. Назаўтра-ж пастанова нарады была падана ў Народны Камісарыят па нацыянальных справах, які і прыняў будучы склад Беларускага Нацыянальнага Камісарыяту...

Так паступова пасоўвалася левае крыло беларускага нацынальнага рэволюцыйнага руху ў бок злучэньня свае працы з працаю ўлады работнікаў і сялян, завяршаючы гэтым адзін з сваіх гістарычных кругабегаў.

# Пуціны беларускай літаратуры.

## (*Якуб Колас, „Новая зямля“*).

**Проф. І. Замоцін.**

„Ой, вы дарожанькі людзкія,
Пуцінкі вузкія, крывыя!
Вы сьледам цьмяным снуяцеся
І ўсё блукаеце, бы ў лесе.
Вас горне шлях пpасторнай плыні
І далягляд ружова-сіні,
Дзе так панадна сьвеціць сонца,
Дзе думка тчэ свае красёнцы,
Каб новы сьвет жыцьця саткаць
Заспакаеньне сэрцу даць
І разагнаць яго трывогі...
Прасторны шлях! калі-ж, калі
Ты закрасуеш на зямлі
І злучыш нашы ўсе дарогі?“

*Якуб Колас.*

### I.

Калі ўглядвацца ў гістарычныя далі беларускай культурнай старажытнасьці, то пачатковыя пуціны беларускай літаратуры прадставяцца погляду назіральніка, як дзіўныя (причудливые) каляіны, то там, то тут перасякаючыя адвечную народную цаліну. Зарадзіўшыся на гістарычным перасеку дарог з усходу на захад, на этнографічнай паласе пляменнай і рэлігійнай барацьбы, яны, гэтыя раньнія літаратурныя каляіны, часам рэзка, часам паволі, чуць закранаючы, барозьняць глебу Беларусі, нясучы з сабою то чужацкі ёй цьвет візантыйскага рытарызму, то суровую прастэчу старажытнага летапісу, то „вычварнае“ пляценьне славес заходняй схолястычнай мудрасьці. Яны праходзяць і праз духоўныя „віршы“ і „канты“, і праз жартлівыя пародыі клясыцызму ў вобразе „Энэіды“ навыварат або «Тараса на Парнасе», і праз нібы, народную песьню, і праз сэнтымэнтальна-романтычную манеру мастацкага ўспрыйманьня жыцьця. Праходзяць праз усё борзда, не паглыбляючыся ў глебу ніводнаю з наносных манер, і на першы погляд здаецца, што ў цяжкім гістарычным складзе дарэволюцыйнага беларускага жыцьця літаратура ніяк ня можа пусьціць глыбокіх карэньняў, і што гэтыя, выпадкова бягучыя па яе паверхні, літаратурныя каляіны вось-вось змые перавал гісторыі, які столькі разоў бурліва пранасіўся па зямлі Беларусі.

Але гэта ня так. І гэтага ня здарылася. Перавал гісторыі іх ня змыў, і непакойны вецер, бязьзьменна дзьмуўшы на гістарычным пера-

секу, не зраўняў іх з паверхняю беларускай роўнядзі. Яны аказаліся досыць жыцьцястойкімі і моцнымі ў сваім бегу. Іх сіла аднак была ня ў тым, што яны карміліся візантызмам або схолястыкаю, і ня ў тым, што яны часамі ўлажваліся ў форму француcкага клясыцызму або рамантыкі: іх сіла была ў тым, што пад імі, пад гэтымі літаратурнымі каляінамі, крэпка залёг пласт народнай беларускай мовы і народнай беларускай творчасьці, а над імі мысьлёваму погляду беларускага пісьменьніка заўсёды, нават ў тыя цяжкія эпохі гісторыі Беларусі, прадстаўляецца тая будучая шырокая й вольная пуціна беларускага літаратурнага росквіту, той—скажам словамі поэмы Якуба Коласа—«прасторны шлях“, на якім павінны былі сыйсьціся разам усе адзіночныя каляіны старых і новых літаратурных шуканьняў. І гэта народная цаліна, па якой прабеглі адпачаткавыя літаратурныя дарогі, і гэты „прасторны шлях“, да якога яны імкнуліся, як да канчатковай мэты, у сваёй істоце здаўна былі цьвёрда зьвязаны з лёсамі народу, нягасьнуча праменявалі бадзёрую цяплыню жывога народнага цела і беспрастанку выхоўвалі суджаньне беларускіх пісьменьнікаў у духу дэмократычных імкненьнеў. Дзеля гэтага ўсёроўна ці возьмем мы калядную „вертепную“ драму і духоўныя „вирши“, або беларускую „Энэіду“ і „Тараса на Парнасе“, усёды, не гаворачы ўжо аб раньніх бэлетрыстычных спробах на беларускай мове, мы нойдзем нязьменную проэкцыю ў народны быт, усёды пачуем веяньне грамадзянскай жальбы, што йдзе рука ў руку з бадзёрым народным гумарам, і усёды літаратурная творчасьць будзе мець нязьбежны дэмократычны ўхіл.

Вось чаму, калі ў канцы прошлага 19 сталецьця, насталі першыя гады беларускага руху, усе ранейшыя літаратурныя дарогі зьбегліся да тае гістарычнае мяжы, да тых гістарычных варот, на якіх сьветлымі бліскучкамі пачыналі выступаць рысы ўсё болей і болей вызначаючага сябе лёзунгу „Адраджэньне Беларусі“. Каля гэтых гістарычных варот канчаліся йшоўшыя здаўна літаратурныя каляіны: за гэтымі варотамі пачыналіся літаратурныя пуціны адроджванай беларускай творчасьці. Вялікая расійская рэволюцыя шырока расчыніла гэтыя вароты ў новую Беларусь, удубальт адрадзіўшы яе да новага жыцьця—і да нацыянальнага самавызначэньня і да аднаўленьня соцыяльнага ладу. І на новых літаратурных пуцінах, разгарнулася ажыўленая і інтэнсыўная работа. Ці трэба даводзіць, што гэта работа навейшай беларускай літаратуры вытворча і многавобразна ў сваіх дасяганьнях? І напраўду: ці аднаўляюць навейшыя беларускія поэты тэхніку стылю? Ці пасоўваюць далей распрацоўку верша? Ці пробуюць свае сілы ў найболей характэрных літэратурных жанрах? Ці адклікаюцца на новыя словы ў вобласьці поэтычнай формы? Урэшце, ці ўносяць у сваю творчасьць мотывы новага будаўніцтва жыцьця, высунутыя рэволюцыяй? На ўсе гэтыя пытаньні трэба адказаць пацьвярджальна. Але, навейшая беларуская літаратура выпрацоўвае яркі мастацкі стыль, складае гармонічны верш, дае ўзоры ўсіх жанраў ад дробнага апавяданьня да соцыяльнага роману, ад драматычнай хронікі ў наіўнаромантычным духу да значнай па замысьленьню рэальна-бытавой драмы, ад лірыкі асабовых настрояў да лірыкі высокага грамадзянскага сазнаньня; яна горача рэагуе на проблемы новай соцыяльнасьці, яна рэалізуе на сваёй роднай мове поэтыку сымболізму і другіх новых плыняй, яна спорна працуе над словатворчасьцю і пасоўвае наперад разьвіцьцё беларускага мастацкага слова. І тым ня меней мы жадаем маладой бела-

рускай літаратуры нейкіх болей стойкіх і цьвёрдых літаратурных пуцін, па якіх яна павінна прыйсьці да свайго росквіту.

Гаворачы аб гэтых пуцінах, я падыходжу да беларускай літаратуры ня як узыскоўны крытык і ня як натуральны панэгірысты: я падыходжу да яе толькі як радавы дыагносты, узброены гісторыка-літаратурным крытэрыем з тым, каб на аснове свайго дыагнозу сказаць, пры якіх умовах гэты малады, поўны здаровых сіл, організм беларускай літаратуры будзе разьвівацца дальш у кірунку „мужественного“ росту і высокай сталасьці,—іначай кажучы, як павінны складсьціся асноўныя пуціны яго разьвіцьця.

Гэтыя пуціны дыктуюцца асноўнымі задачамі беларускай літаратуры. Якія гэта задачы? У тых умовах, у якіх пачынае жыць новая Беларусь, і яе пачынаючая адраджацца культура, беларуская літаратура павінна мастацка рэалізаваць нацыянальнае беларускае самавызначэньне, яна павінна быць фактарам культурнага адраджэньня Беларусі, у мастацкіх вобразах адбіць асноўныя моманты яе жыцьця, узбагаціць літаратурную мову і разам з тым—і гэта найбольш важная задача—яна павінна правесьці ў сузнаньне шырокіх народных мас ідэалы новай соцыяльнасьці, на якіх перабудоўваецца ўсё наша жыцьцё.

Уложым гэтыя задачы ў асадкі асноўных літаратурных коордынатаў, і тады выясьняцца пажаданыя пуціны беларускай творчасьці. Першы момант у коордынацыі літаратурнай творчасьці—тыя крыніцы і матар‘ялы, з якімі зьвязан самы гэнэзіс работы мастацка-літаратурнай мысьлі. Падлічваючы налічнасьць конкрэтна жыцьцёвых задач навейшай беларускай літаратуры, мы павінны згадзіцца, што гэты першы момант абавязвае яе ступіць на дарогу шырокага назіраньня і нават экспэрымэнтальнага дасьледваньня беларускага народнага жыцьця і ўсёй беларускай рэчавістасьці, як крыніцы і матар‘ялу творчасьці.

Другі момант у літаратурнай коордынацыі — мастацкая форма, мастацкая тэхніка, у якую ўкладваецца назіранае мастаком жыцьцё. Супастаўляючы з гэтым другім момантам жыцьцёвыя задачы навейшай беларускай літаратуры, мы павінны прызнаць, што яе другая пуціна — гэта пуціна выпрацаваньня жывога конкрэтнага мастацкага стылю на аснове народнай мовы, як народна-бытавой, так і народна-поэтычнай, і паглыбленьне сваёй поэтыкі ў вобласьці рэальна бытавых літаратурных жанраў.

Трэйці момант у коордынацыі слоўнай мастацкай творчасьці — гэта тыпізацыя жыцьця, як рэзультат нагледжанай мастаком рэчавістасьці сродкамі яго літаратурнай тэхнікі. У адпаведнасьці з гэтым момантам жыцьцёвыя задачы навейшай беларускай літаратуры выводзяць яе на трэйцюю пуціну — пуціну мастацкіх абагульненьняў соцыяльна-культурнага жыцьця Беларусі ў прошлым і ў сучасным, на пуціну грамадзянска-псыхолёгічнага яе вытлумачэньня.

Урэшце, чацьверты момант літаратурнай коордынацыі — гэта тое асабовае (індывідуальнае), звычайна ідэолёгічнае асьвятленьне тыповых вобразаў і малюнкаў жыцьця, якое выходзіць з сьветаразуменьня аўтара. Ажыцьцяўленьне гэтага моманту намячае і яшчэ адну, чацьвертую, пуціну навейшай беларускай літаратуры, іменна мастацкае выяўленьне соцыяльна-культурных задач і правядзеньне ў грамадзянскае сузнаньне новай соцыяльнай ідэялёгіі.

Такавы чатыры пуціны, чатыры конкрэтныя заданьні высокага жыцьцёвага значэньня. На першай пуціне навейшая беларуская літа-

ратура павінна выявіць у мэтах прывядзеньня да аднаго мастацкага сынтэзу ўсю многавобразнасьць крыніц і матар'ялаў, гістарычнага, бытавога і, наогул, культурна-этнографічнага характару — крыніц, якія яшчэ доўга будуць карміць беларускую мастацкую творчасьць, у якіх доўга яшчэ будуць знайходзіць свой гэнэзіс найболей яскравыя стварэньні беларускага мастацкага слова.

Такім чынам першая пуціна — пуціна сынтэзу крыніц, сынтэзу найболей жыцьцёвых даных, абумоўліваючых гэнэзіс і расквіт сучаснай беларускай літаратуры. Гэта сынтэз гэнэтычны. На другой пуціне навейшая беларуская літаратура павінна шырока захапіць тыя сродкі мовы, якія багата заложаны ў жывой народнай гутарцы і ў помніках народнай поэзіі, і скарыстаць іх для выпрацаваньня сваёй поэтыкі і літаратурнай тэхнікі. Гэта сынтэз фармальна-мастацкі. На трэйцяй пуціне культурна-этнографічныя матар'ялы і ўсебаковыя назіраньні над жыцьцём Беларусі, уложаныя ў мастацкія формы, павінны даць многранныя абагульненьні яе соцыяльнага быту. Гэта сынтэз соцыолёгічны. На чацьвертай пуціне ўся гэта многавобразнасьць тыпөвых абагульненьняў павінна быць зьведзена да аднэй задачы, да аднаго асноўнага ідэялёгічнага асяродку — новай соцыяльнасьці. Гэта сынтэз ідэялёгічны.

Вызначаючы гэтыя пуціны, я зусім не хачу абмяжоўваць сфэру мастацкіх дасягненьняў навейшай беларускай літаратуры. Я добра разумею, што асобным яе прадстаўніком у поўнай меры даступны ня толькі рэальна бытавое апавяданьне, але і мастацкае выяўленьне інтымных глыбін асабоваго лірызму, ня толькі мастацка-рэальная манера пісьма, але і новыя дасягненьні поэтыкі сымболізму, імажынізму і г. д. аж можа быць да футурыстычнай „заразумовай" словатворчасьці, ня толькі мастацкая рэалізацыя сваіх мясцовых тэм, але і асьвятленьне проблемы ўсечалавечага значэньня. І тым ня меней я думаю, што для маладой беларускай літаратуры ўсё, што ляжыць памежамі вышэйпамечаных пуцін, зьяўляецца покі настолькі-ж лішнім і нямэтадакладным, як ўсякая зьлішне нэрвовая напружанасьць або фізычнае ператамленьне зьяўляецца непажаданым для юнацкага, толькі што пачаўшага „мужаць" організму. І яна, гэта беларуская літаратура нашых дзён, чутка шукае гэтых пуцін, як у асобе сваіх карыфэяў, так і ў асобе некаторых радавых сваіх работнікаў на полі мастацкага слова.

## II.

Налічнасьцю гэтых пуцін, мне здаецца, вызначаецца і значэньне новага буйнага твору поэта Якуба Коласа, іменна яго поэмы «Новая Зямля».

У якой-жа меры гэта поэма стаіць на цьвёрдых пуцінах беларускай літаратуры і ў якой меры пракладае іх далей? Вось пытаньне, якое перш за ўсё выклікае гэты новы твор поэта?

Поэма „Новая Зямля" прадстаўляе сабою вялікую цікавасьць перш за ўсё па свайму гэнэзісу, іначай кажучы, па тых крыніцах, з якіх яна склалася. У аснове яе ляжыць „автобиографическая канва". Вясковы і лясны зацішак, дзе вырас поэта, родная сям'я, незамыславаты быт лясьніка, першыя годы навучаньня, дзіцячыя радасьці і гора, хатняя гаспадарка, вакольная прырода — адным словам дзяцінства і юнацтва, але не ў дваранска-памешчыцкай пасадзе, а ў беларускай хаце—вось

агульныя асадкі гэтага твору. На гэтай простай „канве“ поэта аднак патрапіў значна паглыбіць першую з вышэйнамечаных пуцін літаратуры, г. з. ён умела сынтэзаваў найболей яркія і жывыя матар'ялы сваіх назіраньняў над бытам і культурай Беларусі.

Перад намі разгортваецца жыцьцё лясьніка ў умовах старога дарэволюцыйнага ладу, на сходзе 19 сталецьця. Мы бачым яго і ў тыя гады, калі ён цяжкаю працаю хлебароба крок за крокам будуе сваё асталяваньне на сваёй пасадзе; бачым і тады, калі яго па капрызу ўсемагутнага пана або нават яго спадручніка, лясьнічага, перакідаюць на новае месца, дзе прыходзіцца нанова адольваць прыроду і ствараць новае асталяваньне для сям'і сродкамі і прыёмамі амаль першапачатковага пасяленца. Мы бачым яго і ў часе абходу лесу і за хатняю гаспадаркаю, і на панскай пацесе, „на глушцовых токах“, і за ціхім сталом у коле сям'і, бачым і ў мінюты з трудом стрымліванага абурэньня проціў панскага самадурства, і ў часы доўгага раздумваньня аб уласнай працоўнай гаспадарцы, аб „Новай Зямлі“. Перад намі праходзіць усё нескладанае жыцьцё беларуса ад часу яго моладасьці да бесчасовай сьмерці, жыцьцё з усплошкі шэрымі буднымі днямі і з рэдкімі прасьветлінамі ў відзе сямейных сьвят, жыцьцё ў пастаянных зносінах з суровай прыродаю і ў пастаянных бясплодных імкненьнях выйсьці з-пад ярэмнага стану социяльнай абяздоленасьці на простор вольнай і творчай працы.

Узяты сам па сабе, у сваёй схэме, сюжэт поэмы нязвычайна прост і нават наівен з пункту погляду „изысканной“ поэтыкі папярэдніх літаратурных школ. Жыве і служыць у адным лясьніцтве лясьнік з сваёю сям'ёю, ён чэсна і старанна нясе панскую службу і разам з абавязкамі лясьніка ўмее сумясьціць работу энэргічнага гаспадара, любоўна і дзелавіта абстаўляючага сваю пасаду, усёроўна, куды ні загоніць яго капрызная панская воля—у лясную глуш або на балота. Сярод сваіх клопатаў і трывог, зьвязаных са службаю, з хатняю гаспадаркаю і з навучаньнем падрастаючых дзяцей грамаце, ён увесь час думае аб куплі ўласнага кутка, дзе можна было-б незалежна ад панскай ласкі будаваць свой працоўны дабрабыт. Але вось нагледжан кусок зямлі, як-бы наладжваецца купля, трэба зрабіць у банку патрэбную пазычку, брат лясьніка едзе ў Вільню, пачынаецца хадзяніна па канцылярскіх мытарствах. І ў самы разгар клопату па справе куплі ўмірае лясьнік, перадаўшы брату і дзецям імкненьне да „Новай Зямлі“. Вось і ўвесь сюжэт.

Але цэннасьць першага, гэнэтычнага сынтэзу ў аўтара поэмы ня ў прыродзе сюжэту, а ў тых конкрэтных матар'ялах і назіраньнях над жыцьцём Беларусі, якія гэтым сюжэтам аматарска аб'яднаны. Топографічны асяродак, да якога прымеркаваў аўтар свой першы сынтэз—гэта „Мікалаўшчына“ Менскага павету і „Акінчыцкае лясьніцтва“, належаўшае ў 1890—1900 гадох, да якіх адносяцца праявы поэмы, князём Радзівілам; у сваім кароткім жыцьцёпісе ўпамінае поэта і другія месцы, з якімі зьвязана яго дзяцінства: „Ласток“, або „Сухошчына“ і „Альбуць“. У поэме асяродкавае месца дзеяньня называецца „Парэчча“, якое ляжыць у чатырох мілях за Нясьвіжам у бок Менску, а „Новая Зямля“, аб куплі якой марыць лясьнік з братам, топографічна зьмешчана ў Случчыне. На гэтай невялікай топографічнай плошчы поэт сьціснуў і ў той-жа час конкрэтна ўлажыў свае сапраўдныя назіраньні над беларускім жыцьцём. Тут зьмясьціўся ўвесь характэрны бе-

ларускі рэльеф і пэйзаж—ад берагавога ракітніку да лясной глушы, ад травой заросшай крынічкі да „срэбраводнага Нёмана“, ад балота, паросшага старымі бярэзінамі, да шырокіх зялёных лугоў, залітых праменьнямі сонца. На гэтым географічным кусочку Беларусі сабраў аўтар амаль ці ня ўсе характэрныя для яго радзімы пароды дрэваў, ад лазы і крушыны да тых старых дубоў, што стаяць над вадою „даўнейшых спраў вартаўнікамі“; ён сабраў усе адценьні беларускага неба, усе зьмены пагоды ад „ветрыка“ да „вятругі“, зьмясьціў тут усе поры году, увесь гаспадарскі абыходак беларуса, яго будзённы клопат і справы і сьвяточныя звычаі і весялосьці, уключаючы сюды і запраўдныя народныя песьні. Мала таго, аўтар у сукромных топографічных асадках свае поэмы, на абшары між Слуцкам і Нясьвіжам, Нясьвіжам і Менскам, зьмясьціў усю вякамі цяжкай гісторыі зложаную душу беларуса з яго жыцьцёваю мудрасьцю працы, працоўнай моральлю і працоўным прадстаўленьнем аб людзкім шчасьці і людзкай праўдзе. І ўвесь гэты сынтэз назіраньняў і матар'ялаў поэмы зроблен не капрызнаю палітраю імпрэсіяністага, адбіваючага выпадковымі мазкамі пэндзьля мгненьні і нават Мігі сваіх уражаньняў, але спакойным і выразным пяром мастака-этнографа, запісваючага тое, што дакумантальна сабрана і праверана асабовым досьледам.

### III.

Неабходнасьць дадаць сваім рэальна-бытавым назіраньням адпаведную форму вывела Якуба Коласа на другую літаратурную пуціну—пуціну мастацкага сынтэзу рэальных сродкаў жывой народнай гутаркі. Перш за ўсё на гэтай пуціне яму трэба было знайсьці для сваіх назіраньняў падыходзячы літаратурны жанр. Выбіраючы тэму з народнага быту, ён рызыкаваў упасьці ў тон сэнтымэнтальнага народніцтва або нават у мэлядраматызм і хадульнасьць, чаго ў некаторых выпадках ня мог ухіліцца нават і такі дэмократызатар мастацкага слова, як Някрасаў. Якуб Колас перамог гэтае затрудненьне тым, што ўзяў для свае поэмы сюжэт, ня маючы ўзьнятага драматызму, бяз усякіх эфэктных эпізодаў, і пераказаў гэты сюжэт у роўных і спакойных тонах з усімі будзённымі дэталямі жыцьця. У поэме, можна сказаць, адчуваецца мясцамі амаль-што эпічны спакой Калявалы, апісуючай да маленечкіх падрабязгаў стары народны лад, а часамі нават і непасрэднасьць успрыманьня жыцьця і прыроды, дасягнутае, напрыклад, „Песьняю аб Гайаваце“—Лангфэлла. У гэтых адносінах ажыцьцёўлены ў поэме літаратурны жанр зьяўляецца цікаваю навінкаю і пракладае дарогу другім мастаком слова, працуючым на полі беларускай літаратуры.

Для такога жанру няўхільна трэба было зьвярнуцца да жывых матар'ялаў народнае гутаркі і сынтэзаваць іх у мастацкім стылю поэмы. І гэта дасягнута поэтам у значнай ступені. Якуб Колас наогул зьяўляецца сярод навейшых беларускіх поэтаў адным з найбольш дбалых ахоўнікаў чыстаты беларускай мовы. Знаходзячыся ў сучасьсе ў фазысе свайго інтэнсыўнага разьвіцьця, беларуская літаратурная мова вельмі патрабуе цеснай сувязі з жывым організмам народнай гутаркі, каб ня ўпасьці ў крайнасьць залішне штучных і мала жыцьцёвых новатвораў. Гэта сувязь нязвычайна моцна ў стылю Якуба Коласа. Ён ня толькі ведае—ён тонка адчувае беларускую мову ва ўсіх яе стыхіях—у гістарычнай, этнографічнай, культурнай і мастацкай. У вялікім і рознастайным лексычным матар'яле, які дан у поэме „Новая зямля“,

беларуская мова ўстае ў сваім гістарычным прошлым, у сваёй яшчэ жывой сувязі з старой славянскай асновай, разгортваецца ў сваёй этнографічнай і бытавой сіле і цэльнасьці, гаворыць аб сваіх культурных зносінах з заходнімі суседзямі, выяўляе свае формальна-мастацкія магчымасьці. Старым бытам і моваю начальнага летапісу вее, напр., ад слова „бортнік“ і ад звароту „схадзіць у Прусы“; старославянская аснова адчуваецца ў слове „дрэва“ і ў выразе „вельмі мала“; амаль міфолёгічна гучыць слова „пярун“ у народнай выразе („а каб яго пярун распляжыў!). Аб культурным уплыве захаду кажуць словы „аматар“ і „гарнітар“, „паперы“ і „густы“, „сэсія“ і „катрынка“, „фарбы“ і „гатункі“. Але гэтыя калярытныя архаізмы і барбарызмы зьяўляюцца толькі гісторыка-культурным „крапам“ на жывым організьме беларускай мовы, за доўгія вякі свайго росту стварыўшай свой багаты бытавы слоўнік і яркую, характэрную для ўсяе этнографічнае Беларусі фразэолёгію. І гэта асноўная стыхія народнай беларускай мовы шчодра прадстаўлена ў поэме Якуба Коласа. Вобразная гаспадарская гутарка чуецца ў словах — „пявун“ і „квактуха“, сьцісласць і дзелавітасьць працоўнага абыходку адчуваецца ў слове — „бездараж“, прастата і сур‘ёзнасьць узаемных адносін у слове—„дружак“, тонкаю празорнасьцю ад даўняга хлебароба ў соцыяльную няпраўду старога панскага ладу гучаць гэтыя гуморыстычныя мянушкі панскіх слуг і нахлебнікаў—„панкі“, „паўпанкі“, „панскі зброд“, „нікчэмная басота“, чуткае псыхолёзаваньне гутарковага матар‘ялу праглядае ў сваеасаблівым слове „злосьмех“. Таксама ярка і выразна фразэолёгія беларускай гутаркі, усвоеная поэмай. Добрадушнай іроніяй к убоству сялянскага быту прасякнуты такія выразы, як—„вуглы падпёрты пірагамі“, або—„жыць у добрай згодзе з прусакамі“, набалелая туга па сьвятлу ведаў схована ў гэтым малюнковым вызначэньні няпісьменнасьці вясковых дзяцей „растуць, на лес, вось, глядзя“. Вялікая творчая сіла мовы адчуваецца нават і ў тых выпадках, калі яна карыстаецца чужым слоўным матар‘ялам, які звычайна цесна зрастаецца з аддаўняй беларускай лексікай у вадно жыцьцёвае цэлае, такое іменна ўражаньне ствараюць звароты: „гасьцінцам дзеўчынку трактуе“, „стаяць, як біскупы, бутэлі“, „ва ўсім прыкладны, акуратны—і ў гаспадарцы і ў банкеце“, „прыроджаны штукар“ і г. п.

Шырока карыстаючыся наогул жывою народнаю гутаркаю, Якуб Колас асабліва ўдатна сынтэзаваў яе асноўныя мастацкія сродкі, іменна эмоцыянальнасьць народна-поэтычнага стылю і яго малюнковасьць. Эмоцыянальнасьць стылю ўласьціва беларускай народнай гутарцы амаль што ня ў большай ступені, чым украінскай; пры гэтым яна назіраецца ня толькі ў народна-поэтычнай мове, але і ў мове бытавой, так што ў жывой беларускай мове ў значнай ступені ажыцьцяўляецца тая поэтызацыя штодзеннай гутаркі, якая параўнальна нядаўна стала ўваходзіць у абыходак кніжнай мовы, навукі і публіцыстыкі і жывой мовы адукованых слаёў грамадзянства. Найболей ярка гэту эмоцыянальнасьць ільлюструюць словы памяншальныя і ласкальныя, багата рассыпаныя па ўсяму лексічнаму складу поэмы Якуба Коласа. Ухіл да чульлівасьці ў народнай гутарцы, усвоены поэмай, распаўсюджваецца на ўсе бакі быту, на ўсе жыцьцёвыя здарэньні. Ласкальным імем абазначаецца будынак, блізкія да яго прадметы і ўсё, што мае адносіны да хатняга обыходку: „свая зямелька, куток уласны, зямлянка-будачка малая, хлявушок, ваконца, нават «ваkенечка», крыжык, агоньчык, іск-

рачкі, шукаць свайго хлябка, проша мяска, каўбаскі. „Як і ў народнай поэзіі, гэты прыём эмоцыянальнасьці прыкладаецца так сама да зьяваў прыроды, да расьлін, жывёлаў, пораў году, нават наогул да абазначэньня часу: «лецейка, (замест лета), сонейка (замест сонца) гадок і гадочак, у час нядзелькі, лясок, дарожка, рэчачка-крынічка, ветрык, каласок, конік, кароўка, матылёчкі». Яшчэ звычайней гэты прыём стылю ў адносінах да людзей: „браток, браткі, госьцейкі“ і г. д. і у гэтых выпадках вельмі часта пры зваротах да асобаў ён выражаецца ў форме ласкальных эпітэтаў і наогул вызначэньняў: „залаценькі, дарагенькі, будзьце-ж крэпенькі, здаровы»... Малюнковасьць стылю ажыцьцяўляецца ў поэме Якуба Коласа так-сама сродкамі жывой народнай мовы. Як і другія прадстаўнікі навейшай беларускай літаратуры, ён багата чэрпае вобразы і сымболі з народнай поэзіі і нават неаднакратна ўводзіць у бытавыя малюнкі сваёй поэзіі сапраўдныя народныя песьні. Гэты прыём малюнковага стылю наогул доволі блізак маладой беларускай поэзіі, бо ёй прыналежна моцнае цягненьне да народна-поэтычнай творчасьці. Дасягненьні Якуба Коласа ў гэтым выпадку многа глыбей. Ён моцна заснаваў свой малюнковы стыль ня толькі на помніках народнай слоўнасьці, але й на жывой народнай мове, на мове быту, прыказак, пагаворак, крылатых народных слоў. У гэтых адносінах яго стыль часамі напамінае мастацкую манеру Крылова, якога ён, па сваіх аўтобіографічных прызнаньнях, так шчыра вывучваў у дзяцінстве.

Вось чаму ў адных выпадках ён проста веран эпітэту і наогул вобразу народна-поэтычнага стылю і ўспамінае аб зялёным лузе, як аб шырокім абрусе, гаворыць аб лёдзе жыцьця і аб яго сьвежых крыніцах, сьмерць параўноўвае з гадзюкаю, хату ў зелені прадстаўляе, „як у вяночку“, рысуе золатам і баграю раньні золак і ранічныя хмаркі і міфатворча ўсабляе вясковую бяду, якая паўзе ў хаце, „як-бы з усіх куткоў і шчылін, з усіх чуць-чуць заметных зьвілін“. Але ў другіх выпадках яго эпітэты і параўнаньні, вобразы і сымбалі грунтуюцца на жывым народным абыходку і жывой, рэальна-мастацкай мове. У гэтых выпадках пра дзябёлую госьцю ён кажа: „Кадушка-Зося сонцам зьяе“, пра захмялеўшага лясьніка—„плыве, як панская карэта“, пра кавалачак воранай зямлі —„зямлі, як бабе старой сесьці;“ няўмела адапхнуты човен для яго „спалоханы шчупак“, сярдзіты чыноўнік, „як той япрук каля карыта“, яго барада—„як саламяная мятла“, каля гарадзкога банку—„усходы чыстыя, як шклянка“. І нават калі аўтар выяўна йдзе па пуціне ўласнай вобразатворчасьці, ён ніколі ня губляе пад сабою глебы жывога народнага слова. Дзеля гэтага калі ён, апісуючы зімовы дзень, кажа: „Трасецца сетачка сьняжынак, як сьмех прыгожанькіх дзяўчынак“, мы адчуваем некаторую „изысканность“ вобразу, але ня можам ня прызнаць яго конкрэтнай бытавой асновы. Гэтак-жа сама, калі ён гаворыць з пункту погляду гэрояў свайго апавяданьня, што „гарэлка гэтак вочы прыцягае, ну, як каханка маладая“ або калі ён зарысоўвае шчасьлівы сьмех дзядзькі Антося словамі „і ад прыемных ціхіх сьмехаў чуць не да вуха вус заехаў“, мы зноў гатовы палічыць і параўнаньне і гэту нявінную гіпэрболю некалькі рэзкімі гротэскамі, але ніяк няможна ім адмовіць у блізкасьці к народнаму гумару і к народнаму слову. Поэма Якуба Коласа і ў сэнсе мастацкіх прыёмаў стылю йдзе па другой пуцыне—па пуцыне сынтэзу матар'ялаў жывой народнай мовы і іх вытлумачэньня для поэтычнай словатворчасьці.

## IV.

Шырокія, непасрэдныя назіраньні над беларускаю рэчавістасьцю і наличнасьць конкрэтных сродкаў мастацкага стылю, зачэрпаных з жывой крыніцы—беларускай мовы і беларускага быту, вывелі аўтара „Новай Зямлі“ на трэйцюю пуціну—пуціну соцыялёгічнага сынтэзу агледжанага ім жыцьця. На гэтай пуціне ім створаны настолькі яркія тыповыя малюнкі і вобразы, што яны нясумненна павінны адтрымаць значэньне некатарога мастацкага дакумэнту ў справе пазнаньня беларускай культуры.

Тыпізацыю беларускага быту аўтар поэмы разгортвае на фоне многавобразных малюнкаў прыроды, зарысованай ім таксама ў тыповых абагульненьнях. Поэма Якуба Коласа знае раньнюю вясну, сапраўдную беларускую вясну, з сьвежым ворывам, з гракамі і варонамі, што гуляюць па толькі што праведзеных барознах поля, з лесам, што ўсьміхаецца на спатканьне сонцу, з першымі дрэвавымі покаўкамі, з пахучым маладым лісьцем, з сьпевамі драздоў і жаваранкаў, з вясёлым крыкам жураўлёў, што варочаюцца на родзіну і сустракаюць радасным прывітаньнем „родныя балоты, густыя лозы і чароты“. Поэма зарысоўвае беларускае лета з густа адзетым лесам, з квятучымі лугамі, з лясьнымі ягадамі, з мядовым пахам грэчкі, калі ўсё радуе вока, усё настройвае чалавека на гармонічнае прымірэньне з жыцьцём: „і лес, і паша, неба яснасьць, і чысты дух, і рэчка Нёман“.

Поэма знае і залатую беларускую восень, калі дрыжаць у золаце асіны, і гнуцца кісьці верабіны“, калі ўсё заспакойваецца—і неба і даль скошаных і зжатых палёў, і толькі ў празрыстым паветры дрыготна калышуцца залатыя ніці васеньняй павуціны. Восень зьмяняецца бадзёраю сялянскаю зімою з чыстым пухаўным сьнегам, з вербамі і клёнамі ў зімовым уборы, з вузенькімі сьцежачкамі, пракопаных у глыбокіх гурбах сьнегу па дарозе да гумна і хлява, з зімовым паляваньнем і рыбнаю лоўляю, з зімовымі дзяцiннымі забаўкамі. Поэма знае і поэзію тыповых для Беларусі мерна-марозных дзён, яна рысуе вясковыя будныя дні, дні марозаў—работу каля дому, язду ў лес і гэта характэрнае для працавітага чалавека перамога над холадам, пры якім „ляжаць на печы няма моды“, і пры якім „хоць мароз крапіць пякучы да ног даходзіць скрозь анучы і сьнегам вочы зашывае,—мужык жыве і не шманае“. Але поэма тыпізуе ня толькі поры году, але і іх адценьні і пераліvы, характэрныя для клімату Беларусі; дзеля гэтага мы знаходзім тут і зманную амаль веснавую адлігу сярод зімы, якая, аднак, „свайго не падаруе“ і борзда зьменьвае выпадковае павяваньне цяпла жорсткаю завірухаю з лёстравым галалёдам, з новым марозам, ад якога жудасна трашчыць лёд, параджаючы „таемныя гукі“ ў лясной цішы; гэтак-жа сама рысуецца тут і тая характэрная „хмурная вясна“, калі то „цяплом павее, цішынёю, то зноў падымаецца „паганы вятруга“, і „даль палёў маркотна стане“.

На абшары звычайнай зьмены пор году поэт разьмеркаваў тыповыя беларускія пэйзажы: тут ёсьць і лясы, у якіх „напэўна ўстрэнешся з ласямі, і зайца ўгледзіш, і віёрку, і норы воўчыя на ўзгорку“, ёсьць і „поле маладое“ „сярод лясоў“, квятнеючае яркімі фарбамі ўсходаў нівы, і сярод поля зрэдка-адзінокі курган, а на ім „крыжык-сіраціна, сівенькім мохам увесь убраны, з павязкай белай даматканай;“ ёсьць і тыповыя пасадовыя садочкі з ліпамі і таполямі і гароды з ярка-чыр-

воным прыгожым макам. На агульным фоне гэтых малюнкаў лесу і поля ўкроплены асобнымі мазкамі характэрныя рысы жывой беларускай прыроды—прылёт птушак, птушыныя крыкі, спатканьні з лясным зьверам, норавы свойскіх жывёлін і г. д.

Асаблівасьць гэтых зарысовак ня проста тыповасьць, але своеасаблівае іх асьвятленьне з пункту погляду працоўнага чалавека, бо аўтар успрыймае і ажыўляе гэтыя пэйзажы ня як гарадзянін, ня як поэта-урбаністы, а як сын народу, яго вачамі любоўна азіраючы з дзяцінства блізкія яму малюнкі.

Вось чаму з гэтымі пэйзажамі так цесна сплятаюцца тыповыя малюнкі быту, якія склаліся таксама ў умовах працоўнага жыцьця. У поэме ёсьць характэрныя зарысоўкі і беларускага жыльбішча: ёсьць тыповая „старая хата ў тры ваконцы", у якой „цёмна, няпрытульна, ў гразі, ў балоце ўсё агульна"; ёсьць і пабудаваная пасьля пажару новая хата, у якой пахне „смалою і сьвежым дрэвам, хваіною". Радам з беднасьцю рысуецца і малюнак дабрабыту ў своеасаблівым, тыповым для старажытнасьці, разуменьні... Жыта там родзіцца на дзіва: "як едзеш між хлябоў вясною, у іх конь хаваецца з дугою! А з ячмянёў вары хоць піва... А мак, а рэпа! морква, бручка! А буракі, гуркі, пятрушка!"

Таксама характэрны і зарысоўкі тыповага працоўнага абыходку. Даецца падрабязговы малюнак будзёнай работы лясьніка: разам з лясьніком робіць чытаньнік абход лесу, праходзіць міма зваленай чыёюсь сякераю на землю бярозы, каля патравы на сенакосе і г. д. Падробна рысуюцца яго заходы каля свае пасады: мы разам з ім сустрачаем радасны дзень, калі каля яго пасады „запахла сьвежаю ральлёю і „густою шчоткаю" ўзышлі „дробныя зярняткі", дзелавіта з усімі бытавымі падрабязгамі, авеянымі поэзіяй працы, апісана касавіца; ярка і вобразна зарысована жніва, калі „жней чародкі ідуць паважна,' як лябёдкі", затым нарысованы ў тыповых малюнках рыбная лоўля, стаўляньне бярозавага соку, „падгляд пчол", зьбіраньне грыбоў, калі „ў ранюткі час" бор агалошваецца маладымі галасамі зьбіральнікаў грыбоў.

У поэме рысуецца і ўнутраны быт хаты. Мы прысутнічаем у хаце лясьніка ў той час, калі яго сям'я сядзіць за сталом і адбываецца звычай яды, апісаны са спакоем і дэтальнасьцю старога эпосу; мы бачым, як дарослыя і дзеці ядуць аладкі, „верашчаку" і „тварог запраўлены сьмятанай". Назіраем сям'ю ў зімовы вечар, калі старшыя ў коле дзяцей „пачнуць казаць свае ўспамінкі, вясьці размовы пра старынкі"; хата цьмяна асьветлена лямпаю, па сьценах дзіўныя цені, вакол жудасная цішыня, і ў цішыне размовы аб чымся таямнічным і вабячым. Бачым сям'ю ў сьвята, напр. на Каляды, калі спраўляецца куцьця, і ў хаце зьяўляецца звычайная сьвяточная ялінка, на якой усе дзіцячыя „радасьці і ўцехі": „На ёй валоскія арэхі, а з пазалочанай паперкі глядзяць панадныя цукеркі"; бачым і ў „Вялікоднік сьвяценькі", „калі са смакам елі і багата—на тое-ж даў бог людзям сьвята". Даецца малюнак і сукромнага вясковага банкету ў часе збору мёду, з няўхільнаю чаркаю і хатнімі закускамі, з ласкавай гаспадарскаю прынукаю і царамоннымі адмаўляньнямі гасьцей, нават з танцамі, якія часткаю выконваюцца „на панскі лад", часткаю без фасону, па натхненьню, бо „ногі скачуць мімавольна". Зрэдка чарка зьяўляецца і паза межамі сьвят, калі нелады па службе загоняць лясьніка ў шынок „к цётцы Хруме", і ў такіх выпадках пад пяром аўтара складаецца тыповы вобраз захмялеўшага сумленнага гаспадара, які ў сузнаньні свайго

праступку перад сям'ёю нейк не адразу йдзе ў хату, залішне бачліва прыглядаецца да розных частак свае гаспадаркі і залішне доўга робіць гаспадарскую вымову двароваму сабаку.

Але як гэтыя сукромныя сямейныя сьвяты, так і звычайнае будзённае жыцьце даюцца беларусу цяжэрнаю працаю і пры тым працаю не на сваім шматку зямлі, а на панскай службе. Самая панская служба зьявілася не адразу, а пасьля цэлага шэрагу блуканьня ў пошуках заработкаў: „Хадзіў на сплаў ён, на віціны, разоў са два схадзіў у Прусы—куды ня трапяць беларусы?"—лірычна дадае аўтар, гэтаю фразаю падкрэсьліваючы цяжкую долю бяздомнага чалавека ў Беларусі.

І ня гледзячы на прыгнечаньне жыцьця, фізычная і моральная бадзёрасьць і сьвежасьць гэрояў поэмы мімавольна спыняе на сабе ўвагу чытальніка. Дзелавітасьць, разумная, сэнсоўная працавітасьць, сьвядомае цягненьне да харства прыроды, спагадлівая любасьць да ўсяго жывога, не выключаючы воўка,які гіне зімою ў стрыжані, сьветлы оптымізм, што не пакідае чалавека нават у цяжкай долі,—вось тыповыя рысы насельнікаў „лясьніковай пасады". Асабліва тыповы дзядзька Антось, які „майстар быў на штукі і быў маханік на ўсе рукі", з яго нявычэрпаным нязлым юморам, скрозь які ён, як скрозь прызму, з дзіцячаю прастадушнаю мудрасьцю аглядае і расцэньвае ня толькі прыроднае прывольле лясной глушы, але і панскую культуру на прыбраных вуліцах Вільні. Бліжэй усяго да дзядзькі Антося стаяць дзеці, зарысованыя ў поэме з вялікаю псыхолёгічнаю пранікальнасьцю. Мы бачым тут сьвет дзіцячай фантазіі і дзіцячых страхаў, сьвет, які разгортваецца ў цішы лясных балот каля вячэрняга кастра недалёка ад убогай зямлянкі; тут усё ёсьць: „начныя страхі, зданьні, зыкі, ліхая нечысьць, сьмярцьвец", прытуліўшыся пад ёлкаю вядомы дзед, неадлучны прыжывальнік дзіцячай фантастыкі, і над усім гэтым шчамячае сэрца „смутнае бляяньне", якім „баранчык божы" агалошвае жудасную цішыню ляснога балота. Бачым і дзіцячыя забаўкі і ўдзел дзяцей у рабоце дарослых, і зносіны іх з прыродаю, і іх сваеасаблівую вучэбу пад кіраўніцтвам вясковага „дарэктара" з вузел ростам, які жыве тымі-ж самымі дзяціннымі інтарэсамі, як і яго вучні.

Прастата і далікацтва душы працоўнага беларуса асабліва рэльефна выступаюць у поэме радам з тыпамі паноў і іх панскім абыходкам. Пан укліньваецца ў жыцьцё лясніка ў асобе новага лясьнічага, чалавека жорсткага, «пана-злыдня», «пана-ката», у асобах княжыцкіх упраўнікаў, пахвальбістых і надзьмутых, што зьяжджаюцца на «панскую пацеху», на паляваньне глушцоў; у вобразе сярдзітага віленскага чыноўніка, да якога трудна падыйсьці блізка; у вобразе чужацкага для простага чалавека ўвабранага натоўпу адкормленых і давольных насельнікаў Вільні. Паміж тым і другім социяльным асяродкам адчуваецца непраходны правал: па адным боку правалу—агіда да працы, якая эксплёатуецца, па другім—стрымленае абурэньне, гатовае перайсьці ў навальніцу. Але душэўнае далікацтва і тут сваім пачуцьцём не пераступае граніцы сваёй аддаўнай мужыцкай праўды: дзеля гэтага натоўп лясьнікоў, прышоўшых на пахаваньне старога лясьнічага, які «ня кепскі пан быў», памінаюць яго добрым словам: „стаяць і пану раю жычаць".

## V.

Сваім социяльна-бытавым абагульненьням беларускага жыцьця, свайму социолёгічнаму сынтэзу, аўтар прыдае яскрава выказанае дэ-

мократычнае асьвятленьне. Ідэялёгія яго поэмы вызначаецца ўжо самым выбарам тэмы: ён-жа піша аб такіх незаметных людзях, якія ў умовах адзначанай эпохі не прадстаўлялі вялікае цікавасьці для мастацтва і літаратуры: «аб іх гісторый не складаюць, пра іх і песень не сьпяваюць». Але ён злажыў аб іх сваё апавяданьне, бо яго задача была—выявіць тую соцыяльную няпраўду, у ўмовах якой зжывалі свой век яго мала заметныя гэроі. Соцыяльная няпраўда—гэта паднявольная панская служба, гэта «сабачы хлеб», служба «з-за панскага агрызка», «батрацкая доля да магілы», «доля вечнага падпаска». Выйсьце да праўды адно: «прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут». Гэта думка аб шматку зямлі—ня проста сялянская туга па сваёй уласнасьці: не, яна запала ў сэрца беларуса, „як промень волі і свабоды“, бо з ёю зьвязан нястрыманы парыў да творчае працы і наогул да новага быту.

У творчасьці новага жыцьця зямля —галоўная апора і падмога: «Зямля дасьць волі, дасьць і сілы, зямля паслужыць да магілы». У зямлі—усе надзеі і чаяньні і ўсе залогі лепшага будучага; зямля, як і прырода, асабліва ў момант яе вясеньняга абуджэньня «лелеет творимую легенду» новага жыцьця,—яна іменна параджае жаданьне «жыць, у шыр разьняцца, за долю лепшую змагацца». Сам поэта цьвёрда верыць у немагчымасьць „назад ход часаў павярнуць“, у непарушаную праўду новага жыцьця, у няўхільнасьць гэтага «гістарычнага перавалу», за якім пачынаецца новы сьвет. І ён толькі бясконца смуткуе, што ня ўвесь яго родны край, гэты «край адвечнай мукі», разарваны цяпер на-двое цяжкаю рукою вайны, што ня ўвесь ён радасна ідзе на спатканьне новаму жыцьцю. Але ён хоча надзеяцца, што «хоць ня мы, дык нашы дзеці» убачаць яго цэльным і адзіным. Такоў ідэялёгічны сынтэз поэмы.

Мне астаецца нямнога даказаць аб сваіх уражаньнях, выкліканых поэмай «Новая Зямля». Калі я пачынаў яе праглядаць, я чакаў найці ў ёй поэтычнае апавяданьне з беларускага быту, скомпанованае па манеру літаратурнага народніцтва, прадстаўленага ў расійскай літаратуры, напр. Кальцовым, Мікіціным і др. поэтамі. Прачытаўшы некалькі разьдзелаў, я ўбачыў перад сабою сваеасаблівую амальгаму старога, амаль народнага эпічнага складу з навейшымі дасягненьнямі мастацка-рэальнага стылю, пераходзячага іншы раз у стыль сымболізму. Закончваючы чытаньне, я ўжо ніколькі не сумняваўся ў тым, што перада мною—ня твор літаратурнага народніцтва, не перайманьне старожытнай эпіцы і ня сымбалічная модэрнізацыя народна-поэтычнага слова: я зразумеў, што перада мною іменна беларуская мастацкая літаратура моманту, выявіўшая ў поэме Якуба Коласа свой запраўдны орыгінальны твор. І гэта запраўднае сучаснай беларускай літаратуры лепш за ўсё выявілася іменна ў паглыбленьні, у асобе поэта Якуба Коласа, тых асноўных яе літаратурных пуцін, якія вядуць яе да ўсебаковага пазнаньня Беларусі сродкамі мастацкага слова. Прылажэньне гэтых пуцін да літаратурнае практыкі нясумненна ажыцьцяўляецца і другімі беларускімі поэтамі і павінна стаць, думаецца мне, наогул найболей жыцьцёвым кірункам беларускай літаратуры: у гэтым яе найболей яркае цяперашняе, у гэтым яе лепшае будучае.

Прыяцьце і рэалізацыя гэтых пуцін у поэме „Новая Зямля“ складаюць умовы яе дваякага значэньня. Першае значэньне—народнае, ня ў сэнсе старога літаратурнага народніцтва, а ў сэнсе запраўднай

дэмократызацыі мастацкага слова. Разгляданая з гэтага боку поэма Якуба Коласа можа і павінна заняць месца ў кожнай беларускай школе, у кожнай вясковай і гарадзкой чытальні на тэрыторыі Беларусі: для вёскі яна—зразуменьне свайго быту, для гораду—зразуменьне вёскі, у выніку—пуціны да іх узаемнага пазнаньня і братэрскіх зносін у справе будаўніцтва новага жыцьця. Але поэма Якуба Коласа ў сваім значэньні пераходзіць граніцы Беларусі. Яна прачытаецца, як братэрскае прывітаньне, і за яе заходнім рубяжом яе роднымі, цяпер адарванымі ад нас брацьцямі; прачытаецца, як дружацкае прызнаньне, на ўсходзе і на поўдні, цяпер соцыяльна-зьнітаваным з ёю вялікарусам і ўкраінцам, урэшце, у ўдатным перакладзе, яна зацікавіць і заходнія літаратуры сваім яркім мясцовым, этнографічным колёрытам і чалавецка-значным асьвятленьнем народна-пролетарскага быту. У гэтым яе другое, больш шырокае, соцыяльна-культурнае значэньне.

Гаворачы аб гэтых значэньнях поэмы, я ня проста мысьлю іх тэорытычна, як крытык і гісторык літаратуры, але я і перажываю іх, як чытаньнік, на асабовай спробе. Успамінкі аб уласным дзяцінстве ў абстаноўцы вёскі Цьвярской губэрні, у сялянскай хаце і сям'і, дзе мой айцец прадсталяў сабою першае, а я толькі другое пакаленьне сялян, вышаўшых з-пад крэпасной няволі,—гэтыя ўспамінкі ярка ўстаюць перада мною пры чытаньні поэмы Якуба Коласа; яна варочае мяне да аддаўнай, але з гадамі аслабеўшай, сувязі з прыродай, зямлёю і вясковым бытам, і мне становіцца асабіста зразумелым яе першае значэньне, як мастацкага сродку пазнаваньня шырокага народнага жыцьця. Але я чытаю гэту поэму ня толькі, як селянін па нараджэньню, які цікавіцца апавяданьнем аб сялянскім быце: я чытаю яе яшчэ і як вялікарус, зьявіўшыся ў адноўленую Беларусь для дружацкага супрацоўніцтва ў яе новым культурным будаўніцтве, у гэтым выпадку я чутка сузнаю другое значэньне поэмы Якуба Коласа, як мастацкага апарату, прыбліжваючага нас, вялікарусаў, да братэрскага пазнаньня Беларусі і да добрых зносін з ёю. У гэтым выпадку поэма „Новая Зямля“ гаворыць не аб адных літаратурных пуцінах: яна ўваскрошвае ў нашай памяці і тыя цёмныя „проселки“ нядаўнага старога быту, тыя, скажам словамі поэмы, „дарожанькі людзкія, пуцінкі вузкія, крывыя“, па якіх яшчэ нядаўна мы ўсе, і вялікарусы і беларусы, блукалі ў пошуках выйсьця на новую шырокую дарогу, на прасторны шлях. Поэма Якуба Коласа, якая рысуе падзеі 1890—1900 гадоў, падводзіць сваіх гэрояў і сваіх чытаньнікаў да гэтага „прасторнага шляху“ новага жыцьця, якое будуецца ў нашы дні.

На гэтай шырокай пуціне новай, братэрскай соцыяльнасьці павінны па слову поэта зысьціся ўсе чалавецкія мацаваньні, усе мэты, павінны сьціхнуць усе трывогі.

„Прасторны шлях! калі-ж, калі  
Ты закрасуеш на зямлі  
І злучыш нашы ўсе дарогі?“

30-XI—1923 г.

# Кнігапіс.

**Маладняк.** *Орган Ц.К.К.С.М.Б № 1. Выдавецтва Белтрэстрдук, Менск, 1923 г. стр. 66 in* $^1/_8$

Як з павярхоўнага выгляду, так і з боку зьместу часопісь гэта пакідае вельмі добрае ўражаньне. Разнастайны і нязвычайна мастацкі яе зьмест так і чаруе чытача. Тлумачыцца гэта можа тым, што ў часопісі сынтэзаваны бурна-імпэтныя, віхрыста-бадзёрыя парывы нашага жывога маладняку з вялікай мастацкай вытрыманасьцю і гартам нашых літаратурных вэтэранаў і корыфеяў беларускае поэзіі. М. Чарот, верхаводзячы бязумоўна нашаму маладняку, у той-жа час мастацкім сваім талентам прымыкае да нашых корыфеяў і гэткім чынам зьяўляецца як-бы зьвяном паміж апошнімі і маладняком.

З усяе часопісі так і вее маладой, жыцьцяпрагнай сілай, поўнай радасьці, што зьяўляецца рэзультатам новага будаваньня жыцьця. Гэтая жыцьцярадасьць, гэтая сонечная прамяністасьць бурнай крыніцай б'е з загалоўнага вершу часопісі М. Чарота «Маладняк».

«Тут учора бура выла нам,
Вецер-чмут гайсаў з кутка ў куток—
Стары бор з карэньнем выламан,
Сумны шум яго навекі змоўк.

Заіскрыла сонца—вір агню...
Буралом апаліла з гольлямі!..
Зьніклі хмары... і пад чырваньню
Ўсе прасторы сталі голымі.

А сягоньня—чутны водгукі:
Нам расьці—дык мала дня!
Толькі тут узьняцца мог такі
Волат-лес—наш маладняк.

. . . . . . . . . . . .

Маладняк сваімі лісьцямі
Шапаціць нам казку-вольніцу...
Помнім, помнім, як калісьці мы
Чорных дзён стрымалі коньніцу...

Перастаў і сумны сьпеў гусьці,
Дні прышлі—ажно ня верыцца...
Хто-ж адвагі знойдзе, сьмеласьці
З сілай моладзі памерыцца?!»

Мы падалі тут гэты верш таму, што ў ім як у фокусе адбіваецца настрой і колёрыт усёй часопісі. І калі мы далей знаёмімся з вершамі Дудара, Анатоляга Вольнага, Андр. Аляксандровіча, У. Дубоўкі, А. Якімовіча, Язепа Пушчы, С. Тарасэвіча—усё гэта маладняк беларускага парнасу,—то мэлёдыі іх калі і ня гучаць цалкам у ўнісон з Чаротам, то зьліваюцца ў пэўную гармонію родных з ім гукаў, у якой прымарная нота прыналежыць усё-ткі ліры Чарота. На старонках Маладняка М. Чарот выступае перад намі і ў якасьці прозаіка ў сваім апавяданьні «Сьвінапас».

Але трэба прызнаць, што М. Чарот—як мастак вершу, і М. Чарот—як прозаік, дзьве зьявы розных катэгорый. Калі першы Чарот—увесь навіна, увесь цудна-капрызная, заўсёды орыгінальная і самабытная гармонія гукаў і хварбаў, калі яго верш парывае, хмеліць, чарунае на кожным кроку сваёй сьмелай, заўсёды сьвежай в образнасьцю, сваёй заўсёды дынамічнай і віхрыстай музыкальнасьцю,—то

яго проза—звычайная старая проза, пазбаўленая усіх тых уласьцівасьцей, якімі гэтак вызначаецца яго верш. На стр. 26 перад намі другі верш Чарота— «Над Калыскай».

Проста клясычны ўзор калыханак. Пяшчотлівасьць матчынай ласкі ўвыпукляецца нязвычайна мастацкімі вобразнымі паралельлямі.

«Сьпі, сыночак, вечар блізка,—
Мне палоску трэба жаць...
Вецер гушкай ты калыску.
Засьпевай быльлём, мяжа».

Іменна «Сьпеў быльля на мяжы» і можа толькі замяніць сьпеў беларускае сялянкі-маткі над калыскай свайго дзіцяці. Але годзе аб Чароце.

Як вышэй адзначана на старонках «Маладняку» знайшлі сабе месца і нашы літаратурныя корыфеі —Янка Купалы, Цішка Гартны і Зьмітрок Бядуля. Цікава, што тут яны, як відаць, папаўшы ў вір маладняцкіх настрояў, самі памаладзелі і пяюць у унісон з моладзьдзю.

„Гэй, узьвейце сваім крыльлем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасьцю хаўтарнай!..

У маланках пяруновых,
З гулкім гоманам грымотаў
Для вякоў дыхтуйце новых
Нячуваныя ясноты“!

— гэтак благаславіць моладзь нашу непараўнаны поэт-заклікачы —Янка Купала. Сваім ясна-прарочым натхненьнем ён наскрозь пранікае самую істоту сучаснага новага будаўніцтва:

«Ў чарадзейным карагодзе,
Ў небасяжнае свабодзе,
Без аховаў на прывольлі
Ўжо віхрыцца наша доля».

Гэтая маладняцкая віхрыстасьць і віраваньне не пакідаюць і Цішкі Гартнага ў яго вершы «Яна ідзе». І тым больш увыпукляецца гэтая віхрыстасьць на фоне сталёва-гартнай моцы, якою наскрозь прасякнут гэты верш:

«Магутным, цьвёрдым крокам,
Няспыннай сілаю разгону...
. . . . . . . . . . . . . . .
Яна ідзе.
Маладымі,
Агнявымі
Глядзяць яе, як зоры, вочы
Ў прагалак высьветленай ночы,
Ў далечы раньняга сьвітаньня.
Нясьціханьня
Калыша вір уздымных рухаў
Завірухай
Гнілы устой упартай цішы»...

Вось вобраз а разам з гэтым гымн моладзі.

А Зьмітрок Бядуля на «Крылатай машыне» падымаецца ў зааблочныя высі, сымболізуючы наш маладняк:

«Ў абоймы стыхіі з размаху
Кідаюцца з дзікай ахвотай.
Ня ведаюць сполаху-страху.
Гэй, слава пілотам!»

Калі дадаць да гэтага разнастайную мастацкую прозу, якая маецца ў часопісе і публіцыстычную частку, якая прадстаўлена А. Чарвяковым і У. Ігнатоўскім, то перад намі вымалюецца суцэльна-закончаная стройная постаць «Маладняка».

Стары.

**К. Маркс і Ф. Энгэльс.** *Комуністычны маніфэст. Пераклад Я. Лёсіка. Выданьне Беларускага коопэрацыйнага выдавецтва „Савецкая Беларусь“. 72 стр.* in 8°.

У пляне выдавецтва „Савецкая Беларусь“ на бягучы год быў намечаны да выданьня цэлы шэраг кніг па політычна-рэволюцыйным пытаньням. Многія прычыны, зьвязаныя з цяжкім становішчам кніжнага рынку, не дазволілі выдавецтву выпаўніць поўнасьцю пастаўленае заданьне. Да апошняга часу

яму ўдалося пакуль выдаць толькі адну кніжку палітычнага характару —гэта „Комуністычны маніфэст“ К. Маркса і Ф. Энгэльса ў перакладзе Я. Лёсіка.

Што датычыцца самой кніжкі, то аб ёй нечага больш сказаць к таму, што аб ёй нагаворана й напісана на розных мовах усьцяж 75 гадоў ад яе зьяўленьня ў сьвет. „Комуністычны маніфэст“ — вядомая ўсяму сьвету праца настаўнікаў рабочага стану К. Маркса і Ф. Энгэльса, служыць настольнай кнігай, свайго роду катэхізісам марксізму, як сыстэмы філёзофіі, кожнаму сьвядомаму комуністу і проста марксысту. Яна перакладзена на многія мовы і не па аднаму, а па некалькі разоў. Толькі да гэтага часу гэтай вядомай працы закладчыкаў марксызму ня было на мове беларускай. З пашырэньнем беларускае культуры і павялічэньнем запытаньняў на беларускія кнігі па розным галінам ведаў, з якіх палітычныя веды займаюць пераважную значнасьць, выдавецтва „Савецкая Беларусь“ палічыла важнейшым заданьнем выпусьціць першым чынам „Комуністычны маніфэст“ К. Маркса і Ф. Энгэльса.

Пераклад гэтай працы, зроблены Я. Лёсікам, яшчэ ў мінулым годзе друкаваўся на старонках газэты „Савецкая Беларусь“ і ўжо быў ацэнены з боку беларускага чытача. Па нашаму, трэба сказаць, што Я. Лёсік добра справіўся з гэтай нялёгкаю задачаю. Палітычная літаратура тэорэтычна-схэматычнага сьціслага зьместу, напісаная сухою навуковаю моваю як „Комуністычны маніфэст“, наогул, вельмі трудна даецца на пераклад, тым болей, на беларускую мову. Апошняя, к гэтаму, яшчэ не збагачана адпаведнымі палітычнымі тэрмінамі і перакладчыку трэба самому прыстасоўвацца іхняю перадачаю к строю і пабудаваньню беларускае фонэтыкі. Трэба быць гэткаму знаўцу беларускай мовы, якім ёсьць перакладчык, аддаючы многа працы на яе вывучэньне, каб больш-меньш лёгка і дапасоўна опэрыраваць ёю. Аднак, труднасьць мовы „Маніфэсту“ зрабілі тое, што ўсе данныя, якімі валадае перакладчык, не паспасобілі яму цалком абмінуць многія цяжкасьці, пакінутыя ў перакладзе. Па нашаму, гэтыя хібы ня ставяцца ў віну перакладчыку. Але, іх можна было-бы шмат паменьшыць пры ўмовах мець справу пры перакладзе. З орыгіналам нямецкім. Я. Лёсік, па яго словах, „карыстаўся тэкстамі расійскімі, польскімі і ўкраінскімі“, а гэта ўсё-ж ня тое, што мець тэкст орыгінальны. Мажліва і, нават, напэўна, што пераклад з нямецкага меў-бы шмат большую вернасьць перадачы зьместу і лёгкасьць мовы. Да выпадку трэба адмеціць, як то было з „Інтэрнацыяналам“. Ні ў адным перакладзе яго на расійскую, польскую і ўкраінскую мову не адмячаецца аднаго важнага месца, якое маецца ва францускім орыгінале і якое перадана дужа моцна ў беларускім перакладзе Янкам Купалаю: гэта ўпамненьне ў 6 аддзеле гімну аб сялянах: „Мы ўсе работнікі, сяляне, сусьветны рой працаўнікоў“.

Праўда, зьвяраць па перакладах на трох мовах, то значыць падыходзіць шмат бліжэй да орыгіналу, як бы то было мець справу толькі з перакладам на аднэй з адмечаных моў. Да гэтага, як мы бачым з прадмовы перакладчыка, ён карыстаўся не адным расійскім перакладам, а некалькімі і, пры гэтым, перакладамі такіх вядомых людзей, як Д. Разанаў і В. Поссе. Так што пераклад трэба лічыць вельмі сталым.

Да зьместу самога маніфэсту Я. Лёсікам старанна і дбайна сабрана і прыложана некалькі дадатковых артыкулаў, як: „Жыцьцёпісы К. Маркса і Ф. Энгэльса“, „Уводнае слова“ К. Каўцкага, тры „Прадмовы

аўтараў“ і „Увагі да некаторых месц тэксту“. Гэта дае мажлівасьць чытачу лепш орыентавацца ў зьмесьце „Маніфэсту“, у асобах яго аўтараў і ў тых умовах, у якіх гэта гістарычная праца тварылася,

З тэхнічнага боку кніжка выдана добра. Тых хібаў, якія справоздзяць іншыя выданьні выдавецтва, прыкладам--разнастойнасьць шрыфтоў, блядасьць фарбы, дрэнная папера і цьмяная бязгустоўная вокладка—бадай ня прыкмеціць. Тое, што асталося—адзнакам провінцыяльнасьці—ляжыць выключна на тэхнічным неабсталяваньні мясцовых друкарань. Уогуле, кніжка ёсьць багаты і каштаўны ўнёсак у скарбніцу беларускай літаратуры, якая вельмі цярпіць ад недастачы політычнай літаратуры, так патрэбнай паўстаўшаму к культурнаму жыцьцю беларускаму працаўніку.

Аідэ.

**Заходняя Беларусь.** *Зборнік грамадзкае мысьлі, навукі, літаратуры, мастацтва Заходняе Беларусі. Вільня, 1924 г. Беларускае Выдавецкае Таварыства, 155 стар. in 1/8.*

Вільня—гэта калыска беларускага нацыянальна-культурнага рэнэсансу. На зары яшчэ XIX сталецьця яно прабуе ўзнавіць свае гістарычныя традыцыі і ажыцьцёвіць іх прынамсі ў галіне культурнай. Павевы заходняга романтызму, пранікнуўшы на Беларусь, асталёўваюцца перш-на-перш у Вільні, згуртоўваюць тут сваіх адэптаў і прымушаюць іх у тэй ці іншай форме працаваць над абудженьнем нацыянальнага беларускага духу, падгатаўляць грунт для беларускага рэнэсансу. Зацікаўленасьць да беларускае нацыі, да яе духоўных і нацыянальных асаблівасьцей, да яе творчых засобаў, да яе ролі ў агульна-чалавечым поступе — усё гэта перш-на-перш формуецца і самавызначаецца ў Вільні, і ўжо адгэтуль прамянюе на абшары этнографічнае Беларусі. Гэткае пяршынства Вільні чырвонай устужкай праходзіць у гісторыі беларускае культуры праз усё XIX сталецьце, увадзіць у XX і тут у „Нашаніўскую пару“ дасягае свайго кульмінацыйнага росквіту. Найноўшая беларуская поэзія—гэта рэзультат жывых народных крыніц прасяклых гістарызмам старасьвецкіх віленскіх мураў і вежаў, гэта водгульле гістарычных традыцый, ідэялізаваных праз прызму панурае, няпрыветнае рэчнасьці. Пад уплывам гэтых традыцый у Вільні побач з культурнымі ідэаламі, зараджаецца ідэал беларускае дзяржаўнасьці...

Апошняя сусьветная вайна выбівае Вільню з гэтае верхаводчае каляіны. Беларускія культурна-нацыянальныя організацыі разбурваюцца, беларускі друк прыпыняецца. Вільня ўваходзіць у пэрыод крызісу. Але праз гэты крызіс Вільня шчасьліва праходзіць. Мала гэтага —у часы нямецкае окупацыі праз організацыю беларускае школьнае справы ў Заходняй Беларусі Вільня паднімаецца зноў на выдатнае месца ў гісторыі бел. культуры. Аднак, гэты перыод хутка праміна. Рыская мяжа адрывае Заходнюю Беларусь ад рэшты яе этнографічнага цела. Вільня падпадае пад „апякунчую“ руку Польшчы і ўваходзіць у пэрыод другога крызысу, крызысу глыбейшага, чымся першы, і, здаецца, больш небясьпечнага, бо, як відаць, падвойнага.

З аднаго боку перад намі крызіс фізычны: спрадвеку абліваная потам і крывёю беларускага сялянства зямля засяляецца польскімі асаднікамі; на плечы беларускага селяніна, поруч з нагайкай польскага жандара, усім сваім цяжарам націскае падатковая політыка імпэрыялістычнае дзяржавы; гвалтоўная полёнізацыя, разбураньне беларускае школы, нябывалы тэрор над усім, што асьмеліцца насіць назову беларускага. З другога боку перад

намі крызіс духоўны, крызіс, які абымае сабою пераважную частку беларускае інтэлігэнцыі. І самым выразным адбіткам гэтага крызісу зьяўляецца разгляданы тут зборнік «*Заходняя Беларусь*».

„Крызіс ідэі, ці крызіс грамадзянства"—вось артыкул, якім распачынаецца гэты зборнік. Аўтар гэтага артыкулу—Ант. Навіна—знаходзячыся бадай-што ў самым цэнтры гэтага крызісу, прабуе аналізаваць яго і аформіць яго істоу:

„Мы перажываем нешта такое, што шмат хто называе «крызісам незалежніцкае ідэі». Чы справедліва гэта? Чы гэты крызіс запраўды датычыць істоты ідэі незалежнасьці, чы самога нашага грамадзянства?"

І даючы адказ на гэтае пытаньне, Ан. Навіна праводзіць мяжу паміж Заходняй і Савецкай Беларусьсю ў тым сэнсе, што:

„...Сучасны крызыс, які перажываюць беларусы, выяўляецца галоўным чынам у Заходняй Беларусі... Ува Ўсходняй Беларусі, хоць і няпоўна і аднабока, незалежніцкі ідэал усё-ж такі рэалізуецца... толькі ўжо не на старым дэмократычным грунце, не на грунце Беларускае Народнае Рэспублікі, а на зусім новым Савецкім... Для ідэйнага крызісу ў Савецкае Беларусі грунту бадай няма...

„У Заходняй Беларусі справа стаіць інакш".

Аналізуючы істоту гэтага заходня-беларускага крызісу, Ант. Навіна, стараецца заспакоіць сябе праз разгранічэньне гэтага крысісу .на: крызіс ідэі і крызіс грамадзянства. І такім чынам з грунту рэальнае рэчавістасьці пераносіцца ў сфэру мэтафізных лятуценьняў, адрываючы об'ект ад яго насільніка суб'екта. У рэзультаце такога спосабу разважаньня, аўтар прыходзіць да выводу:

„Чы гэта доказы крызысу беларускае незалежніцкае ідэі, як іншым здаецца?—Ды ніколі!"

А ў чым-жа крызіс? Выяўляецца, што крызіс перажывае толькі беларускае грамадзянства (дакладней—інтэлігэнцыя). Ды нават і ў гэтых межах крызіс знаходзіцца ў стане сваёй ліквідацыі:

„Беларускае грамадзянсва ў межах Польшчы ўвайшло на тую самую дарогу, па якой ішла лепшая частка польскага грамадзянства пад уладай царскае Расіі. Як некалі палякі, так цяпер і беларусы разумеюць, што дзеля будаваньня мо' йшчэ далёкае незалежнае Беларусі conditio sine qua non становіць праца над умацаваньнем нашых культурна-нацыянальных і экономічных падстаў".

У гэткім асьвятленьні прадстаўляе Ан. Навіна крызіс, які ў сучасны момант перажывае Заходняя Беларусь, і гэткія шляхі прадбачыць к яго ліквідацыі. Ці запраўды гэтак маецца справа, ці запраўды перад намі няма крызысу незалежніцкае ідэі, ці ўрэшце і той крызіс грамадзянства, аб якім гаворыць Ант. Навіна, знаходзіцца ў стане ліквідацыі—на ўсе гэтыя пытаньні можна знайсьці адказы ў філёзофска-публіцыстычным артыкуле Сулімы: «Гэтым пераможаш» (нарысы крытычнага оптымізму). Артыкул гэты зьяўляецца цэнтральным і асноўным у зборніку, як у стасунку да велічыні (9—70 стар.), так і ў стасунку да яго зьместу, у якім, як нам здаецца, сынтэзаваны настрой і характар данага крызісу. Разгляд гэтага артыкулу вымагаўбы асобнага артыкулу гэтак многа ў ім спрэчных але разам з гэтым цікавых і характэрных палажэньняў, поглядаў і ацэнак. Мы ў нашай кароткай рэцэнзыі толькі бегла апынімся на самых выдатных пунктах гэтага артыкулу. Ужо самой сваёй пабудовай артыкул Сулімы выдзяляецца ў зборніку. Проста клясычнае перапляценьне мэтафізычных

тэорый, романтычных лятуценьняў, этычна-моральных ацэнак з запраўднай рэчаіснасьцю, з конкрэтна-фактычным матар'ялам, пачэрпнутым з самога жыцьця —усё гэта надае артыкулу выгляд — мозаікі, мясцамі скомпановай даволі тонка, умела, памастацку, мясцамі-ж—зьвязанай белымі ніткамі, пазбаўленай усялякае лёгічнасьці, паступовасьці, грунту. Ідэя незалежнасьці і шляхі, якімі можна дасягнуць яе— вось проблема, якую прабуе разьвязаць Суліма ў сваім артыкуле. І трэба прызнаць, што першая частка гэтае проблемы даволі складна і грунтоўна ім разьвязана. Злучыўшы незалежніцкую ідэю з нацыянальнай ідэяй, аўтар зьвярнуўся да Фіхтэ і Гэгэля, якія першыя пачалі разглядаць нацыянальнасьць у гістарычнай пэрспэктыве. Удала выбраны маштаб даў магчымасьць разьвязаць шэраг пытаньняў бясспрэчна.

„Асноўным зьместам нацыянальнае ідэі ў такіх панявольных і падзеленых народаў, як народ Беларускі, зьяўляецца Воля“

— вось падставовае палажэньне Сулімы. І трэба прызнаць яго бязумоўна-справядлівым з пэўным удакладненьнем тэрмінолёгіі, а іменна, калі пад Воляй разумець роўнадзейную экономічныя адносін плюс культурна-гістарычныя чыньнікі. Разьвіваючы далей гэтую думку, аўтар прыходзіць да вываду:

«Вольная, незалежная, непадзельная Беларусь—гэта ідэя, гэтая ідэальная мэта павінна крэпка ўкараніцца ў сьвядомасьці кожнага беларуса». «...Пытаньне можа быць толькі аб тым, якімі дарогамі найбліжэй і найпаўней дайсьці да гэтае мэты поўнага ўнутранага і вонкавага вызваленьня Беларускага народу“..

І вось тут-то і пачынае аўтар траціць пад нагамі ўсялякі грунт, пачынае з аднэй абмылкі пападаць у другую, пачынае пярэчыць сваім ранейшым падставовым тэзам, пачынае прыцягваць найменш каштоўны, найменш паважны спосаб этычных ацэнак, пачынае падтасоўваць і адвольна ўкладаць фактычны матар'ял пачынае губляць усялякую гістарычную пэрспэктыву.

Ёсьць тры мэтоды змаганьня са злом, у самым шырокім значэньні гэтага слова. А значыць і беларускі народ на шляху да свайго вызваленьня павінен карыстацца адным з гэтых мэтодаў—вось другое палажэньне Сулімы. Якія-ж гэта мэтоды? —Рэволюцыйны, актыўна - эволюцыйны і суб'ектыўна-рэволюцыйны або „алькогольны“—вось тая тэрмінолёгія,крыху дзіўная і орыгінальная, якая мае азначаць сабой гэтыя мэтоды і шляхі. Які-ж з гэтых мэтодаў выбірае Суліма? Перад намі поўная неспадзеўка.—Эволюцыйны ці як сам аўтар дакладней азначае— актыўна-эволюцыйны. Як, запытаецеся вы, якім чынам аўтар, які ў аснову сваіх разважаньняў а істоце незалежніцкае ідэі палажыў паняцьце—Воля, цяпер становіцца на грунт эволюцыйнага мэтоду змаганьне за гэтыя незалежніцкія ідэалы? Дзе-ж тут паступовасьць? Лёгіка? Супакойцеся. Гэта ня ўсё. Тое, што Суліма прыхільнік эволюцыйнага мэтоду, яшчэ не вызначае—яго адносін да мэтоду рэволюцыйнага змаганьня. Так, гэта яшчэ не вызначае! Але, нажаль, сам Суліма на сарака з лішкай старонках на ўсялякія лады стараецца вызначыць свае адносіны да рэволюцыйнага мэтоду і, трэба сказаць, вызначае іх з поўнай дакладнасьцю. Паняцьце—рэволюцыя, у сваім назоўніку, прыметніку і дзеяслове, безьліч раз паўтараецца на старонках разгляданага артыкулу, „аздобленае“ самымі разнастайнымі, розных каляраў і адценьняў, эпітэтамі і.... анэкдотамі. Гэты мэтад:

„...Толькі часова ўхіляе вонкавае зло, зусім без карысьці зьніштажаючы пры гэтым вялізар-

ную колькасьць дабра, нераўнаважную пастаўленай мэце і атрыманым рэзультатам...“

„...Гэты мэтод яшчэ больш небясьпечны затым, што, паміма вонкавых цэннасьцей, руйнуе ў чалавеку вялізарную сколькасьць таксама вякамі прызанашаных *унутраных цэннасьцей, духовага дабра, абніжаючы духовы тып чалавека, пераводзячы грамадзянства на некальки вякоў узад....*“ (Падкрэсьлена аўтарам).

Рэволюцыя—гэта Бунінскае „байбацтва“; гэта анэкдот з ксэрксам, які хацеў высьцябаць мора; гэта „самы ўродлівы грунт для рэакцыі“; гэта „самы бясплодны, а разам з гэтым найкаштаўнейшы і самы неэкономны з кожнага погляду мэтод вызваленьня, нават калі-б яна і вяла да мэты“; гэта „інэрцыя духу“; гэта „страшнае самаабрабленьне, якое робіць кожная рэволюцыя, паляны цэлы дом, каб зьніштожыць засеўшага ў шчыліне клапа“; рэволюцыя ўрэшце гэта „літаральна тое самае, што і контр-рэволюцыя, якая дзеля „павароту ладу“ мае і ўжывае толькі тыя-ж „рэволюцыйныя мэтоды“, што і рэволюцыя“... і шмат гэтаму падобных азначэньняў рэволюцыйнага мэтоду шчодрай рукой рассыпаны ў артыкуле Сулімы.

«Мы толькі хочам, каб беларускі народ *ведаў усю праўду аб рэволюцыі, ведаў усе магчымасьці і об‘ектыўныя межы «рэволюцыйнага» мэтоду, яго страшэнную каштоўнасьць,—ведаў усю небясьпечнасьць унутраную і вокнавую»* (падкрэсьлена аўторам)—вось мэта аўтора...

Дык што за зьявішча перад намі? Крызіс грамадзянства, як цьвердзіць Ант. Навіна? Перад намі крызіс глыбейшага характару,—перад намі тыповы крызіс незалежніцкае ідэі, калі карыстацца тэрмінолёгіяй Ант. Навіны. Бо ў якія-ж формы можа выліваецца воля—аснова нацыянальна-незалежніцкае ідэі прыгнечанага народу, як ня ў формы рэволюцыйнага змаганьня? І які мэтод павінен прапаведваць запраўдны барацьбіт - незалежнік, як ня мэтод рэволюцыйны? Аднак-жа, як мы бачылі, Суліма, залічаючы сябе да незалежнікаў, у той-жа час зьяўляецца, будучы ў сваёй істоце кадэтам і псэўда-незалежнікам, бязумоўным ворагам рэволюцыі, ненавідзіць яе, стараецца аплюгавіць і дэскрыдатаваць рэволюцыйныя мэтоды змаганьня. Дык што-ж гэта, як ня крызіс незалежніцкае ідэі?

І вось тое, што так старанна стараўся затушаваць Ант. Навіна,—ва ўсёй яскравасьці і выпукласьці выступіла ў артыкуле Сулімы. Заходняя Беларусь, як мы вышэй зазначылі, перажывае ў сучасны момант глыбокі падвойны крызіс; і гэты крызіс найглыбей адчувае Вільня.

Мы дагэтуль спыняліся на публіцыстычна-політычнай часьці зборніку. Аднак куды большую каштоўнасьць з усіх бакоў мае літаратурна-крытычны аддзел. Тут мы павінны адзначыць рознабарвяную вязанку мілагучна-сьпеўных вершаў Натальлі Арсеньневай, у якіх тонкапластычная вобразнасьць агорнута далікатна-кволымі, дзіўна-настраёвымі сплётамі шчырага непаддзельнага пачуцьця, запраўднае поэзіі; тут мы бачым надзвычай характэрны для настрояў заходня-беларускае інтэлігэнцыі верш здольнага маладога поэта Уладзімера Жылкі—„На могілках“,—верш, які ўяўляе сабой глыбокі сымболь Заходняе Беларусі.

„На могілках ўдыхаю цішу
Адзін жывы паміж крыжоў;
А смутак дзіўны сэрца крышыць,
Бяз назвы смутак і бяз слоў“.

У гэтыя-ж тоны атулены і мэлёдыі Каз. Сваяка ў яго вершах „Сонцу ўзгорнаму“, „Айчыны мілай“, „Спавіў мне сэрца жаль“.

Значную цікавасьць замыкае ў сабе крытыка-літаратурны нарыс А. Навіны—„Новае ў беларускай поэзіі“. Праўда, аўтар даходзіць тут

мясцамі да даволі рызыкоўных вывадаў, цьвердзячы, напрыклад, што „ад народнага пясьнярства Колас даходзіць да імпрэсыянізму“. Аўтар тут відавочна зьмешвае, імпрэсыянізм, як асобны літаратурны кірунак, зьвязаны, як скутак з прычынай, з эпохай літаратурнага модэрнізму, дэкадэнства, зьмешвае, паўтараем, з паасобнымі элемэнтамі імпрэсыянізму, якія маюць месца ў кожнай наогул лірыцы, якія спатыкаюцца і ў народнай творчасьці. І дзеля таго, што такія паасобныя элемэнты заўважваюцца ў лірыцы Я. Коласа, нельга яго яшчэ залічаць да імпрэсыяністых. І наогул, Ант. Навіна, нейкі вялікі прыхільнік эўропэізацыі, старанна вышукоўвае ў нашай літаратуры азнакаў гэтае эўропэізацыі і радуецца, што і беларускія поэты „свае думкі і пачуцьці высказываюць агульнай для ўсіх „эўропэйцаў“ мовай; сваё, народнае, яны прапускаюць праз нівэлюючую прызму агульна-эўропэйскае цывілізацыі“. Гэтая „эўропэізацыя“, як відаць з артыкулу, зьяўляецца маштабам у руках Ант. Навіны для ацэнкі поэтычных каштоўнасьцяў нашае літаратуры. І ў гэтым аўтар становіцца на сьлізкі і рызыкоўны шлях, забываючы, што мае дачыненьне з мастацтвам, гэта знача з такой культурнай катэгорыяй, якая ня зносіць ніякае „нівэлюючае прызмы“, якая толькі выігрывае як ад індывідуальнай, гэтак і нацыянальнай самабытнасьці. І дзякаваць бога, гэтая нівэлюючая прызма „эўропэізацыі“ далёка не ў такім стопню мае месца ў беларускай поэзіі, як гэта здаецца і хочацца Ан. Навіне.

Надзвычайную цікавасьць для гісторыі беларускае літаратуры прадстаўляе другі нарыс Рамана Суніцы „*Нацыянальнасьць у Вінцука Дунін-Марцінкевіча*“. У гэтым артыкуле пададзены ліст Марцінкевіча да польскага пісьменьніка Крашэўскага. Ліст гэты знаходзіцца ў архіве біблiятэкі Кракаўскае Акадэміі Навук і быў надрукован у часопісі „Gazeta Polska“ 1861 г. № 111. Ліст гэты дагэтуль ня быў вядомы, ў матар'ялах да гісторыі беларускае літаратуры, і наша гісторыка-літаратурная навука павінна будзе выкарастаць яго, і, магчыма, В. Марцінкевіч устане перад намі ў цалкам адменнай постаці. Мы ня можам устрымацца, каб не падаць на старонках нашае часопісі гэты ліст цалкам:

«Жывучы сярод народу, які гаворыць беларускай гутаркай, зьвязаны целам і душою з яго способам думак, думаючы аб лепшай долі гэтага братняга народу, які застыў у дзяцінстве й цемнаце, пастанавіў я, каб заахвоціць яго да прасьветы, у духу яго звычаяў, паданьняў, легэнд і здольнасьці душэўнай, пісаць у яго роднай мове; і вось з радасьцю я хутка ўгледзіў, што выданыя мною: *Сялянку, Гапона, Вечарніцы, Дудара, Купалу* народ прыняў з аграмадным упадабаньнем, а моладзь з запалам пачала вучыцца чытаць і з памяці паўтараць мае, гэтак для яе мілыя, творы. З гэтае прычыны распаўсюджваецца ўжо сягоньня ў часьці над Вяльлёй і Нёманам, над Сьвіслаччу, Бярэзінай, Дзьвіной, Дняпром і г.д. чытаньне беларускага друку; а раз ужо ахвота і любоў да духовае стравы разбуджаны, знойдуцца з часам больш багатыя матар'ялы ў роднай мове.

«Гэтую маю думку зразумелі і ацанілі людзі ў Польшчы, не зразумелі ў Літве і на Беларусі, і вось на літаратурным сходзе ў пана К... пачуў я словы: «што пішучы ў беларускай мове, сярод сялянскага народу зашчэпліваю провінцыялізмы», на што я прымушаны адказаць:

«Няшчасная прошласьць нашая давяла сялянскі народ да ўпадку, ня думаючы саўсім аб ду-

ховай і моральнай яго адукацыі, хаця-бы праз памяць на тое, што гэца дзеткі аднэй маткі, што гэта пакрыўджаныя браты і хрысьціяне, якія маюць права да навукі ў роднай мове так, як да нябеснага хлеба.

«Калі ніводзін польскі ані расійскі орган друку не патрапіў, паміма намаганьняў у працягу амаль ня цэлага сталецьця, падняць наш народ, дык ці можна-ж гэтаму дзівіцца?.. Ці мог які-колечы орган трапіць да вуха, да перакананьня селяніна, катораму спосабы навучаньня граматы ў роднай мове так былі ўтруднены, каторы, абліваючы крывавым потам гоні сваіх паноў, ня меў часу для духоўнага навучаньня? Калі часам голас матчынае мовы абіўся аб зацікаўленае вуха бедака, гэта была паводка пагроз ды лаянак, высказаных да пагарджанага сіраты.

«Вось, дагледзіўшы благія намаганьні адарваць і зьняверыць да нас народ, пастанавіў я праз творы ў яго роднай мове, адпаведныя яго паняцьцям, што знаходзяцца яшчэ ў калысцы, і аблягчаючыя яму спосабы асваеньня з граматай, заахвоціць яго да роднага слова, да прасьветы і моральна паправіць. Які вызваляючы, збаўчы ўплыў аказалі гэтыя мае кніжкі на яго, трэба вывясьці і з гэтага, што кніжкі ў роднай мове ўжо саўсім разыйшліся, а новыя ня друкуюцца.

«Вялікі час на тое, каб «абыватэлі» нашыя агледзіліся ўрэшце і праз адкрываньне школак, дамоў-ахронак, праз увядзеньне ў навучаньне народнай сялянскай мовы і праз другія магчымыя ахвяры стараліся гэтых маладых братоў сваіх, умеючых быць удзячнымі, прыгарнуць да сэрца і дзеля агульнага дабра цесна з імі злучыцца», падпісана—*Наум Прыгаворка.*

Гэты ліст, як бачым, уносіць новыя рысы ў портрэт Марцінкевіча, і адначасна з гэтым зьяўляецца мастом, які перакідаецца ад Марцінкевіча да Багушэвіча, перакідаецца, як дагэтуль лічылася, праз непраходную пропасьць. І паміж прадмовай да «Дудкі» і гэтым лістом мы адчуваем самую родную, блізкую сувязь, а значыць мы стаім перад нязнаным дагэтуль высьвятляючым фактам у гісторыі беларускае літаратуры.

Што-ж сказаць аб разгляданым зборніку «Заходняя Беларусь“ наогул? Даволі багаты і разнастайны яго зьмест, характэрныя азнакі для заходня-беларускіх настрояў — робяць яго цікавым, а адначасна з гэтым сьведчаць, што культурнымі сіламі Заходняя Беларусь даволі багата, але толькі яны ня маюць магчымасьці разгарнуцца, а ў рэзультаце бязьдзейнасьці рызыкуюць уступіць на сьлізкія і мыльныя сьцежкі.

**Улідзе.**

**С. Некрашэвіч.** *Роднае Слова. Частка першая. Народны Камісарыят Асьветы Б. С. С. Р. Дзяржаўнае Выдавецтва. Масква--Петраград. 1923. Выданьне Беларускага Коопэрацыйнага Т-ва «Савецкая Беларусь». 1923 г. Стр. 205+III, in 4.*

Адзін з паміж лепшых расійскіх пэдагогаў У. Флёраў у прадмове да свае першае кніжкі для чытаньня „Ясное Утро“ кажа, што „у школе кніга павінна быць тым-жа, чым яна зьяўляецца ў жыцьці. Поплеч з асабістым дасьведчаньнем і беспасрэдным спасьцераганьнем, кніга для дзяцей, як і для дарослых, павінна служыць крыніцай, адкуль яны могуць набываць новыя мысьлі, ідэі, пачуцьці, настроі, жаданьні і так далей. Але што гэта значыць—набываць чытаньнем мысьлі, пачуцьці, жаданьні? Ці ня значыць гэта—чытаючы сапраўды прадстаўляць, уяўляць, мысьліць, адчуваць, перажываць жаданьні, словам,—чы-

таючы перажываць той псыхічны стан, які выражан у друкаваным слове? А калі гэта так, то ці не становіцца ясна, што ў справе дзіцячага або школьнага чытаньня пастанаўляючае значэньне набывае пытаньне аб тым, *якія мысьлі, пачуцьці, імкненьні могуць перажываць дзеці-школьнікі, які псыхічны стан уласьцівы іх узросту*. Іначай кажучы, у справе чытаньня і школьнай кнігі выступае на першае месца сучасная навука аб асаблівасьцях дзіцячай псыхікі, якая і сваімі патрэбамі і тымі процэсамі, што ў ёй адбываюцца, істотна розьняцца ад псыхікі дарослых.

Ці-ж ня ясна, што чытаць перажываць дзеці могуць толькі тыя мысьлі, тыя пачуцьці й жаданьні, якія ўласьцівы якраз дзіцячай псыхіцы, што адказваюць яе асаблівасьцям? Такім парадкам, тут у справе пастаноўкі школьнага пытаньня, з асаблівай сьцісласьцю й паступовасьцю павінен быць праведзен лёзунг сучаснай пэдагогікі: „ня дзеці для школы, а школа для дзяцей“. Чытаньне для дзяцей павінна быць з усіх бакоў дзіцячым...

Ад першае кніжкі для чытаньня ў гэтым кірунку трэба вымагаць асаблівай уважлівасьці. Першая кніжка павінна захапіць маленькага чытача сваім зьместам і заставіць яго ў часе чытаньня жыць, мысьліць, уяўляць, хваляваца; яна павінна стаць блізкаю й дарагою яму, як новы сьвет цікавых перажываньняў, як пачатая раніца больш сьвядомага жыцця“.

„Роднае Слова“ С. Некрашэвіча ў поўнай меры можа здаволіць патрэбы сучаснай школьнай пэдагогіі. Кніга напісана па пляну вядомай цяпер расійскай першай кніжкі для чытаньня Блонскага і кладзе грунтоўны пачатак дзейна-комплекснаму мэтоду ў беларускай школе.

Пры выбары матар'ялу для чытаньня аўтар на першае месца ставіць навучальна-выхавальныя задачы. Кніга складаецца з двух разьдзелаў: першы разьдзел—„Навакол нас“, другі разьдзел—„Поры году“.

У першым разьдзеле даецца матар'ял для ўсьведамленьня, у межах магчымага, усяго таго, што акаляе, абкружае дзяцей (сям'я, школа, родная краіна). Гэты разьдзел складаецца з такіх частак: I. Дзіця, II. Хата й каля хаты, III. Па роднай краіне.

У другім разьдзеле (Поры году: восень, зіма, вясна, лета) апісваецца прырода ды выяўляецца, таксама ў межах магчымага, патрэба, няўхільнасьць і значэньне працы ў жыцьці, організованасьць і злучнасьць, супрацоўніцтва ў працы, барацьбе й абароне. Далей, высьняецца організацыя школьнага жыцьця, значэньне рэволюцыйных сьвят—1 мая, кастрычнікаўскай рэволюцыі, адносіны паміж горадам і вёскай—паміж селянінам і рабочым, і дае шмат рознага матар'ялу для разьвіцьця ў дзяцей спасьцерагальнасьці (розныя нагляданьні), фантазіі (народныя казкі) і мовы (вершы).

Каб усе гэтыя бакі навучаньня й выхаваньня замацаваць, у кніжцы даецца шмат задач і прыводзяцца адпаведныя пытаньні для гутарак настаўніка з дзяцьмі.

Матар'ял у кнізе разложан так, што вядзе дзяцей ад блізкага к больш далёкаму, ад сям'і й школы на двор, у вагарод, на поле, у лес, на рэчку і т. далей.

Але дзеці—усё-ж такі дзеці. І гэты бок не забыт аўтарам: поплеч з матар'ялам навучальнага зьместу зьмешчаны чыста дзіцячыя вершы („Вершык для гульні“, стр. 21, «Конік» стр. 53., „Верабей“ (народная) стр. 138), расказы з дзіцячымі гульнямі, забаўкамі („Забава з Мурзам“ стр. 23, „Сьнежны дзед“ стр. 24). Такія рэчы вельмі падабаюцца дзецям і даюць найлепшы матар'ял для незалежнага чытаньня без тлумачэньня ў школе.

На першых парах трэба, каб дзеці паверылі ў кнігу, каб яны пазналі яе праўдзівасьць ды навучаліся шукаць у ёй праўды. Выклікаць такую веру да друкаванага слова можна; трэба толькі выкінуць усё ненатуральнае, непраўдападобнае,—байкі, напрыклад, пры чытаньні каторых дзеці павінны разумець ня тое, што надрукавана. З гэтага боку зусім не падходзіць для дзіцячага чытаньня прытча „Чалавечае цела“, зьмешчаная на стр. 11. Прытча гэта была прыдумана ў старажытным Рыме для апраўданьня й падтрыманьня таго соцыяльнага ладу, дзе прыгнечаныя павінны былі мірыцца з сваім палажэньнем рабоў ды слухаць каманды паноў, каб не разваліць заведзенага парадку.

Апроч таго, такія байкі-прытчы зусім ненатуральны й неверагодны; яны нічому не навучаюць, а толькі выклікаюць непаразуменьне, як гэта можа стацца, каб рот перастаў жаваць, вочы глядзець і т. далей.

Іншая справа – народныя казкі, з гэроямі каторых дзеці пераживаюць усе радасьці й гора, усе парываньні і імкненьні. Казкі заўсёды мілы й цікавы дзецям; казкі больш пакідаюць выхавальных сьлядоў у душы вучня, як усе дабрачынныя прытчы-алегорыі. Вось дзеля гэтага самага зусім не надаюцца для чытаньня дзецям такія казкі-выдумкі, навучальныя выдумкі, як казка „Што нарабіла зайдрасьць“, зьмешчаная на стр. 18-й з грубым страшным рысункам. У першай кніжцы для чытаньня не павінна быць нічога, што страшна й цяжка, што прыгнечвае маладую душу, як кажа Флёраў. У першай кніжцы жыцьцё павінна рысавацца галоўным чынам у сьветлых, дадатных хварбах, жыцьцёвых колерах; гэта больш адпавядае характару дзіцячай псыхікі, памацняе ў ёй усё яснае, сьветлае, жыцьцёвае. З гэтае прычыны зусім сапсована няўмірушчая дзіцячая народная казка „Марозка“ (стр. 119) няўдалай прыпіскай ці зваротам у мове такога характару: „выбегла баба сустракаць дачку, ды заместа яе *абняла сьцюдзёнае цела*“. Такая рэальнасьць лічыцца прыметай тандэтнасьці нават для тэатральнай драмы, а ня то што для дзіцячай казкі. Народныя казкі тым і прыгожыя, што яны шліфаваліся тысячы год, і ў іх усё рэальнае становіцца несапраўдным і наадварот. Што да казкі „Марозка“, то яна ў народнай перадачы канчаецца бяз жаднага драматызму, якому ў казцы няма месца, як няма месца ў жыцьці й такому казачнаму здарэньню, каб дзед з нагавораў свае бабы выкінуў на сьнег у чыстае поле сваю родную дачку.

Але ўсё гэта драбніцы, якія лёгка выправіць пры новым выданьні. Агулам-жа „Роднае Слова“ у сваёй першай частцы становіць такі падарунак нашым дзецям і настаўнікам, што ім сапраўды можа ганарыцца наша маладая школа.

Лёгка выправіць і такія недагляды ў мове, звычайныя ў першым выданьні для нашай мала яшчэ апрацаванай і дасьледжанай літаратурнай мовы, якія дзе-ні-дзе трапляюцца ў кнізе. Напрыклад, у вершы „Зімовыя забавы“ (стр. 21) чытаем „ды глядзі ў *балонку*, сынку, не ўваліся“; трэба не „ў балонку“, а *ў палонку*, ад слова „полы“, „поласьць“; гэта слова—агульна славянскага кораню. Таксама ня добра вытварана слова „правілова“ (стр. 41) ад слова „правіла“; лепш „правільна“, бо суфікс „ов“ у слове *правілова* паказвае на прыналежнасьць; тымчасам такое прыслоўе павінна выражаць якасьць, што дасягаецца пры помачы суфікса „н“: правільна, як чарніла—чарнільны, сушыла—сушыльня, мыла—мыльны, шыла—шыльны і—дасканальна, а не „дасканала“, бо суфікс „л“ азначае прыладу дзеяньня, і сказаць „дасканала“—гэта значыць вытварыць сло-

ва з значэньнем прылады дзеяньня, як—шыла, заткала, памяло, вятрыла і т. д. І даўней слова „правіла“ (і *мыла, чарніла*) з націскам на „і“ азначала тое самае, што „шыла“, „памяло“ і іншыя.

Зварачае на сябе ўвагу на стр. 4-й такі выказ: „Прыпомніла тады Зоська, што ў суседа нядаўна памерла *жонка*“; слова „жонка“ ня добра: яно далёкае, няжывое для дзіцяці; трэба зьмяніць выказ так, каб можна было паставіць слова „маці“, тым больш, што ўся справа там ня ў *жонцы*, а ў *мацеры*.

На стр. 17-й чытаем: „рукі ў яго дрыжаць *са старасьці*“. Прыйменьнік „со'“ у такіх разох азначае псыхічны стан: *са страху, со' сьмеху, сопалаху*; трэба „ад старасьці“, дзе прыйменьнік „ад“ пакажа на прычыну, як, напрыклад: *падарожныя ад утомы* ледзьве перастаўлялі ногі, памёр *ад сухот*, пачырванеў *ад сораму*, пачарнеў *ад працы*, заплакаў *ад болю* і т. далей.

На стр. 40-й ёсьць такі выказ: „Не,—адказвае птушка,—мне забаўляцца некалі: трэба мушак лавіць, чарвячкоў *цягаць*, дзетак карміць“. Трэба „насіць“, а не „цягаць“, бо слова *цягаць* выклікае прадстаўленьне аб нечым цяжкім і доўгім. У вершы „Храбры певень“ (стр. 63) двойчы сустракаецца слова „куры“ ў форме „кур“: 1) *а калі хто кур пужае*, 2) *певень жытам кур частуе*. Пабеларуску „куры“ ў родным склоне мае форму „курэй“, як—касьцей, людзей, мышэй, дзьвярэй, саней, чарцей і т. далей, але ў прыведзеных сказах павінна быць форма назоўнага склону, а ня роднага, бо ў беларускай мове вінавальны склон іменьнікаў назоўных множн. ліку, калі не азначаюць асобы, чалавека, заўсёды падобен да назоўнага: пасу авечкі, паю коні, пужаю куры, певень жытам куры частуе.

На стр. 177-й чытаем: „Вуж засыкаў *і* схаваўся *ў лаўжы*“. Што гэта такое „ў лаўжы“? Калі гэта не абмылка ў друку, то некі невядомы паветалізм, якому ў школьнай кніжцы не павінна быць месца. Тут дарэчы будзе сказаць, што калі ў зьлітым сказе злучаюцца два паступовыя ды згодныя паміж сабою выказьнікі, то яны павінны зьвязвацца злучнікам „ды“, а ня „і“. Напрыклад: „Вуж засыкаў ды схаваўся. Сеў ды заплакаў, прышоў ды кажа, падумаў ды вярнуўся да дому“ і т. д.

Што да агульнага зьместу кнігі, то трэба сказаць, што такія навучальна-гістарычныя стацейкі, як „Сіла ў грамадзе“ (стр. 82), „Аб мінулым“ (стр. 84), народная песьня „Работа на прыгоне“ (стр. 84) і верш М. Багдановіча „Слуцкія ткачыхі“ (стр. 85) зусім не падходзяць для першае кніжкі. „Сіла ў грамадзе“ слаба тым, што тут муравей вучыць людзей. Па розум да мураўёў любілі пасылаць людзей і „сьвятыя айцы“, бач, напрыклад, Ціхана Задонскага „Ідзі ко мравію, о леніве!“ Тымчасам, расказаць пра муравейнік без такое навучальнасьці было-б лепей і пэдагогічней. „Аб мінулым“, аб „Рабоце на паншчыне“, пра „Слуцкія ткачыхі“ у першай кніжцы для чытаньня гаварыць рана. Верш „Слуцкія ткачыхі“ падходзіць для хрыстаматыі, а не для першае пасьля лемантара кніжкі. Пра паншчыну дзеці даведаюцца пазьней, калі навучацца чытаць і разважаць. А датаго, так расказваць пра паншчыну ў школе, як расказвае аўтар на стр. 84, ня варта.

У кнізе шмат прыводзіцца тэм для гутарак настаўніка з дзяцьмі (разгаворныя практыкаваньні), але няма практыкаваньняў у пісьме. Іх трэба ўвесьці; на граматыку няма чаго пакладацца: граматыка—навука, якая ня можа праходзіцца поплеч з лемантаром.

Рысункі ў кніжцы даволі харошыя, хоць не беларускія; яны прыемна аздабляюць падручнік і робяць яго жывым і цікавым. Кніжка

надрукована, як для Менску, вельмі добра. Памылкі ў вочы ня кідаюцца.

Агулам сказаць, „Роднае Слова“ ў першай частцы становіць найлепшы наш школьны падручнік. Асноўная ідэя пераважнай большасьці матар‘ялу ў кніжцы палягае ў тым, каб разьвіць у дзяцей любоў да працы, павагу да чужой асобы, да чужога жыцьця, праўдзівасьць, чэснасьць, імкненьне да ўзаемнай дапамогі; не хаваючы праўды жыцьця, часам цяжкай і няпрыемнай, кніжка стараецца пазнаёміць дзяцей з жыцьцём другіх людзей, з іх радасьцямі й горам, а рысуючы прыроду, выклікае ў дзяцей цікавасьць да яе, разьвіваючы ў іх спасьцерагальнасьць.

Застаецца пажадаць, каб аўтар хутчэй даў нашай школе другую й трэцюю частку свайго слаўнага „Роднага Слова“.

Я. Лёсік.

**Выпісы з беларускае літаратуры.** *Новы й найноўшы кругабег. Часьць другая. Уложана спэцыяльнай комісіяй пры выдавецтве. Народны Камісарыят Асьветы Б.С.С.Р. Выданьне Госіздат Масква-Пецярбург. 1923. Беларускае Коопэрацыйна-Выдавецкае Т-ва „Савецкая Беларусь“. Менск, 1923. Стр. 284+III, in 16 вялікага фармату.*

Кніга гэта вялікая, чытэльна выдана, у мастацкай, хоць ня вельмі зграбнай, вокладцы. Укладала яе, як значыцца па вокладцы і ў прадмове, спэцыяльная Комісія пры выдавецтве.

„Выпісы“ абнімаюць беларускае пісьменства, пачынаючы з XIX-га сталецьця аж да нашых дзён. У прадмове да „Выпісаў“, напісанай самой Комісіяй, ґаворыцца“, што пры ўкладаньні „Выпісаў“ галоўным чынам меўся на ўвазе гістарычны бок разьвіцьця беларускае літаратуры. *Выбіраліся пісьменьнікі, якія пакінулі па сабе пэўны гістарычны сьлед у нашым пісьменстве, якія мелі і маюць такі ці іншы ўплыў на разьвіцьцё беларускае літаратуры*“... (курсіў наш).

Тымчасам у „Выпісах“ знайшлі сабе бадай што роўнае месца як тыя, што *пакінулі па сабе* гістарычны сьлед, так і тыя, што не пакінулі гэтага сьледу ды нават тыя, што будуць яшчэ самі вучыцца па гэтых выпісах (Л. Родзевіч, Н. Арсеньнева). З гэтага боку «Выпісы» робяць такое ўражаньне, нібы Комісія кіравалася ня тым, каб даць месца пісьменьнікам з гістарычным значэньнем, а тым, каб не забыць ніводнае асобы, што піша цяпер ці пісала некалі беларускія вершы,— кажу—вершы, бо прозы ў „Выпісах“ прыводзіца як на завод. Калі тае ці іншае асобы, што пісала ці піша беларускія вершы, у „Выпісах“ няма, то гэта трэба выбачыць тым, што Комісія, мабыць, забылася пра іх або проста паленавалася пашукаць у старых газэтах пладоў іх вершаваньня. У гэтым сэнсе больш мілай і прыемнай Комісіі трудна выдумаць: яна нікога *не пакрыўдзіла*, а калі каго не запрасіла на свой Парнас, дык, мабыць, ня ведала пра іх існаваньне. І калі, прыкладам кажучы, у „Выпісах“ няма дапісчыкаў „Нашае Нівы“ за 1907 г., што пісалі вершам, то гэта ня дзеля таго, што Камісія не ўшанавала іх за пісьменьнікаў з гістарычным імем, а дзеля таго, што яна ня мела, мусіць, экзэмпляру „Нашае Нівы“ за 1907 г.

Далей у прадмове чытаем: „вялікая ўвага зьвярталася (зварачалася?) на тое, каб літаратурнае аблічча кожнага пісьменьніка адбівалася ў „Выпісах» па магчымасьці паўней. З гэтай мэтай выбіраліся творы, якія з розных бакоў і ў розных адценьнях характэрызуюць творчасьць таго ці іншага пісьменьніка“...

Так яно й трэба было але ў Комісіі з гэтай задачай нічога ня вышла. Пра яе намеры ў гэтым кірунку можна сказаць вершам Лерман-

тава: „Суждены им благие порывы, но совершить ничего не дано“, або —„благими намерениями ад вымощен“. Бо ці-ж „адбілася аблічча“ хоць аднаго пісьменьніка ў „Выпісах“?

Возьмем такіх волатаў у нашым пісьменстве, як Янка Купала ці Якуб Колас. І што-ж? Зьмешчана шмат дробных вершаў, якія бадай што ўсе можна знайсьці ў кожнай дзіцячай чытанцы („Могілкі“, „Вёска“, „Месяц“ і інш. Я. Коласа; „Над Нёмнам“, „Гэй, наперад!“, „За праўду, за шчасьце“ і інш. Я. Купалы), але няма іх твораў, што сапраўды адбіваюць іх твар—твар новай беларускай літаратуры.

Дзе, напрыклад, „Адвечная песьня“ Я. Купалы? Дзе яго „Сон на кургане“, „Паўлінка“, „Раскіданае гняздо“? Замест такіх вершаў, як „Сьмейся“,—чыста альбомнага характару,—або „З песень мужыцкіх“ ці „З песень беларускага мужыка“ і шмат іншых, трэба было даць узоры з яго вялікіх твораў, калі нельга было зьмясьціць іх поўнасьцю. Янка Купала пісаў і піша прозаю, а тымчасам з яго прозы няма ні радочку.

А дзе „Сымон Музыка“, „Новая Зямля“ і дзе ўвесь Тарас Гушча? Праўда, з „Сымона Музыкі“, як і з „Новай Зямлі“ Комісія дала, як той анучнік перцу, некалькі радочкаў ды так неахайна, няграматна, што незнаёмы чытач падумае, што гэта некія асобныя вершы. У такіх разох школьная хрыстаматыя павінна акуратна паказаць, адкуль гэта ўзята. Напрыклад: „О, край родны, край прыгожы“, „У палёх Беларусі“, „Сымон“ (стр. 102—103)—з поэмы „Сымон Музыка“, а „Мароз“, „Сьмерць Міхала“ (стр. 104—105)—з поэмы „Новая Зямля“. У школьных дзіцячых чытанках дык хоць у зьмесьце ў канцы кніжкі паказваецца гэта, а у „Выпісах“ і гэтага няма.

А тое, што проза Я. Коласа (Тараса Гушчы) прадстаўлена толькі такім юнацкім творам, прыкрым цяпер для беларускага пачуцьця,—нічым апраўдаць ня можна. Тая асоба Камісіі, што рабіла гэтакі выбар, зусім ня знаецца на літаратуры, і ўзялася не за сваё дзела. Гэта называецца з-за сука,—так, з-за сука!—лесу ня бачыць, або—уратуй нас божа ад гэтакіх літаратурных судзьдзяў!

Тымчасам, ні „Ў палескай глушы“, ні „Родныя Зьявы“, ні „Казкі Жыцьця“ Тараса Гушчы, якія становяць сапраўдны гонар нашае маладзенькае літаратуры, „Выпісы“ ня ўспомнілі ніводным радочкам. Абмяжованасьць рамак „Выпісаў“, як тлумачыцца ў прадмове, апраўдаць гэтага ня можа, бо на тое-ж і Комісія, каб лепш разважыць і абмеркаваць, як сьледна. Трэ‘ было выкінуць пару-другую „пісьменьнікаў“, што знайшлі сабе прытулак у канцы кнігі, і месца хваціла-б даволі, а „Казкі Жыцьця“ Т. Гушчы—гэта такія творы, якіх ня мае ніводная славянская літаратура.

Што-ж яшчэ сказаць? А хіба тое, што Комісія лішні расспраўдзіла прыказку аб тым, што калі сем нянек, то дзіця будзе бяз носу. Хрыстаматыю складала Комісія, а толку вышла мала. Гэта—ня „выпісы з беларускае літаратуры“, а некі паненскі альбом беларускіх вершаў, нават з чыста паненскім зьместам, як, напрыклад, „Максім і Магдалена“ (стр. 86), „Прытуліся ка мне, дзяўчынка, бо сонейка заходзіць“ (стр. 141) і ў дадатак з такімі грубымі памылкамі, як „хранцуз *пан Шэнак* як вучыў“ (стр. 7), заместа *паненак*, „няпруціна“ (стр. 5) замест „някруціна“ (рэкрут); „О, цар-царэ-віч, тат‘ Няптун! ня буду прад табой *брахці*“, а трэба „брахун“: „дзяцём ён вогнік адсякаець“ замест „выганяець“, „скрыпела скрыпка, як *хаткі*“, а трэба каткі“ і г. д..

Л. Я.

**А. Грыневіч. Навука сьпеву (правілы і практыка).** *Выданьне аўтара. Вільня, 1923 г. 40 стар.*

На нашых вачох адбываецца магутны па свайму ўздыму, шырокаму абхвату процэс—процэс адраджэньня беларускае культуры. Ён абхапіў усе бакі нашага жыцьця, прасочыўся ўва ўсе шчыліны нашага пабыту, магутнай хваляй разьліўся па ўсіх напрамках. Творы навейшага беларускага пісьменства па сваёй мастацкасьці выходзяць за межы мясцовае літаратуры і набываюць сусьветнага значэньня, выклікаючы зьдзіўленьне ў варожа, нават, настроеных да «беларушчыны» людзей. Беларускі тэатр спыняе на сабе ўвагу выдатнейшых крытыкаў, праракаючых яму слаўную будучыну. Што-ж датычыць беларускае музыкі, дык мастацкае музыкі мы, праўда, яшчэ ня маем. Але гэта якраз бяда невялікая, бо грунт для мастацкае музыкі ў нас ёсьць, гэта—вельмі багатая, размаітая, надзвычайна-каляровяя беларуская народная песьня,—тая песьня, якая здаўна ўжо прывабіла да сябе ўвагу расійскіх і польскіх кампозытараў, карыстаўшых яе для сваіх твораў.

Зроблены дагэтуль сякія-такія спробы апрацоўкі народнае песьні, а ў сучасны момант у самой Маскве над ёю працуе асобная сьпеўная комісія, складзеная з выдатнейшых прадстаўнікоў сучаснае расійскае музыкі.

Толькі галіна навукова-тэорэтычнае музычнае літаратуры заставалася да гэтага часу незачэпленай. У гэтым напрамку дагэтуль амаль што нічога не рабілася. Але цяпер і ў гэтай галіне зьяўляюцца спробы. Я маю на ўвазе выйшаўшую ў Вільні кніжку піонэра беларускае музычнае навукі А. Грыневіча—„Навука сьпеву“.

Гэта невялічкі (40 стар.) падручнік тэорыі сьпеву з невялічкім гэтак сама матар'ялам для практыкі. Мэта яго, як кажа сам аўтар, „даць магчымасьць грамадзянству, праз адпаведны навучнік, без вялікага высілку пазнаць і выкарыстаць у поўнай меры сваю народную песьню“. А найбольшую карысьць, па нашаму разуменьню, ён дасьць настаўніцтву,—таму настаўніцтву, якое ўжо знаёма з тэорыяй і практыкай сьпеву, але крыху замала.

Пры азнаямленьні з гэтым падручнікам трэба мець на ўвазе два яго бакі: пэдагогічна-мэтодолёгічны і тэрмінолёгію.

Складаецца ён з шасьцёх лекцыяў, „музыкальнага катахізму дзеля паўтору музыкальных правіл“ і практыковак да лекцыяў, дадзеных у канцы кніжкі.

Расклад матар'ялу зроблены больш менш па шаблёну. Але, здаецца, больш паступова было-б сьцісьлей зьвязаць адступы (інтэрвалы) з тонаходамі (гамамі), якія ў аўтара падзелены навукай аб тахту. Аб тахту ляпей за ўсё было-б казаць або перад адступамі або пасьля тонаходаў.

Падыход да тлумачэньня досыць складаных у музыцы разуменьняў, у большасьці выпадкаў, зроблены ўдала, што, разам з сьцісьлым, але выразным і дакладным выкладаньнем, надае падручніку значную вартасьць.

Успомніўшы ў кароткіх словах аб музычных гуках і іх прыметах—вышыні, часе трываньня (длительность звука), сіле і прыгуку (тэмбр), аўтар адразу пераходзіць да нотапісі (сэмеіографіі) і дае выразны малюнак падзелу нотаў, разуменьне аб кропцы з боку ноты і маўчанках (паузах), замацоўваючы гэты аддзел практыкоўкамі і двума задачамі.

Вельмі ўдала зроблены падыход да тлумачэньня музычнае номэнклятуры і дасканала выяўлена разуменьне аб нотнай драбінцы (нонтым стане), васьмігуку (октаве).

Але падобнае выразнасьці ўжо няма ў аддзеле аб ключох. Папершае, аўтар вельмі ўжо азначана разьмяжоўвае дыапазоны ключоў sol і fa. У музыцы, асабліва інструмэнтавай, разьмежаваньне дыапазонаў ключоў зьяўляецца часта, дзякуючы розным тэхнічным вымаганьням, прыватнай справай. А падругое, аб ключох sol і fa аўтар тлумачыць вельмі цьмяна («дадаткова», як ён кажа сам), і такім спосабам прынцып ключоў наогул выяўлены нявыразна, а гэта вельмі важна. Павінна быць дасканала растлумачана, што ключы паказваюць сталае месца азначанага гуку пэўнага васьмігуку на нотнай драбінцы. Адносна ключа do гэтае зроблена больш-менш здавальняюча.

Далей аўтар пераходзіць да навукі аб адступах. Тут добра высьветлена розьніца паміж цэлымі тонамі і паўтонамі і растлумачаны назвы «вялікія», «малыя», «чыстыя» адступы; але ні слова няма аб паменшаных і павялічаных адступах, а ўспомнена аб іх толькі значна пазьней, у канцы шостае лекцыі.

Зусім нявыразным выйшла тлумачэньне ключавых знакаў, агульнае-ж разуменьне аб знаках альтэрацыі звышку (дыэзе), зьніжку (бэмолі) і зваротніку (бэкару) акрэсьлена досыць стала з уласьцівай аўтару сьціслаcьцю.

Вельмі ўдала зроблены падыход да разуменьня тахту і яму, гэтак сама як і падгуртоўцы (групоўцы) нотаў і тахтоўцы, выдзелена досыць значнае месца. Дрэнна толькі тое, што аб націску, які пры падгуртоўцы нотаў мае вялікае значэньне, няма ані воднага слова.

Не адзначана, з якіх простых тахтаў складаюцца мяшаныя —$^5/_4$ ($^2/_4+^3/_4$ або $^3/_4+^2/_4$, з націскам: у першым выпадку на першай і трэцяй частках тахту, а ў другім—на першай і чацьвертай) і $^7/_4$ ($^3/_4+^4/_4$, або $^4/_4+^3/_4$, або $^2/_4+^3/_4+^2/_4$ з націскамі: у першым выпадку на першай і чацьвёртай частках такту, у другім—па першай і пятай, а ў трэцім—на першай, трэцяй і шостай). Гэта ва ўсякім разе трэба было закрануць.

Далей аўтар пераходзіць да пераважкі (сынкопы), якая якраз грунтуецца на пераносе націску з моцнага часу тахту на слабы, а аб націску ён і ня ўспомніў нават і гэта ўжо зусім не пэдагогічна.

Занадта мала аўтар датыркаецца разуменьня аб трыдзелях (трыолях), пяцідзелях (квінтолях), якія спатыкаюцца ў творах вельмі часта (асабліва першыя). Аб двудзелях (дуолях) і чатырдзелях (квартолях) можна было-б, нават, і не ўспамінаць.

І аб тонаходах аўтар сказаў гэтак сама замала і падыйшоў да тлумачэньня гэтага няйвялікшага ў музыцы разуменьня ня так дасканала, як гэта ён рабіў наперадзе. З боку мэтодолёгічнага тонаход ляпей было-б разглядаць, як злучэньне двох паўтонаходаў (тэтрахордаў). Тады больш зразумелы быў-бы парадак адступаў у тонаходзе—1, 1, $^1/_2$,—паўтораны два разы і злучана прамежным тонам. Разгледзіўшы толькі цьвёрды (мажорны) тонаход з прыступкі do, аўтар пакідае тонаходы і хапаецца за перастаўку музычных твораў (транспозыцыю) і ў зьвязку з ёю і на грунце яе прабуе вытлумачыць будаваньне наступнага за do тонаходу—sol. Пазнаёміўшы з ім, аўтар адразу пераходзіць да зьніжковага тонаходу fa, ня скончыўшы, такім спосабам, справы са звышковымі. Гэткія пераскокі з аднаго на другое ствараюць зусім непатрэбную блытаніну.

А да таго, крыху штучна на транспозыцыі будаваць навуку аб тонаходах. Гэткі спосаб азнаямленьня з найважнейшым аддзелам у музыцы не дасягае выразнага ўяўленьня законаў будаваньня тонаходаў. А гэта апошняе ёсьць усё. Транспозыцыя павінна насьледваць то-

находам, а не папераджаць іх; яна павінна будавацца на дасканалым знаёмстве з сыстэмай тонаходаў, а не зьяўляцца асновай для іх будаваньня. Бо нарэшце транспозыцыя не такая ўжо паважная й неабходная рэч, каб яе абавязкова ўціскаць у невялічкі падручнік і да таго надаць ёй гэткае вагі. Некаторыя аўтары досыць значных па сваіх разьмерах падручнікаў музыкі й сьпеваў зусім не ўспамінаюць аб транспозыцыі лічучы гэты аддзел другарадным. Ну, але калі ўжо й гаварыць аб ёй, дык толькі пасьля тонаходаў.

Пазнаёміўшы з транспозыцыяй, аўтар, пасьля, значыць, павярхоўнага разгляду тонаходаў do, sol і fa адразу дае правілы да мэханічнага запомніваньня парадку наступніцтва тонік тонаходаў. Гэта таксама дрэнна. Замест мэханічнага правіла, формулёўкі закону, патрэбна ранейшае азнаямленьне з гэтым законам, з будоўляй тонаходаў, іх сыстэмай, а гэтаксама з законам наступніцтва тонікаў і ў тонаходах—звышковых і зьнішковых знакаў альтэрацыі. Процэс будаваньня тонаходаў трэба зразумець, а не мэханічна запомніць. Да гэтага аўтар падыходзіць пазьней, пасьля ўсяе папярэдняе блытаніны і дае сыстэму павялічэньня звышкоў і зьніжкоў і будовы самых тонаходаў. Але й тут ёсьць недахват у тым, што гэтае паказана не на нотных узорах, а на мала кажучых, літаравых азначэньнях. Тут, карацей кажучы, не захаваны прынцып відавочнасьці, што вельмі важна.

Даючы розныя практычныя рады дзеля больш дасканалага вывучэньня тонаходаў, аўтар за практыкоўкамі адсылае да свайго „Школьнага сьпеўніка“, які выдадзены ў 1920 г. і якога ў продажу цяпер нідзе ня знойдзеш. А ці ня лепш было-б патрэбныя п‘есы з „Школьнага сьпеўніка“ зьмесьціць у „Навуцы сьпеву“.

Шостая лекцыя ахвярована мяккаму (мінорнаму) тонаходу і вытваранаму ад яго мяккаму гармонічнаму тонаходу. Выкладзена гэта з уласьцівай аўтару выразнасьцю, але, памойму, было-б ня лішнім успомніць тут і аб мэлёдычным мяккім тонаходзе.

Нарэшце мы маем некалькі слоў аб паўтоновым (хроматычным) тонаходзе, пасьля чаго йдзе аддзел „наднотныя італьянскія абазначэньні“, зьмяшчаючы розныя тэрміны, датычачыя а) гучнасьці (дынамікі), б) скорасьці (тэмпу) выконваньня і в) паясьняньні (дзеля азначэньня характэру выконваньня і г) „прыкрасы і іншую дробязь“.

У „музыкальным катахізьме“ зьмешчаны (гэтак сама па лекцыях) пытаньні дзеля паўтарэньня музычных правіл і сярод іх розныя задачы. Як пытаньні, гэтак і задачы ня трэба было выдзяляць у асобную частку кнігі, а дадаць іх у канцы кожнае лекцыі. Гэтыя пытаньні, агулам вельмі карысныя, зусім трацяць сваю вартасьць з тае прычыны, што пасьля кожнага пытаньня да яго тут-жа дададзены і адказ. Адказы наогул зусім непатрэбны, наколькі пытаньні абхопліваюць сабой матар‘ял ужо прапрацованы ў лекцыях. Дрэнна яшчэ й тое, што ў „музычным катахізьме“ часамі закранаецца тое, аб чым, нават, не ўспаміналася ў самых лекцыях. Так у катахізьме мы маем досыць дакладнае тлумачэньне спосабу літаравага азначэньня гукаў (для тэорытычных твораў), чаго ў лекцыі зусім няма. У адказе на пытаньне „колькі ёсьць ключавых знакаў“ аб ключох гаворыцца шмат больш і значна выразьней, чымся ў самой лекцыі. Тое самае магчыма сказаць і аб тлумачэньні сталых (ключавых) знакаў, аб чым у тэксце зусім не ўспамінаецца, і аб націску і г. д.

Практыкоўкі, якіх усяго ў кнізе маецца 101, даюць патрэбны й сыстэматычны матар‘ял для практы-

каваньня і наогул у поўнай меры адпавядаюць свайму назначэньню.

Цяпер некалькі слоў аб тэрмінолёгіі. У гэтай справе трэба быць вельмі і вельмі асьцярожным. Пры апрацоўцы музычнае тэрмінолёгіі павінна трымацца аднаго з двох прынцыпаў—і або безагаворна прыняць чужаземную спэцыфічна-музычную тэрмінолёгію і перакладаць толькі словы, маючыя больш широкае значэньне, або цалкам утворыць сваю ўласную, штучную тэрмінолёгію. Аўтар „Навукі сьпеву" трымаецца якраз другога прынцыпу, пры чым тлумачыць, што ён „рабіў гэта дзеля таго, што на практыцы навука, перамешаная чужымі словамі, не асільваецца бяз доўгай цяжкай працы". Мэта яго, значыць, замяніўшы чужаземныя тэрміны на свае, выведзеныя з кораня роднае мовы словы, дапамагчы як найхутчэйшаму вывучэньню музычных правіл.

Прынцып, бязумоўна, неправілова і навукова ня вытрыманы. Большасьць музычнае тэрмінолёгіі набыла інтэрнацыянальны характар, і расійская, напрыклад, музычная літаратура свае спэцыяльна-музычнае тэрмінолёгіі амаль што ня мае. А падругое, ці сапраўды чужаземная тэрмінолёгія зьяўляецца ўжо такой значнай перашкодай у справе вывучэньня тае або іншае навукі, у даным выпадку музычнае? Здаецца, што не. Возьмем, для прыкладу, шэраг чужаземных музычных тэрмінаў (прынятых, дарэчы, і ў расійцаў): гама (грэцк.), дыэз (грэцк.), бэмоль (іт.), бэкар (франц.), сынкопа (грэцк.), фэрмата (іт.), форшляг (ням.), мордэнт (іт.), групэто (іт.), а гэтак сама лацінскія абазначэньні інтэрвалаў—пryма, сэкунда, тэрцыя, кварта, квінта, сэкста, сэптыма, октава—і параўнуем яго з шэрагам адпаведных слоў, утвораных аўтарам: тонаход, звышок, зьніжок, зваротнік, пераважка, перадоўжка, папярэдка, гулёк, драбноткі, а гэтак сама назвы інтэрвалаў—першы адступ, другі... восьмы. І першы шэраг музычных тэрмінаў і другі—абодва яны, праўду кажучы, у роўнай меры незразумелы, і ўрэшце выходзіць тое, што адзін шэраг незразумелых слоў аўтар замяняе чарадой другіх, гэтак сама новых і незразумелых, якія ня менш за першых будуць „мучыць памяць і туманіць разуменьне".

Значыць і ў стасунку практычнасьці, аўтар, стаўшы на пункт погляду ўтварэньня штучнае беларускае музычнае тэрмінолёгіі, не дасягае свае мэты.

Паклаўшы ў аснову тэрмінолёгіі другі з двох успомненых вышэй прынцыпаў, аўтар досыць моцна трымаецца яго і хоць і ўводзіць часам чужаземныя словы, але такія, якія ўжо ў беларускай мове набылі сабе правы грамадзянства—тон (ням., фр., адсюль—тонаход, тонацыя), тахт (лат., адсюль—тахтоўка, прытахт), апрача хіба такіх, як сопрано, мэцо-сопрано, альтавы, тэноровы, басовы.

Амаль што ўсюды, побач з беларускімі тэрмінамі, аўтар дае чужаземныя, мабыць дзеля паясьненьня, а некаторыя з апошніх, як лацінскія назвы адступаў, нават „выняткова і сам раіць ужываць". Дзеля чаго ён робіць ў гэтым разе выключэньне — трохі незразумела. Ляпей было-б быць вытрыманым ужо да канца.

Цяпер спынімся крыху на асобных тэрмінах.

*Прыгук* (тэмбр) тэрмін досыць няўдалы, што разумее, мабыць, і сам аўтар, калі дадае да яго тлумачэньне—афарбоўка гуку.

Замест *«сіла»* гуку, ляпей было-б ужыць *моц* гуку; у нас ніколі ня кажуць *сільны* гук, а заўсёды—*моцны* гук.

*Нотапісь*—тэрмін добры, але чаму нотапісь, а ня нотапіс, як сьпіс, надпіс, подпіс, часопіс і г. д.

Тэрмін *васьмінук* досыць выразна перадае лацінскае octawa, але гэты тэрмін як і наогул усе лічбовыя лацінскія абазначэньні адступаў, дзякуючы іх спэцыфічнасьці, трэба было-б захаваць нязьменнымі. Тое-ж самае трэба сказаць і аб трыолях, квінтолях, дуолях, квартолях, перакладзеных аўтарам — трыдзелі, пяцідзелі, двудзелі, чатырдзелі.

У назвах ключоў аўтар адступае ад свайго прынцыпу і пакідае чужаземныя словы; слова *бас* у беларускай мове няма; у нас кажуць *грубы голас, груба грае* і г. д., а тым больш незнаёмы беларускай мове тэрмін *сопрано* (іт.) *мэцо-сопрано* (іт.) *альт* (іт., ням.), тэнор (іт.) і вытвараныя ад іх—сопранавы, мэцо-сопранавы, альтовы і тэнаровы.

Знакі альтэрацыі (звышок, зьніжок, зваротнік) ляпей было-б пераклаcьці *знакі зьмены*, а не *паўтонныя знакі* (альтэрацыя (лат.)—зьмена).

Замест *прытахт*, правіловей было-б сказаць *затахт*, бо азначаемая гэтым словам няпоўная частка тахту знаходзіцца ня *пры* тахце, а *па-за*, знадворку яго.

*Тонаход* тэрмін нейкі палавінны: адзін корань яго чужаземны (тон— ням., фр.), другі—ход—беларускі. Дзеля большае паступовасьці ляпей было-б ужыць *гукаход, гукарад* або *гукабег*.

Да больш-менш удалых тэрмінаў належаць: *час трываньня* (длительности), *маўчанкі* (паўзы), *звышок* (дыэз), *зьніжок* (бэмоль), *зваротнік* (бэкар), *падцуртоўка* (групоўка). За няўдалыя тэрміны я лічу, апрача паказаных вышэй,—*пераважка* (сынкопа), *моцка* (>), *лучок* (ліга).

На тэрмінолёгіі я ня лічу патрэбным спыняцца больш-менш грунтоўна, дзеля таго, што аўтар, як відаць, ня меў на ўвазе даць сталае тэрмінолёгіі. Ён меў на ўвазе мэты больш практычныя, чымся навуковыя. Беларуская музычная тэрмінолёгія яшчэ чакае свае навуковае апрацоўкі, а спробы ў гэтым кірунку да гэтага часу зьяўляюцца толькі падрыхтоўчай працай.

З боку зьместу трэба адзначыць, што гэты падручнік выглядаў-бы значна лепей, каб у ім былі зьмешчаны некаторыя мэтодычныя ўвагі наконт спосабу навучаньня сьпевам, аб чалавецкіх галасох і іх клясыфікацыі і некаторыя іншыя веды чыста практычнага характару.

Напасьледак трэба сказаць, што падручнік «Навука сьпеву», пры ўсіх сваіх недахватах, мае шмат вартасьцяў, у поўнай меры выкупляючых гэтыя недахваты. Пры самым павярхоўным азнаямленьні з ім, адразу кідаецца ў вочы вялікая спрактыкаванасьць аўтара ў гэтай справе і яго пэдагогічнае чуцьцё. У гэтым невялічкім падручніку выкладзена з большага ўсё найбольш патрэбнае, без залішняга ўдаваньня ў драбніцы,—і выкладзена сьцісла, дакладна, а да таго-ж добрай і прыгожай беларускай мовай. «Навука сьпеву» кладзе пачатак беларускае музычна-навуковае літаратуры і зьявіцца вельмі карысным пачатковым падручнікам як для настаўніцтва, а гэтак і наогул для шырокіх колаў грамадзянства.

А. Р—скі.

## Сьпіс кніг, надрукаваных выдавецтвам „Савецкая Беларусь“ і інш. за 1923 г.

| №№ па парадку | Назва выдавецтва, прозьвішча аўтара й назва кнігі. | Лік у адным экзэмпл. Аркушаў. | Старонак. | Лік надрукаваных экзэмпляр. | Агульны лік аркушаў. |
|---|---|---|---|---|---|
| | **Выдавецтва „Савецкая Беларусь“.** | | | | |
| 1 | „Полымя“ № 2 | 9 | 12 | 1.000 | 9.750 |
| 2 | „ № 3—4 | 8 | 4 | 1.000 | 8.250 |
| 3 | „ № 5—6 | 10 | 10 | 1.000 | 10.625 |
| 4 | „ № 7—8 | 9 | — | 1.000 | 9.000 |
| 5 | З. Бядуля—На зачарованых гонях. Апавяданьні | 9 | — | 3.000 | 27.000 |
| 6 | Сцэнічныя творы—Кніжка 1-я | 5 | 4 | 3.000 | 15.750 |
| 7 | Я. Колас—Новая зямля. Поэма | 18 | — | 4.000 | 72.000 |
| 8 | Равінскі—Зборнік песень з нотамі | 4 | 8 | 2.000 | 9.000 |
| 9 | Грамыка—Пачатковая географія | 9 | — | 30.000 | 270.000 |
| 10 | Каляндар—„Праца“ на 1923 год | 8 | — | 5.000 | 40.000 |
| 11 | „ Насьценны на 1923 год | — | — | 2.000 | — |
| 12 | » Работніцка-сялянскі на 1924 год | 7 | 8 | 3.000 | 22.500 |
| 13 | Выпісы з беларускае літаратуры. Ч. 2-я | 18 | — | 8 000 | 144.000 |
| 14 | С. Некрашэвіч—Роднае Слова. Ч 1-я | 13 | — | 40.000 | 520 000 |
| 15 | » » » Ч 2-я. Выданьне 2-е | 10 | 2 | 25.000 | 253.125 |
| | УСЯГО | 140 | — | 129.000 | 1.411.000 |
| | **Выданьні Інстытуту Беларускае Культуры.** | | | | |
| 16 | Беларуская Навуковая Тэрмінолёгія—Выпуск 2-гі Практыка й тэорыя літаратурнага мастацтва | 4 | 10 | 1.000 | 4.625 |
| 17 | Выпуск 3-ці. Географічныя й космографічныя тэрміны й назова нябесных цел | 5 | 10 | 1.000 | 5.625 |
| 18 | Выпуск 4-ты. Тэрмінолёгія лёгікі й псыхолёгіі | 4 | — | 1.000 | 4.000 |
| 19 | Цішка Гартны—(1908—1923) Юбілейны зборнік | 5 | — | 1.000 | 5.000 |
| | УСЯГО | 19 | 4 | 4 000 | 19.250 |
| | **Выданьні Наркамзему.** | | | | |
| 20 | Я. Пачопка—Як узгадаваць і даглядаць сад | 4 | 8 | 2.000 | 9.000 |
| 21 | В. Жыван—Культура кармовых корань-плодаў | 2 | 10 | 2 000 | 5.250 |
| | УСЯГО | 7 | 2 | 4.000 | 14.250 |
| | **РАЗАМ** | **166** | **6** | **137.000** | **1.444.500** |

# Хроніка беларускай культуры.

## Сярод поэтаў-пісьменьнікаў.

* Аб'яднаньне беларускіх пісьменьнікаў „Маладняк“ наладзіла зносіны з украінскімі пролетарскімі пісьменьнікамі, скуткам якіх зьяўляецца жывая перапіска, абмен выданьнямі, перакладная праца і інш.

* 1/III адбыўся сход беларускіх, польскіх і жыдоўскіх поэтаў, на якім была заслухана інформацыя аб працы так называнага „Усерасійскага саюзу поэтаў“. Інформацыю зрабілі прадстаўнікі саюзу поэты Рурык Іўнеў і Мацьвей Розман. Апошнія, таксама, запрапанавалі залажыць у Менску беларускі сэктар саюзу. Па абгавораньні гэтага пытаньня сход пастанавіў: зрабіць у Маскве ўсесаюзны зьезд поэтаў для організацыі ўсесаюзнай фэдэрацыі поэтаў. Ініцыятыву зьезду павінен узяць на сябе „Расійскі“ саюз поэтаў.

* *М. Чарот* зараз працуе над сваім апавяданьнем „Сьвінапас“.

* *Цішка Гартны* пачаў пісаць успаміны аб нашаніўскай пары беларускага руху і аб памёршых культурных дзеячох.

* Поэта-сатырык *Крапіва* жыве ў сваёй вёсцы на Меншчыне і займаецца сельскім гаспадарствам.

* *Міхась Грамыка* заняты цяпер пісаньнем вершаванай поэмы з сучаснага жыцьця.

* Украінскім песьняром Я. Шэўчэнкам зроблена шмат перакладаў з беларускіх поэтаў: З. Бядулі, Цішкі Гартнага і М. Чарота.

Некалькі перакладаў ужо надрукована ва ўкраінскай прэсе.

* Пясьняр У. Дубоўка абраны сэкратаром габінэту поэтыкі, організаваным 15 лютага пры вышэйшым літаратурна-мастацкім інстытуце імя В. Брусава. Старшынёю габінэту поэтыкі абран В. Брусаў.

* Беларускае аддзяленьне віленскага выдавецтва „Б. Клецкіна“ запрапанавала пісьменьніку *Крайцову Макару* пералажыць на беларускую мову поэму А. Пушкіна „Евгений Онегин“.

* У злучнасьці беларускіх пісьменьнікаў „Маладняк“ распачалася бойкая праца. Штотыдзень адбываюцца агульныя сходы, на якіх ідзе чытаньне і крытыка твораў сяброў злучнасьці. Прыступлена для зьбіраньня матар'ялаў на зборнік, які „Маладняк“ намёраны выдрукаваць у бліжэйшы час.

* *Зьміцрок Бядуля—Ясакар* закончыў сваю эпічную поэму „Ярыла“. Поэма займацьме каля дзесяцёх друкаваных аркушаў.

## Беларуская кніга.

* У студзені месяцы адбылася пры Акадэміі Навук у Ленінградзе конфэрэнцыя бюро краязнаўства. На конфэрэнцыі прадстаўнікі ад Беларускага бюро зрабілі выставу беларускіх кніжак, выданых за 1921—23 гады. Выстава зрабіла на ўсіх дэлегатаў конфэрэнцыі вельмі добрае ўражаньне.

* Вядомы беларускі этнограф А. Сяржпутоўскі рыхтуе да выданьня сваю новую працу „Культурны быт Беларусі“. Таксама А. Сяржпутоўскі ўжо апрацаваў тэрмінолёгію

этнографіі і археолёгіі і злажыў новы зборнік беларускіх казак.

* На імя беларускага Камісарыяту Асьветы беларускі вучоны проф. Доўнар-Запольскі прыслаў першую частку напісанай ім „Гісторыі Беларусі“. Камісарыят рукапіс перадаў у выдавецтва „Савецкая Беларусь“, якое хутка аддасьць яе ў друк.

* У студзені месяцы вышаў з друку чарговы № 2—3 часопісі „Маладняк“. Нумар багаты па зьместу і ўвабраны многасьцю малюнкаў, надрукаваных у некалькі фарбаў.

* Белтрэстдрук друкуе цэлы шэраг беларускіх кніг з сэрыі „Сялянская бібліятэка“, як: „Быдла“ (гутарка, як гадаваць быдла)—агронома М. Кацаурава, „Аб насеньні“ (як разводзіць і падгатаўляць насеньне для сяўбы)—яго-ж, „Соль і яе здабываньне“—Ул. Львова, „Беларуская мова“ (граматыка для школ)—Я. Лёсіка, «Практычны расійска-беларускі слоўнік»—М. Байкова і М. Гарэцкага і «Гадаваньне грудных дзядзей»—д-ра Я. Цьвікевіча.

* У тым-жа выдавецтве друкуецца кніжка пр. В. Пічэты на расійскай мове—«Белорусский язык, как фактор национально-культурный».

* Акадэмікам Перэтцам кончана праца—«Параллели к истории белорусской народной песни, начиная с XIX века». Праца прыслана ў Інбелкульт для надрукаваньня.

* У віленскім выдавецтве Б. Клецкіна вышаў з друку ў перакладзе Краўцова Макара: «Мцыры»—Ю. Лермантава; друкуюцца і скора выйдуць «Пчолы» і «Малочная карова» Я. Пачопкі, «Батанічны слоўнік»—Зоські Верас і «Пан міністар»—Ф. Аляхновіча.

* У Вільні ў выдавецтве «Змаганьне» выдана першая кніжка тоўстай штомесячнай часопісі «Заходняя Беларусь». Кніжка справоджана багатым публіцыстычным матар‘ялам. Маецца ў ёй, таксама, і аддзел прыгожага пісьменства, але ўжо бяднейшы. „Заходняя Беларусь“ зьяўляецца багатым здабыткам у беларускім пэрыодычным друку.

* У выдавецтве «Савецкая Беларусь» апошнімі часамі вышлі з друку гэткія кніжкі: «Выпісы з беларускае літаратуры»—новы й найноўшы кругабегі, «Правапіс» (беларуская мова),—Я. Лёсіка і «Комуністычны маніфэст» К. Маркса і Ф. Энгэльса ў перакладзе Я. Лёсіка.

* У тым-жа выдавецтве «Савецкая Беларусь» друкуюцца і хутка паступяць у продаж: «Полымя» № 1 (9), «Пачатковая геомэтрыя»—ф. Мікельсара, «Фізыка» І ч. Н. Кашына. Апроч гэтага зданы ў друк «Беларускі дэкляматар — Чырвоны Дудар», «Сцэнічныя творы» сшытак другі, «Барвенак»—збор вершаў А. Гурлы, «Заранкі»—збор вершаў Я. Журбы.

* Поэт М. Чарот падгатаваў да друку першы збор сваіх апавяданьняў «Веснаход», які набывае ў яго для выданьня беларускае выдавецтва «Савецкая Беларусь».

* Проф. Ў. Ігнатоўскі напісаў працу на расійскай мове „Беларусь“—(нарысы гістарычнага экономічнага разьвіцьця і савецкага будаўніцтва). Праца мусіць быць выпушчана к надзвычайнаму „Усебеларускаму зьезду саветаў“.

* Бюро беларускіх студэнтаў у Маскве ладзіць выдаваць пэрыодычную часопісь. Пачаты зьбірацца матар‘ялы да першага нумару.

* Комісія помдзетгол Беларусі маецца выдаць цэлы шэраг беларускіх кніжачак для шырокага распаўсюджаньня. Першаю будзе выдана „Біографія Ў. І. Леніна“, напісаная І. Шыпілам.

* Выдавецтвам „Савецкая Беларусь“ заказаны напісаць Я. Цьвікевічу адрыўны каляндар на 1925 г.

* З сакавіка месяца камсамольская газэта „Малады Араты“ перайшла друкаваньнем на беларускую мову.

* Пасьля сьмерці быўш. дырэктара Маладэчненскай настаўніцкай

сэмінарыі, А. Ярушэвіча, засталіся рукапісы яго працаў: „Беларуская граматыка“ і „Беларускі слоўнік“, якія знаходзяцца ў г. Рагачове. Інбелкультам прыняты крокі да азнаямленьня з рукапісамі гэтых прац.

* Дзяржаўная беларуская бібліятэка ладзіць да надзвычайнага зьезду саветаў пашыранай Беларусі выстаўку беларускіх выданьняў, выпушчаных у сьвет з пачатку зьяўленьня беларускага друку да апошніх часоў. Выстаўка будзе зьмяшчацца ў будынку бібліятэкі.

* Управа выдавецтва „Савецкая Беларусь“ пастанавіла выдаць поўны збор твораў Янкі Купалы. Першы том павінен выйсьці на працягу гэтага году. Апроч таго ўправа пастанавіла выдаць пяць томаў бэлетрыстыкі розных аўтараў.

* У хуткім часе да газэты „Савецкая Беларусь“ будзе давацца літаратурны дадатак.

* Вышаў першы № газэты „Беларуская Вёска“ са зьместам пабеларуску і парасійску. Беларуская мова вельмі заблутаная, а правапісу ніякага.

### Краязнаўства.

* Пры Наркамасьвеце БССР утворана беларуская навукова-экспэртная камісія, якая мае заданьні вясьці падлік і ахову помнікаў старасьветчыны (курганоў, гарадзішчаў, дамоў і інш.), а таксама ахову рэчаў мастацтва і прыгожых куткоў натуры. У камісію ўваходзяць: старшынёю—С. Некрашэвіч і сябрамі—І. Сэрбаў, П. Харламповіч і М. Мялешка.

* Па атрыманых у Інбелкульце вестках, адкрыліся краязнаўчыя організацыі ў цэлым шэрагу гарадоў Усходняй Беларусі, як: Гомель, Віцебск, Невель, Орша і інш.

* Пры Інбелкульце зложана біографічная камісія, якая мае сваім заданьнем зьбіраць біографічныя матар'ялы аб беларускіх партыйных, навуковых і культурных дзеячох.

* Бюро краязнаўства склікае на канец красавіка гарадзкую нараду працаўнікоў краязнаўства, а ў траўні адбудзецца зьезд краязнаўчых організацыяў Беларусі.

* У Віцебскім музэі, які мае досыць каштоўнае багацьце, ёсьць некалькі добра захаваных сьцягаў даўнейшых віцебскіх цэхаў (тагочасных профэсыянальных саюзаў) з надпісамі ў беларускай мове і вуніяцкіх царкоўных вопратках з вышываньнямі ў беларускім стылі кшталтам дарагіх слуцкіх паясоў, добрая беларуская разьба даўняга часу на розных рэчах, багаты аддзел нумізматыкі і інш. Парадкуе аддзел грам. Красьнянскі, аўтар вядомых прац аб Барысаве, Мсьціслаўлі і інш.

### Тэатр і мастацтва.

* Інбелкульт атрымаў з Масквы новую партыю гармонізаваных беларускіх песьняў. Да гэтага часу маецца ўжо больш 250 гармонізаваных песьняў.

* На сьмерць У. І. Леніна напісан „Жалобны марш“ сябрам хору Беларускага Дзяржаўнага Тэатру Маркевічам. „Жалобны марш“ выдан выдавецтвам „Савецкая Беларусь“ і паступіў у продаж.

* У часы ўсесаюзнага зьезду Беларуская Тэатральная студыя ў Маскве зрабіла для беларускіх удзельнікаў зьезду паказальны вечар сваіх працаў. Дэмонстрываваліся: плястычныя скокі, колектыўная і сольная дэклямацыя, біомэханічныя нумары і інш., якія паказалі значны посьпех студыйцаў.

* Мастаком *М. Філіповічам* намалёван портрэт Цішкі Гартнага. Портрэт адкупляецца беларускім музэем.

* Мастак *Кругэр* малюе портрэт пісьменьніка Зьмітрака Бядулі.

# Украінскае культурнае жыцьцё.

## Навука.

* Пры Харкаўскім Унівэрсытэце ў 22 годзе зарганізавана катэдра гісторыі Украіны. У складзе катэдры—сэкцыя гісторыі Украіны з аддзелам гісторыі ўкраінскага мастацтва й сэкцыя этнографічная з аддзеламі гісторыі ўкраінскага пісьменства і археолёгія Украіны—усяго пяць дысцыплін. На чале катэдры стаіць акадэмік Д. І. Багалей.

## Пісьменнасьць.

* За 1923 год шыбка разраслася суполка сялянскіх поэтаў „Плуг". Філіі суполкі адчыніліся: у Каменцы-Падольскім, у Тыфлісе, у Лубнах, Міргарадзе, Кіеве, Краменчузе, Умані, у Башкірскай рэспубліцы і інш. Актыўных сяброў павялічылася з 25 ч. да 100. Адносна павялічылася і работа як цэнтральнае групы, гэтак і яе філій. Работа выказваецца, галоўным чынам, у наладжваньні штотыднёвых літарацкіх вечарын (у Харкаве—„панядзелкі", у Палтаве—„аўторкі" і інш.). Аўдыторыя „Плуга" у Харкаве павялічылася за 1923 г. з 150 ч. да 500 ч. За астатні час „Плуг" разгартае выдавецкую працу. Ім напісана й надрукавана 22 кніжкі „Бібліятэкі селяніна", 4 кніжкі „Чырвонага юнака", 3 зборнікі вершаў, альманах „Плуг", зборнікі „Ражэсьцьвяны вечар", „Новае ражаство", „Сьмерць багоў", хрыстаматыя „Кайданы парвеце", 5 орыгінальных і перапрацаваных п'ес.

Надалей гатуецца вылажыць: „Бібліятэку чырвонаармейца", „Студэнцкі зборнік", пэрыодычна выдаваць альманахі „Плуг" і г. д. На 3 траўня прызначаецца Усеўкраінскі зьезд суполкі ў Харкаве.

*) Пісьменьнік Мікола Хвілёвы чытаў у Кіеве і ў Харкаве сваё апавяданьне „Я", якое зараз інсцэнізуецца аўтарам для тэатру імя Яна Франка.

* Пясьняр Ладымер Сосюра напісаў пятую поэму з вялікае эпопэі «Чыгунка».

* У Кіеве пад кіраўніцтвам т. Грынька адбылося організацыйнае пасяджэньне бюро для пабудаваньня помніка Тарасу Шэўчэнку. На пасяджэньні спыніліся на думцы паставіць помнік на месцы помніка цару Мікалаю І. Была падкрэсьлена політычная значнасьць збудаваньня помніка Шэўчэнку на тым месцы, дзе стаяў помнік таму цару, які некалі ссылаў поэту. Наконта характару помніка, то намечаны дзьве думкі: 1) паставіць фігуру Т. Шэўчэнкі на п'едэстале помніка Мікалаю і 2) зрабіць новую композыцыю з фігурамі й барэльефамі, выкарыстаўшы мотывы творчасьці Шэўчэнкі. У гэтых двух напрамках будзе агалошан конкурс. Тэрмін для конкурсу будзе выстаўлены трохмесячны. 1 прэмія—2000 руб. золатам, 2—тысячу, 3—пяцьсот.

* 24 лютага ў Харкаве адбыўся гадавы сход суполкі пролетарскіх пісьменьнікаў „Гарт".

Першым выступаў тав. Дняпроўскі, які інформаваў сход аб працы „Гарту" за мінулы год. За год працы суполка аб'яднала каля 30 чалавек кваліфікаваных пісь-

меньнікаў і літаратурнай моладзі, мае студыі ў Кіеве, Маскве, Харкаве, прымала шырокі ўдзел у большасьці ўкраінскіх выданьняў.

Далей тав. Блакітны-зрабіў даклад на тэму: «Год «Гарту» і пэрспэктывы далейшай працы», які выклікаў жвавыя спрэчкі.

Сход закончыўся выбарамі Ц.Б., у склад якога ўвайшлі: Блакітны (старшыня), М. Хвілёвы (намесьнік старшыні), Кацюба (пісар), Корак, Хрыстовы, Сосюра, Іогансэн і Дняпроўскі.

### Тэатр.

* Ва ўкраінскім дзяржаўным тэатры ім. Я. Франка вядзецца інтэнсыўная праца ў справе падгатоўкі некалькіх новых п'ес. Рэжысэр Гнат Юра канчае пастаноўку п'есы Жулаўскага „Канец Мешыяса", а рэжысэр Васільеў гатуе Мольераўскі вечар, які складацьмуць п'есы „Лекар з прымусу" і „Манерніцы". Тэатрам прынята новая п'еса Золіна з часоў Дэнікіншчыны „Шлак", у якой яскрава малюецца роля інтэлігэнцыі ў час змаганьня савецкай улады з дэнікінцамі. Распрацаваньне п'есы даручана рэжысэру Кахаленкаву. Апроч гэтага прынята да пастаноўкі інсцэнізацыя роману Сынклера „100%". Праз тэатр прайшлі ўжо пастаноўкі гэткіх п'ес: „Яўгэн няшчасны--Толера, „Йоля"—Жулаўскага, „Грэх"—Вінічэнкі, „Фуента Овенуха"—Лопе-дэ-Вега, „Суета"—Тобілевіча, Мірондоліна"—Гольдоні. Тэатрам распрацаваны плян абслугоўваньня рабочых ваколіц.

Мастацкая ідэялёгія тэатру ім. Я. Франкі й шлях мастацкіх шуканьняў закладаецца ў вырашэньні пякучага пытаньня—якім чынам, якімі мастацкімі спосабамі падыйсьці найбліжэй да пролетарскіх гушчаў. Тэатр ставіць выхадным пунктам эмоцыю, мяркуючы, што гэта ёсьць найпэўнейшая сьцежка, ідучы па якой можна здабыць найбольш плюсоў: бо толькі ўнутраным глыбокім перажываньнем можна моцна ўплысьці на гледача.

Апроч працы над п'есамі ў тэатры праводзяцца абавязковыя нумары з плястыкі. Тэатр кладзе ў аснову свайго ўнутранага будаваньня сілы пролетарскага пахаджэньня й пролетарскіх пераконаньняў.

---

*Рэдактар* А. Сянкевіч. *Выдавец — Т-ва* „Савецкая Беларусь".

## Зьмест 1 (9) нумару.



---

## Зьмест № 1 (сьнежань 1922 г.).



---

## Зьмест № 2 (студзень 1923 г.).



Прадаецца ў кнігарні «Савецкая Беларусь». Менск, Ленінская (б. Губарнатарская) вул., д. б. гасьц. «Эўропа».

## Зьмест № 3—4 (люты—сакавік 1923 г).



---

## Зьмест № 5—6 (красавік—май 1923 г.).

## Зьмест 7—8 нумару (чэрвень - лістапад).